# Беларуская мова

Вучэбны дапаможнік для 11 класа
агульнаадукацыйных устаноў
з беларускай і рускай
мовамі навучання

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2010

УДК 811.161.3(075.3=161.3=161.1)
ББК 81.2Беи-922
Б43

А ў т а р ы:

**Валочка Г. М.** («Арфаграфічныя нормы», «Падагульненне і сістэматызацыя вывучанага за год»);

**Васюковіч Л. С.** («Культура вуснага і пісьмовага маўлення», «Арфаэпічныя нормы», «Акцэнталагічныя нормы», «Сінтаксічныя нормы»);

**Міхнёнак С. С.** («Пунктуацыйныя нормы»);

**Саўко У. П.** («Марфалагічныя нормы», «Дакладнасць і лагічнасць маўлення», «Чысціня маўлення», «Багацце маўлення», «Выразнасць маўлення», «Дарэчнасць маўлення»)

Р э ц э н з е н т ы:

кафедра сучаснай беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (кандыдат філалагічных навук, дацэнт *З. І. Бадзевіч*);

настаўнік беларускай мовы і літаратуры вышэйшай катэгорыі дзяржаўнай установы адукацыі «Гімназія № 1 імя Ф. Скарыны г. Мінска» *Н. У. Целяпун*

**Умоўныя абазначэнні:**

‖ — тэарэтычны матэрыял;

 — тэарэтычны матэрыял у практыкаванні;

● — дадатковыя заданні;

* — лексічнае значэнне слова тлумачыцца ў слоўніку;

*ясны*[ф] — фанетычны разбор слова;

*высока*[сл] — словаўтваральны разбор;

*льецца*[с] — разбор слова па саставе;

*пайшоў*[м] — марфалагічны разбор слова;

*Дзень цёплы.*[сн] — сінтаксічны разбор сказа

ISBN 978-985-465-681-6

# КУЛЬТУРА ВУСНАГА І ПІСЬМОВАГА МАЎЛЕННЯ

## § 1. Асноўныя якасці культуры маўлення

**Культура маўлення** — гэта

1) навука аб правільным (нарматыўным і дасканалым) маўленні;

2) раздзел лінгвістыкі, у якім вызначаюцца літаратурныя нормы на кожным моўным узроўні (арфаэпічным, акцэнталагічным, арфаграфічным, лексічным, фразеалагічным, граматычным, пунктуацыйным, стылістычным);

3) узорнае валоданне мовай у адпаведнасці з агульнапрынятымі нормамі.

Асноўныя якасці культуры маўлення:

- *правільнасць* — адпаведнасць нормам літаратурнай мовы;
- *дакладнасць* — выкарыстанне слоў, фразеалагізмаў з уласцівым ім значэннем, адпаведнасць выказвання мэце і сітуацыі ўжывання;
- *лагічнасць* як сэнсавая несупярэчлівасць паміж ужытымі моўнымі адзінкамі і законамі логікі;
- *чысціня* — адсутнасць у маўленні нелітаратурных слоў і выразаў (жарганізмаў, слоў-паразітаў, беспадстаўна ўжытых дыялектных і запазычаных слоў);
- *дарэчнасць*, пры якой моўныя сродкі адпавядаюць стылю, жанру, мэтам і ўмовам зносін;
- *багацце* — выкарыстанне разнастайных сінанімічных моўных сродкаў;
- *выразнасць* як эмацыянальнае ўздзеянне выказвання, развіццё ўвагі, цікавасці чытачоў (слухачоў) праз фанетычныя, сінтаксічныя сродкі, праз мастацкія тропы (параўнанне, метафара, эпітэт і інш.).

Культура маўлення падразумявае веданне мовы, валоданне нормамі і стылямі літаратурнай мовы ў адпаведнасці з мэтай і задачамі зносін. Паняцце ўключае і захаванне асноўных якасцей культуры маўлення, і маўленчае майстэрства, і ўменне выбраць з некалькіх магчымых найбольш дакладны, дарэчны, дасканалы варыянт.

**1.** Прачытайце выказванні айчынных вучоных. Пісьмова адкажыце на пытанне *Чаму правільнасць маўлення выступае асновай маўленчай культуры?*

*Маўленне правільнае,* калі ў ім няма парушэння арфаэпічных, акцэнталагічных, словаўтваральных, марфалагічных, сінтаксічных, лексічных, фразеалагічных, прыказкавых нормаў. Асноўная ўмова правільнасці маўлення — добрае веданне названых[сл] нормаў літаратурнай мовы, а значыць, і ўмелае валоданне імі *(І. Лепешаў).*

Унармаванасць — сінонім *правільнасці* — найважнейшая[м] ўласцівасць літаратурнай мовы *(А. Міхневіч).*

Менавіта *правільнасць маўлення* забяспечвае яго адзінства, «ахоўвае» адназначнасць, агульназразумеласць інфармацыі, якая[ф] перадаецца і ўспрымаецца. *Правільнасць маўлення,* такім чынам, заключаецца ў адпаведнасці моўнай структуры тым законам і правілам, якія дзейнічаюць у мове *(Т. Тамашэвіч).*

*Правільнасць маўлення* — аснова, якая дае магчымасць асобе пастаянна ўдасканальваць сваё маўленчае майстэрства.[сн] Галоўная ўмова дасягнення суадносін паміж зместам і яго маўленчай формай — строгае захаванне літаратурных нормаў, мэтазгоднасць[сл] выкарыстання тых або іншых моўных адзінак у працэсе зносін *(І. Навасельцава).*

● Запішыце выказванне, якое, на вашу думку, найбольш дакладна, поўна акрэслівае правільнасць як асноўную якасць культуры маўлення. Падкрэсліце граматычныя асновы, дайце агульную характарыстыку сказам.

● Растлумачце пастаноўку працяжніка ў прыведзеных выказваннях.

**2.** Прачытайце. Растлумачце значэнне выдзеленых слоў.

**Арталогія** — навука аб правільным маўленні — служыць адной мэце: дапамагчы асэнсаваць факты **мовы**, падкрэсліць ролю **моўцы**, навучыць свядома ставіцца да ўласнага **маўлення**. Тры гэтыя **аспекты** аналізу ўтвараюць паняцце **культура мовы**.

Пэўны час выраз «культура мовы» перадаваў і значэнне «культура мовы як **грамадская** з'ява», і значэнне «культура мовы асобнага чалавека — з'ява **індывідуальная**». Аднак паняцці **мова** і **маўленне** размяжоўваюцца. Параўн.: ням. *Sprache* і *Rede*, англ. *language* і *speech*, франц. *language* і *parole*, укр. *мова* і *мовлення*, рус. *язык* і *речь*, польск. *mowa* і *mówienie* і г. д.

Сёння культура беларускай мовы як **сацыяльная** з'ява не выклікае тэрміновай патрэбы ў яе ўдасканальванні, бо калі на той ці іншай мове створана высокамастацкая літаратура і існуе яе літаратурная форма, то відавочна, што такая мова дасягнула высокай ступені развіцця[ф] і можна гаварыць пра яе як пра частку жывой нацыянальнай культуры.

Культура маўлення — гэта неабсяжная[м] стыхія бытавання нацыянальнай мовы ў вуснах людзей, і тут, бясспрэчна[сл], узнікае шмат праблем, звязаных[сл] з якасцю індывідуальнага валодання сістэмай нацыянальнай мовы, з уменнем асобы выбіраць з гэтай сістэмы тыя сродкі, якія зробяць уласнае маўленне з'явай[ф] высокай культуры *(А. Міхневіч)*.

- Запішыце апошні сказ з тэксту, зрабіце яго сінтаксічны разбор.
- Растлумачце пастаноўку коскі або яе адсутнасць перад злучнікам ***і***.
- Запішыце прыклады да пунктаграмы «Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам».

**3.** Прачытайце. Запішыце прозвішчы навукоўцаў, назвы прац, прысвечаныя пытанням культуры маўлення.

Пытанням культуры беларускай мовы і маўленчага майстэрства прысвечаны шматлікія артыкулы Я. Коласа, Я. Ку-

палы, К. Чорнага, У. Дубоўкі, К. Крапівы, Я. Брыля, Н. Гілевіча і іншых дзеячаў беларускай культуры. Увага да культуры роднай мовы асабліва праявілася пасля выдання Інстытутам мовазнаўства АН БССР у 1957, 1959 і 1961 гадах распрацовак «Курсаў беларускай літаратурнай мовы». Працягам «Курсаў» з'явіліся працы Ф. Янкоўскага «Пытанні культуры мовы» (1961 г.), «Вусная мова і выразнае чытанне (1962 г., сааўтар — У. Калеснік), М. Цікоцкага «Практычная стылістыка беларускай мовы» (1962—1965 гг.), якія заклалі асновы тэорыі і практыкі новай для беларускага мовазнаўства галіны — культуры беларускай літаратурнай мовы. У сучасным мовазнаўстве пытанні культуры мовы і маўлення разглядаюцца ў працах Міколы Абабуркі, Галіны Арашонкавай, Алеся Каўруса, Валянціны Лемцюговай, Івана Лепешава, Аляксандра Лукашанца, Арнольда Міхневіча, Паўла Сцяцко, Міколы Цікоцкага, Льва Шакуна і іншых навукоўцаў.

● Пісьмова праскланяйце адзін лічэбнік з тэксту. Раскажыце пра асаблівасці скланення колькасных і парадкавых лічэбнікаў.

● Перагледзьце часопісы «Беларуская мова і літаратура», «Роднае слова», «Маладосць», «Полымя» (на выбар) за апошні год. Раскажыце пра змест публікацый, прысвечаных культуры беларускага слова, маўлення. Складзіце тэзісы па матэрыялах адной з публікацый.

**4.** Прачытайце. Раскажыце пра асноўныя якасці культуры маўлення па-беларуску.

Культура речи предполагает овладение всеми качествами хорошей речи: правильностью, чистотой, богатством, точностью, логичностью, выразительностью и уместностью.

*Правильность речи* — это её соответствие нормам литературного языка. Правильность речи — это основное условие для овладения всеми остальными качествами хорошей речи. Что, например, можно сказать о культуре речи человека, который допускает следующую фразу: *Я обычно ложу свои доку́менты в по́ртфель* (безусловно, правильно: *кладу докуме́нты в портфе́ль*). Ясно, что в данном случае культура речи просто отсутствует, поскольку нарушены нор-

мы литературного языка. Поэтому правильность речи — это фундамент для хорошей речи, которая отличается богатством, точностью, логичностью, выразительностью.

*Чистая речь* — это речь, в которой отсутствует любая нелитературная лексика: слова-паразиты, грубые, жаргонные, просторечные слова, нецензурные выражения и т. д. Эти слова засоряют речь, их чрезмерное употребление говорит о низкой речевой культуре.

*Богатство речи* связано со словарным запасом человека, с использованием всевозможных языковых средств. Чем разнообразнее речь, тем она богаче. Богатая речь отличается многообразием на всех уровнях языка, она подразумевает и лексическое богатство, и синтаксическое, и интонационное.

*Логичность речи* предполагает умение владеть логикой рассуждения, логично мыслить, знать и уметь применять языковые средства, способствующие смысловой организации высказывания.

*Выразительной* называется та речь, которая способна не только поддерживать внимание или интерес читателя, но и усиливать эффективность воздействия речи на адресата. В устной речи значительную роль играют интонационная выразительность, манера говорить, дикция, голос. В письменной речи выразительность складывается из всех качеств хорошей речи в зависимости от задач стиля.

*Уместность речи* — это соответствие высказывания конкретной ситуации. Уместная речь — это такая речь, в которой учитывается, что говорит автор, кому он это говорит, где, когда и как долго *(Н. Кузнецова)*.

● З дапамогай тэксту падрыхтуйце пісьмовае выказванне на тэму «Асноўныя камунікатыўныя якасці маўлення».

**5.** Прачытайце. Растлумачце значэнне прыведзеных паронімаў. Складзіце словазлучэнні (сказы) з імі. Як звязана паранімія з дакладнасцю маўлення? Карыстайцеся «Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы» або «Слоўнікам паронімаў беларускай мовы» С. Грабчыкава.

Абагуліць — абагульніць, адрасат — адрасант, публічны — публіцыстычны, дваісты — двайны, падаўжэнне —

падваенне, спецыяльнасць — спецыялізацыя, чалавечы — чалавечны, частотны — часты, экскурс — экскурсія, эфектны — эфектыўны, уласны — уласніцкі, выхаванец — выхавальнік, моўны — маўленчы, абанент — абанемент.

## § 2. Маўленчы этыкет

*Маўленчы этыкет* — сістэма ўстойлівых формул зносін, прынятых у грамадстве, якія выкарыстоўваюцца ў тыповых камунікатыўных сітуацыях. Маўленчы этыкет выступае як форма выражэння ветлівасці, паважлівых, добразычлівых адносін да субяседніка. Этыкетныя маўленчыя формулы выкарыстоўваюцца ў сітуацыях знаёмства, звароту, прывітання, развітання, пры выражэнні падзякі, пажадання, прабачэння, просьбы, запрашэння, парады і г. д.

Правілы маўленчага этыкету маюць нацыянальны, адметны характар. Веданне гэтых правілаў дапамагае эфектыўна выкарыстоўваць устойлівыя формы ветлівасці ў адпаведных умовах зносін. Адсутнасць такіх правілаў або непрадуманае іх выкарыстанне могуць ствараць псіхалагічны бар’ер паміж субяседнікамі.

Пры ўжыванні формул ветлівасці трэба ўлічваць іх гістарычную зменлівасць. Так, да слухачоў у розныя перыяды развіцця грамадства ўжываліся наступныя маўленчыя звароты: *таварышы, грамадзяне, грамада, панове, спадарства.*

Веданне і дарэчнае выкарыстанне правілаў маўленчага этыкету выяўляе ўзровень агульнай культуры асобы, яе інтэлігентнасць, выхаванасць.

**6.** Прачытайце тэкст. Пісьмова тэзісна перадайце яго змест, выкарыстоўваючы беларускія маўленчыя формулы этыкету.

Маўленчы этыкет — з’ява ўніверсальная, аднак у той жа час кожны народ склаў сваю, адмысловую сістэму правілаў маўленчых паводзін.[сн] Так, калі ў Расіі пры сустрэчы

абменьваюцца пажаданнем быць здаровым *(Здравствуйте!)*, то ў Германіі, згодна з этыкетам, да 12 гадзін дня жадаюць *Добрай раніцы*, з 12 да 17 — *Добрага дня*, а далей — *Добрага вечара,* але могуць абмежавацца і звычайным прывітаннем. У большасці еўрапейскіх краін і ў Амерыцы прывітанне ўтрымлівае пытанне *Як справы?* У адказ чуюць *Добра* ці *Нармальна*, а затым задаецца аналагічнае сустрэчнае пытанне, пры гэтым не прынята адказваць, што справы *дрэнныя*. У залежнасці ад часу сутак беларусы ўжываюць наступныя прывітанні і развітанні: *Дзень добры! Добры вечар! Дабранач!* (апошняе выкарыстоўваецца і як развітанне на ноч, і як пажаданне, аналагічнае рускаму *Спокойной ночи!*); *Да пабачэння!* (пры жаданні новай сустрэчы), *Бывай(це)!* (рус. *Прощай(те)!*), *Бывай здароў! (Здаровенька!), Будзь(ма)!* (у любой сітуацыі), *Жадаю (зычу) усяго найлепшага!*

У нашай краіне, у сітуацыі руска-беларускага двухмоўя, трэба ў аднолькавай ступені валодаць як беларускімі, так і рускімі этыкетнымі маўленчымі нормамі. Пры гэтым неабходна ўлічваць, што аднолькавыя камунікатыўныя намеры ў рускай і беларускай мовах могуць выражацца па-рознаму. Напрыклад, бел. *Дазвольце пазнаёміць Вас з...* і рус. *Позвольте представить Вам...* (знаёмства); бел. *Зрабіце ласку* і рус. *Сделайте одолжение* (як спроба звярнуць увагу); бел. *Сардэчна запрашаем* і рус. *Добро пожаловать* (прывітанне-запрашэнне); бел. *Так, безумоўна* і рус. *Да, конечно* (згода); бел. *Вельмі ўдзячны, Шчыра дзякую Вам* і рус. *Большое спасибо, Искренне благодарю Вас* (падзяка); бел. *На жаль, Вы памыляецеся (Вы не маеце рацыі)* і рус. *К сожалению, Вы ошибаетесь (Вы не правы)* (нязгода) *(І. Навасельцава)*.

● Чаму, на Вашу думку, на пытанне *Як справы?* звычайна адказваюць *Добра* або *Нармальна*?

● Падбярыце і запішыце сінонімы да прыметнікаў з першага сказа.

● Выпішыце з тэксту прыклады, што ілюструюць арфаграму «Правапіс суфіксаў дзеясловаў».

**7.** Прачытайце. Раскажыце пра структуру віншавальнага тэксту. Ці варта, на вашу думку, адступаць ад прапанаванай структуры? Ці перашкаджае ўстойлівасць формул выявіць арыгінальнасць, творчасць аўтара віншавання?

Віншаванне складаецца з некалькіх абавязковых частак: (1) прывітальная формула, (2) віншавальная частка, (3) пажадальная частка, (4) подпіс.

*Віншавальная частка*, як правіла, утрымлівае тры кампаненты: *адрасант — адрасат — падстава (матыў віншавання)*. Кожны з кампанентаў мадэлі можа прапускацца ў канкрэтнай сітуацыі маўленчых зносін. Параўнаем: *Віншую Вас (цябе) з Новым годам! (са святам(і), з блізкімі святамі); Віншую Вас (цябе)! Віншую са святам! Віншую! Мае віншаванні! Дасылаю (шлю) Вам свае шчырыя віншаванні з нагоды прыемных і чаканых свят! Са святам Вас (цябе)! Са Святам!*

*Пажадальная частка* віншавання таксама складаецца з трох кампанентаў: *адрасант — адрасат — змест пажадання*, якія пры пэўных камунікатыўных умовах могуць адсутнічаць. Найбольш прадуктыўныя ў сучаснай маўленчай практыцы наступныя пажадальныя формулы:

*Найлепшыя святочныя пажаданні! Самыя лепшыя пажаданні здароўя, настрою, плёну! Шчаслівага свята! Вясёлых, здаровых і шчаслівых свят і ўсяго новага года! Усяго самага добрага, радаснага і светлага! Поспехаў ва ўсіх справах! Добрага здароўя! Шчасця! Удачы! Сямейнага дабрабыту! Здзяйснення ўсіх жаданняў, мар, спадзяванняў, планаў! Спакою! Дабра! Кветак! Кахання! Радасці! Усмешак! Узаемаразумення! Новых здзяйсненняў і здабыткаў! Шмат нагод для радасці!*

*Хай шчасціць у Новым годзе! Хай Новы год будзе лепшы, прынясе шмат радасці! Хай Новы год прынясе Вам новыя надзеі і спаўненне ўсіх мар! Няхай Вас заўсёды акружаюць блізкія і любімыя людзі! Няхай Новы год стане годам новых магчымасцей і здзяйсненняў, годам рэалізацыі новых прафесійных і асабістых дасягненняў! Хай Новы год прынясе ў Ваш дом шмат новага, добрага, прыемнага!*

Падстаў для віншаванняў у нас шмат. Гэта розныя сямейныя і рэлігійныя святы, а таксама важныя, радасныя і прыемныя падзеі[ф] ў жыцці[с] кожнага з нас у асабістым плане або ў прафесійнай сферы: дзень нараджэння, імяніны, юбілеі, уступленне ў шлюб, нараджэнне[сл] дзіцяці[м], прафесійныя поспехі і г. д. А значыць, ёсць падстава штодня віншаваць добрых людзей з самымі рознымі святамі (чытай: святымі для нас днямі) *(Паводле С. Важніка).*

Запішыце маўленчыя формулы, якія б вам хацелася скарыстаць у віншавальнай і пажадальнай частках.

Складзіце тэкст віншавальнай паштоўкі родным (блізкім, знаёмым) да найбліжэйшага свята.

● Выпішыце з тэксту складаны сказ, зрабіце яго сінтаксічны разбор.

● Выпішыце прыклады да правіла «Правапіс канчаткаў назоўнікаў 1-га і 2-га скланенняў у форме роднага склону».

**8.** Прачытайце. Выпішыце сказ, які перадае асноўную думку твора. Растлумачце дарэчнасць ужывання займенніка ***Ты*** ў вершы. Раскажыце пра асаблівасці выкарыстання зваротаў ***ты—вы*** ў сістэме маўленчага этыкету.

Настаўнік, Ты — як Бог —
сляпых відушчыш,
даючы ім вочы.[сн]
З калень
падняцца многім дапамог,
хто да навукі змалку быў ахвочы.
Кароткі Твой засвоіў я ўрок,
у даўгу перад Табою неаплатным,
што Ты і мой
азорыў словам зрок,
даў зразумець у час, на што я здатны.
Я помню сёння цесны Твой пакой,
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
як там збіраўся шалапаяў рой,
і кожны рады быў Тваім парадам.

У невялікім[м] нашым гарадку,
дзе ўсе і ўсё навідавоку[м],
Табе
з паклонам[сл] я пада́м руку
і ціха выслухаю[ф],
быццам на ўроку.

*М. Курыла*

Складзіце тэкст віншавальнай паштоўкі з нагоды прафесійнага свята свайму першаму школьнаму настаўніку.

● Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў апошнім сказе тэксту.

● Вызначце від даданых частак у складаназалежных сказах.

**9.** Прачытайце. Выпішыце маўленчыя формулы, якія выкарыстоўваюцца ў этыкетнай сітуацыі «абяцанне» (уласна абяцанне, зарок, парука, запэўніванне, бажба[*], кляцьба). Чым, на вашу думку, вытлумачваецца багацце падобных этыкетных формул?

1. Калі будзе дужа цяжка[ф], напішы. Дапамагу, чым змагу *(Т. Бондар)*. 2. Слухай лепш мяне[м], усё добра будзе! *(Ядвігін Ш.)*. 3. Справы затрымалі[с]. Але мы затое пазней пазаймаемся *(Я. Купала)*. 4. Чаго зажурыліся, хлопцы? Будзе жыць лепей, кіньце сум ды развагу *(Х. Шынклер)*. 5. Зрабіце ласку, не кажыце нікому аб маёй з вамі размове. — Не палохайся! Ніхто аб гэтым ведаць не будзе *(Я. Нёманскі)*. 6. Я буду чакаць цябе, Пеця! Я буду чакаць... Ты верыш мне? *(А. Макаёнак)*. 7. Абяцай мне, што ты ніколі не здымеш са сценкі майго падарунка[сн] *(У. Караткевіч)*. 8. Ты слова дай цяпер... *(П. Галавач)*. 9. Я добрай буду да цябе. Я ўсё-ўсё зраблю *(У. Караткевіч)*. 10. Гэта ў маёй сіле. І табе цвёрда[ф] абяцаю[с] *(А. Асіпенка)*. 11. Абяцаю! Даклярую! Даю слова! 12. Я абяцаю! Маё слова непарушнае!

● Прадумайце і разыграйце маўленчую сітуацыю «Провады ў армію» з выкарыстаннем формул абяцання.

● Выпішыце сказы са звароткам. Зрабіце іх сінтаксічны разбор.

**10.** Прачытайце віншаванні з нагоды юбілею часопіса «Роднае слова». Прасачыце, як праз віншавальны тэкст выяўляецца моўная асоба, яе творчасць, далікатнасць, арыгінальнасць, духоўнасць.

Віншуем вас, шаноўныя калегі, з юбілеем. Няхай і наступныя гады будуць светлымі, творчымі, плённымі. Будзьма разам!

* * *

Шчыра, па-сяброўску зычым вам натхнення і радасці, светлай любові, пляннай працы і вернай службы на карысць[ф] Беларусі, роднай зямлі. Няхай і наступныя гады прынясуць нам усім[м] жаданае ўзаемаразуменне і азораць ім далейшы шлях да міру і згоды.[сн]

* * *

Да такой прыгожай даты хочацца знайсці незвычайныя словы. Дзякуй за тое, што побач з вамі зноў і зноў зачароўваешся[ф] родным словам. Спадзяёмся[с], што яшчэ доўгія гады мы будзем мець магчымасць[с] вучыцца ў вас любові да роднага[м] слова.

* * *

Нам дарагі ваш шчыры і добры талент служыць Слову, людзям.[сн] Не стамляйцеся[с] быць чалавечнымі!

● Падрыхтуйце тэкст віншавальнай паштоўкі з днём нараджэння (для маці, бацькі, бабулі, дзядулі, сястрычкі, брацікa). Знайдзіце дарагія, кранальныя словы, пастарайцеся выказаць сваю любоў і пяшчоту да роднага чалавека.

## § 3. Паняцце літаратурнай нормы

Найважнейшай прыметай літаратурнай мовы з'яўляецца яе нарматыўнасць, якая характэрная для пісьмовай і вуснай формаў маўлення. **Літаратурная норма** — агульнапрынятыя правілы, замацаваныя ў маўленчай практыцы і зафіксаваныя ў слоўніках, даведніках, граматыках. У сучаснай беларускай літаратурнай мове існуюць арфаэпічныя, акцэнталагічныя, лексічныя, фразеалагічныя, словаўтваральныя, арфаграфічныя, марфалагічныя, сінтаксічныя, пунктуацыйныя і стылістычныя нормы.

Характэрнымі асаблівасцямі літаратурнай нормы з'яўляюцца:

- адносная ўстойлівасць, уласцівая для пэўнага перыяду развіцця мовы;
- шырокая распаўсюджанасць у маўленчай практыцы;
- аб'ектыўнасць, адлюстраванне тыповасці, заканамернасці пэўнай моўнай з'явы;
- зафіксаванасць у слоўніках, даведніках, падручніках.

Нормы дапамагаюць літаратурнай мове захаваць цэласнасць, агульназразумеласць. Яны аберагаюць мову ад неапраўданага ўжывання дыялектнага маўлення, жарганізмаў, прастамоўных, вульгарных слоў. Дзякуючы літаратурным нормам дасягаецца адзінства мовы, узаемаразуменне ў маўленчых зносінах.

Літаратурная норма — з'ява гістарычная, зменлівая, абумоўленая развіццём мовы. Тое, што было нормай для пэўнага перыяду развіцця, з часам можа разглядацца, кваліфікавацца як адхіленне ад нормы. Устарэлыя нор-

мы з часам могуць станавіцца агульнапрынятымі. Напрыклад, сёння ўжываюцца ўстарэлыя словы: *бортнік* — пчаляр, *вакацыі* — канікулы, *гута* — шклозавод, *мыта* — пошліна, *скрыжалі* — законы, *спадар* — гаспадар, таварыш.

Літаратурная норма можа быць варыянтнай. В а р ы я н т н а с ц ь н о р м ы — гэта паралельнае суіснаванне магчымых, раўнацэнных варыянтаў словаўжывання, словаўтварэння. Як правіла, адзін з варыянтаў больш частотны, распаўсюджаны або ўніверсальны. Напрыклад, у сучаснай беларускай мове ўжываюцца: *вачыма* і *вачамі, форм* і *формаў, песняй* і *песняю, ядзім* і *ямо*.

● Пісьмова адкажыце на пытанні:

1. Якая з’ява выступае найважнейшай прыметай літаратурнай мовы?

2. Назавіце і патлумачце характэрныя асаблівасці літаратурнай нормы.

3. Запішыце па памяці азначэнне літаратурнай нормы.

4. Якія нормы характэрныя для сучаснай беларускай літаратурнай мовы?

5. Што азначае гістарычнасць, зменлівасць літаратурнай нормы?

6. Ці можа літаратурная норма быць варыянтнай? Прывядзіце прыклады.

**11.** Прачытайце назіранні даследчыцы І. Шкрабы над ужываннем варыянтаў слова ў мастацкім тэксце. З дапамогай тэксту адкажыце на пытанне *З якой мэтай пісьменнікі ўжываюць варыянтную лексіку?*

Ацэньваючы[м] ўжыванне слова ў мастацкім творы, трэба шукаць адказ на пытанне, чаму аўтар скарыстаў малапашыраны, нелітаратурны або **архаічны** варыянт, якія новыя магчымасці ў параўнанні з варыянтам літаратурнай мовы ён дае ў рукі мастака.

Варыянты прыцягваюць увагу пісьменніка таму, што кожнае «незвычайнае» слова нясе ў мастацкім **кантэксце** нагрузку дадатковай выразнасці і маляўнічасці. Вядома,

чым больш **звыклае** слова, тым часцей ім карыстаюцца, тым менш адчуваецца схаваная ў ім вобразнасць.

Напрыклад, каб вырашыць вобразныя, **гукапісныя**, стылёвыя задачы, Р. Барадулін звяртаецца ў вершы «Возера Звонь» да варыянтнай лексікі. У гэтых адносінах вельмі характэрная страфа, якая малюе адначасова зрокавы і гукавы вобраз возера:

*Вятрэц-хітрэц*
*З зялёных сховін*
*Аб корч замшэлы* ***вытне*** *лоб.*
*Ваду, як* ***хорт****,*
*Хлябоча човен —*
*Далёка чуецца прыхлёб...*

Паэт аддаў перавагу варыянтам вятрэц, хітрэц, сховін, хлябоча, прыхлёб перад іх адпаведнікамі ветрык, хітрун, схованак, хлебча, прыхлёбванне. Было б няправільна тлумачыць гэта толькі патрэбамі вершаванага **памеру** і рытму. Паэт заўсёды выбірае той рытм і памер, якія больш **прыдатныя** для ўвасаблення задумы.

Паразважайце, чаму паэт выбраў для верша варыянты *вятрэц, хітрэц, сховін, хлябоча, прыхлёб*.

- Выпішыце з тэксту простыя сказы, зрабіце іх сінтаксічны разбор.
- Растлумачце лексічнае значэнне выдзеленых у тэксце слоў.

**12.** Дапоўніце сказы адпаведнымі тэрмінамі.

Аднастайнае вымаўленне гукаў і іх спалучэнняў у словах вызначаюць...

Правільную пастаноўку націску прадугледжваюць...

Правілы перадачы на пісьме вуснай мовы акрэсліваюць...

Правільнага ўжывання слоў ва ўласцівых ім значэннях, засведчаных слоўнікамі, правільнага сэнсавага спалучэння слоў патрабуюць...

Ужыванне формаў слоў вызначаюць...

Асаблівасці спалучэнняў слоў у словазлучэннях і сказах вызначаюць...

Правільнае выкарыстанне моўных сродкаў адпаведна стылю маўлення, зместу, форме і мэце паведамлення, характару зносін забяспечваюць...

Правільнай расстаноўкі знакаў прыпынку патрабуюць...

● Назавіце азначэнні, пабудаваныя як просты ўскладнены сказ. Зрабіце іх сінтаксічны разбор.

● Раскажыце, у якіх слоўніках, даведніках зафіксаваныя літаратурныя (арфаэпічныя, акцэнталагічныя, арфаграфічныя, лексічныя і марфалагічныя) нормы сучаснай беларускай мовы.

**13.** Пісьмова перакажыце тэкст па-беларуску. Запішыце загаловак, адпаведны стылю тэксту.

**Языковые нормы** не выдумываются учеными. Они отражают закономерные процессы и явления, происходящие в **языке**, и поддерживаются речевой практикой. К основным источникам языковой нормы относятся произведения писателей-классиков и современных писателей, средства массовой информации, общепринятое современное употребление, данные живого и анкетного опросов, научные исследования ученых-языковедов.

Литературная норма зависит от условий, в которых осуществляется **речь**. Языковые средства, уместные в одной ситуации (бытовое общение), могут оказаться нелепыми в другой (официально-деловое общение). Норма не делит средства языка на хорошие и плохие, а указывает их коммуникативную целесообразность *(Л. Введенская, П. Червинский)*.

● Зрабіце сінтаксічны разбор складанага сказа з тэксту.

● Растлумачце значэнне выдзеленых тэрмінаў.

**14.** Прачытайце. Паразважайце над пытаннямі, якія задае аўтар. Свае развагі запішыце на беларускай мове як звязны тэкст.

Нужна ли вообще новым поколениям культура речи? Некоторые молодые люди утверждают, что классического русского языка для молодёжи не существует, что не нужно

следовать литературным нормам. Ряд исследований, проведённых учеными-филологами, касающиеся анализа текстов современной литературы и языка СМИ, позволяют сделать вывод о том, как сильно влияние на молодёжь жаргонной лексики. Нужно ли в этих условиях сохранять классический русский язык? Масса произведений переведены на язык сленга, они пользуются популярностью, их покупают, читают. Уже издана довольно своеобразная книжка «Русский тусовочный как иностранный», в которой много упражнений: переводов со сленга на обычный русский, с русского — на сленг. Что это — игра или определённая тенденция, которую следует принимать серьёзно?

В своей среде вы, возможно, общаетесь на сленге, но, когда приходите в класс, в театр, магазин, вы говорите на том самом русском литературном языке, которому вас учат в школе. И если вы пойдёте на работу, или будете поступать в вуз, или поедете в другой город, захотите прочитать книгу, посмотреть фильм, вам нужен будет именно тот нормативный язык, который представляется таким скучным и требующим изучения.

Согласны ли вы с тем, что воспитывать языковую культуру необходимо с детства? Можно ли в детских передачах, фильмах, мультфильмах допускать, чтобы их герои говорили неправильно? Взрослые-то понимают, что сленг в этих передачах употребляется для «смеха и прикола», но в состоянии ли ребёнок определить, что правильно, а что для смеха? *(Н. Кузнецова).*

- Растлумачце знакі прыпынку ў тэксце.

## § 4. Арфаэпічныя нормы

**Арфаэпічныя нормы** вызначаюць сістэму ўзорнага вымаўлення гукаў і іх спалучэнняў у літаратурнай мове.

Асноўныя рысы беларускага літаратурнага вымаўлення, занатаваныя ўпершыню Браніславам Тарашкевічам у «Беларускай граматыцы для школ», захаваліся нязменнымі на сённяшні дзень.

**Вымаўленне галосных гукаў**

Вымаўленне галосных [і], [ы], [у] залежыць ад становішча ў слове:

- пасля галоснага, а таксама пасля зычнага пры раздзельным вымаўленні да гука [і] далучаецца [й]: *ра́*[йі]*ц-ца, вераб*[йі], *кра*[йі]*на*, [іл'йіч] (Ільіч);
- у пачатку слова, калі папярэдняе слова канчаецца на галосны, замест [і] можа вымаўляцца [й] або [йі]: [*падыс'ц'і дайвана*], *дарога на* [йі]*вацэвічы, сястра* [й] *брат*;
- пасля цвёрдых зычных (апрача [г], [к], [х]) на стыку прыстаўкі і кораня, частак складаных слоў або двух самастойных слоў пры іх злітным вымаўленні замест [і] гучыць [ы]: *пед*[ы]*нстытут*, *сын* [ы] *брат* (**але:** *Віцебск* [і] *Полацк, смех* [і] *грэх*);
- ненаціскны галосны [у] пасля галоснага перад зычным у вымаўленні заўсёды замяняецца на [ў] (у тым ліку і ва ўласных назвах, і ў запазычаных словах): *было* [ў]*чора, пайсці* [ў] *кіно, за* [ў]*ралам, каля* [ў]*шач, да* [ў]*ладзіміра*, *ва* [ў]*ніверсітэце, спяваць ва* [ў]*нісон*.

**Вымаўленне зычных гукаў**

1. Гук [г] у беларускай мове (у адрозненне ад рускай) — ф р ы к а т ы ў н ы, п р а ц я ж н ы: [γай] (гай), [γорат] (горад). У некаторых іншамоўных словах ён вымаўляецца як выбухны (як у рускай мове): [*г'уз'ік*] *(гузік), гонта, швагер, гвалт, гарнец, ганак, нягеглы,* [*г''іл'за*] *(гільза)*. Выбухны [г'] вымаўляецца таксама ў сярэдзіне іншамоўных слоў перад звонкім зычным: [*ан'эг'дот*] *(анекдот)*, [*ваг'зал*] *(вакзал), экзамен, экзатычны, экзэмпляр*.

2. Свісцячыя гукі [з], [с], [дз], [ц] у пазіцыі перад наступным мяккім зычным вымаўляюцца мякка: [*з'в'эр*] *(звер)*, [*с'н'эх*] *(снег)*, [*з'йава*] *(з'ява)*, [*дз'в'іна*] *(Дзвіна)*, [*ц'в'орды*] *(цвёрды)*. Перад мяккімі [г'], [к'], [х'] свісцячыя гукі вымаўляюцца цвёрда: [*ск'ів'іца*] *(сківіца)*, [*сх'іл'нас'ц'*] *(схільнасць)*, [*сх'ітрынкайу*] *(з хітрынкаю)*.

3. Часціца ***не***, прыназоўнік ***без***, калі стаяць перад словам з націскам на першым складзе, падпарадкоўва-

юцца ў вымаўленні яканню: [*б'аскв'этак*] *(без кветак)*, [*н'абудз'э*] *(не будзе)*, [*б'асхл'эба*] *(без хлеба)*.

4. Шыпячыя перад свісцячымі вымаўляюцца як свісцячыя, а свісцячыя перад шыпячымі — як шыпячыя: [*нарэцы*] *(на рэчцы)*, [*уп'эцы*] *(у печцы)*, [*шшыта*] *(сшыта)*. Спалучэнне ***чц*** вымаўляецца як [цц]: [*убоцы*], [*ухустацы*]. Спалучэнне ***шс*** у становішчы паміж галоснымі вымаўляецца як падоўжаны гук [с']: *Калі* [*топ'іс'с'а*] *(топішся), то і за брытву* [*хоп'іс'с'а*] *(хопішся)*.

5. Спалучэнні ***дч*** і ***тч*** вымаўляюцца як падоўжаны гук [ч]: [*дас'в'эччанас'ц'*] *(дасведчанасць)*, [*дыс'п'эччар*] *(дыспетчар)*, [*глаччэйшы*] *(гладчэйшы)*.

6. Спалучэнні ***дц*** і ***тц*** вымаўляюцца як падоўжаны гук [ц'] або як падоўжаны [ц]: [*пац'ц'ажарам*] *(пад цяжарам)*, [*ац'ц'в'іс'ц'і*] *(адцвісці)*, [*аццадз'іц'*] *(адцадзіць)*.

7. Спалучэнне ***дс*** вымаўляецца як гук [ц]: [*справавоцтва*] *(справаводства)*, [*спацстол'іна*] *(з-пад Століна)*, [*самаўлацтва*] *(самаўладства)*.

8. У спалучэннях зычных ***жск***, ***шск*** пры вымаўленні выпадаюць шыпячыя [ж], [ш]: [*б'элав'эскайа*] *(Белавежская) пушча*, [*чэскайэ*] *(чэшскае) шкло*, [*н'ас'в'іск'і*] *(Нясвіжскі) замак*. Спалучэнні ***зск*** і ***дск*** вымаўляюцца адпаведна, як [ск] і [цк]: [*каўкаск'і*] *(каўказскі)*, [*гарацк'і*] *(гарадскі)*.

**15.** Згрупуйце і дапоўніце прыклады адпаведна характару вымаўлення спалучэнняў зычных.

Дачцэ, бясшумны, латышскі, зжаць, паказчык, праз шыбу, на кладачцы, з шафёрам, у дзежцы, вучышся, адзенешся, расчоска, рэзчык, з чыгункі, узлезшы, езджу.

**16.** Прачытайце прыказкі, захоўваючы арфаэпічныя нормы беларускай літаратурнай мовы. Асаблівую ўвагу звярніце на вымаўленне часціцы ***не*** і прыназоўніка ***без***.

1. Як не пасееш, то і збіраць не будзе чаго. 2. Вучыцца ніколі не позна. 3. З бядою і сонца не ўбачыш. 4. Каб

дзяды не ведалі бяды, а ўнукі не бачылі мукі. 5. Не тое багацце, што цесць з цешчаю далі, а што маладыя самі нажылі. 6. Без хлеба няма абеда. 7. Без сала куса няма жыцця ў беларуса. 8. Каваль без сякеры, а шавец* без ботаў. 9. Спадзявайся на лепшае, не бойся напаткаць горшае. 10. Без скрыпачкі, без дуды* ходзяць ногі не туды. 11. Хлеб плячэй не горбіць. 12. Без працы не будзе шчасця.

**17.** Прачытайце прыказкі, вусна растлумачце іх сэнс. Выпішыце словы, вымаўленне якіх перадае пэўную арфаэпічную норму беларускай мовы. У дужках пакажыце асаблівасць вымаўлення.

У з о р: *не зловіш* — [*н'азлов'іш*].

1. Трэба розумам надтачыць, дзе сіла не возьме. 2. Ідучы па кладачцы, на бакі не глядзі. 3. Ідзі з людзьмі, то не згубішся. 4. Не смейся з людзей — смейся з сябе ці са сваіх дзяцей. 5. Не бойся звяглівага*, а бойся куслівага. 6. Ад спеху нарабіў смеху. 7. Санлівага не дабудзішся, лянівага не дашлешся і не дажджэшся. 8. Вясна кажа: ураджу, восень кажа: яшчэ пагляджу. 9. Будзе дождж ісці, будзе хлеб расці. 10. Пусці свінню пагрэцца, то і самому не будзе дзе дзецца. 11. Без хлеба яда — да парога хада.

● Запішыце па памяці 4—5 прыказак.

**18.** Прачытайце. Пісьмова адкажыце на пытанне *Якія асноўныя прычыны парушэння арфаэпічных нормаў?* Свой адказ аформіце як тэкст-разважанне.

Правільнае вымаўленне — істотны* кампанент паняцця «культура вуснага маўлення». Існуюць адзіныя, абавязковыя для ўсіх носьбітаў мовы нормы літаратурнага вымаўлення, якія, аднак, нярэдка парушаюцца па розных прычынах.

Першая з іх — захаванне ў вымаўленні дыялектных рыс роднай гаворкі. У мастацкіх творах пісьменнікі нярэдка абгрунтавана выкарыстоўваюць фанетычныя дыялектыз-

мы для маўленчай характарыстыкі персанажаў. Напрыклад, у рамане І. Мележа «Людзі на балоце» чытаем: *Ціхо ты, ціхо, Ганначко! Корч ездзій у мясцечко па дохтара.*

Другой прычынай парушэння арфаэпічных нормаў, на думку А. Падлужнага, «з'яўляецца двухмоўная сітуацыя, пры якой адзін і той жа чалавек карыстаецца то рускай, то беларускай мовай. Пры слаба выпрацаваных навыках вымаўлення звычайна парушаюцца арфаэпічныя нормы як адной, так і другой мовы» *(І. Лепешаў)*.

● Вусна падрыхтуйце выказванне на тэму «Чаму трэба захоўваць арфаэпічныя нормы».

● Запішыце сказы з пабочнымі словамі, зрабіце іх сінтаксічны разбор.

**19.** Прачытайце. Запішыце прапанаваныя словы ў транскрыпцыі, адлюстраваўшы арфаэпічную норму.

Грузчык, мядзведзь, разнесці, сшытак, іскра, вераб'іны, снег, ідзе, цвікі, спартзал, паджылкі, джынсы, надвор'е, вопратка, збожжа, загадчык, чацвер, хвалюешся, сям'я, хаваешся, скіба, іхні, дождж, дзвесце, цвёрды, аб'інець, адмоўе, дакладчык, барацьба, выязджаць.

## § 5. Акцэнталагічныя нормы. Лагічны націск

**Акцэнталагічныя нормы** прадугледжваюць правільную пастаноўку націску, рэгулююць месца размяшчэння націску ў слове.

Націск у беларускай мове р у х о м ы *(а́драс — адрасы́)*, р о з н а м я с ц о в ы, можа быць як на першым, так і на іншых складах слова *(жні́вень, кастры́чнік, мабіліза́цыя)*. Націск маюць толькі паўназначныя словы. Непаўназначныя (службовыя) прымыкаюць да папярэдняга слова (энклітыкі): *схадзій бы* або да наступнага самастойнага слова (праклітыкі): *па ваду*. Ад месца націску залежаць:

● адрозненне аднолькавых па гукавым саставе слоў: *а́тлас — атла́с*;

● правілы напісання галосных: *лясні́к, лесніцо́ўка, высакая́касны, шырокафарма́тны*;

● адрозненне граматычных формаў слова: *ру́кі — рукі́*;

● адрозненне формаў законченага і незаконченага трывання дзеяслова: *адрэ́заць — адраза́ць*.

Акцэнтныя (акцэнталагічныя) варыянты дапускаюць дваякі націск у межах нормы: *лі́тасцівы — літасці́вы, су́праць — супро́ць, хло́пец — хлапе́ц, наво́кал — навако́л*.

У мове існуе вялікая група слоў, у якіх націск неабгрунтавана пераносіцца на іншы склад. Гэта тлумачыцца як слабым засваеннем акцэнталагічных нормаў, так і недастатковым валоданнем мовай увогуле. Акцэнталагічныя памылкі дапускаюцца і ў асобных граматычных формах. Так, у дзеясловах множнага ліку прошлага часу правільнымі будуць формы *ўзялі́, далі́, аддалі́, прынялі́*. У дзеясловах 2-й асобы множнага ліку цяперашняга і будучага простага часу абвеснага ладу нарматыўнымі з'яўляюцца варыянты *жывяце́, ідзяце́*. У прыслоўях вышэйшай ступені параўнання націск падае на апошні склад: *дале́й, вышэ́й*.

Акцэнталагічныя нормы замацаваны ў «Слоўніку націску ў беларускай мове» Мікалая Бірылы, у арфаграфічных, тлумачальных даведніках.

**20.** Прачытайце і запішыце словы. Пастаўце націск. Правільнасць пастаноўкі націску праверце па слоўніку.

Аер*, выпадак, імя, статут, генезіс, гліняны, каменны, ільняны, звычай, Уладзімір, красавік, эксперт*, падпарадкаванне, грамадзянін, беларусы, аксюмаран*, анапест, факсіміле*, навіна, садавіна, спіна, паведаміць, журавель, вярба, каталог, дакумент, стары, кулінарыя, магазін, айва*, альтруізм*, брукаванка*, відарыс*.

● Складзіце сказы з пяццю запазычанымі словамі.

**21.** Прачытайце перад аднакласнікамі свой любімы верш — выразна, з захаваннем арфаэпічных і акцэнталагічных нормаў. Растлумачце свой выбар твора для чытання. Слухачы павінны ацаніць, наколькі ваша маўленне адпавядае літаратурным нормам беларускай мовы.

**22.** Запішыце па-беларуску. У беларускіх адпаведніках пастаўце націскі.

Деятель, докрасна, долгожитель, долюшка, доченька, дровосек, зацепщик, единичность, журавлёнок, зашнурованный.

Снизу доверху, замкнутая дверь, красивая застёжка, гравийный участок, не успел даже икнуть, вымыть дочиста, набожность крестьянства, красивая набережная, идти по полю.

**23.** Прачытайце. Знайдзіце ў тэксце дзевяць слоў з памылкамі, выкліканымі няведаннем акцэнталагічнай нормы. Запішыце гэтыя словы правільна, абазначце націск.

Серадзіна кастрычніка, пачатак лістапада — самога часу збору шыпшыны. Вось такою парою кожны год дабіраўся я на Лысую гару, бо шыпшыны тут — буйнай, спелай — было так многа, што аж гнуліся ад яе кусты. На гэты раз сонца яшчэ не паднялося і да палавіны неба, а мой ладны рукзак быў паўненькі ягад. Часу была шмат. Мне захацелася паблукаць па лесе, можа, удасца знайсці які-небудзь грыб.

Спусціўся з гары, якую з двух бокаў абступалі маладыя асілкі-дубы, і падаўся ў глыбіню лесу. Прайшоў вёрсты са тры, уважліва прыглядаючыся да зямлі, але, акрамя некалькіх мухамораў, не сустрэў ніякога грыба *(Паводле Я. Галубовіча)*.

● Запішыце два апошнія сказы, зрабіце іх поўны сінтаксічны разбор. Вусна вызначце часціны мовы ў гэтых сказах.

**24.** Запішыце лічэбнікі ў форме назоўнага і творнага склонаў. Пастаўце націск. Правільнасць пастаноўкі націску праверце па слоўніку.

3, 4, 5, 6, 7, 8, 11, 14, 50, 60, 70, 80, 200, 600, 800, 2 (хлопчыкі), 2 (дзяўчынкі).

**25.** Запішыце назоўнікі мужчынскага роду 2-га скланення ў родным склоне адзіночнага ліку і ў назоўным склоне множнага ліку, абазначце націскі.

Бінт, бусел, вецер, воўк, волас, голуб, доўг, зубр, камень, мароз, плот, плуг, роў, рот, цесць, вус, рог.

**26.** Запішыце словы па-беларуску, пастаўце націск.

Апостро́ф, ара́хис, асимметри́я, беко́н, босо́й, боя́знь, брата́ться, ве́рба, ве́ресковый, включённый, внесённый, вода́ (во́ду), воздухопрово́д, воспри́нятый, впереди́, вплетённый, втри́дорога, гли́няный, гора́ (го́ру), гражда́нство, граффи́ти, диспансе́р, дли́нный, догово́р, до́низу, допризывник, доска́, досу́г, законнорождённый, за́нятый, знаха́рь, **ико́нопись***, инсу́льт, и́скра, **катало́г***, ко́мпас, крапи́ва, крестья́нин, медикаме́нты, мусоропрово́д, на́чатый, **некроло́г***, **парте́р***, переоценённый, решето́, **стату́т***, тигро́вый, това́рищество, **то́ждество***, **топони́мия***, **три́птих***, углублённый, хода́тайство, христиани́н, щаве́левый, экспе́ртный.

● Растлумачце лексічнае значэнне выдзеленых слоў. Складзіце сказы з імі.

● Назавіце слоўнікі, якія адлюстроўваюць нормы літаратурнай мовы.

**27.** Прачытайце правілы, сфармуляваныя мовазнаўцам Т. Тамашэвічам. Выкарыстоўвайце магчымасці голасу пры вызначэнні лагічнага націску ў сказах-прыкладах.

Даследчыкі культуры маўлення адзначаюць наступныя найбольш частыя выпадкі выдзялення лагічных цэнтраў:

1. У цэласных словазлучэннях націск падае на апошняе слова: *заслужаны дзеяч культуры Алесь Мікалаевіч* ***Белакоз.***

2. Лагічнага націску патрабуюць словы, якія выражаюць параўнанне:

*Як* ***шаблямі****, на часткі*
*Ля горнае ракі*
*Сякуць* ***крыламі*** *ластаўкі*
*Распалены блакіт.*
П. Панчанка

3. Выдзяляюцца лагічным націскам словы, якія выражаюць супрацьпастаўленне: ***Не выпадак****, а важная* ***справа*** *паклікала мяне сюды.*

4. Лагічны націск прымае прыдатак: *Эх, аджыў ты свой век, жоўты ліст-****бедачок*** (Я. Колас).

5. Выдзяляецца націскам зваротак на пачатку сказа: ***Божа мой!*** *Калі паўстане ў свеце згода тая?* (Я. Колас).

6. Лагічным націскам выдзяляюцца аднародныя члены сказа: *Зямля выхваляецца дзіўнай* ***раскошай: гранатамі, рысам****, салодкай* ***айвой*** (П. Панчанка).

7. Выдзяляюцца лагічным націскам недапасаваныя азначэнні: *Вяла ад бяды нас дарога* ***жыцця*** (А. Куляшоў).

8. Лагічны націск падае на апошняе выказальнае слова састаўнога выказніка: *Вось-вось ападзе раса, а ў траве загудуць пчолы і бухматыя чмялі, пачне* ***падсыхаць*** *пакоша* (А. Бароўскі).

9. У пытальных сказах лагічнага націску патрабуюць словы, якія заключаюць сутнасць пытання: *Вобразы мілыя роднага краю, смутак і радасць мая!* ***Што*** *маё сэрца да вас парывае?* (Я. Колас).

● Выпішыце прыклады — простыя ўскладненыя сказы. Растлумачце знакі прыпынку ў іх.

**28.** Прачытайце, сфармулюйце асноўную думку верша. Спішыце тэкст, расстаўляючы знакі прыпынку. Падкрэсліце словы, якія патрабуюць сэнсавага выдзялення лагічным націскам пры чытанні.

Ад слова сэрца халадзее
Праходзіць сон і забыццё

Ад слова рушацца надзеі
Ад слова свеціцца жыццё.
Ад слова вырастаюць крылы
А ў сэрцы стукае любоў
Ад слова прыбываюць сілы
Дык не шкадуйце шчырых слоў!
А здатным толькі на дакоры
І гучна словамі грымець
Каб не прыносіць людзям гора
Было б найлепей анямець.

*С. Грахоўскі*

● Выпішыце зваротныя дзеясловы, зрабіце іх марфемны і словаўтваральны разборы.

● Пабудуйце схему складанага сказа з тэксту, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

**29.** Пастаўце націск у наступных словах. Правільнасць яго пастаноўкі праверце па слоўніку.

Камбайнер, партэр, жыхар, нектар, **прынесла**, туманы, **мысленне**, таварышы, **грамадзянін**, цэмент, дыспансер, (па) ваду, кіламетр, **вярба**, гліняны, **статус**, **алфавіт**, карабель, вусы, **выпадак**, крыху, была, несці, **жальба**, **Украіна**, слабы, нібы, **неруш***, пасланец, дэфіс.

● Складзіце сказы з выдзеленымі словамі.

**30.** Прачытайце тэкст, вызначце яго тып і стыль. Выберыце адпаведны загаловак да тэксту, абгрунтуйце свой выбар: «Мікалай Васільевіч Бірыла», «Зробленае вучоным», «Спадчына мовазнаўца М. В. Бірылы», «Тое, што зрабіў вучоны», «Знакаміты мовазнавец», «Напісанае застаецца».

Мікалай Васільевіч Бірыла — вядомы беларускі мовазнавец, доктар філалагічных навук, акадэмік, Заслужаны дзеяч навукі Беларусі.

Пад кіраўніцтвам і непасрэдным удзеле М. В. Бірылы былі створаны «Русско-белорусский словарь общественно-политической терминологии» (1970), «Слоўнік беларускай

мовы: арфаграфія, арфаэпія, акцэнтуацыя, словазмяненне» (1981), «Анамастычны слоўнік твораў Якуба Коласа» (1990), «Слоўнік націску ў беларускай мове» (1992).

«Слоўнік націску ў беларускай мове» адрасаваны вучням **старэйшых** класаў. Рэестравая частка яго налічвае каля 5500 слоў розных **знамянальных** часцін мовы: назоўнікаў, прыметнікаў, лічэбнікаў, займеннікаў, дзеясловаў і прыслоўяў. Яны пададзены ў алфавітным **парадку** з граматычнымі, семантычнымі, функцыянальна-стылістычнымі паметамі і з указаннем націску. Формы слоў у слоўнікавых артыкулах прыводзяцца **выбарачна**. Для назоўнікаў з **нерухомым** націскам — толькі форма роднага склону адзіночнага ліку, для дзеясловаў з нерухомым націскам — формы адзіночнага і множнага ліку цяперашняга і будучага простага часу, форма другой асобы адзіночнага ліку загаднага ладу. Адзначаюцца акцэнталагічныя варыянты з найбольш ужывальным націскам на **першым** месцы, напрыклад: *вярша́ліна* і *вершалі́на*.

Працаваў на ніве **роднай** культуры М. В. Бірыла самааддана, зрабіў як вучоны вельмі **многа**. Яго **багатая** творчая спадчына з'яўляецца адметнай старонкай у гісторыі беларускага мовазнаўства *(І. Германовіч)*.

● Растлумачце лексічнае значэнне слоў з тэксту: *анамастычны*, *рэестравая* (частка), *рухомы/нерухомы* (націск), *акцэнталагічныя* (варыянты), *спадчына* (лінгвістычная).

● Складзіце план, на яго аснове падрыхтуйце падрабязны пераказ тэксту.

● Да выдзеленых у тэксце слоў падбярыце і запішыце антонімы.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Якія значэнні мае тэрмін *культура мовы*?
2. Назавіце асноўныя якасці культуры маўлення, ахарактарызуйце іх.
3. Што азначае тэрмін *маўленчы этыкет*?
4. Для чаго патрэбна ведаць правілы маўленчага этыкету?
5. Запішыце беларускія формулы ветлівасці, якія вы ўжываеце даволі часта.
6. Дайце азначэнне паняцця *літаратурная мова*.

7. Пералічыце і пракаменціруйце характэрныя асаблівасці літаратурнай мовы.

8. У якіх выпадках літаратурная норма можа быць варыянтнай? Прывядзіце прыклады.

9. Што вызначаюць арфаэпічныя нормы?

10. Раскажыце пра асаблівасці вымаўлення галосных і зычных гукаў у беларускай мове. Праілюструйце гэтыя асаблівасці прыкладамі.

11. Што прадугледжваюць акцэнталагічныя нормы?

12. Назавіце даведнікі, якія адлюстроўваюць літаратурныя нормы беларускай мовы.

## АРФАГРАФІЧНЫЯ НОРМЫ

### Напісанні, заснаваныя на фанетычным прынцыпе

Правапіс беларускай мовы ў асноўным грунтуецца на фанетычным і марфалагічным прынцыпах.

**Фанетычны** прынцып правапісу прадугледжвае перадачу гукаў на пісьме ў адпаведнасці з літаратурным вымаўленнем (як чуем, так і пішам).

На гэтым прынцыпе грунтуюцца наступныя правілы:

- передача акання і якання: *н**о**гі — н**а**га, г**о**лас — г**а**ласы, в**е**чар — в**я**чэрні*;
- напісанне літары ***ы*** на месцы этымалагічнага [э] у некаторых запазычаных словах: *інж**ы**нер, ар**ы**шт, бр**ы**зент*;
- напісанне спалучэнняў галосных у словах іншамоўнага паходжання: *біёніка, рацыён, бібліятэка*;
- правапіс прыставак ***без-*** ***(бяз-, бес-, бяс-)***, ***з-*** ***(с-)***, ***раз-*** ***(рас-, роз-, рос-)***, ***уз-*** ***(ус-)***, ***цераз-*** ***(церас-)***: *узгадаць — успомніць, бяздушны — бясшумны*;
- передача на пісьме дзекання і цекання: *каман**д**а — каман**дз**ір, ва**д**а — у ва**дз**е, біле**т** — біле**ц**ік*;
- правапіс спалучэнняў ***зн, нц, рц, сн, сл*** на месцы этымалагічных [здн], [лнц], [рдц], [рдн], [стн], [стл]: *праязны, сонца, сэрца, капусны, посны, падаслаць*;

● перадача на пісьме фанетычнага падаўжэння зычных: *пытанне, узвышша, асяроддзе, жыццё*;

● узнікненне прыстаўных гукаў: ***і**мгла, **і**льняны, **в**угал, **в**учыць*;

● напісанне літары ***с*** на месцы гістарычных спалучэнняў [жс], [гс], [шс], [хс] і спалучэння [сс] на стыку кораня і суфікса: *мноства, хараство, княства, птаства, адэскі, палескі*;

● напісанне літары ***т*** на месцы спалучэння [дт] на канцы іншамоўных слоў: *Шміт, Рэмбрант*; напісанне літары ***ц*** на месцы спалучэнняў [тс], [чс], [кс], [цс]: *савецкі, ткацкі, мастацкі, лельчыцкі*;

● правапіс ***у*** і ***ў*** у залежнасці ад пазіцыі ў слове: *чытаў у класе, траўка, воўк*;

● напісанне спалучэння ***чч*** у геаграфічных назвах тыпу *Полаччына, Случчына* на месцы спалучэння [цк];

● захаванне на пісьме асіміляцыі свісцячых да шыпячых у некаторых словах: *пяшчотны, нішчымны, шчасце* і інш.;

● напісанне адной літары ў словах *алея, каса, клас, тона, маса* і інш.

З а ў в а г а. Выключэнні з правілаў не адпавядаюць фанетычнаму прынцыпу напісання.

## § 6. Правапіс галосных *о, э, а*

1. Галосныя літары ***о, э*** звычайна пішуцца ў беларускай мове толькі пад націскам, не пад націскам у адпаведнасці з беларускім літаратурным вымаўленнем на месцы ***о, э*** пішацца ***а***: *мо́ва — маўле́нне, шэ́лест — шалясце́ць*.

2. У некаторых спрадвечна беларускіх словах са складамі ***ро, ло*** замест **о** не пад націскам пішацца літара ***ы***: *бро́вы — брыво́, гло́тка — глыта́ць, дро́вы — дрыво́тня, кроў — крыва́вы*, а таксама ў словах *я́блык, я́блыня, я́блычны, я́блыневы*.

У адпаведнасці з беларускім літаратурным вымаўленнем літара ***ы*** пішацца ў некаторых запазычаных сло-

вах: *брызе́нт*, *дрызі́на*, *інжыне́р*, *по́чырк*, *канцыля́рыя*, *рысо́ра*, *цырымо́нія*, *трыво́га*, а ў некаторых словах пішацца літара ***і***: *блі́скаві́ца*, *блішча́ць*, *блі́скаўка*, **але:** *бляск*, *бляша́нка*.

3. Літара ***э*** пішацца як пад націскам, так і не пад націскам:

а) пасля зацвярдзелых, а таксама [д] і [т]: *жэ́рдка*, *чэ́рствы*, *тэа́тр*, *ветэра́н*, *рэда́ктар*, *ка́тэт*, *дэта́ль*, *цэ́лы*, *ацэ́нка*, *шэ́лест*, *Жэне́ва*, *Цэйло́н*;

б) у пачатку некаторых (пераважна запазычаных) слоў: *э́ра*, *э́пас*, *э́ўрыка*, *эква́тар*, *экзэмпля́р*, *Эсто́нія*, *Эфіо́пія*;

в) на канцы запазычаных нязменных слоў, а таксама ўласных імён, геаграфічных назваў пасля зычных, акрамя ***л, к***: *купэ́*, *кафэ́*, *галіфэ́*, *кашнэ́*, *каратэ́*, *Хасэ́*, *Душанбэ́* (**але:** *філе́*, *сальта-марта́ле*, *піке́*, *камюніке́*).

4. Літара ***а*** пішацца не пад націскам незалежна ад паходжання слова: *хо́лад*, *рамо́нт*, *хара́ктар*, *Сакра́т*, *Шаўчэ́нка*, *тры́а*, *сальфе́джыа*, *То́кіа*.

5. Канцавыя ненаціскныя ***-эль, -эр*** у запазычаных словах перадаюцца як ***-аль, -ар***: *шні́цаль, лі́дар*, *камп'ю́тар*, *сві́тар*, *ме́неджар*, *пэ́йджар*, **але** ва ўласных імёнах неславянскага паходжання захоўваюцца ***-эль, -эр***: *Ла́ндэр*, *Юпі́тэр*, *О́дэр*.

**31.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.

Мяст..чка, ац..нка, с..кратар, літ..ра, с..кр..т, б..лота, адажы.., ж..леза, ац..ніць, ч..мпіянат, Ч..рнышэвіч, кр..вавы, р..форма, майст..р, ш..снаццаць, р..корд, шэд..ўр, ш..рань, інж..нер, с..рдэчны, ш..рсць, ш..рсцяны.

**32.** Змяніце словы або падбярыце да іх аднакаранёвыя, каб націскныя [о], [э] сталі не пад націскам. Запішыце словы парамі, растлумачце правапіс ***о, э, а***.

Просьба, голас, цэлы, моладзь, рэформа, Гомель, добры, пошта, цэгла, шэпт, жэрдка, футбол, неадчэпны, адрэзаць, догляд, востры, конкурс, крэпасць.

**33.** Спішыце сказы, устаўляючы замест кропак патрэбныя літары. Растлумачце іх правапіс.

1. Ішлі г..ды за г..дамі, і надумаліся асілкі з зямлянак выходзіць, г..р..дзішчы буд..ваць *(А. Якімовіч)*. 2. У адну ноч пачалі біць[ф] ш..лёныя м..л..нкі, гр..мець п..руны *(У. Караткевіч)*. 3. Там, дзе вольна нясе св..е в..ды Прыпяць, у краі др..мучых п..лескіх лясоў, размясціўся г..р..док Тураў *(К. Камейша)*. 4. У сваёй аснове р..форма па тым часе н..сіла пазітыўны х..р..кт..р *(У. Арлоў)*. 5. У р..спубліцы існавалі школа, б..льніца, а таксама — сцяг з гербам, металічныя грошы *(У. Арлоў)*. 6. Зірнеш — і р..дка дзе ўбачыш адзінокі ябл..к, што бл..шчыць між лісця на апошнім сонцы *(Я. Сіпакоў)*. 7. Рыба дагульвала на волі, яшчэ не шукаючы гл..бокіх ям, каб забіцца ў іх на зіму *(Г. Марчук)*. 8. Не заўважыўшы асаблівых непаладак у рабоце, брыгадзір падаўся да канц..лярыі *(У. Шахавец)*.

**34.** Падбярыце беларускія адпаведнікі да слоў рускай мовы. Растлумачце правапіс ***о, э*** ў ненаціскных складах.

Реактор, теорема, реклама, академический, характеристика, Женева, Чернигов, Челябинск, Ватерлоо, демографический, карцер, кратер, адрес, мастер, гардероб, тревога, яблочный, бровь, секретарь, рессора.

**35.** Выпішыце словы, у якіх на месцы пропуску пішацца літара ***э***.

Ч..рніла, бр..зент, ар..шт, выстр..л, р..прадуктар, ц..гляны, кар..спандэнт, т..рарызм, р..дыска, мад..льер, ч..мадан, ш..раваты, эпіт..т, ж..леза, с..рца.

**36.** Прачытайце тэкст. Дакажыце тэзіс, сфармуляваны ў першым сказе.

Жменька зямлі можа стаць **рэліквіяй**. Роднай зямельцы, у якой былі пахаваны продкі, прыпісваліся ахоўныя функцыі.[сн] Выпраўляючыся ў чужую старану, чалавек браў з

сабою жменю зямлі і, як пісаў А. Багдановіч, «зашыўшы яе ў шматок палатна, вешаў на грудзях: калі давядзецца памерці на чужыне, то яго прах усё ж будзе спачываць разам з роднай зямелькаю». Зямлю бралі ў падарожжа і для таго, каб высыпаць на чужыне ў крыніцу, калі вада там нясмачная.

Зямля ў фальклорных творах **характарызуецца** як наймацнейшая, багатая, пладавітая, поўная, працавітая, шчодрая, чыстая. Адсюль пажаданне «Будзь весел, як сват на вяселлі, здароў, як вада, багат, як зямля!» *(Паводле І. Швед)*.

Выпішыце з тэксту словы, пры змене якіх (падборы аднакаранёвых слоў) націскны гук [о] чаргуецца з ненаціскным [а]. Запішыце словы парамі.

У з о р: *можа — магла*.

- Растлумачце правапіс выдзеленых слоў.
- Прывядзіце прыклады беларускіх прыказак, у якіх словы *зямля, вада* ўжываюцца ў памяншальна-ласкальнай форме.

## § 7. Правапіс галосных *е, ё, я*

1. У беларускай мове літара ***ё*** пішацца толькі пад націскам: *лёгкі, цётка, вёска, цёмны, цёплы, мёд, сёстры*.

З а ў в а г а.

а) літара ***ё*** пішацца не пад націскам у словах з коранем ***ёд-*** і ***ёт-***: *ёдапірын, ётаванне*, а таксама ў складаных словах з першай часткай ***радыё-***: *радыёграма, радыёстанцыя, радыёантэна*;

б) калі першая частка складанага слова з'яўляецца вытворнай ад назвы хімічнага элемента *радый*, то пішацца літара ***е***: *радыеакты́ўнасць, радыеметры́чны* і пад. (**але** ў першым складзе перад націскам: *радыяме́трыя, радыяхі́мія, радыяло́гія*).

2. У першым складзе перад націскам замест ***е, ё*** пішацца літара ***я***: *вёска — вяско́вы, мёд — мядо́вы, цёп-*

*лы — цяпле́йшы, дзевяць — дзявя́ты, дзесяць — дзяся́ты, сем — сямна́ццаць, восем — васямна́ццаць.*

У іншых ненаціскных складах **е** захоўваецца: *во́сень, лесніччо́ўка, цеплава́ты, медуні́ца, дзесятко́вы, дзевятна́ццаты, це́мень, чэ́рвень, зеляні́на.*

**ЗАПОМНІЦЕ!**

1. У запазычаных словах у першым складзе перад націскам пішацца літара **е**: *секунда, легенда, семестр, генерал, метро, герой, кефір, кераміка, мелодыя, балерына, перспектыва, Версаль, В'етнам, Бетховен, Палесціна.*

2. Літара **е** пішацца ў пачатку некаторых запазычаных слоў: *егер, ерэтык, Еўропа, еўрапейскі, Ерэван, Еўпаторыя, Еўфрат.*

3. Каранёвая этымалагічная літара **я** захоўваецца на пісьме незалежна ад націску ў словах *вяза́ць, су́вязь, лямантава́ць, за́вязь, цяжкава́ты, мяккава́ты, святкава́ць, ты́сяча, по́яс, ме́сяц, па́мяць, дзе́вяць, Пры́пяць* і інш.

4. Літара **я** пішацца ў паслянаціскных складах у некаторых суфіксах назоўнікаў *(ро́ўнядзь, бо́язь, дро́бязь)* і дзеясловаў *(ла́яць, ве́яць, се́яць, ка́шляць, ба́яць, му́ляць)*, а таксама ў аддзеяслоўных назоўніках *(ла́янка, ве́ялка, се́ялка).*

**37.** Спішыце, устаўляючы літары ***е, ё*** ці ***я***.

Сп..вак, вас..мнаццаты, пасл..доўнік, кал..ндар, в..сялосць, за..ц, б..дната, Ал..ксандр, Смал..вічы, возьм..ш, л..бяда, зел..нь, пойдз..ш, П..троў, н..сці, г..рой, пам..ць, выгл..д, ..кубовіч, пол.., б..з памяці, Г..надзь, С..ргей, Дз..ржынск, с..местр, ..страб, сув..зь, с..мсот, дз..сяць, кашл..нуць, н.. брала, ц..перашні, н..ўтаймаваны, н..даўні, л..сніковы, н..сучы, в..снавы, се..лка.

**38.** Падбярыце да слоў рускай мовы беларускія адпаведнікі, запішыце, растлумачце правапіс ***е, ё*** і ***я***.

Спектакль, весенний, дежурный, Печора, березка, легендарный, гербарий, сержант, темноватый, металл, Вален-

тин, ведете, пойдете, возьмете, Нева, Припять, змеелов, Швейцария, перрон, Вьетнам, тяжеловатый.

**ЗАПОМНІЦЕ!**

Часціца ***не*** і прыназоўнік ***без*** заўсёды пішуцца з літарай ***е***: *не браў, не думаў, без прычыны, не без смеху*. Пры напісанні разам ***не*** і ***без*** падпарадкоўваюцца агульнаму правілу напісання ***е, я***: *няха́й, няшча́сце, бяздо́мны, бяскра́йні* (**але:** *непаваро́тлівы, беспадста́ўна, бескары́сна*).

**39.** Спішыце, устаўляючы на месцы пропускаў літары ***е, ё*** ці ***я***.

Мусіць, н..ма на свеце лепшай асалоды, чым тая, якую дорыць душы чалавека пес..нны п..радв..чэрні час. Захоплены галасамі н..сціханай птушынай[м] сімфоніі, я зусім забыўся, што знаходжуся на рацэ, што я з'явіўся сюды не як збіральнік птушыных м..лодый, а як просты рыбак. Прыхінуўся[м] спінаю да ствала сасны, слухаў і н.. мог варухнуцца, баючыся збіць з рытму хоць аднаго крылатага сп..вака.

Пачалі патроху насоўвацца прыц..мкі. Пац..гнула хвал..мі в..чэрняй прахалоды. Канцэрт л..сных сп..вакоў разладзіўся: спачатку сціхлі дразды, а за ім іншыя птахі. Толькі заранка н.. змаўкала, н..стомна сцв..рджала, што пес..нная пераклічка н.. скончана *(Паводле К. Кірэенкі)*.

**40.** Змяніце словы або падбярыце аднакаранёвыя, каб галосныя ***е*** і ***ё*** сталі не пад націскам. Запішыце словы парамі, растлумачце напісанне.

Лёд, зялёны, падземны, вечар, бегчы, вецер, лес, веліч, несці, снежны, далёка, светлы, белы, месца, нёс.

**41.** Выпішыце словы, у якіх пішацца літара ***я***.

Сув..зны, дроб..зь, св..ткаваць, ма..тнік, выс..яць, дз..вяты, Б..тховен, Свіц..зь, п..хота, Пец..рбург, ц..плець, зав..зь, сн..гавік, по..с, л..сніковы, м..дуніца, гл..дачы, г..рбарый, карычн..вы, ц..гавіты, кол..р, квец..нь.

**42.** Прачытайце тэкст. Знайдзіце ў ім і запішыце словы, у якіх праяўляецца аканне і яканне.

Узор: *успамінаецца — помніць.*

І зноў успамінаецца май. Маладая зяляніна вакол. Усё такое жаўтавата-зялёнае. Баба Васілінка такою парою першы раз выпусціць з хлява кароў. Каровы разыдуцца па лужку[м], а баба Васілінка адхіліцца ад іх, пойдзе па выспе*, і зноў тады народзіцца песня. Светлая і трапяткая, як гэты высокі вясновы дзень, як гэта зялёная маладая трава.

Праз гады я чую яе, тую песню, і мне кожны раз здаецца, што гэта спявае сама зямля; праз гады бачу, як нястомна[м] нагінаецца да гэтай зямлі мая старая суседка *(Паводле Х. Лялько).*

## § 8. Правапіс галосных у складаных словах

Складаныя словы ўтвараюцца з дзвюх і больш асноў з дапамогай злучальных галосных або без іх: *чарн**а**бровы, шматгадовы, двухметровы.*

У складаных словах злучальныя галосныя ***о, ё*** пішуцца толькі пад націскам, галосная ***а*** — у любым ненаціскным становішчы: *ільн**о**валакно, бібліёграф, ільн**а**во́дства, прыбор**а**будаўні́чы, мароз**а**трыва́лы.*

Злучальная галосная ***е*** ў складаных словах пераходзіць у ***я,*** калі націск падае на першы склад другой часткі складанага слова: *зерн**е**сушы́лка, зерн**я**скла́д; зем**л**екарыста́нне, земл**я**ро́бчы; жыцц**е**апіса́нне, жыцц**я**ра́дасны.*

Злучальная галосная ***е*** ў складаных словах захоўваецца, калі другая частка пачынаецца з ***ў*** (у нескладовага): *вогн**е**ўсто́йлівы, зерн**е**ўбо́рка.*

**43.** Утварыце і запішыце складаныя словы. Растлумачце правапіс злучальнай галоснай.

Земле- (земля-): ...капалка, ...знаўства, ...робства, ...карыстальнік, ...праходзец, ...ўладальніцкі.

Вугле- (вугля-): ...пагрузачны, ...прамысловасць, ...коп, ...драбілка, ...носны, ...здабывальны.

Пуце- (пуця-): ...правод, ...ўкладчык, ...водны, ...пагрузчык, ...пад'ёмнік.

Жыцце- (жыцця-): ...сцвярджальны, ...ўстойлівы, ...апісальны, ...здольнасць, ...разуменне, ...любства, ...адчуванне, ...забеспячэнне, ...радасны, ...піс, ...любівы, ...дзейнасць.

1. У складаных словах можа быць адзін асноўны і адзін або некалькі пабочных націскаў. Калі ў другой частцы складанага слова націск падае на першы склад, то ў першай частцы замест ***о*** пішацца ***а***: *д**а**брадзе́й, в**а**стразу́бы, ч**а**рнаво́кі, в**а**дазбо́р, р**а**ўнапра́ўе*; калі ў другой частцы націск падае не на першы склад, то ў першай частцы паяўляецца дадатковы (пабочны) націск і захоўваецца напісанне ***о***: *д**о̀**бразычлі́вы, в**о̀**стракане́чны, ч**о̀**рнавало́сы, в**о̀**дазабеспячэ́нне, р**о̀**ўназале́жны*.

2. Літара **о** пішацца ў першай частцы складаных слоў, калі другая частка пачынаецца з ***ў*** (у нескладовага): *мар**о**заўстойлівасць, зб**о**жжаўборачны, т**о**рфаўтварэнне, в**о**гнеўстойлівы*.

3. Гук [*э*] у першай частцы складаных слоў захоўваецца і абазначаецца літарай ***э***: *м**э**танакіраваны, м**э**тазгодна, р**э**дказубы, ш**э**равокі, ар**э**хападобны, кр**э**дытаздольнасць, т**э**лебачанне, ш**э**сцьсот*.

4. У складаных словах, утвораных ад лічэбніка ў спалучэнні з назоўнікам, першая частка (лічэбнік) ставіцца ў форме роднага склону: *тры дні* — ***трох****дзённы, чатыры паверхі* — ***чатырох****павярховы, пяць тыдняў* — ***пяці****тыднёвы, сто метраў* — ***ста****метровы, **ста**гадовы, **ста**тысячны, **ста**градусны; сямікласнік, васьмігадовы, дзевяціградусны, саракагоддзе*.

**ЗАПОМНІЦЕ!**

Літара **о** захоўваецца ў складаных словах, першай часткай якіх з'яўляюцца ***слова-, што-, фота-, мота-***: *словазлучэнне, словаформа; штогод, штодзень; фотаздымак,*

*фоталабараторыя* (**але:** *фатаграфія* і вытворныя ад яго); *мотаспорт, мотагонкі* (**але:** *матацыкл, матавоз* і вытворныя ад іх), а таксама ў іншых словах, асабліва навуковых тэрмінах, у якіх выразна праяўляецца пабочны наці́ск, хоць асноўны націск падае на першы склад: *азотнакі́слы, збожжасхо́вішча, мовазна́ўства, фондасхо́вішча, работада́ўца, маторазбо́рка, вокамгне́нна, свабодалю́бства, ружоватва́ры, народаўла́ддзе, усходазна́ўства*.

**44.** Спішыце словы, устаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце правапіс галосных ***о, э*** ў складаных словах.

П..ўнапраўны, шт..хвілінна, сл..ваўжыванне, св..ечасовасць, б..епрыпасы, ф..таграфія, ваг..нарамонтны, в..гнеўстойлівы, в..сьмігадовы, ш..сцістовольны, тр..хдзённы, шкл..завод, д..брасуседскі, выс..кавітамінны, д..ўгалецце, ст..годдзе, гал..валомка, н..вагодні, р..знакаляровы, ст..гадовы.

**45.** Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары, растлумачце правапіс.

1. Паглядзі на ж..ўталісты сад. Вунь ідзе між ябл..нь ліст..пад *(В. Вітка)*. 2. Цякла ў гэтым месцы ср..бнаводная рака Струмень. Была і другая, такая ж п..ўнаводная рака Язда, ад якой засталася сёння толькі невялічкая[сл] жываточынка *(К. Камейша)*. 3. Па загадзе Ефрасінні зрабіў Лазар Богша знакаміты шасц..канцовы крыж *(У. Бутрамееў)*. 4. Удзень у сад наведваліся чырв..нагрудыя сн..гіры *(З. Бяспалы)*. 5. На самым пачатку вераснёўскай раніцы мяне сустрэлі, выб..гшы з бору, крэпкія ч..рнагаловыя баравікі *(А. Вялюгін)*. 6. Д..ўгахвостыя дзятлы заўзята барабаняць па дрэвах сваімі вострымі дзюбамі *(А. Якімовіч)*. 7. Ранак прынёс д..ўгачаканую навіну: прыляцелі жаданыя госці! *(В. Вітка)*.

1. У першай частцы складанага слова літара ***е*** захоўваецца незалежна ад таго, на які склад падае націск у другой частцы: *с**е**накасілка, в**е**рхнезубны, б**е**ласнежны, з**е**млетрасенне, св**е**таўспрыманне, св**е**жамарожаны.*

Калі першай часткай з'яўляецца аснова ***велік-/вялік-***, то напісанне літары ***е*** або ***я*** залежыць ад таго, які склад у другой частцы націскны: калі першы, то пішацца ***е***, калі другі — пішацца ***я***: *в**е**лікарослы, в**е**лікакняжацкі, в**е**лікасвецкі* (**але:** *В**я**лікдзень*); *В**я**лікабрытанія, в**я**лікадзяржаўны, в**я**лікагаловы.*

2. У першай частцы складанага слова літара ***ё*** захоўваецца, калі націск падае не на першы склад другой часткі, і замяняецца на ***е***, калі націск падае на першы склад другой часткі: *л**ё**гкаатлетычны, л**е**гкаверны; л**ё**дадрабільны, л**е**дарэз; м**ё**даварэнне, м**е**даносны.*

**ЗАПОМНІЦЕ!**

Складанаскарочаныя словы пры напісанні звычайна разглядаюцца як простыя словы з адным націскам: *зямфонд, лясгас* і інш.

Калі складаныя словы маюць у сваім саставе больш за дзве часткі, то кожная частка пішацца як асобна ўзятае слова: *паравозавагонарамонтны, авіяматорабудаванне, аэрафотапрыбор.*

**46.** Утварыце і запішыце складаныя словы (прыметнікі) ад прыведзеных словазлучэнняў.

Жоўты ліст, востры канец, многа дзён, чорныя вочы, доўгія валасы, доўгая барада, востры вугал, чырвоны твар, шмат паверхаў, markdown рознае спражэнне, розны колер, розныя мовы.

**47.** Спішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары.

МУЗЫЧНЫ СІМВАЛ БЕЛАРУСІ

Беларускі народ тал..навіты, музычны, творчы, вынаходлівы. На працягу сваёй гісторыі гэты шматаблічны

г..ніяльны музыкант стварыў цудоўныя, самабытныя, р..знастайныя песні, танцы, інструм..нтальныя найгрышы[с] і ар..гінальныя музычныя інструм..нты — наш духоўны арс..нал.

У «сям'і» народных інструм..нтаў Беларусі цымбалы — самы, бадай, любімы і распаўсюджаны. Гэта інструм..нт са старажытным р..даводам, прыгажосць і гонар беларусаў. Да ўдасканалення цымбалы былі прыналежнасцю сельскіх музыкаў і, верагодна, з гэтай прычыны лічыліся «мужы..кім» інструм..нтам. Музыкі-цымбалісты, як правіла, выступалі ў трох іпастасях*: выраблялі інструм..нт, ігралі на ім і рыхтавалі с..бе змену. У народзе іх пачціва называлі ўмельцамі... *(Паводле М. Солапава).*

- Падкрэсліце складаныя словы, растлумачце іх правапіс.
- Назавіце іншыя сімвалы Беларусі (кветку, жывёлу, птушку і г. д.).

## § 9. Правапіс спалучэнняў галосных у запазычаных словах

1. У беларускай мове спалучэнні галосных літар ужываюцца звычайна ў словах іншамоўнага паходжання. Напісанне такіх слоў перадаецца ў адпаведнасці з беларускім літаратурным вымаўленнем: у большасці іншамоўных слоў развіўся ўстаўны гук [й], што перадаецца на пісьме спалучэннямі ***іе (ые), іё (ыё), ія (ыя)*** і інш.:

***іе (ые)***: у пачатку слова і пасля мяккага зычнага пішацца ***іе***, а пасля цвёрдага зычнага — ***ые***: *іерархія, іерогліф, Іерусалім, кліент; арыентацыя, абітурыент, дыета*;

***іё (ыё), ія (ыя)***: у сярэдзіне слова пад націскам і ў пачатку слова пішацца ***іё (ыё)***, а ў сярэдзіне слова не пад націскам — ***ія (ыя)***: *аксіёма, біёграф, біёлаг, патрыёт, перыёдыка; аксіяматычны, біяграфія, біялогія; патрыятычны, перыядычны* (**але:** *радыё*);

***іо (іа)***: у пачатку слова пад націскам пішацца ***іо***, а не пад націскам — ***іа***: *іо́н, іо́нны, Іо́сіф; іанізá́цыя, Іані́чнае мора, Іашкар-Ала́, Іаа́н*;

***ео (еа), эо (эа)***: у сярэдзіне слова пад націскам пішацца ***ео, эо***: *археóлаг, фразеóлаг, харэóграф, пантэóн*, не пад націскам — ***еа, эа***: *археалóгія, фразеалóгія, харэаграфія, рэалíст, рэабілітáцыя*; а таксама *Неáпаль, рэáлія* (выключэнне: *акіян*).

Спалучэнне ***іа*** перадаецца на пісьме як ***ія (ыя)*** незалежна ад націску: *авія́цыя, геніяльны, Іліяда, піяніст, варыянт, сацыяльны, матэрыял*.

2. У некаторых словах іншамоўнага паходжання пішуцца спалучэнні галосных літар з папярэднімі ***ь*** (мяккім знакам) і апострафам: *альянс, італьянскі, парцьера, мільён, мільярд, кар'ера, прэм'ера, саф'ян*.

3. Спалучэнне зычнага гука [й] з галоснымі ў словах іншамоўнага паходжання перадаецца ётаванымі галоснымі, як і ў словах уласнабеларускіх:

- у пачатку слова: *Ёфе*, *Нью-Ёрк*; *ёг, ёгурт, ёд;*
- пасля галоснага ў сярэдзіне слова: *маёр*, *маянэз*, *раён*, *маярат*, *Аюнскі*;
- пасля галоснага на канцы слова: *фае*, *секвоя*, *Мая*.

**48.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя спалучэнні літар, растлумачце іх правапіс.

Алімп..да, д..гназ, акс..ма[ф], патэнц..л, абрэв..цыя[ф], пр..рытэт, д..грама, М..ры, мар..нетка, трыл..н, б..ніка, ав..тар, г..лаг, від..тэхніка, ф..рверк, афіц..нт, ав..пошта, д..метр, рад..антэна, стац..нар, д..та, к..ск[ф].

**49.** Запішыце словы па-беларуску, растлумачце правапіс спалучэнняў галосных.

Клиент, бастион, патриот, реактив, библиотека, миллион, неон, фразеология, идеолог, регион, майонез, биография, вариация, мелиорация, гениальный, фейерверк, район, лауреат, биолог, радиоактивный, рацион, ион, радио, рацио-

нальный, официант, майор, пианино, гладиолус, Ниагара, археология, теорема, фиолетовый, спартакиада, радиоузел, периодика, диалектика, проект, леопард, грандиозный, приоритет, фиалка, йод.

**50.** Змяніце і запішыце словы так, каб націскныя спалучэнні галосных сталі не пад націскам, растлумачце іх правапіс.

Біёлаг — біялагічны (біялогія), чэмпіён, патрыёт, аксіёма, кіёск, біёграф, сацыёлаг, метэор, ідэолаг, археолаг, рэгіён.

**51.** Выпішыце толькі тыя словы, у якіх спалучэнне галосных перадаецца на пісьме як ***іё (ыё)***.

Кл..нт, баст..н, б..ніка, дывіз..н, абітур..нт, канв..р, рац..н, ід..логія, акард..н, рад..антэна, рэг..н, абітур..нт, рац..нальны.

**52.** Прачытайце тэксты пра вядомых людзей Беларусі. Што яшчэ пра іх вы можаце расказаць?

Запішыце тэкст (на выбар), устаўляючы прапушчаныя спалучэнні літар, растлумачце іх правапіс.

1. Ля Ціхага ак..на, там, дзе да яго падступаюць магутныя вяршыні Андаў, у паўднёваамерыканскай краіне Чылі знаходзіцца горад Дамейка. А крыху паўночней — горны хрыбет, які носіць тое ж імя. Г..лагі могуць назваць мінерал, батанікі — ф..лку, з..лагі — малюска, звязаных з імем Дамейкі. Сын беларускай зямлі, Ігнат Дамейка ўвайшоў у сусветную навуку, пакінуўшы прыкметны след у фізіцы, хіміі і металургіі, г..графіі і батаніцы, г..логіі і педагогіцы, этнаграфіі і з..логіі *(А. Мальдзіс)*.

2. Найбольшых дасягненняў беларус па паходжанні Іван Дзяменцьевіч Чэрскі дабіўся ў галіне г..графіі і г..логіі. Але ён быў сапраўдны натураліст з надзвычай шырокім профілем: значны след ён пакінуў у з..логіі, анатоміі, арх..логіі, мет..ралогіі, цікавіўся батанікай, этнограф..й, фальклорам. Чэрскі адкрыў многа г..графічных аб'ектаў, у тым

ліку новыя хрыбты, сабраў і апісаў шэраг сучасных і выкапнёвых[сл] жывёл. Іван Дзяменцьевіч вывучаў г..лагічную будову Саян, Прысаяння, Прыангар'я, басейнаў рэк Селенгі і Тунгускі... *(Паводле Р. Гарэцкага).*

3. На фактах б..графіі ганаровага грамадзяніна Грэцыі Зыгмунта Мінейкі можна напісаць не адзін раман. Славу яму прынеслі не толькі праекты дарог і мастоў, але і яркія эсэ і артыкулы ў пер..дыцы. Апрача таго, ён наладзіў арх..лагічныя экспедыцыі і знайшоў у Дадоне храм Зеўса. У час Балканскай вайны 1912—1913 гадоў Мінейка найбольш яскрава[м] праявіў свае здольнасці вайсковага спец..-ліста. Гэта прынесла яму званне ганаровага грамадзяніна краіны, за якую ён ваяваў... *(Паводле У. Арлова).*

Раскажыце, што вы ведаеце пра іншых беларусаў, якія сталі вядомыя ўсяму свету.

## § 10. Правапіс літар *і*, *ы*, *й* пасля прыставак

1. Гук [і] пасля прыставак на галосную чаргуецца з [й], што перадаецца на пісьме літарай ***й***:

- у словах з коранем ***іс***-*ці*, ***ігр***-*аць*, ***ім***-*я*, ***інач***-*ай* на месцы ненаціскнога пачатковага каранёвага [і]: *выйсці*, *зайсці*, *пайсці*; *выйграць*, *зайграць*, *выйгрыш*; *найменне*, *перайменаваць*, *займеннік*, *пайменны*; *перайначыць*, *перайначанне*;
- у словах *займаць*, *наймаць*, *пераймаць*, *пераманне*, *праймаць*.

У астатніх выпадках пачатковы каранёвы гук [і] пасля прыставак на галосны перадаецца нязменна: *заіскрыцца*, *заікацца*, *заінець*, *заінтрыгаваць*, *праілюстраваць*, *праіснаваць*, *неістотны*, *Прыіртышша*, *Заілійскі*.

2. Пачатковае ***і*** захоўваецца пасля прыставак ***звыш***-, ***між***-, ***пан***-, ***супер***-, ***транс***-, ***контр***-: *звышімклівы*, *суперінтэлект*, *міжінстытуцкі*, *панісламізм*, *трансіндыйскі*, *контрідэя*, а таксама ў складаных словах: *бортінжынер*, *спортінвентар*, *спецінструктаж*, *пединстытут* і інш.

3. Пры спалучэнні прыставак, якія заканчваюцца на зычны ***(аб-, ад-, пад-, над-, раз-, з- (с-), уз-, спад-, перад-, дэз-, суб-)***, са словамі, што пачынаюцца з ***і***, вымаўляецца і пішацца ***ы***: *абысці, надышоў, абыграць, падыграць, зыначыць, адыменны, узыход, спадылба, спадыспаду, перадыспытны, субынспектар, дэзынфармацыя, дэзынтэграцыя* і інш.

**53.** Запішыце фразеалагізмы, устаўляючы, дзе трэба, літары.

Вы..сці сухім з вады, дух за..маць, ады..сці ў нябыт, абы..сці бокам, пры..сці ў галаву, ад..грываць ролю, раз..грываць камедыю, пера..сці дарогу.

Растлумачце сэнс фразеалагізмаў. Складзіце сказы з трыма фразеалагізмамі (на выбар).

**54.** Выпішыце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***ы***.

Аб..граць, звыш..нфляцыя, уз..ход, дэз..нтэгратар, контр..гра, дзярж..нспектар, гар..нспекцыя, звыш..ндустрыяльны, паліт..нфармацыя, перад..мперскі, з..мправізаваць, дэз..нфіцыраваць, цяж..ндустрыя.

**55.** Спішыце сказы, устаўляючы, дзе трэба, літары ***і, ы, й***.

1. На адлегласці дзесяці крокаў угадваліся толькі шэрыя абрысы за..нелых дрэў *(З. Бяспалы)*. 2. Вось-вось павінна было ўзы..сці сонца *(У. Шахавец)*. 3. Па..шоў дождж, спачатку быццам неахвотна, невялікі і рэдкі[ф], асобнымі кроплямі. Потым усё часцей і часцей. Дождж пера..шоў у лівень *(«Родная прырода»)*. 4. Быў самы ранак, час, калі пачынае с..ходзіць з зямлі туман… *(П. Галавач)*. 5. Варухнецца мурава пад ветрам і за..скрыцца расой *(П. Галавач)*. 6. Замарожанае[м] млынавае кола маўчала пад парэнчамі: лёд укаваў яго спад..спаду і намярзаў гузамі *(К. Чорны)*. 7. І як толькі раніцаю ўзнялося над небасхілам[сл] сонца, адразу пера..начыўся лес *(М. Пасляловіч)*. 8. Ідучы, не заўважыў, як пады..шоў да драўлянага мастка цераз невялікую лясную рачулку *(З. Бяспалы)*.

**56.** Прачытайце тэкст. Калі адбываюцца падзеі, пра якія паведамляецца ў тэксце?

Весела гамонячы, валачобнікі **productпады..шлі** да суседняй хаты. Стукалі, стукалі — не дастукаліся. Тут жыў Гугнівы Рысь, як яго дражнілі на сяле. Ён, мабыць, наўмысля не адклікаўся, бо чалавек быў скупы і непрыветны.

— Скупяндзя! — гукнуў хтось з валачобнікаў. А Плён стаў спяваць **пера..начанае** віншаванне, **пад..грываючы** сабе на гармоніку:

Не далі яечка, каб здохла авечка!
Каб на вашай хаце лебяда расла,
Каб ваша гаспадыня ўпроч **па..шла**!

— Годзе табе! — закрычалі валачобнікі на Плёна. — А то яшчэ **вы..дзе** з хаты ды лаяцца стане.

Пад вясёлы **на..грыш** валачобнікі **ад..шлі** *(Паводле Я. Лёсіка)*.

Выпішыце з тэксту выдзеленыя словы, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары. Растлумачце іх правапіс.

**ЗАПОМНІЦЕ!**

Злучнік ***і*** ў розных становішчах можа абазначаць гукі [й] або [ы], што на пісьме не перадаецца. Злучнік ***і*** вымаўляецца:

як [й], калі папярэдняе слова заканчваецца на галосны: *гукі і літары* [гук’і й л’ітары], *яна і я* [йана й йа];

як [ы] — пасля слова на цвёрды зычны (акрамя заднеязычных ***г, к, х***): *брат і сястра* [брат ы с’астра], *дом і сад* [дом ы сат], але *Полацк і Віцебск* [полацк і в’іц’эпск], *не мог і марыць* [н’а мох і марыц’].

**57.** Запішыце выразы, прыведзеныя ў транскрыпцыі.

[с’в’атло й ц’эмра], [пайс’ц’і па йвана], [лук і стрэлы], [бац’ка й сын], [дз’эт ы баба], [с’м’эх і грэх], [торба й м’эх], [тонк’і й тоўсты], [стол ы стол’ік].

## § 11. Правапіс прыстаўных галосных, прыстаўных і ўстаўных зычных

1. Прыстаўная галосная ***і*** пішацца:

- у пачатку слова перад спалучэннямі зычных з першай літарай ***м***: ***і****мшара*, ***і****мчаць*, ***і****мгла*, ***і****мгненне*, ***і****мклівы*;
- у пачатку некаторых слоў перад спалучэннямі зычных з першымі літарамі ***р, л,*** калі слова з такімі спалучэннямі зычных пачынае новы сказ або стаіць пасля знака прыпынку ці слова, што заканчваецца на зычную: *пад* ***і****льдом, без* ***і****льгот; пачарнелы,* ***і****ржавы цвік*; ***і****льняное палатно*. Калі слова з такім пачатковым спалучэннем зычных стаіць пасля слова, якое заканчваецца на галосную, і пасля яго няма знака прыпынку, то прыстаўная літара ***і*** не пішацца: *на льдзіне, на ржавым цвіку, палатно льняное*.

2. У некаторых словах можа з'яўляцца прыстаўная галосная ***а***: ***і****мшара* і ***а****мшара,* ***і****ржаны* і ***а****ржаны,* ***і****ржышча* і ***а****ржанішча*.

3. Пасля прыставак і першай часткі складанага слова, якія заканчваюцца на галосную, прыстаўныя літары ***і, а*** перад ***р, л, м*** не пішуцца: *заржавець, заржаць, зардзецца, замглёны, замшэлы, прымчацца, вокамгненна*.

Пасля прыставак на зычны літара ***і*** мяняецца на ***ы***: *аб****ы****лгаць, ад****ы****мжэць*.

**58.** Выпішыце словы, у якіх ёсць прыстаўная галосная ***і*** або ***а***.

Імчацца, імператар, ільготы, аржаны, аркестр, азёры, імклівы, алгарытм, імгла, аблічча, іскра, ірвануць.

**59.** Запішыце словы, устаўляючы, дзе трэба, прыстаўныя галосныя. Растлумачце іх наяўнасць або адсутнасць.

На ..льдзіне, пад ..льдзінай, новы ..льнокамбінат, серп ..ржавы, словы ..лжывыя, пакрыцца ..ржой, да ведаў ..мкнуцца, права на ..льготны праезд, над ..лбом, абутак ..рвецца, па ..ржэўніку, праезд ..льготны, аўтобус ..мчыць,

мог с..лгаць, ластаўка ..мклівая, уперад ..рвануўся, рэакцыя ..мгненная.

**60.** Складзіце з прапанаванымі парамі слоў сказы, каб у адным выпадку быў прыстаўны галосны, у другім — не было.

Ілгаць — лгаць, ільняны — льняны, ірвануцца — рвануцца, іржавы — ржавы.

1. Прыстаўная літара ***в*** п і ш а ц ц а:

• перад націскным ***о*** ў пачатку слоў: *во́зера, во́льха, во́сень, вось, во́спа, во́кны, во́йкаць, во́рыва, во́блака, во́бласць, во́страў, Во́гненная Зямля, Во́льга* і інш., у вытворных ад іх словах пасля прыставак: *адворваць, павойкаць, увосень* (**але:** *окаць* і вытворныя ад яго, *одум*). Пры змене месца націску **о** пераходзіць у ***а*** і прыстаўная ***в*** у гэтых словах не пішацца: *во́сень — асе́нні, во́страў — астраўны́, во́зера — азёрны, во́кны — акно́*;

• перад прыстаўкамі ***о-, об-, од- (от-)***: *во́кіс, во́кісел, во́клік, во́кліч, во́крык, во́піс, во́бземлю, во́быск, во́дгалас, во́дгук, во́ддаль, во́дзыў, во́дпуск, во́дсвет, во́дступ* і інш., а таксама *наво́бмацак, наво́ддалек, паво́дле, наво́дшыбе* і інш.;

• у запазычаных словах: *во́хра, во́цат* і вытворных ад іх: *во́хрыць, паво́хрыць, воцатнакі́слы* і інш.;

• перад каранёвым ***у*** ў пачатку слоў: *ву́гал, ву́да, ву́галь, вуж, ву́зел, ву́зы, ву́ліца, вунь, вус, ву́сны, ву́ха, ву́чань,* а таксама ў вытворных ад іх незалежна ад месца націску: *абву́глены, каменнаву́гальны, чатырохвуго́льнік, заву́лак, наву́дзіць, вудзі́льна, вузлы́, вузлава́ты, вуса́ты, чарнаву́сы, вуса́ч, вучы́цца, наву́ка, педвучы́лішча, вуша́мі, вушні́цы, лапаву́хі, залатаву́ст* і інш.;

• перад націскнымі прыстаўкамі ***у-, уз- (ус-)***: *ву́праж, ву́згалаўе, ву́сцілка, ву́сціш, ву́сцішна*;

• у словах *во́ка, во́стры, вако́л* і вытворных ад іх незалежна ад націску: *во́чы, вачэ́й, уваччу́, вачаня́ты, заво́чны; вастры́ць, вастрэ́йшы, вастрыня́; навако́лле, вако́ліца.*

2. Прыстаўная літара ***в*** н е  п і ш а ц ц а:

- перад пачатковым націскным ***о*** ў запазычаных словах і некаторых уласных імёнах і назвах: *о́пера, о́перны, о́да, о́фіс, О́ксфард, Ом, О́рша* і інш.;
- перад націскной пачатковай ***у*** ў запазычаных словах і некаторых уласных імёнах і назвах: *у́льтра, у́нтэр, у́нікум, у́нія, у́рна* (**але:** *ву́страца*); *Улья́на, Узда́, Ура́л, Узбекіста́н, Украі́на, Ушачы́* і інш.;
- перад прыставачным ***у*** і перад ***у***, якое паходзіць з ***в***: *удву́х, угнае́нне, уну́к, учо́ра, ула́да, ува́га.*

3. Устаўная літара ***в*** пішацца:

- перад націскным ***о*** ў сярэдзіне некаторых слоў: *ні́водны, Ля́вон, Ля́вончанка, Ларыво́н, Радзіво́н, Радзіво́наў* і інш.;
- перад націскным ***у***: *паву́к, ціву́н, карау́л, есау́л,* а таксама ў вытворных ад іх незалежна ад месца націску: *павуці́нне, цівуно́м, карау́льны, есау́льскі*;
- перад ***у*** ва ўласных імёнах і геаграфічных назвах: *Матэ́вуш, Наву́м, Наву́маўка, Наву́менка, Тадэ́вуш* і інш.

4. Прыстаўная літара ***г*** пішацца ў займенніках *гэ́ты, гэ́такі, гэ́тулькі*; у прыслоўях *гэ́так, гэтакса́ма, адгэ́туль, дагэ́туль*; у выклічніках *гэй, го, га, гэ.*

**61.** Запішыце словы, устаўляючы, дзе трэба, літару ***в***.

На..учанне, ..огненны, ..устрыца, ..увага, ..упарты, ..узнагарода, ..орган, ..опера, ..уклад, ..окісны, ..ольха, ..угор, ..ордар, ..урад, ..угаль, ..образ, ..утопія, ..опратка, ..астраслоўе, ..обласць, ..удзел, ..офіс, ..ураган, ..астраў, ..опытны, ..оканне, ..узрост, ..удзільна, ..астрэйшы, ..ушанка.

**62.** Запішыце словы па-беларуску.

Урожай, остроносый, паутина, осенний, осень, озеро, урна, угловой, уголь, рабочий-угольщик, заострить, ультразвук, вьюн, облако, обод, обыск, Наум, Ольга, Обь, Ульяна, Узда, Огненная Земля, эй.

**63.** Выберыце правільны варыянт, запішыце яго.

Олава — волава, окіс — вокіс, наушнікі — навушнікі, узел — вузел, оптыка — воптыка, унтэр-афіцэр — вунтэр-афіцэр, заочны — завочны, учылішча — вучылішча, улей — вулей, оптам — воптам.

**64.** Спішыце сказы, устаўляючы, дзе трэба, прыстаўныя (устаўныя) ***в, г,*** растлумачце іх правапіс.

1. Пасля таго бязмежнага[сл] лета надыходзіла ..осень *(А. Сямёнава)*. 2. Вочы яе блакітныя, колеру ..азёрнай хвалі, заўсёды ўсміхаліся *(З народнага)*. 3. Нялёгка жылося маладому паэту, нялёгка было яму атрымаць і на..уку *(І. Навуменка)*. 4. Звоняць званы над могілкамі ста васьмідзесяці шасці вёсак, дзе не засталося ні..однай сям'і[ф], дзе не збудавана на папялішчы ні..однай новай хаты *(І. Шамякін)*. 5. Гэта яны (прарокі) тварылі нашу гісторыю, бо выдзяляліся з усяго люду свайго краю вялікім талентам, неадольнай прагай да служэння Бацькаўшчыне, ..універсальнымі ведамі і ..узнёслай духоўнасцю *(У. Конан)*. 6. Везлі і неслі, што хто меў, — бурштын, крэмень, ..охру, зерне, сабаліныя шкуркі *(М. Чарняўскі)*. 7. З гэтага часу палачане[м] захоўвалі рэліквію* ў Сафійскім саборы, які з канца 16 стагоддзя да 1839 года быў ..уніяцкім храмам[сн] *(У. Арлоў)*.

**65.** Прачытайце выказванне, растлумачце яго сэнс.

Слова! Ты — прысяга воіна і тайна дз..вочага сэр..ца, ..окліч, з якім ідуць у бой, і першы радас..ны ..оклік дз..цяці, ты — н..бачная цытадэль*, што спыняе ворага, ты — і па..уцінка, што ..рвецца ад самага кволага павеву ветрыку *(Паводле В. Віткі)*.

Спішыце, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары. Падкрэсліце словы з прыстаўнымі і ўстаўнымі зычнымі, растлумачце іх правапіс.

● Падбярыце сінонім да слова *цытадэль*.

## § 12. Правапіс *у* і *ў*

1. Літара ***у*** абазначае галосны гук [у] і п і ш а ц ц а:

● у пачатку сказа, пасля знакаў прыпынку і пасля зычных: *учора закончылі; у слове «прыслоўе» 8 літар і 9 гукаў*;

● у пачатку ўласных назваў: *каля ракі Ушачы, Уладзімір Ульянаў, ва Узбекістане*;

● у запазычаных словах, якія заканчваюцца на ***-ум, -ус***: *прэзідыум, радыус, страус, соус* і вытворных ад іх;

● у словах з націскным ***у***: *ау́л, бау́л, Брэсцкая у́нія, каля у́рны, прывезлі у́нты, пачулася у́ханне*;

● на канцы запазычаных слоў не пад націскам: *фра́у, Шо́у, Карата́у, ток-шо́у, ноу-хау*.

2. Літара ***ў*** (у нескладовае) абазначае зычны гук [ў] і п і ш а ц ц а:

● пасля галосных у пачатку слова: *на ўкраінскай мове, сонца ўзышло, на ўзлеску, ва ўніверсітэце, царква ўніяцкая, метады ўніверсальныя*;

● у сярэдзіне слова пасля галосных перад зычнымі: *аўдыторыя, паўза, маўзалей, лаўрэат, саўна, фаўна, маўзер, джоўль, маўр, аўра, раўнд*;

● пры чаргаванні [л] з [ў]: *чытаў, думаў, спяваў, воўк, шоўк, шаўковы, поўны, паўметра, шчоўкнуць, моўчкі* (**але:** *палка, памылка, сеялка, Алжыр, Валдай, Балгарыя, Албанія*);

● пры чаргаванні [в] з [ў]: *лаўка (лава), аўса (авёс), бацькаў (бацькавы), любоў (любові), кроў (крыві), аўторак, Аўстрыя, Аўстралія, Каўказ* (**але:** *ва В'етнаме, на рацэ Влтава*);

● пасля злучка ці двукосся, калі папярэдняе слова заканчваецца на галосны: *мастакі-ўмельцы, паўночна-ўсходні, у «Выбранае» ўвайшлі, гучнае «ўра»*.

**66.** Спішыце, устаўляючы ***у*** ці ***ў***.

Жо..ты, красёнцы-ча..начкі, аквары..м, со..с, каля ..зды, ва ..краіне, Ніна ..ладзіміра..на, цётка ..ладзя,

па-..чарашняму, па..за, бра..нінг, дыназа..р, па..днёва-..сходні, ла..рэат, прэзіды..м, ваку..м, а..дыторыя, каля ..ваходу, напіса..шы ..сім пісьмы, За..ралле, моцны ..раган, Е..ропа.

**67.** Выпішыце спачатку словы, у якіх пішацца ***у***, а затым тыя, у якіх пішацца ***ў***.

Аквана..т, мацi-..краiнка, Брэсцкая ..нія, га..птвахта, прэзіды..м, стра..с, акты..ны, па..годдзе, шэдэ..р, вельмі ..важлівы, Валя ..ланава, жыць ва ..шачах, гучнае «..ра», ва ..нісон, жанчына-..рач, да ..ладзіміра, часопіс «Маладосць» ..знагародзіў удзельніка.. конкурсу, а..кцыён, ла..рэат, прысло..е «..чора», каля ..ладзівастока, ма..залей, астрана..т, сімпозі..м, а..тастрада, каля ..ніверсальнага магазіна, кантрольна-..ліковы, за..вага, фа..на, гэта ..топія, мане..р, ба..л.

**68.** Спішыце сказы, выбіраючы з дужак патрэбную літару, растлумачце правапіс.

1. Добрым словам *(у/ў)*спамінае вялікага сына *(Ў/У)*краіна маладая *(Я. Купала)*. 2. Газета заклікала сялян да барацьбы за нацыянальную і сацыяльную волю, да вяртання бацькоўскай веры — *(у/ў)*ніі, да вызвалення ад царызму... *(Я. Янушкевіч)*. 3. Франсуа зазірнуў *(у/ў)* лонданскую беларускую царкву, захапіўся *(у/ў)*ніяцкімі спевамі і нашай гісторыяй, самастойна[сл] вывучыў мову, а з часам зрабіўся вядомым *(у/ў)* свеце беларусістам... *(У. Арлоў)*. 4. Напалеон Орда, скончы*(у/ў)*шы[м] Свіслацкую гімназію, паехаў вучыцца *(у/ў)* Віленскі *(у/ў)*ніверсітэт *(Л. Пракопчык)*. 5. Мы на па*(у/ў)*ночна-*(у/ў)*сходняй *(у/ў)*скраіне горада, на Маско*(у/ў)*скай шашы *(В. Вольскі)*. 6. Некалі пераезд быў з шлагба*(у/ў)*мам, варта*(у/ў)*нікам, які жыў *(у/ў)* другой будцы *(І. Навуменка)*. 7. Гэта была вялізная, чалавек на сто, а*(у/ў)*дыторыя з чорнай дошкай ля дзвярэй *(А. Кудравец)*.

**69.** Выпішыце словы, у якіх пры перакладзе з рускай мовы на беларускую адбываецца пераход ***л*** у ***ў***.

У з о р: *волк — воўк.*

Волга, волк, шёлк, молча, сказал, полный, колбаса, полтысячи, колхоз, болтать, пчёлка, челнок.

**70.** Спішыце тэкст, устаўляючы замест кропак ***у*** ці ***ў***, растлумачце іх правапіс.

Колькі памятаю сябе, слова Коласава было ... нашай хаце гэткае ж звычайнае, як акраец хлеба, што за..сёды ляжаў на стале пад белым саматканым абрусам.

І сёння стаіць яшчэ ... нас дома старая, зрадзелая ..жо ... голлі груша-касцянка. Некалі вакол яе слалася ша..ковая, утульная мура..ка. І так прыемна было прылегчы[сл] ці пасядзець на ёй ... гарачыню, ... спякотны дзень.

А ..летку тысяча дзевяцьсот[ф] дваццаць другога года прыязджа.. ... нашу вёску і сядзе.. пад гэтай самай касцянкай Якуб Колас. Ён чыта.. «Новую зямлю». Чыта.. «Раніцу ... нядзельку», «Дзядзька ... Вільні» і «Падгляд пчол».

А як скончы.., мужчыны падкідалі яго на «..ра» і гэтак на руках да самае школы данеслі.

Не ведаю, з таго часу ці раней яшчэ, але ... нашай хаце «Раніцу ... нядзельку» ..се ведалі на памяць *(А. Васілевіч).*

## § 13. Правапіс *д* і *дз*, *т* і *ц*

У беларускай мове літары ***д, т*** пішуцца для перадачы на пісьме цвёрдых зычных гукаў [д], [т], а літары ***дз, ц*** — для перадачы мяккіх зычных гукаў [дз’], [ц’].

1. Чаргаванне цвёрдых зычных гукаў [д], [т] з мяккімі [дз’], [ц’] (дзеканне і цеканне) адбываецца:

- перад галоснымі ***е, ё, ю, я, і***: *наро**д** — у наро**дз**е, і**д**у — і**дз**еш, ва**д**а — ва**дз**іца, кар**т**а — на кар**ц**е, **т**ру — **ц**ерці, ла**т**ынь — ла**ц**інка.*
- перад мяккім [в’]: ***дв**а — **дзв**е, **дзв**есце, чэрс**тв**ы — счарс**цв**елы;*

● перад суфіксамі і спалучэннямі суфіксальнага паходжання ***-ін-***, ***-ір-***, ***-ік-***, ***-ёр-***, ***-еец***, ***-ейск-*** у словах іншамоўнага паходжання, а таксама ў словах, вытворных ад іх: *каман**д**а — каман**дз**ір, ін**дз**еец, ін**дз**ейскі* (**але:** *Індыя — індыец, індыйскі, індыйцы*), *гвар**д**ыя — гвар**дз**еец, гвар**дз**ейскі, біле**т** — біле**ц**ёр, біле**ц**ік*.

2. Літары ***дз*** і ***ц*** перад [в’] пішуцца згодна з вымаўленнем у словах ***дз**веры, ча**ц**вер, по**дз**віг, мя**дз**ведзь, **ц**вёрды, **ц**вярозы, **ц**вік, **ц**вілы, **ц**вісці, лі**ц**він, лі**ц**вінка, я**ц**вяг, **Дз**віна, Ма**ц**вей* і інш. В ы к л ю ч э н н е: *твіст*.

3. Прыставачны [д] і суфіксальны [т] перад [в’] перадаюцца адпаведна літарамі ***д*** і ***т***: *адвезці, падвязаць, у таварыстве, у агенцтве, у выдавецтве, аб прыродазнаўстве, у братэрстве; бітва — у бітве, брытва — брытве, брытвенны, клятва — клятве, клятвенны*.

Літары ***д*** і ***т*** пішуцца таксама ў некаторых іншых словах: *мардва — мардве, мардвін, Мардвінаў, Літва — у Літве*.

4. У пераважнай большасці слоў іншамоўнага паходжання ў адпаведнасці з літаратурным вымаўленнем пішуцца ***д*** і ***т***: *студэнт, дэпутат, дывізія, дэмакратыя, медыцына, апладысменты, дысцыпліна, дэлегат, атэстат, кватэра, тыгр, майстар, матэрыял, універсітэт, авантура* і інш.

У некаторых словах іншамоўнага паходжання ў адпаведнасці з традыцыяй і літаратурным вымаўленнем пішуцца ***дз, ц***: *цір, арцель, эцюд, цюльпан, каранцін, карцеч, касцюм, дзюдо, мундзір, дзюшэс, бардзюр* і інш.

5. Ва ўласных назвах ***д, т*** і ***дз, ц*** пішуцца ў адпаведнасці з літаратурным вымаўленнем: *Дэфо, Балтыка, Ватыкан, Антарктыда, Тэгеран, Людміла, Тэрэза, «Юманітэ»; Хрысціна, Дзікенс, Аргенціна, Цімкавічы*.

**71.** Раскажыце пра дзеканне і цеканне ў беларускай мове. Параўнайце, як вымаўляюцца ў беларускай і рускай мовах наступныя словы.

Сцябло — стебель, дзеці — дети, дзверы — дверь, цішыня — тишина, мядзведзь — медведь, цір — тир, акцёр — актёр.

**72.** Запішыце словы ў два слупкі, выбіраючы з дужак патрэбныя літары: 1) словы з ***д, т***; 2) словы з ***дз, ц***.

*(Д/дз)*веры, бамбар*(ды/дзі)*раваць, *(дэ/дзе)*по, прак*(ты/ці)*кант, каман*(ды/дзі)*роўка, *(дэ/дзе)*путат, *(тэ/це)*левізійны, *(дэ/дзе)*кабрысты, ап*(тэ/це)*ка, *(Ты/Ці)*бет, апла*(ды/дзі)*сменты, *(тэ/це)*ф*(тэ/це)*лі, Лю*(д/дз)*міла, *(ды/дзі)*ятэз, *(ты/ці)*раж, *(Тэ/Це)*ляханы, Палес*(ты/ці)*на.

**73.** Спішыце сказы, раскрываючы дужкі. Растлумачце правапіс слоў з ***д, т, дз, ц***.

1. У сваім княстве Ге*(ды/дзі)*мін *(дэ/дзе)*клараваў рэлігійную цярпімасць і роўнае стаўленне да ўсіх іншаверцаў, і з цягам часу гэта вылілася ў тра*(ды/дзі)*цыю грамадскага жыцця ў Вялікім Княстве Літоўскім *(К. Тарасаў)*. 2. Цудоўныя веды Скарыны, яго шырокая эру*(ды/дзі)*цыя звярнулі ўвагу беларускіх вяльмож *(С. Палуян)*. 3. На сценах універсі*(тэ/це)*та скрозь памятныя знакі — эмблемы, гербы славутых родаў *(А. Клышка)*. 4. Як нямая сведка даўніны, як візітная картачка горада ўзвышаюцца над ім *(д/дз)*ве разбураныя вежы ад колішняга магутнага[м] замка *(С. Александровіч)*. 5. На сцэне можна было ўбачыць і фанабэрыстага шлях*(т/ц)*юка, і доктара-шарлатана *(«Родны край»)*. 6. На поўначы Беларусі, там, *(д/дз)*е невялічкая[с] рэчка Палата ўпадае ў Заходнюю *(Д/Дз)*віну, узнік а*(д/дз)*ін з самых старажытных гарадоў — Полацк *(У. Бутрамееў)*. 7. Усімі прысутнымі там дактарамі Скарына быў абвешчаны доктарам ме*(ды/дзі)*цыны *(А. Клышка)*. 8. Жанчына ўспомніла, што салдат той быў малады, з гвар*(дэ/дзе)*йскім значком[сн] *(В. Хомчанка)*.

**74.** Запішыце словы і словазлучэнні па-беларуску, растлумачце правапіс.

Две, авторитет, аптечный киоск, латинский, этюд, двести, тигровая шкура, партизан, твёрдый, плотина, Гаити, Тюмень, Дидро, стадион, техника, карантин, академия, кандидат, командир, ветеран, дюшес, увертюра, диктатура.

**75.** Перакладзіце выказванне на беларускую мову, параўнайце вымаўленне і правапіс ***д*** і ***т*** у словах іншамоўнага паходжання.

Открытость лирического «я» писателя ... придает прозе Янки Брыля тот лирический настрой и возвышенную поэтичность, которые так часто принимаются в критике за родовые признаки романтизма. Между тем романтический метод и романтический стиль, романтизм как тип творчества и романтика как выражение поэтической образности — явления разного порядка *(В. Оскоцкий)*.

## § 14. Правапіс падоўжаных зычных

1. У беларускай мове ў становішчы паміж галоснымі зычныя гукі [з'], [л'], [н'], [с'], [дз'], [ц'], [ж], [ш], [ч] могуць вымаўляцца п а д о ў ж а н а. Такое іх вымаўленне на пісьме перадаецца падвоеным напісаннем адпаведных літар: *соллю, насенне, калоссе, пяццю, збожжа, узвышша, ноччу, Наталля, Палессе*. Падоўжаны гук [дз'] перадаецца на пісьме спалучэннем літар ***ддз***: *суддзя, стагоддзе*.

2. Падаўжэнне зычных н е  а д б ы в а е ц ц а:

- у словах *Ілья, Ульяна, Касьян, Емяльян, Юльян, Юльяна* і вытворных ад іх: *Ільін, Ільіч, Ільінскі, Ульянаў, Ульянаўск, ульянаўскі, Касьянавіч, Емяльянавіч* і інш., а таксама ў словах, утвораных ад дзеяслова *ліць*: *лье, льецца, вылью, налью* і інш.;
- у запазычаных словах, у тым ліку ва ўласных імёнах і назвах, і вытворных ад іх словах: *калектыў, сума, алея, група, клас, калона, Ала, Іна, Нона, Кірыл, Генадзь, Адэса, Марока, Ніца*.

В ы к л ю ч э н н е складаюць словы: *ванна, манна, панна, бонна, мадонна, саванна, Ганна, Жанна, Сюзанна, Мекка* і інш.

**76.** Запішыце словы, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары.

Кал..екцыя, палоз..е, дванац..аць, гнездаван..е, узбярэж..а, бар..ыкада, тон..а, рал..я, сён..я, мас..аж, ван..а,

пісьмен..ік, нал..ю, навакол..е, раўнадуш..а, прамен..е, адзен..е, пытан..е, Ул..янавіч, Іл..іч, развод..е, тэр..ыторыя, грам..атыка, абліч..а, світан..е, ноч..у, трал..ейбус, раздол..е.

**ЗАПОМНІЦЕ!**

Ад падоўжаных зычных неабходна адрозніваць падвоеныя зычныя, якія ўзнікаюць на стыку прыстаўкі і кораня, кораня і суфікса: *бе**сс**энсоўны, а**бб**егчы; каме**нн**ы, кішэ**нн**ы.*

**77.** Выпішыце спачатку словы з падаўжэннем зычных, а затым — з падваеннем.

Рассыпаць, аддаць, пытанне, гуллівы, Ганна, дзённы, сучча, лімонны, каменне, каменны, Уручча, замежжа, сувяззю, жыццёвы, збожжа, рассмяяліся, роўняддзю, прыволле, асенні, цемраддзю, Таццяна, бясспрэчны, паддуваць, бяздонны, ноччу, небыццё, раззлаваны.

**78.** Спішыце сказы, устаўляючы, дзе трэба, прапушчаныя літары.

1. Многія рэдкія кнігі з гэтай бібліятэкі сталі пачаткам каштоўнай кал..екцыі еўрапейскіх выдан..яў 16—17 стагод..яў *(Л. Пракопчык)*. 2. Ваколіца правага ўзбярэж..а Нёмана, якая месціцца між яго рэчышчам і балотамі Палес..я, належыць да самых урадлівых у Еўропе *(В. Карагынскі)*. 3. Маці не хвалюецца. За час як не стала Васіля, яна перабачыла шмат кар..эспандэнтаў і ніколі не адмаўляецца ад запрашэн..яў да дзяцей[ф] у школу *(У. Арлоў)*. 4. Бушуе над абшарамі* сцюдзён..ы асен..і вецер, змятае пад прызбы* пажоўклае лісце, гойдае мокрае гал..ё ў садку *(В. Быкаў)*. 5. Калі пер..он сціх, апусцеў, старая ўслед за апошнімі пас..ажырамі выйшла на Прывакзальную плошчу[сн] *(І. Мележ)*.

**79.** Выпішыце з тэксту спачатку словы (у пачатковай форме) з падоўжанымі, а затым — з падвоенымі зычнымі.

Ён многа пражыў у гэтыя адпушчаныя жыццём, кароткія маладыя вёсны і шмат зрабіў, шчыра, аддана[сл].

І не яго віна, што не змог болей. Максім Багдановіч адзін з першых сярод новай беларускай інтэлігенцыі свядома жыў абуджэннем народа... Ён ведаў, што такое мінуўшчына для народаў, якія выходзяць на шлях самаўсведамлення. І трэба хутчэй[ф] вяртаць сваю гісторыю, вяртаць загубленыя стагоддзі. Ён ведаў: мінулыя пакаленні толькі тады паміраюць у гісторыі, калі ў чалавецтва не застаецца іх памяці, іх мастацтва *(А. Клышка)*.

**80.** Выпішыце словы, пры перакладзе якіх з рускай мовы на беларускую захоўваецца падвоенае напісанне літар.

Ванна, аппетит, колонна, грипп, программа, Анна, Одесса, Жанна, мадонна, сумма, манная (крупа), грамматика.

**81.** Прачытайце тэкст. З якога літаратурнага твора ўзяты гэты ўрывак? Назавіце сказ, у якім сфармулявана асноўная думка тэксту.

Спішыце, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце іх правапіс.

Як быў я малы, разро*(с/сс)*я пад Сумлічамі куст шыпшыны. А калі я ішоў на вайну, куст быў ужо ц..лым зара*(с/сс)*нікам. Пакутуючы душой у той праклятай Няме*(цч/чч)*ыне, я толькі і думаў пра Волечку і пра тую шыпшыну. Без Волечкі і без шыпшыны няма для мяне і роднай бацькаўшчыны. Для мяне будзе радасць, калі я прайду паўз той зара*(с/сс)*нік, уваходз..чы ў Сумлічы. На мой розум, толькі той чалавек, хто, калі яго вырвуць з роднага месца, будзе рва*(ц/цц)*а туды, пакуль жывы. Няма мне жы*(ц/цц)*я там, дзе не расце тая шыпшына, што ў маім мален*(с/ц)*тве цешыла мне вочы. Лепш гры*(с/з)*ці з..млю ў родным кутку, чым каб цябе ліхім ветрам кідала па чужым свеце *(К. Чорны)*.

● Што сімвалізуе шыпшына ў тэксце?

● Прывядзіце прыклады беларускіх прыказак, сэнс якіх перадае думку, выказаную ў апошнім сказе тэксту.

● Як вымаўляецца прыназоўнік ***без*** у спалучэннях з назоўнікамі «без Волечкі», «без шыпшыны»?

● Запішыце 5—7 назваў населеных пунктаў Беларусі з падоўжанымі зычнымі.

## § 15. Правапіс некаторых спалучэнняў зычных

1. У беларускай мове ў асобных словах адбылося спрашчэнне груп зычных: гістарычныя спалучэнні ***здн, згн, стн, скн, стл, рдн*** вымаўляюцца як [зн], [сн], [сл], [рн], што і адлюстроўваецца на пісьме:

***здн — зн***: *праязны, выязны* (параўн.: *прыезд*, *выезд*), *позна, спазніцца, Познышаў*;

***згн — зн***: *бразнуць* (параўн.: *бразгаць*);

***стн — сн***: *пачэсны* (параўн.: *чэсць*), *скарасны* (параўн.: *скорасць*), *калькасны* (параўн.: *колькасць*), *абласны* (параўн.: *вобласць*), *посны* (параўн.: *пост*); тое ж — у запазычаннях: *кантрасны* (параўн.: *кантраст*), *кампосны* (параўн.: *кампост*), *фарпосны* (параўн.: *фарпост*), *аванпосны* (параўн.: *аванпост*);

***скн — сн***: *бліснуць* (параўн.: *бліскаць, бліскавіца, бляск*), *пырснуць* (параўн.: *пырскаць*), *пляснуць* (параўн.: *пляскаць*), *трэснуць* (параўн.: *трэскаць*); **але:** *віскнуць, націскны*;

***стл — сл***: *жаласлівы* (параўн.: *жаласць*), *шчаслівы* (параўн.: *шчасце*), *помслівы* (параўн.: *помста*), *пасланць* (параўн.: *пасцялю, пасцель*);

***рдн — рн, рдц — рц***: *міласэрны*, *міласэрнасць; сэрца* (параўн.: *сардэчны*).

2. Спалучэнні зычных ***ск, ст, сц*** [с’ц’] на канцы кораня слова могуць чаргавацца з ***шч***, што і перадаецца на пісьме: *воск — вашчыць, густы — гушчар, хрысціць — хрышчоны*; **але:** *пя**сч***[шч]*аны, пя**сч***[шч]*ынка, пя**сч***[шч]*анік*, *супя**сч***[шч]*аны*, *супя**сч***[шч]*анік*.

**ЗАПОМНІЦЕ!**

Спалучэнне зычных ***дт*** на канцы слоў іншамоўнага паходжання перадаецца праз ***т***: *Гумбальт, Кранштат, Шміт, фарштат.*

**82.** Запішыце словы, устаўляючы, дзе трэба, зычныя ***д*** ці ***т***.

Праяз..ны, быць праез..ам, неміласэр..ны, пахіс..нуцца, хіс..кі, свіс..нуць, свіс..ануць, разас..ланы, бязлітас..ны,

фарпос..ны, абараняць фарпос..ы, Рэмбран..т, пачэс..ны, няўрымс..лівы, сэр..ца.

**83.** Запішыце словы, якія адпавядаюць прыведзеным значэнням.

1. Вечарынка ў акцёраў, студэнтаў і іншых з самадзейнымі нумарамі жартаўліва-парадыйнага зместу. 2. Схільнасць да спагады іншым, да літасці над кім-небудзь. 3. Цэнтральнае нябеснае цела Сонечнай сістэмы, якое з’яўляецца гіганцкім вогненным шарам, што вылучае святло і цяпло. 4. Які мае адносіны да вобласці, належыць ёй. 5. Той, якому дадзена шчасце, які мае, адчувае шчасце, радасць, захапленне ад чаго-небудзь. 6. Ежа без мяса і малака, не скаромная; якую ўжываюць у час паста. 7. Заснаваны на кантрасце. 8. Які дае права на праезд якім-небудзь відам транспарту.

**84.** Запішыце словы па-беларуску.

Кранштадт, поздний, капустный, милосердный, песчаный, скоростной, устно, солнышко, бессмертный, счастливчик, шестнадцатый, сердцевина.

**85.** Спішыце сказы, устаўляючы, калі трэба, прапушчаныя літары.

1. З дзяцінства ён палюбіў прыроду, навучыўся сэр..цам адчуваць яе таямніцы і хараство *(І. Навуменка)*. 2. Я ляжу ў акопе на разас..ланым шынялі і доўга гляджу ўгору, у сінюю бездань летняга неба *(В. Быкаў)*. 3. У час стыхійных бедстваў і катастроф міласэр..ныя людзі першымі прыходзяць на дапамогу пацярпелым[с] *(«Сусвет»)*. 4. Па краях[ф] балота зарас..ло кустамі лазы, асакою і трыс..нягом... *(З. Бяспалы)*. 5. Глядзеў на ўсё гэта адзін тутэйшы дзяцюк, глядзеў і не вытрымаў — крыкнуў-свіс..нуў хлапцоў сваіх і кажа... *(Я. Пархута)*. 6. А музыка стаіць і выводзіць яшчэ жалас..ней, яшчэ нудней *(М. Багдановіч)*. 7. Князь даў згоду на шлюб, але трэба была згода

і слуцкага князя, які вызначаўся жорс..касцю і бязлітас..насцю ў адносінах да прыгонных *(З. Шышыгіна)*. 8. Там на вялікім плоскім камені ляжала разас..ланая шкура, а на ёй выкладзены розныя бурштынавыя вырабы *(М. Чарняўскі)*. 9. Канцэпцыя Гумбаль..та апіралася на ідэю ўзаемазвязанага развіцця мовы, мыслення і «духу народа» *(Л. Сямешка)*.

## § 16. Правапіс прыставак на *з, с*

Напісанне зычных ***з*** і ***с*** у прыстаўках адпавядае вымаўленню: перад галоснымі і звонкімі зычнымі пішуцца прыстаўкі ***з-, уз-, без- (бяз-), раз-***: *здзівіцца, узгадаць, безабаронны, бяздумны, разбег;* перад глухімі зычнымі пішуцца прыстаўкі ***с-, ус-, бес- (бяс-), рас-***: *спісаць, успомніць, беспамылкова, бясшумна, расчахліць*.

Пры спалучэнні прыставак з коранем, які пачынаецца збегам зычных, далучаецца ***а***: *са**бр**аць (збяру), са**рв**аць (зрываць), раза**гн**уць (разгінаць)*.

**ЗАПОМНІЦЕ!**

Прыстаўка іншамоўнага паходжання ***дэз-*** пішацца нязменна: *дэзактывацыя, дэзарыентацыя, дэзынфекцыя*; у прыстаўцы ***дыз-*** перад галоснымі (у тым ліку ётаванымі) пішацца ***з***, а перад зычнымі — ***с***: *дызасацыяцыя, дыз'юнкцыя; дыскваліфікацыя, дысгармонія*.

**86.** Утварыце і запішыце ад прыведзеных слоў новыя, выкарыстоўваючы прыстаўкі ***з-, уз-, раз-, без-***. Растлумачце правапіс прыставак.

Узор: *радавацца — узрадавацца, бязрадасны; пісаць — спісаць, распісаць.*

Радавацца, пісаць, ламаць, сыпаць, сушыць, смяяцца, цягнуць, дапамагаць, класці, пачынаць.

**87.** Спішыце сказы, устаўляючы літары ***з, с,*** растлумачце іх правапіс.

1. У сінюю бя..межную далеч бегла чыгунка *(І. Навуменка)*. 2. Юрыст па адукацыі, Багушэвіч вельмі добра бачыў бя..праўе і бе..абароннасць чалавека і народа перад палітычным уціскам і нацыянальным прыніжэннем *(Л. Тарасюк)*. 3. Бывала, ледзь толькі ў..ыдзе сонца, ледзь ра..целюцца на версе лясоў і ўзгоркаў яго залатыя абрусы, як гэтае зерне ўжо не ..водзіць вачэй з сіняй далі *(Я. Колас)*. 4. Тут с..браны рэчы, ..нойдзеныя ў час ра..копак: наканечнікі стрэл, коп'і, нажы, крэсівы... *(К. Камейша)*. 5. Убачылі пінскія людзі адну бя..бройную дзяўчыну, апамятаваліся і смела кінуліся за ёю на ворагаў *(В. Вольскі)*. 6. З той пары Язэп у любое надвор'е хадзіў на месца іх апошняга ра..тання і праводзіў там цэлыя гадзіны *(З. Шышыгіна)*. 7. Паднапяўся асілак-каваль ды ..цягнуў з ясеня цэлы тузін* ..вязаных адной вяроўкай ведзьмакоў *(З народнага)*.

**88.** Прачытайце афарызмы, растлумачце іх сэнс. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі, растлумачце правапіс зычных.

1. У блі*(з/с)*кіх мовах блі*(з/с)*касць родных душ, адзінай дружбы ч..стыя крыніцы *(Н. Гальпяровіч)*. 2. Шкада, што казачныя словы мы хочам *(з/с)*бера..чы на потым *(С. Законнікаў)*. 3. *(З/с)*хавай выбуховае слова на ворага. А другу хай будзе а..крыта душа *(П. Макаль)*. 4. І ніколі не ў*(з/с)*ыдзе зерне, што ўпала ў бя*(з/с)*плодны пясок *(В. Вітка)*.

Падрыхтуйце вуснае сачыненне-мініяцюру на тэму аднаго з афарызмаў (тып маўлення — разважанне).

**89.** Вусна перакладзіце тэкст на беларускую мову. Назавіце словы, якія адпавядаюць правілу «Напісанне прыставак на ***з-, с-***», запішыце словы парамі (напрыклад, *беззвучно — бязгучна*).

Гибралтар проходили в полночь. Я стоял на палубе, вглядываясь в береговые огни, в ночное звёздное небо.

Голубоватый луч вращающегося маяка пронзительно и беззвучно рассекал мрак. Было что-то беспокойное в этом тревожно скользившем и погасшем луче. Неисчислимы, великолепны были над кораблем звёзды. Всю ночь я простоял на палубе, вглядываясь в бездонную глубину неба, в таинственное мерцание огней...

Двурогий серп месяца всплывает над морем, в серебряном его свете одна за другой меркнут над мачтами звёзды. Месяц поднимается выше. Неведомо откуда появившийся парусник, тихо покачиваясь, пересекает живую серебряную дорогу. Точно таинственный призрак, как ночное видение, без единого признака жизни проплывает безмолвное судно, и опять блестит, бесчисленными чешуйками сияет раскинутая к месяцу дорога.

Я брожу по палубе до утра. Медленно разгорается на востоке небо. Солнце ярко светит, ослепительно синее бескрайне расстилается море *(По И. Соколову-Микитову).*

### Слоўнік

вращаться — ***круціцца, варочацца, вярцецца***;
мерцание — ***міганне, мігаценне, мігценне***;
меркнуть — ***цямнець, гаснуць***;
точно — (тут) ***быццам, нібы***;
видение — ***прывід, здань, уяўленне***;
чешуйка — ***луска***;
сиять — ***ззяць, свяціць, блішчаць, зіхацець***;
бродить — ***хадзіць, бадзяцца, валачыцца, блукаць***;
расстилаться — ***рассцілацца***

## Напісанні, заснаваныя на марфалагічным прынцыпе

**Марфалагічны** прынцып прадугледжвае аднастайнае напісанне марфем — незалежна ад таго, як яны вымаўляюцца. Напрыклад, у аднакаранёвых словах *горад, гарады, гарадскі* ў корані вымаўляюцца розныя гукі ([горат], [гарады], [гарацк'і]), але нязменна захоўваецца літара ***д*** пры напісанні.

## § 17. Правапіс звонкіх і глухіх, шыпячых і свісцячых, спалучэнняў зычных на стыку кораня і суфікса, прыстаўкі і кораня

У сучаснай беларускай мове на марфалагічным прынцыпе грунтуюцца наступныя напісанні:

1. Напісанне звонкіх зычных перад глухімі ў сярэдзіне і ў канцы слова: *казка* — ка[с]ка, *кладка* — кла[т]ка, *лыжка* — лы[ш]ка, *мароз* — маро[с].

2. Напісанне глухіх зычных перад звонкімі: *малацьба* — мала[дз']ба, *футбол* — фу[д]бол, *касьба* — ка[з']ба.

3. Напісанне свісцячых перад шыпячымі: *бясшумна* — бя[шш]умна, *зжаць* — [жж]аць, *расчэсваць* — ра[шч]эсваць; шыпячых перад свісцячымі: *купаешся* — купае[с'с']я, *мыешся* — мые[с'с']я.

4. Напісанне спалучэнняў зычных ***дч, тч, дц, тц, чц***: *спа**дч**ына* — спа[чч]ына, *лё**тч**ык* — лё[чч]ык, *кла**дц**ы* — кла[цц]ы, *пала**тц**ы* — пала[цц]ы, *рэ**чц**ы* — рэ[цц]ы.

5. Напісанне спалучэнняў зычных ***зс, жс, шс, гс, кс*** у прыметніках, утвораных ад геаграфічных назваў: *нясві**жс**кі* — нясві[с]кі, *францу**зс**кі* — францу[с]кі, *чэ**шс**кі* — чэ[с]кі, *выбар**гс**кі* — выбар[с]кі, *казбе**кс**кі* — казбе[ц]кі.

6. Напісанне прыставак ***аб-, ад-, над-, пад-*** і прыназоўнікаў ***аб, ад, над, пад***: ***аб***[п]*сыпаць*, ***ад***[т]*ход*, ***пад***[т]*казаць*, ***над***[т]*пісаць*, ***ад***[т] *хаты*, ***пад***[т] *стогам*, ***над***[т] *полем*.

7. Напісанне літары ***д*** у прыметніках, утвораных з дапамогай суфікса -***ск***-: *суседскі* — сусе[ц]кі, *заводскі* — заво[ц]кі, *гарадскі* — гара[ц]кі.

**90.** Запішыце словы, выбіраючы з дужак патрэбную літару.

Дока*(з/с)*, ма*(г/х)*чымасць, а*(б/п)*хапіць, абя*(з/с)*сілены, сто*(г/х)*, газе*(т/ч)*чык, бара*(дз/ц)*ьба, во*(з/ш)*чык, ра*(ш/с)*чараваўцца, а*(д/т)*кос, а*(д/т)*туліна, выгля*(д/т)*, самалю*(б/п)*ства, дасве*(д/ч)*чанасць, *(з/с)*хапіць, а*(б/п)*хітрыць, падво*(з/ш)*чык, ця*(ж/ш)*касць, а*(б/п)*церабіць, возьме*(ш/с)*ся.

**91.** Прачытайце тэкст. Растлумачце выбар з дужак патрэбнай літары.

ДАРОГА ДАХАТЫ

Ах ты, даро*(ж/ш)*ка дахаты! Нема*(г/х)*чыма апісаць усю бездань пачуццяў, што раптам ахопліваюць тваё сэрца. І няхай там нікога *(з/с)* блі*(з/с)*кіх не засталося, і хаты даўно няма, і груша сало*(д/т)*кая спілавана, няхай ра*(з/с)*ляцеліся твае сябры-аднаго*(д/т)*кі, павыходзілі даўно заму*(ж/ш)* сусе*(дс/ц)*кія дзяўчаты, няхай ты сюды не наве*(д/т)*ваўся «тысячу гадоў» па сваёй волі, пра ўсё гэта не хочацца думаць, бо шчымліва ные радасцю сэрца *(з/с)* кожным новым кіламетрам. Адно просіцца: «Ху*(д/т)*чэй, ху*(д/т)*чэй!»

За Столінам, прая*(з/ж)*джаючы самую доўгую вуліцу вёскі Белавуша, ненадоўга супакойвае*(ш/с)*ся: «Здаецца, даехаў». Малюсенькую вёсачку Угалец не паспяваеш і ра*(з/с)*гледзець — куляй, здаецца, нясе цябе аўтобус па брукаванцы *(Паводле Г. Марчука)*.

**92.** Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары, параўнайце іх вымаўленне і напісанне.

1. Два чалавекі ішлі паў.. рэчку і пра.. 60—70 крокаў спыняліся, адзін з іх хвілін на пяць сядаў на вядро ці кошык, а..пачываў, другі стаяў побач *(Ф. Янкоўскі)*. 2. Напярэдадні развітальнага вечара са школаю выпускнікі ўсім класам пісалі сваёй настаўніцы про..ьбу завітаць — хоць на хвілінку — на выпускны вечар *(Ф. Янкоўскі)*. 3. Цэлы гай старасвецкіх дубоў ра..кінуўся на беразе Нёмана. Іх не чапала рука лю..кая, толькі доўгія часы палажылі свой сле.. *(Я. Колас)*. 4. На Навагру..чыне шмат мясцін, дзе быў паэт і якія вельмі любіў *(С. Александровіч)*. 5. Дарога туды вядзе ціхая — сельскі пя..чаны прасёлак... *(Л. Пракопчык)*. 6. Калісьці Нясві..скім замкам валодалі князі Радзівілы *(П. Раманчук)*.

**ЗАПОМНІЦЕ!**

На марфалагічным прынцыпе напісання заснаваны таксама напісанні:

1. Правапіс прыназоўніка ***без*** і часціцы ***не***: ***без*** [б’эс] *канікулаў*, ***без*** [б’ас] *хлеба*, ***не*** [н’а] *думаў*.

2. Правапіс каранёвага ***я*** *(пояс, месяц, заяц)* і суфіксаў -***язь***, -***ядзь*** *(боязь, дробязь, роўнядзь)*, а таксама ўсе выключэнні з правілаў.

**93.** Прачытайце афарызмы, растлумачце іх сэнс. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі, растлумачце правапіс зычных.

1. Табе зрабіўся блі*(з/с)*кім цэлы свет! А ці бліжэйшым стаў табе сусе*(д/т)*? *(Н. Гілевіч)*. 2. Любоў і ла*(д/т)* узвышаюць, вядуць за далягля*(д/т)*. Варожасць і злосць прыніжаюць, а*(д/т)*кідваюць наза*(д/т)* *(А. Вярцінскі)*. 3. У нас добрая спа*(д/ч)*чына, паболей бы добрых спа*(д/ч)*чыннікаў *(М. Стральцоў)*. 4. Толькі блі*(з/с)*кіх *(з/с)*бліжае ро*(з/с)*тань. Толькі *(з/с)* блі*(з/с)*кімі час у *(з/с)*годзе *(Н. Мацяш)*. 5. А*(д/т)*легласць а*(д/т)* сяўбы да жніва даўжэйшая за век лю*(дс/ц)*кі бывае *(П. Макаль)*. 6. Беларусу і ў Парыжы сняцца б..лізна бяро*(з/с)* і сосен ме*(дз/ц)*ь *(П. Панчанка)*. 7. Я — сірата б..*(з/с)* маёй Беларусі. А*(д/т)* ро*(д/т)*най мовы, а*(д/т)* ро*(д/т)*най нацыі не а*(д/т)*цураюся, не а*(д/т)*ракуся *(П. Панчанка)*.

Падрыхтуйце сачыненне-мініяцюру на тэму аднаго з афарызмаў (тып маўлення — разважанне).

## Правапіс мяккага знака і апострафа

### § 18. Змякчальны мяккі знак

1. Мяккі знак пішацца пасля зычных ***з, л, н, с, ц*** (з мяккага ***т***), ***дз*** (з мяккага ***д***):

● для абазначэння на пісьме мяккасці зычнага на канцы слова: *мядзведзь, мазь, соль, рунь, вучань, гусь, вось, штосьці, памяць, думаць, дзевяць, вішань*;

• для абазначэння на пісьме мяккасці зычнага перад цвёрдым, а таксама перад мяккім зычным, які пры змене слова можа чаргавацца з цвёрдым: *рэдзька, барацьба, пісьменнік — пісьмо, на касьбе — касьба, дзьме — дзьмуць*;

• пасля [л’] перад цвёрдым або мяккім зычным, за выключэннем падоўжанага **[л’]**: *бульба, вельмі, пальцы, больш* (**але:** *менш*); *галлё, вяселле*;

2. Мяккі знак пішацца ў некаторых граматычных формах:

• у дзеясловах загаднага ладу перад канчаткам 1-й асобы множнага ліку *-**ма***, перад канчаткам 2-й асобы множнага ліку *-**це***, перад постфіксам *-**ся***: *кіньма, станьма, гляньма; гляньце, станьце; кінься, агледзься, застанься*;

• у назоўніках перад канчаткам творнага склону множнага ліку *-**мі***: *людзьмі, слязьмі, коньмі*;

• перад суфіксам *-**чык***, калі слова без гэтага суфікса заканчваецца на мяккі знак: *камень — каменьчык, рэмень — раменьчык, агонь — агеньчык*;

• перад суфіксам *-**к**-* пасля мяккага [н’]: *вішанька, банька, песенька*;

• у складаных лічэбніках *пяцьдзясят, шэсцьдзясят, пяцьсот, шэсцьсот, дзевяцьсот*;

• у прыслоўі *ледзьве* (як і ў слове *ледзь*);

• у постфіксе *-**сьці***: *хтосьці, штосьці, камусьці, дзесьці, чамусьці*;

• перад суфіксам *-**ск**-* у прыметніках, утвораных ад назваў месяцаў на *-**нь*** і ад слова *восень: жнівень — жнівеньскі, восень — восеньскі*;

• у суфіксах прыметнікаў *-**аньк**-, -**еньк**-, -**эньк**-*: *малюсенькі, добранькі, прыгожанькі, старэнькі, маленькі.*

3. Мяккі знак не пішацца:

• пасля зацвярдзелых зычных, а таксама пасля губных ***б, в, м, п, ф***: *нож, дождж, мыш, печ, купец, цар, голуб, верф, насып, сем, стэп*;

• пасля зычных [з’], [с’], [ц’], [дз’] перад мяккімі, калі пры змене слова абодва зычныя застаюцца мяккімі або становяцца цвёрдымі: *звер — звяры, песня — песню, дзве — два, збіраць — зборы, дзверы — дзвярэй*;

● паміж падоўжанымі зычнымі: *калоссе, стагоддзе, сумленне, голле*;

● перад суфіксам *-ск-* у прыметніках, утвораных ад назоўнікаў на *-нь*, калі гэтыя назоўнікі не з'яўляюцца назвамі месяцаў: *конь — конскі, Разань — разанскі, Любань — любанскі* (**але:** *Чэрвеньскі раён*), *Цянь-Шань — цянь-шанскі.*

**94.** Вызначце, як абазначана мяккасць зычных у прыведзеных словах. Запішыце словы, падкрэсліце зычныя, мяккасць якіх на пісьме не перадаецца.

Сувязь, пытанне, смех, толькі, старэнькі, бацькоўскі, гляньце, сцяблінкі, возьмеш, дзве, насцеж, восем, пакуль, пасля, забудзьце, смеласць, ледзь, літасць, вяселле, касьба, дзень, дзядзька, усмешка.

**95.** Утварыце ад прыведзеных дзеясловаў формы 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку загаднага ладу, запішыце іх.

Кінуць, глянуць, звесіць, злазіць, сустрэць, стаяць, застацца, прыгледзецца, злазіць, намыліцца.

**96.** Запішыце словы. Устаўце, дзе трэба, мяккі знак.

Дз..ве, дз..ме, шыр.., распус..ціцца, піс..мо, ус..мешлівы, смаргон..скі, ледз..ве, чамус..ці, любан..скі, Капыл..скі (раён), барац..біт, чэрвен..скі (нумар), сляз..мі, дз..веры, карэн..не, карэн..чык, прыгожан..кі, свежас..ць, завез..ці, людз..мі, застан..ся, Чэрвен..скі (рынак), ц..віс..ці, мен..шы, сем.. .

## § 19. Раздзяляльны мяккі знак і апостраф

Раздзяляльны мяккі знак п і ш а ц ц а пасля зычных ***л, с, ц*** (з мяккага ***т***), ***дз*** (з мяккага ***д***) і непрыставачных ***н*** і ***з*** перад галоснымі ***е, ё, ю, я, і***:

● у словах іншамоўнага паходжання: *калье, медальён, канферансье, каньён, мільярд, рэльеф, парцьера, мільён, Лавуазье;* **але:** *булён*;

● ва ўласных іменах і назвах, утвораных ад іменаў на *-**ій** (-**ый**)*, перад суфіксальным *-**еў**- (-**ев**-)*: *Савельеў, Савельевіч, Васільеў, Васільевіч, Арсеньеў, Арсеньевіч, Лаўрэнцьеў, Лаўрэнцьевіч, Анатольевіч, Васільеўскі востраў, Васільеўка*;

● у словах *Ілья, Ульяна, Касьян, Емяльян, Юльян, Юльяна* і вытворных ад іх: *Ільін, Ільіч, Ульянаў, Ульянаўск, ульянаўскі, Касьянавіч, Емяльянавіч* і інш.;

● у словах, утвораных ад дзеяслова *ліць: налью, разалью, лье, недалье.*

З а ў в а г а. Пасля ***г, к, х*** і збегу зычных, акрамя ***нц***, перад суфіксальным *-**еў**- (-**ев**-)* пішацца ***і (ы)***: *Георгіеў, Іраклієвіч, Ануфрыевіч, Дзмітрыеў* (**але:** *Вікенцьевіч, Лаўрэнцьеў, Лаўрэнцьевіч, Кліменцьевіч* і інш.).

**97.** Выпішыце спачатку словы, у якіх мяккі знак абазначае мяккасць зычных, а затым — словы з раздзяляльным мяккім знакам.

Медальён, малацьба, трыльён, шэсцьсот, льючы, Васільеў, Анатольеўна, каменьчык, хтосьці, цьмяны, пісьменнасць, канферансье, Ільіч, парцьера, касьба, Ульянаў, сеньёр, шампіньён, студзеньскі, больш, бульба.

Апостраф п і ш а ц ц а пры асобным вымаўленні зычных з наступным галосным:

● пасля прыставак, якія заканчваюцца на зычную, перад ***е, ё, ю, я*** і націскным ***і***: *аб'езд, пад'ехаць, аб'ём, аб'яднанне, раз'юшаны, аб'ява, аб'інець, з'едлівы, між'ярусны*;

● у сярэдзіне слова пасля зычных, акрамя ***з, л, н, с, ц*** (з мяккага ***т***), ***дз*** (з мяккага ***д***): *аб'ём, вераб'і, куп'істы, інтэрв'ю, п'еса, надвор'е, п'е, сям'я, бар'ер, Дзям'ян, Лук'янаў, Грыгор'еў, Пракоф'еў, В'етнам, Мар'іна Горка*;

● у складаных словах пасля частак ***двух-, трох-, чатырох-, шмат-***: *двух'ярусны, трох'ярусны, чатырох'ярусны, шмат'ёмісты.*

**ЗАПОМНІЦЕ!**

Апостраф н е  п і ш а ц ц а:

пасля ***ў*** (у нескладовага) перад літарамі ***е, ё, ю, я, і***: *здароўе, салаўі, разнатраўе, праваслаўе, прыслоўе, любоўю*;

у складаных і складанаскарочаных словах на мяжы састаўных частак, у тым ліку, калі іх часткі пішуцца праз злучок: *цэхячэйка, дзяржюрвыдавецтва, трэд-юніёны.*

**98.** Спішыце, устаўляючы апостраф або мяккі знак.

Ад..ютант, інтэрв..ю, з..езд, разал..ю, аб..езд, раз..юшаны, аб..ява, аб..ём, мадз..яр, брыл..янты, п..едэстал, трох..ярусны, хадз..ба, прэм..ер, бракан..ер, італ..янец, аб..ездзіць, кар..ера, Ігнац..еў, куп..істы, пер..е, міл..ён.

**99.** Спішыце сказы, устаўляючы, дзе трэба, мяккі знак ці апостраф.

1. Аднак я тол..кі слізгануў па ім абыякавым позіркам і не з..вярнуў ніякай увагі — гэта ж бур..ян, пустазел..ле, был..нёг *(Я. Сіпакоў)*. 2. Тая с..цежка — малюсен..кі, танюсен..кі с..цяжок, нітка адной з сус..ветнай без..лічы дарог, якія апавуцін..ваюць нашу планету *(Я. Брыль)*. 3. Хораша людзі сказалі: л..е як з вядра *(Я. Сіпакоў)*. 4. Адляцелі з Жэлані салаў..і, з..ніклі крыніцы, упалі пад бул..дозерам вербы, а разам з усім пазбавіліся людзі прывабнага куточка зямлі *(В. Хліманаў)*. 5. На куп..і — журавіны, што тол..кі пачалі ружавец.. *(І. Пташнікаў)*. 6. Раз..вітанне з Піліпам Андрэевічам я знарок адклаў на апошнія дні, калі ў мяне ўжо не заставалася ніякіх тэрміновых спраў, звязаных з ад..ездам. У нас з ім была даўняя дружба, і я хацеў пад..ехаць да яго, пагаварыц.. каля вечаровага аган..ку *(У. Краўчанка)*.

**100.** Запішыце да слоў беларускія адпаведнікі, растлумачце правапіс.

Нарочь, надпись, объект, полынь, серьёзный, семья, пятьюдесятью семью, июньский, Григорьева, Арсеньев,

Кардильеры, Мольер, соловьи, сидишь, пьеса, восемьсот, объезд, барьер, почтальон, рельеф, сольфеджио, Сибирью, созвездие, Двина, Загорье, миллиард, Вьетнам, бильярд, верфь, восемь.

**101.** Прачытайце тэкст. Растлумачце напісанне (або адсутнасць) мяккага знака ці апострафа.

ПЕРШЫ ЛЕТНІ ЛІВЕНЬ

Увес.. дзен.. парыла. На тым беразе Дз..віны імчаліся грузавыя машыны па размяклым ад с..пякоты асфал..це, і тол..кі рэха даносіла запозненыя гукі, нібыта шыны адрываліся ад густа намазанай клеем шашы. Вецер зусім с..ціх, а з-за лесу пачала выпаўзац.. шэра-сіняя хмара, акаймаваная залатым абадком чэрвен..скага сонца.

Разамлелыя куры купаліся ў сыпкім пяску, а як тол..кі дзес..ці далёка завуркатаў глухі гром, пачалі збірац.. жоўцен..кіх куранят пад сваё густое пер..е.

Па шырокай Дз..віне заскакалі спорныя дажджынкі. Здавалася, хтос..ці нябачнаю рукою забівае міл..ёны шкляных ц..вікоў у шэрую роўнядз.. вады. Пачаўся першы летні лівен.. *(Паводле С. Грахоўскага).*

**102.** Запішыце прыказкі, устаўляючы, дзе трэба, мяккі знак ці апостраф. Растлумачце сэнс прыказак.

1. У вераб..я багатая сям..я: у кожнага верабейкі па тры капейкі. 2. Пан з панам б..ецца, а ў мужыка лоб трашчыц.. . 3. І печанае рэдз..кі з..ясі, калі выгаладаешся. 4. Свае б..юцца, а чужы не ўмешвайся. 5. Пяц.. пал..цаў на руцэ — і ўсіх шкода. 6. Розум не кулеш, у галаву не ўвал..еш. 7. Бачылі вочы, што бралі, а цяпер плач..це, хоць павылаз..це. 8. Мёд на стале — здароў..е ў доме. 9. На малацэ апарыўся, то і на халодную ваду дз..мухае. 10. У роднай староначцы птушкі пяюц.., а ў чужой староначцы часта слёзы л..юць.

## § 20. Правапіс вялікай і малой літар

З вялікай літары п і ш у ц ц а:

● прозвішчы, імёны, імёны па бацьку, псеўданімы, мянушкі, клічкі жывёл, птушак і інш.: *Іван Дамінікавіч Луцэвіч (Янка Купала), Дунін-Марцінкевіч, Вольга Іванаўна, Кірыла Тураўскі, сабака Тузік, папугай Гоша, карова Красуля*, а таксама прозвішчы, імёны ў множным ліку, калі яны выступаюць як назвы роду, групы асоб ці ўжываюцца ў значэнні агульнай назвы: *Міцкевічы, браты Гарэцкія, род Радзівілаў, бязродныя Іваны; Заслонавы* (**але:** *гарлахвацкія, кручковы,* калі перадаюць пагардлівыя, зневажальныя адносіны);

З а ў в а г а. Назвы нацыянальнасцей, плямён, а таксама словы, якія паказваюць на месца пражывання, пішуцца з малой літары: *грузіны, дрыгавічы, беларус, мінчанін*;

● геаграфічныя, дзяржаўныя, адміністрацыйна-тэрытарыяльныя і астранамічныя назвы (акрамя слоў з родавым значэннем *рака, горад, востраў, вуліца, плошча, вобласць, раён, зорка, мыс* і г. д.): *Гомель, Нёман, Новае Сяло, Аўстралія, Рэспубліка Беларусь, Венера, Балканскі паўвостраў, возера Нарач, Гомельская вобласць, Кастрычніцкая плошча, Дняпроўска-Бугскі канал, мыс Добрай Надзеі, Сібір*;

● назвы дзяржаўных органаў і іншых арганізацый:

а) усе словы ў найменнях вышэйшых органаў заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады: *Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўная Дума Федэральнага Сходу Расійскай Федэрацыі, Нацыянальны Кангрэс* (у ЗША);

б) першае слова ў найменнях рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання і іншых арганізацый: *Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі, Еўрапейскі саюз, Міжнародны алімпійскі камітэт, Мінскі абласны выканаўчы камітэт, Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі*;

в) простыя і састаўныя ўласныя назвы ў складзе ўласных найменняў дзяржаўных органаў і іншых арганізацый: *Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Парламенцкая асамблея Савета Еўропы, Міжнародны суд Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, Таварыства Чырвонага Крыжа*;

г) слова *Савет* у значэнні органа ўлады: *Мінскі абласны Савет дэпутатаў, сельскі Савет дэпутатаў* (**але:** *сельсавет*);

д) словы *Дом, Палац* у пачатку наймення ўстановы: *Дом культуры, Дом народнай творчасці, Палац спорту* (**але:** *Лядовы палац, дом адпачынку*);

● аднаслоўныя ўласныя назвы і першае слова ў састаўных назвах кніг, газет, часопісаў, устаноў, арганізацый, заводаў, караблёў, марак машын пішуцца з вялікай літары і бяруцца ў двукоссе: *часопіс «Бярозка», аўтамабіль «Масквіч», опера «Кастусь Каліноўскі», верш М. Багдановіча «Слуцкія ткачыхі», медыцынская служба «Хуткая дапамога», хлеб «Водар»*;

З а ў в а г а. Назвы саміх вырабаў, акрамя назваў, што супадаюць з асабовымі і геаграфічнымі назвамі, пішуцца ў двукоссі з малой літары: *«масквіч»*, *«вольва»*, *«боінг»*, *«гарызонт»* (тэлевізар); **але:** *«Мінск»* (халадзільнік), *«Волга»* (аўтамабіль);

● аднаслоўныя ўласныя назвы і першае слова ў састаўных назвах знамянальных падзей і дат, перыядаў і эпох, свят: *Адраджэнне, Варфаламееўская ноч, Лядовае пабоішча, Першая (Другая) сусветная вайна; Каляды, Новы год, Таццянін дзень, Дзень ведаў, Вялікая субота* (**але:** *грамадзянская вайна, імперыялістычная вайна, лютаўская рэвалюцыя, кайназойская эра, эпоха феадалізму, неаліт, залаты век, санітарны дзень*);

● словы або спалучэнні слоў, якія з'яўляюцца афіцыйнымі назвамі асобы на вышэйшых дзяржаўных і рэлігійных пасадах: *Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Старшыня Савета Міністраў, Галоўнакамандуючы Узброенымі Сіламі Рэспублікі Беларусь, Мітрапаліт Мін-*

*скі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, Папа Рымскі;*

З а ў в а г а. У неафіцыйным ужыванні словы *прэзідэнт*, *кароль*, *імператар* пішуцца з малой літары*: візіт прэзідэнта, прыём у каралевы*;

● найменні найвышэйшых божастваў (бостваў) у рэлігійных культах, асабовыя імёны заснавальнікаў рэлігійных вучэнняў, біблейскіх асоб, імёны легендарных і міфічных асоб, уласныя назвы казачных істот і герояў літаратурных твораў, назвы культавых кніг: *Бог, Алах, Уладыка Нябесны, Святая Троіца; Ісус Хрыстос, Буда, Святы Павел; Геркулес, Зеўс; Чырвоная Шапачка, Калабок, Каза-дзераза; Біблія, Каран;*

З а ў в а г а. З малой літары пішуцца словы *бог (господзь)* ва ўстойлівых выразах тыпу *бог (алах) яго ведае, дай божа, дзякаваць богу, алах з ім,* а таксама агульныя назвы ўяўных істот: *анёл, херувім, муза, лясун, гном, троль* і інш.;

● усе словы ў назвах дзяржаўных і нацыянальных, ваенных і культурных рэліквій: *Крыж Ефрасінні Полацкай, Помнік Перамогі, Курган Славы*;

● усе словы ў поўных назвах ордэнаў, медалёў (акрамя слоў *ордэн, медаль, ступень*): *ордэн Францыска Скарыны, ордэн Славы I ступені, ордэн Пашаны, Георгіеўскі Крыж* (**але:** *ордэн Дружбы народаў*);

● першае слова ў назвах дзяржаўных сімвалаў, прэмій, грамат, прызоў і інш.: *Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь, Нобелеўская прэмія, Кубак свету, Каралеўскі кубак*;

● прыметнікі ва ўласных назвах, калі яны паказваюць прыналежнасць (утвораны пры дапамозе суфіксаў ***-ев- (-ёв-, -ёў-), -ов- (-ав-, -оў-), -ін- (-ын-)*** ад уласных імён, мянушак, клічак жывёл) або ўваходзяць у склад сінанімічных назваў са словамі *імя, памяці*: *Танін сшытак, Купалава паэма, Барсікава міска; Коласаўская прэмія (прэмія імя Я. Коласа), Купалаўскі сквер (сквер імя Я. Купалы), Танкаўскія чытанні (чытанні, прысве-*

*чаныя памяці М. Танка)* **(але:** *коласаўскія мясціны, купалаўскія персанажы, нёманскія краявіды, сочынскія курорты*, а таксама прыметнікі, утвораныя ад асабовых назваў, якія ўжываюцца ў складзе ўстойлівых спалучэнняў або ў складзе састаўных агульных назваў: *гордзіеў вузел, ахілесава пята, дамоклаў меч, пірава перамога, напалеонаўскія планы, рэнтгенаўскі здымак, гегелеўская дыялектыка***).**

**103.** Прачытайце выразы. Растлумачце правапіс вялікай або малой літары.

Марыя Складоўская-Кюры, маёнтак Тышкевічаў, Міхасёвы прыгоды, Гарэцкія чытанні, пісулькіны і сёння жывуць сярод нас, бальзакаўскі ўзрост, Іаан Хрысціцель, Жыжаль, Пярун, Налібоцкая пушча, народы Поўначы, Давыд-Гарадок, Берынгаў праліў, Мінска-Маладзечанскае ўзвышша, Аб'яднаныя Арабскія Эміраты, туманнасць Конская Галава, зорка Венера, заліў Святога Лаўрэнція, Кароль Іарданіі, ордэн Маці, Крыж Ефрасінні Полацкай, медаль «Залатая Зорка» Героя Савецкага Саюза, Курган Бессмяротнасці, Супраціўленне, Рэфармацыя, месячнік дарожнай бяспекі, камедыя Янкі Купалы «Паўлінка», Ганаровая грамата Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**104.** Запішыце па пяць прыкладаў, якія абазначаюць:
1) геаграфічныя назвы;
2) назвы беларускіх газет і часопісаў;
3) назвы гістарычных эпох і падзей;
4) назвы ордэнаў, медалёў, нагрудных знакаў.

**105.** Складзіце сказы з прапанаванымі словамі. Абгрунтуйце іх напісанне.

Беларускі і беларускі, Дзень і дзень, Зорка і зорка, Мележаўскія і мележаўскія, Усход і ўсход, Савет і савет, Палац і палац.

**106.** Спішыце сказы, выбіраючы з дужак патрэбную літару.

1. Упершыню *(К/к)*упалаўскае і *(К/к)*оласаўскае слова пачуў я ў салдацкай чытальні *(С. Шушкевіч)*. 2. У час *(Д/д)*ругой *(С/с)*усветнай *(В/в)*айны *(К/к)*рыж *(Е/е)*фрасінні *(П/п)*олацкай кудысьці знік. Але абавязкова наступіць дзень, калі крыж вернецца на *(Б/б)*еларусь... *(У. Ягоўдзік)*. 3. На вуліцы, што збягае ад цэнтра *(К/к)*рошына да *(Ш/ш)*чары, месціцца каля дзесяці хат. Вось тут, на высокім беразе, стаяла калісьці хата *(П/п)*аўлюка *(Б/б)*агрыма. Шмат паданняў хадзіла і зараз ходзіць пра *(Б/б)*агрымава ўмельства *(Я. Пархута)*. 4. І тут на дапамогу *(П/п)*ольскаму каралю прыйшло нечаканае падмацаванне: гэта князь *(В/в)*ітаўт, сабраўшы свае *(Х/х)*аругвы, зноў павёў іх у бой. Не вытрымалі *(К/к)*рыжакі, пачалі адыходзіць *(А. Вольскі)*. 5. Ноччу *(А/а)*лена ўбачыла *(М/м)*аці *(Б/б)*ожую, якая схілілася над ёй, паклала далоні на яе гарачы лоб *(У. Арлоў)*. 6. Паведамлялі, што сыну прысвоена званне *(Г/г)*ероя *(С/с)*авецкага *(С/с)*аюза, гераічны подзвіг якога ніколі не забудзе наш народ *(М. Шыманскі)*.

**107.** Прачытайце, растлумачце выбар вялікай ці малой літары.

Шлях нашага народа пазначаны не толькі славутымі падзеямі, але і славутымі асобамі. Адной з такіх асоб з'яўляецца *(У/у)*сяслаў *(Ч/ч)*арадзей.

*(У/у)*сяслаў быў адным з першых князёў, пры якім *(П/п)*олацкае *(К/к)*няства заявіла пра сябе як самастойная дзяржава. Ён быў першым ва ўсёй *(У/у)*сходняй *(Е/е)*ўропе, хто адчуў перспектыўнасць і гістарычную неабходнасць развіцця адносна малых незалежных дзяржаў. *(У/у)*сяслаў умацоўваў межы свайго княства-дзяржавы, але не забываўся пра надзённыя патрэбы розных народаў, насельнікаў гэтай дзяржавы, — *(К/к)*рывічоў, *(Д/д)*рыгавічоў, *(Б/б)*алтаў. Пра *(П/п)*олацкага князя хадзілі легенды, паданні, быліны, пісаў аб ім і аўтар «*(С/с)*лова пра паход *(І/і)*гараў».

Зразумела, не ўсё жыццё *(У/у)*сяслава *(П/п)*олацкага было бездакорным, бо жыў ён у супярэчлівы і гераічны час. Але ніколі *(У/у)*сяслаў не здраджваў сваёй *(Р/р)*адзіме — *(П/п)*олацкаму *(К/к)*няству, да яе вяртаўся з самых далёкіх вандровак і паходаў *(Паводле К. Тарасава)*.

Дайце тэксту загаловак, які перадаваў бы яго тэму. Перакажыце тэкст.

**108.** Устанавіце адпаведнасць паміж датамі і дзяржаўнымі святамі, святочнымі і памятнымі днямі. Запішыце, раскрываючы дужкі.

а) 15 сакавіка
б) 9 мая
в) 3 ліпеня
г) 23 лютага
д) 1 мая
е) 9-ы дзень пасля праваслаўнага *(В/в)*ялікадня
ж) 15 лютага
з) 25 студзеня

1) *(Д/д)*зень *(П/п)*ерамогі
2) *(Д/д)*зень *(К/к)*анстытуцыі *(Р/р)*эспублікі *(Б/б)*еларусь
3) *(Р/р)*адаўніца
4) Таццянін *(Д/д)*зень
5) *(Д/д)*зень *(А/а)*баронцаў *(А/а)*йчыны і *(У/ў)*зброеных *(С/с)*іл *(Р/р)*эспублікі *(Б/б)*еларусь
6) *(С/с)*вята *(П/п)*рацы
7) *(Д/д)*зень *(Н/н)*езалежнасці *(Р/р)*эспублікі *(Б/б)*еларусь
8) *(Д/д)*зень памяці воінаў-інтэрнацыяналістаў

## § 21. Агульныя правілы напісання слоў разам, праз злучок і асобна

Пішуцца р а з а м:

● складаныя словы з першай іншамоўнай часткай ***аэра-, аўта-, авія-, фота-, мота-, вела-, агра-, метэа-, гідра-, сацыя-, спарт-, стэрэа-, неа-*** і інш.: *аэраклуб, аўтасалон, авіябілет, велагонка, метэаслужба, гідрастанцыя*; а таксама з прыстаўкамі і падобнымі да іх пачатковымі часткамі: ***а-, анты-, архі-, гіпер-, дэз-, дыс-, інфра-, звыш-, інтэр-, контр-, супер-, між-, паст-,***

***псеўда-, ультра-*** і інш.: *алагізм, антыгуманны, супермаркет, архіважны, дэзактывацыя, контрагент* (**але:** *контр-адмірал*), *ультрагук, пастфактум, супервокладка, псеўданавуковы, інфрачырвоны*;

● складаныя назоўнікі, утвораныя пры дапамозе злучальных галосных: *льн**о**завод, дал**я**гляд, земл**е**трасенне, хлеб**а**пякарня, чарн**а**зём* і інш.;

● назоўнікі з дзеяслоўнай часткай на ***-і (-ы)****: сарвігалава, вярнідуб, пакацігарошак* і інш. (**але:** *перакаціполе, узвей-вецер*);

● словы са скарочанай пачатковай часткай ***поў- (паў-)***: *паўгоддзе, паўчвэрці, паўсвету* (**але** з уласнымі назвамі: *паў-Мінска, паў-Камароўкі*);

● складаныя прыметнікі, якія суадносяцца:

а) са складанымі назоўнікамі, што пішуцца разам: *вадаправодны (вадаправод), іншаземны (іншаземец)*;

б) са словазлучэннямі, у якіх адно слова падпарадкавана другому: *агульнаадукацыйны (агульная адукацыя), дрэваапрацоўчы (апрацоўваць дрэва), шматразовы (шмат разоў), усеагульны (агульны для ўсіх)*;

в) са спалучэннямі прыслоўя і прыметніка, прыслоўя і дзеепрыметніка, калі яны абазначаюць адно паняцце: *вечназялёны, густанаселены* і г. д.;

З а ў в а г а. Захоўваюць сваю лексічную самастойнасць перад прыметнікамі і дзеепрыметнікамі прыслоўі, якія ўтварыліся ад адносных прыметнікаў: *асабліва адказны, кепска ўзараны, усенародна абраны, своечасова прыняты, адносна спакойны, матэрыяльна зацікаўлены* і інш.;

● складаныя лічэбнікі з літарным напісаннем кожнай часткі: *шэсцьдзясят, дзвесце*; *пяцідзясяты, трохсоты, двухсотпяцідзесяцімільённы* і г. д.; **але** састаўныя лічэбнікі, у тым ліку абазначэнні цэлых і дробавых лікаў, пішуцца асобна: *сто трыццаць сем, дваццаць пяты; тры шостыя* і г. д.;

● прыслоўі, утвораныя шляхам спалучэння прыназоўнікаў з іншымі часцінамі мовы: *удвая, дабяла, зда-*

*лёку, надоўга, урассыпную, бесперастанку, наўздагон, паблізу, дадому, уверсе, спачатку, таксама, штогод* і інш.

З а ў в а г а. Асобна пішуцца спалучэнні назоўніка з прыназоўнікам, калі пры назоўніку ёсць паясняльнае слова: *з самага ранку, на мой век, з верху дрэва, на векі вечныя,* а таксама спалучэнні *без канца, без аглядкі, на памяць, на вока, на хаду, пад паху, у абрэз, у адкрытую* і інш.;

- прыназоўнікі, якія паходзяць ад прыслоўяў: *насустрач, уперадзе, зверху, унізе, услед (услед за бацькам)*;
- злучнікі, якія з’яўляюцца вынікам зліцця прыназоўніка з займеннікам ці словамі *колькі, столькі: затое, прычым, прытым, паколькі, пастолькі*, **але** словазлучэнні прыназоўнікаў з адпаведнымі займеннікамі ці неазначальна-колькаснымі словамі пішуцца асобна: *паволі рабіў, **затое** грунтоўна — **за што** ўзяў, **за тое** і аддаў*;
- займеннікі і прыслоўі з постфіксамі ***-сь, -сьці, -ся***: *дзесь, хтось, дзесьці, хтосьці, кудысьці, чымся.*

**109.** Запішыце, раскрыўшы дужкі, тыя словы, якія пішуцца разам.

*(Філ)*фак, *(лёгка)*лёгка, *(тады)*сяды, *(з)*нізу хаты, час *(ад)* часу, *(што)*сьці, *(насцен)*газета, *(праф)*саюз, *(100)*кілаграмовы, *(высока)*адукаваны, *(чатырох)*соты, *(шэсць)*сотых, *(у)*дзень свята, *(анты)*гуманны, *(без)*канца, *(сямі)*бальны, *(інша)*моўны, *(звыш)*магутны, *(контр)*адмірал, *(народна)*гаспадарчы, *(пасля)*ваенны, *(перакаці)*поле, *(паў)*Слуцка, падрыхтавацца *(з)*вечара; *(па)*колькі купіў, *(па)*столькі і прадаў.

Пішуцца п р а з з л у ч о к:

- словы, утвораныя спалучэннем двух аднолькавых, блізкіх або супрацьлеглых па значэнні слоў: *сіні-сіні, ледзь-ледзь, мама-мамуся, як-ніяк, раз-пораз; шум-гам, хлеб-соль, шыта-крыта, больш-менш, жыў-быў* (**але:** *з во-*

*ка на вока, дзень у дзень, праца працай, раз за разам* і інш.);

● складаныя словы, першай або апошняй часткай якіх з'яўляюцца лічбы любога злічэння, літары ці літарныя абрэвіятуры любога алфавіта: *80-годдзе, XX-вяковы, α-часцінка* (альфа-часцінка), *П-падобны, МАЗ-60*;

● складаныя назоўнікі:

а) утвораныя з дзвюх і больш асноў, якія спалучаюцца без злучальных галосных, а таксама назоўнікі з прыдаткам: *лён-даўгунец, жар-птушка, сон-трава, генерал-маёр, прэм'ер-міністр, норд-ост*;

б) са значэннем цэласнай адзінкі вымярэння: *кілават-гадзіна, самалёта-вылет, чалавека-дзень* (**але:** *працадзень*);

в) з пачатковай часткай ***віцэ-, лейб-, максі-, міні-, обер-, унтэр-, штаб- (штабс-), экс-***: *віцэ-прэм'ер, мініматч, обер-майстар, унтэр-афіцэр, экс-чэмпіён*;

г) якія абазначаюць састаўныя імёны, прозвішчы, уласныя геаграфічныя назвы: *Дунін-Марцінкевіч, Давыд-Гарадок; Растоў-на-Доне, Асман-паша; Камянец-Падольскі*;

● складаныя прыметнікі:

а) утвораныя ад складаных назоўнікаў, якія пішуцца праз злучок: *генерал-губернатарскі (генерал-губернатар), санкт-пецярбургскі* і інш.;

б) з дзвюх і больш асноў, якія абазначаюць раўнапраўныя паняцці: *беларуска-ўкраінска-рускі; электронна-вылічальны, мяса-малочны*;

в) якія абазначаюць асаблівасці ці адценні разнароднай якасці: *кісла-салодкі, жоўта-зялёны*;

г) з першай часткай *усходне-, заходне-, паўднёва-, паўночна-, цэнтральна-*, якая абазначае напрамкі свету ў іх спалучэнні: *Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка, паўночна-заходні*;

● лічэбнікі, якія абазначаюць прыблізны лік, або ў якіх першая частка напісана лічбамі, а другая — літарамі: *восем-дзесяць гадоў, 2—3 гады*; *25-ы, на 10-м кіламетры, 30-га верасня, 10-мільённы, 18-мільярдны*;

● прыслоўі, якія складаюцца з пачатковай часткі ***па-*** і наступнай часткі на канцавое ***-ку, -і (-ы), -аму (-яму), -ому (-ему), -йму:*** *па-беларуску, па-латыні, па-чалавечы, па-мойму*; а таксама словы *па-першае, па-трэцяе* і г. д.;

● складаныя прыназоўнікі ***з-за, з-пад, з-над, з-паміж, па-за, па-над***;

● складаныя выклічнікі і гукапераймальныя словы: ***о-го-го, вой-вой-вой, о-ё-ёй, а-я-яй, ха-ха-ха, дзын-дзын-дзын, ку-ку, уга-уга*** і г. д.;

● словы з прыстаўкай ***абы-*** і постфіксамі ***-небудзь, -колечы (-кольвечы, -кольвек), -то***: *абы-хто, як-небудзь, як-колечы, сказаць-то сказаў*;

● часціца ***-такі*** пішацца праз злучок, калі яна стаіць пасля дзеяслова: *прыйшоў-такі*, а таксама ў словах *усё-такі, так-такі, зноў-такі, даволі-такі.*

**ЗАПОМНІЦЕ!**

Займеннікі ***абы-хто, абы-што, абы-які*** пры спалучэнні з прыназоўнікамі пішуцца ў тры асобныя словы: *абы ў каго, абы да каго, абы з чым* (**або:** *у абы-каго, з абы-якім*). Словы, вытворныя ад прыслоўя ***абы-як***, з прэфіксам ***абы-*** пішуцца разам: *абыякавы, абыякавасць* і пад.

Пішуцца а с о б н а:

● словы ў састаўных злучніках ***таму што, так што, хіба што, як толькі, як быццам, перш чым, гэта значыць***; а таксама ў словазлучэннях, якія ўжываюцца ў ролі пабочных слоў ***можа быць, такім чынам*** і пад.;

● часціцы, у тым ліку ***бы (б), жа (ж)***: *як грымнуў, амаль кожны, прыйшоў бы, казаў жа, чаму ж*, а таксама ***што*** ў такіх спалучэннях, як *пакуль што, амаль што, толькі што, сама што, хіба што* і пад.;

● спалучэнні ***без дай прычыны, усё адно, усё роўна*** (**але:** *якраз*);

● спалучэнні назоўнікаў з прыназоўнікамі ***з, без, на, да***: *з размаху, без памяці, да адвалу, на хаду, на ляту*;

● спалучэнні адмоўя ***не, ні*** з прыназоўнікамі і назоўнікамі: *не ў пару, не ў час, не для смеху*;

● спалучэнні прыназоўніка ***у*** з назоўнікам, які пачынаецца з галоснага: *у абрэз, у адзіночку, у абдымку, у абхват*.

**110.** Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі. Растлумачце напісанне слоў разам, праз злучок ці асобна.

1. *(Дзе)*нідзе тол..кі віднеліся на гэтай н..абсяжнай зялёнай роўнядзі асобныя купкі *(бела)*ногіх б..розак, якія стаялі мясцінамі, як тыя дз..ўчаты ў карагодзе *(П. Броўка)*. 2. Настаў снежань. У садзе стала *(бела)*бела. Тол..кі *(сяды)*тады наведваліся сойкі, ды і тыя до..га не трымаліся *(З. Бяспалы)*. 3. Напалеон Орда становіцца *(мастаком)*вандроўнікам, аб..ездзіў амаль *(паў)*Еўропы, кожны раз прывозячы з падаро..аў сотні малюнкаў, аквар..ляў... *(Л. Пракопчык)*. 4. Дзень стаяў ціхі, *(па)*асенняму цёплы і *(па)*летняму празрысты — такія дні ў верасні бываюць даволі часта *(В. Хомчанка)*. 5. Але *(ўсё)*роўна сонца *(з)*за лесу ў..ыходзіла і *(за)*лес заходзіла *(І. Навуменка)*. 6. Неба др..гацела час*(ад)*часу, асвятляючыся бл..скавіцамі ад далёкага магутнага грому *(Я. Колас)*. 7. Больш за *(паў)*века хвалюе людзей гэта зага..ка *(К. Тарасаў)*. 8. Дзік то ў адным, то ў другім месцы выбіраў *(як)*раз тыя куточкі, дзе лепей за ўсё раслі баравікі і падасінавікі *(З. Бяспалы)*. 9. Прыходзілі рыфмы і тут*(ж/жа)* б..сследна знікалі *(А. Асіпенка)*.

**111.** Утварыце ад прыведзеных колькасна-іменных словазлучэнняў складаныя прыметнікі.

Узор: *5 кіламетраў — 5-кіламетровы, пяцікіламетровы.*

3 гады, 5 тон, 35 кілаграмаў, 82 гады, 37 працэнтаў, 150 гадоў, 2 бакі, 92 дні, 4 тыдні, 5 месяцаў, 76 гадоў, 300 вякоў.

**112.** Спішыце афарызмы, раскрываючы дужкі. Растлумачце іх сэнс.

1. Ды калі ты не бязродны сын — гавары са мной *(па)*беларуску *(Я. Янішчыц)*. 2. Жыві, шукай, усё рабі *(як)*след, каб на Радзіме твой свяціўся след *(С. Грахоўскі)*. 3. Усе шляхі вядуць *(да)*хаты, выток шануючы *(с)*прад*(?)*век *(У. Мазго)*. 4. Жыццё *(за)*ўжды — іспыт на мужнасць. Яе *(ж)* не возьмеш *(на)*пракат *(Н. Мацяш)*. 5. Быць беларусам — гэта значыць за родны край згараць *(на)*дым, *(па)*беларуску чуць і бачыць *(на)*гэтым свеце і *(на)*тым *(Р. Барадулін)*.

**113.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову.

Вскоре долгожданная Масленица подкатила, настоящая, сибирская: с блинами, пельменями, жаренной в сметане рыбой, вся в бубенцах, в гривастых тройках, с кострами, песнями.

Дня за три-четыре целая орава ребятишек на широкой площади ладила «город» — очень высокий вал из снега, по гребню там-сям ёлочки утыканы. В «прощёное» воскресенье удальцы на конях «город» будут брать.

«Прощёное» воскресенье началось честь честью: православные к обедне повалили. Даже трезвон колоколов точно весёлый пляс. «Четверть блина, четверть блина!» — задорно подбоченивались, выплясывали маленькие колокола. «Полблина, полблина!» — приставали медногорлые середняки. И основательно, не торопясь, бухал трехсотпудовый дядя: «Блин!» *(По В. Шишкову)*.

**Слоўнік**

бубенец — ***бразготка***;
орава ребятишек — ***чарада дзяцей***;
«прощёное» воскресенье — ***«дараваная» нядзеля***;
честь честью — ***як мае быць***;
трезвон (колоколов) — ***перазвон***;
пляс — ***скокі***;
задорно — ***з запалам, заўзята***;

подбочениваться — ***брацца ў бокі***;
выплясывать — ***вытанцоўваць, скакаць***;
основательно — ***моцна***.

Растлумачце правапіс слоў разам і праз злучок.

● Чаму перазвон параўноўваецца ў тэксце з гучаннем слова *блін*?

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Якія напісанні заснаваны на фанетычным прынцыпе? Прывядзіце прыклады.
2. Якія напісанні заснаваны на марфалагічным прынцыпе? Прывядзіце прыклады.
3. У чым заключаюцца законы акання, якання, дзекання, цекання ў беларускай мове? Прывядзіце прыклады.
4. Да якога прынцыпу напісання адносяцца выключэнні з правілаў?
5. Раскажыце аб правілах напісання змякчальнага і раздзяляльнага мяккага знака.
6. Калі ў беларускай мове пішацца апостраф?
7. Раскажыце аб правілах ужывання і напісання малой і вялікай літар. Прывядзіце прыклады.
8. Раскажыце пра агульныя правілы напісання слоў разам, праз злучок і асобна.

## ЗАДАННІ НА ПАДАГУЛЬНЕННЕ

*Выпішыце:*

*а) словы, у якіх літара* ***е*** *абазначае два гукі:*
дзеці, несці, заехаць, ельнік, кальє;

*б) спалучэнні слоў, у якіх злучнік* ***і*** *вымаўляецца як* [ы]:
1) настаўнік і вучні;
2) месяц і зоркі;
3) футра і боты;
4) раман і аповесць;
5) смех і слёзы;

*в) словы, у якіх спалучэнне літар* ***дж*** *абазначае два гукі:*
паджылкі, аджыць, агароджа, гараджанін, саджанец;

*г) словы, у якіх колькасць гукаў і літар не супадае:*
падземны, хтосьці, дзядзька, алея, чытаюць;

*д) словы з фанетычным падаўжэннем зычных:*

калоссе, падаконнік, пытанне, мышшу, ссохнуць;

*е) словы, у якіх пры перакладзе на беларускую мову адбываецца дзеканне:*

дедерон, индеец, две, бандероль, дивизия;

*ж) словазлучэнні, у якіх пры ўтварэнні патрэбнай формы назоўніка адбываецца чаргаванне зычных гукаў* [г]//[з’], [к]//[ц], [х]//[с’]:

1) дзякаваць (сяброўка);
2) на нашай (страха);
3) ад правага (бераг);
4) загадчык (бібліятэка);
5) зварыў на (малако);

*з) словы з прыстаўным зычным гукам:*

вобла, водсвет, войска, вобласць, вохра;

*і) словы, у якіх замест пропуску пішацца літара* ***ы****:*

інж..нер, ябл..кі, Ж..нева, др..жаць, вет..ран;

*к) словы, у якіх пішацца літара* ***ў*** *(у нескладовае);*

ша..капрад, а..дыторыя, кантрольна-..ліковы, да ..ладзіслава, рады..с;

*л) словы, якія пішуцца разам:*

*(бое)*галоўка, *(паў)*Масквы, *(дзе)*нідзе, думаў*(такі)*, *(шасці)*значны;

*м) словы, у якіх пішацца апостраф:*

аб..інелы, саф..ян, нал..е, салаў..іны, вел..вет;

*н) слова з падваеннем зычных:*

ураганны, снеданне, пустазелле, ладдзя, палоззе.

*Выпішыце з тэксту:*

*а) словы, у якіх 4 літары, 5 гукаў;*

*б) слова, у якім пры вымаўленні адбываецца азванчэнне зычнага гука;*

*в) слова, у якім спалучэнне літар* ***дз*** *абазначае два гукі.*

З нагоды нараджэння дзіцяці сям’я адзначала радзіны. Гэты абрад, які суправаджаўся рознымі песнямі, вядзе сваю гісторыю з глыбокай старажытнасці. Царква звязала з ім абрад хрышчэння дзіцяці, таму радзіны атрымалі яшчэ адну назву — хрэсьбіны *(Паводле А. Лакоткі, С. Барыса)*.

# МАРФАЛАГІЧНЫЯ НОРМЫ

Марфалагічныя нормы вызначаюць ужыванне слова ў словазлучэннях і сказах у адпаведнасці з уласцівымі яму граматычнымі катэгорыямі, правільнае ўтварэнне формаў слова.

Парушэнне марфалагічных нормаў прыводзіць да граматычных памылак.

## Нормы ўжывання назоўнікаў

### § 22. Адушаўлёныя і неадушаўлёныя назоўнікі

**114.** Карыстаючыся табліцамі, успомніце, на аснове чаго адбываецца размежаванне назоўнікаў на адушаўлёныя і неадушаўлёныя. Што абазначаюць адушаўлёныя назоўнікі, што — неадушаўлёныя? Ці можна іх адрозніць граматычна? Ці заўсёды граматычнае паняцце «адушаўлёнасць—неадушаўлёнасць» супадае з біялагічным паняццем «жывое—нежывое»?

**Адушаўлёныя назоўнікі**

| Лексічныя паказчыкі | Граматычныя паказчыкі |
|---|---|
| Абазначаюць:<br>а) назвы жывых істот: *чалавек, воўк, верабей, карась, авадзень*;<br>б) назвы міфалагічных істот: *лясун, русалка, гном*;<br>в) назвы цацак, механізмаў, падобных да чалавека: *лялька, робат*;<br>г) назвы шахматных фігур, карт: *ферзь, слон, валет*;<br>д) нежывых людзей: *тапелец, нябожчык*;<br>е) назвы некаторых страў: *шчупак, карп* | Форма вінавальнага склону множнага ліку супадае з формай роднага склону множнага ліку: *бачу сяброў, будаўнікоў* (В. скл., мн. лік) — *няма сяброў, будаўнікоў* (Р. скл., мн. лік).<br>У назоўнікаў мужчынскага роду (акрамя назоўнікаў на ***-а, -я***) форма вінавальнага склону супадае з формай роднага склону і ў адзіночным ліку: *бачу сябра — не было сябра* |

**Неадушаўлёныя назоўнікі**

| Лексічныя паказчыкі | Граматычныя паказчыкі |
|---|---|
| Абазначаюць:<br>а) назвы прадметаў нежывой прыроды, з'яў і падзей рэчаіснасці: *дом, стол, навальніца, сустрэча*;<br>б) назвы раслін: *клён, ружа*;<br>в) сукупнасць жывых істот: *натоўп, армія*;<br>г) назвы мікраарганізмаў: *бактэрыя, бацыла* | Форма вінавальнага склону множнага ліку супадае з формай назоўнага склону множнага ліку: *бачу кнігі, ручкі* (В. скл., мн. лік) — *ляжаць кнігі, ручкі* (Н. скл., мн. лік).<br>У назоўнікаў мужчынскага роду форма вінавальнага склону супадае з формай назоўнага склону і ў адзіночным ліку: *бачу дом — будуецца дом* |

**115.** Прачытайце назоўнікі і вызначце, якія з іх адушаўлёныя, якія — неадушаўлёныя. З выдзеленымі словамі ўтварыце словазлучэнні, ставячы назоўнікі ў форме вінавальнага склону.

**Падбярозавік**, батальён, **матыль**, рой, чорт, сініца, **вірус**, кентаўр, **судак** (страва), сом, **табун**, гном, **туз**, мядзведзь (цацка), ведзьма, **адрасат**, **ферзь**, дракон, **мікроб**, кароль (назва карты), статуя, **язык** (палонны), **рамонак**.

**116.** Раскрыйце дужкі, выбіраючы форму слова ў адпаведнасці з марфалагічнымі нормамі. Абгрунтуйце свой выбар.

1. Убачыць *(цягнік/цягніка)* мне давялося толькі ў васьмігадовым узросце. 2. Спачатку хлопчык даглядаў *(гусі/гусей)*, затым, калі падрос, пасвіў *(каровы/кароў)*. 3. Заўважыць *(баравік/баравіка)* у такім густым верасе было вельмі цяжка. 4. Калі з'явіліся сучасныя мікраскопы, вывучаць *(бактэрыі/бактэрый)* стала прасцей. 5. Страціўшы *(слон/слана)*, Алег вымушаны быў пабіць *(конь/каня)* ладдзёй. 6. Князь загадаў запрэгчы ў сані *(мядзведзі/мядзведзяў)* і пакатаць *(госці/гасцей)*. 7. Кожнае пісьмо павінна знайсці *(свой адрасат/свайго адрасата)*.

**117.** Знайдзіце ў сказах граматычныя памылкі, абумоўленыя парушэннем марфалагічных нормаў. Адрэдагуйце сказы.

1. У канцы жніўня і ў пачатку верасня дзед збіраў падасінавікаў і баравікоў. 2. Шафёр паставіў свайго грузавіка на стаянку. 3. У сувенірным кіёску госці з задавальненнем куплялі матрошкі. 4. У гэтым рыбгасе разводзяць карпы, шчупакі і стронгі. 5. Шукаючы лічынак розных насякомых, сініца ўважліва аглядала на грушы кожную галінку. 6. З наступленнем лета пастухі пераганялі атараў у горы.

## § 23. Род назоўнікаў

**118.** Запішыце словазлучэнні, дапісваючы канчаткі прыметнікаў у адпаведнасці з родам назоўнікаў. Параўнайце род назоўнікаў у беларускай і рускай мовах.

Бел.. вуаль, упэўнен.. поступ, прыгож.. подпіс, дзік.. гусь, паляўніч.. сабака, няправільн.. дроб, салдацк.. шынель, зубн.. боль, акуратн.. запіс, доўг.. цень, беларуск.. жывапіс, залат.. медаль, турэцк.. цюль, яўн.. фальш, балюч.. мазоль, усеагульн.. перапіс, дарожн.. пыл.

**119.** Запішыце словазлучэнні па-беларуску. Абазначце род назоўнікаў.

Женская туфля, левая тапка, молотый цикорий, вкусное яблоко, сухой пар, расцветшая валерьяна, старый комод, полосатый котёнок, трудная жатва, узкая бровь, высокий тополь, красивый шкаф, молодой жираф.

**120.** Прачытайце сказы. Знайдзіце граматычныя памылкі, абумоўленыя няправільным вызначэннем роду назоўнікаў. Выпраўце памылкі.

1. Была ўжо ноч, калі яны падаліся ў самы глыб лесу. 2. Праз заліты светам бор праходзіць жоўтая насып чы-

гункі. 3. Пахне ў хаце лугавой рамонкай. 4. Я слухаю, як салавей свой трэль вядзе. 5. На траве ляжала бліскучая россып вадзяных кропель.

Назоўнікі, якія называюць **асоб паводле іх прафесійнай дзейнасці, роду заняткаў** і маюць нулявы канчатак, з'яўляюцца назоўнікамі **мужчынскага роду**: *прафесар, дырэктар, біёлаг, хірург, лектар* і інш.

Азначэнні, што дапасуюцца да такіх назоўнікаў, ужываюцца ў мужчынскім родзе пры абазначэнні асоб і мужчынскага, і жаночага полу: *Пацыентаў прымае малады хірург Пятроўскі. — Сёння працуе малады хірург Пятроўская.*

Калі такія назоўнікі ўжываюцца з асабовымі імёнамі, род дзеясловаў-выказнікаў у прошлым часе залежыць ад роду асабовага назоўніка, які з'яўляецца дзейнікам: *Выступаў новы лектар Віктар Разумоўскі. — Выступала новы лектар Алена Разумоўская.*

У мастацкім, публіцыстычным і гутарковым стылях для абазначэння асоб паводле прафесіі і пасады дастаткова часта ўжываюцца назоўнікі жаночага роду, утвораныя суфіксальным спосабам ад назоўнікаў мужчынскага роду: *лабарантка, дыпламантка, дырэктрыса* і інш., але большасць такіх слоў у тлумачальных слоўніках беларускай мовы адзначана паметай *разм.* (размоўнае).

**121.** Спішыце сказы, дапісваючы патрэбныя канчаткі прыметнікаў і ставячы дзеясловы-выказнікі ў форме прошлага часу.

1. Вопытн.. прадавец Ірына хутка і прыгожа *(запакаваць)* куплены сувенір[м]. 2. Песню «Белавежская пушча» *(напісаць)* папулярн.. кампазітар Аляксандра Пахмутава. 3. Наш.. канструктар Мікалай Стахаў *(завяршыць)* працу над праектам. 4. Таленавіт.. дызайнер Наталля Лобач прыгожа *(афарміць)* фае[м]. 5. Галіна Мікалаеўна — цудоўн.. педагог. 6. З паведамленнем *(выступіць)* галоўн.. інспектар[м] Ганна Стасава.

**122.** Ад назоўнікаў мужчынскага роду ўтварыце, калі магчыма, адпаведныя назоўнікі жаночага роду. У якіх стылях маўлення ўжываюцца гэтыя назоўнікі жаночага роду?

Акадэмік, аграном, выкладчык, механік, касір, дэпутат, журналіст, рэдактар, кандуктар, паэт, трэнер, піяніст, саліст, студэнт.

Назоўнікі **агульнага роду**, якія ў залежнасці ад ужывання могуць абазначаць асоб ці мужчынскага, ці жаночага полу, у пэўным кантэксце з'яўляюцца назоўнікамі ці мужчынскага, ці жаночага роду: *такі чысцёха Сяргей — такая чысцёха Маша, з чысцёхам Сяргеем — з чысцёхай Машай*.

**123.** Прачытайце сказы і знайдзіце назоўнікі, пры ўжыванні якіх былі парушаны марфалагічныя нормы. Выпраўце памылкі.

1. Стары садоўнік стаў сведкай забаўнай гісторыі. 2. Антон дапамог сябру Сашы Пятрову рашыць складаную задачу. 3. Гаспадар маёнтка быў добрай пранырай. 4. «Андрэй, ты не маеш права зараз быць няўмекаю», — цвёрда сказаў старшыня. 5. Мікола прыйшоў са сваім сябрай Жэняй. 6. Пасля такога здарэння маленькаму Шурцы было не да смеху. 7. Амаль год Пеця быў ротным запявалай.

Каб правільна вызначаць **род нескланяльных назоўнікаў** і не памыляцца пры іх ужыванні, трэба ведаць лексічнае значэнне слова.

**Назвы асоб мужчынскага полу** адносяцца да мужчынскага роду, **асоб жаночага полу** — да жаночага роду: *ваенны аташэ, гэты парцье, прыгожая ледзі, маладая пані*.

**Назвы жывых істот** з'яўляюцца, як правіла, назоўнікамі мужчынскага роду: *малады кенгуру, маленькі шымпанзэ*. В ы к л ю ч э н н і: *цэцэ* (муха), *івасі* (рыба) і інш. — ж. р.

**Неадушаўлёныя назоўнікі** з'яўляюцца назоўнікамі ніякага роду: *новае атэлье, светлае фае*. В ы к л ю ч э н н і: *салямі* (каўбаса) — ж. р., *авеню* (вуліца) — ж. р., *сулугуні* (сыр) — м. р., *кальрабі* (капуста) — ж. р., *сірока* (вецер) — м. р., *еўра* — м. р. і інш.

Род нескланяльных **геаграфічных назваў** вызначаецца па родзе агульнага назоўніка, якім можна замяніць уласную назву: *Тбілісі* (горад) — м. р., *Гаіці* (краіна) — ж. р., *Эры* (возера) — н. р.

Род **нескланяльных абрэвіятур** вызначаецца, як правіла, па апорным слове: *БДУ (Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт)* — м. р., *СП (сумеснае прадпрыемства)* — н. р.

З а ў в а г а. Род скланяльных абрэвіятур вызначаецца па характары асновы і канчатку назоўнага склону адзіночнага ліку: *ЛіМ (у ЛіМе)* — м. р.

**124.** З наступнымі назоўнікамі складзіце і запішыце словазлучэнні, дапасоўваючы да назоўнікаў прыметнікі ў форме назоўнага склону адзіночнага ліку.

Авеню, канферансье, амплуа, парцье, алібі, івасі, кашпо, еўра, імпрэсарыа, табу, кальрабі, пані, салямі, рэзюмэ, сулугуні, кашнэ, ледзі, какава, пенальці, тарнада, круп'е, эскімо, камюніке.

**125.** Размяркуйце наступныя ўласныя назоўнікі на групы ў адпаведнасці з тым, які геаграфічны аб'ект (краіна, горад, рака, возера, востраў, гара, пустыня) яны абазначаюць, вызначце род назоўнікаў.

Ай-Петры, Антарыа, Палерма, Калахары, Замбезі, Мак-Кінлі, Місуры, Гобі, Нікарагуа, Янцзы, Сулавесі, Эры, Малі, Сухумі, Хансю, Марока, Тарту, Трыпалі, Сан-Францыска.

**126.** З наступнымі складанаскарочанымі словамі пабудуйце словазлучэнні ці складзіце сказы так, каб па дзеяслове ці прыметніку можна было вызначыць род абрэвіятур.

ДАІ, АЭС, БНТУ, НАН, ЕЭС, ВНУ, АПК, НХЛ, МВФ, ФПБ, СНД, ДК, НПЗ, КДБ, ТБМ.

**Род неадушаўлёных складаных назоўнікаў, якія пішуцца праз злучок**, звычайна вызначаецца:

а) па першай частцы, калі змяняюцца дзве часткі: *краіна-імпарцёр (краіне-імпарцёру)* — ж. р., *танец-гульня (у танцы-гульні)* — м. р.;

б) па зменнай частцы, калі адна з частак не змяняецца: *кафэ-рэстаран* — м. р., *бэта-выпраменьванне* — н. р., *альфа-нейрон* — м. р.

З а ў в а г а. У ролі нязменнай часткі могуць выступаць назоўнікі, якія змяняюцца: *вакуум-камера (вакуум-камеры), плашч-палатка (плашч-палаткай)*. Зменнасць-нязменнасць адной з частак такіх складаных назоўнікаў неабходна запамінаць ці ўдакладняць па слоўніку.

**127.** Спішыце словы, падкрэсліваючы тую частку, па якой вызначаецца іх род. У дужках укажыце род назоўнікаў.

Школа-інтэрнат, раман-споведзь, салон-атэлье, салон-цырульня, бэта-часціца, альфа-поле, дача-музей, музей-кватэра, самалёт-амфібія, сукенка-касцюм, машына-аўтамат, гама-спектрометр, тэатр-студыя.

**128.** З наступнымі назоўнікамі пабудуйце і запішыце словазлучэнні, выкарыстоўваючы ў якасці залежнага слова прыметнікі, займеннікі і парадкавыя лічэбнікі ў форме назоўнага склону адзіночнага ліку.

Ракета-носьбіт, тона-кіламетр, кафэ-сталовая, прыцэп-цыстэрна, плашч-накідка, кілават-гадзіна, танец-гульня, малюнак-ілюстрацыя, грам-малекула, вагон-цыстэрна, папка-дасье, самалёт-лабараторыя.

## § 24. Лік назоўнікаў

**129.** Карыстаючыся табліцамі, зрабіце паведамленне на тэму «Лік назоўнікаў».

### Адзіночны і множны лік

| Назоўнікі | Прыклады | Заўвага |
|---|---|---|
| Абазначаюць прадметы, якія паддаюцца лічэнню | *дом*□ — *дам*[*ы*], *хвал*[*я*] — *хвал*[*і*], *думк*[*а*] — *думк*[*і*], *акн*[*о*] — *вокн*[*ы*], *селянін*□ — *сялян*[*е*], *чалавек*□ — *людз*[*і*] | У нескланяльных назоўніках лік вызначаецца сінтаксічна, напрыклад па форме дзеяслова-выказніка ці дапасаванага азначэння: *прыехала таксі* (адз. лік) — *прыехалі таксі* (мн. лік), *утульнае кафэ* (адз. лік) — *утульныя кафэ* (мн. лік) |

### Толькі адзіночны лік

| Назоўнікі | Прыклады | Заўвагі |
|---|---|---|
| 1. Большасць уласных назоўнікаў | *Нёман, Гомель, Якуб Колас, Вольга, Марс* | Ужываюцца ў форме множнага ліку, калі абазначаюць членаў адной сям'і, родзічаў *(браты Лучэвічы)*, асоб з аднолькавымі імёнамі *(У групе два Антоны і тры Вольгі)* |
| 2. Большасць рэчыўных назоўнікаў | *золата, вада, жалеза, малако, мёд, снег* | Некаторыя з іх могуць ужывацца ў форме множнага ліку пры абазначэнні |

| Назоўнікі | Прыклады | Заўвагі |
|---|---|---|
| | | сартоў, відаў, марак *(малдаўскія віны, італьянскія сыры, каўказскія мінеральныя воды)* ці пры ўказанні на вялікую колькасць рэчыва *(жоўтыя пяскі)* |
| 3. Зборныя назоўнікі | *насенне, моладзь, асіннік* | |
| 4. Большасць абстрактных назоўнікаў | *радасць, смеласць, хараство, сінь, рэалізм* | Некаторыя з іх могуць ужывацца і ў форме множнага ліку *(першыя радасці, студзеньскія маразы)* |
| 5. Назвы месяцаў, напрамкаў свету | *верасень, сакавік, поўнач, захад* | |

## Толькі множны лік

| Скланяльныя назоўнікі з канчаткамі ***-і, -ы*** ў пачатковай форме | Прыклады |
|---|---|
| Абазначаюць: | |
| а) парныя або састаўныя прадметы; | а) *дзверы, вароты, сані;* |
| б) уласныя назвы; | б) *Карпаты, Васілевічы;* |
| в) часавыя адрэзкі, святы, абрады, гульні; | в) *канікулы, Каляды, заручыны, хованкі;* |
| г) рэчывы, прадукты, адыходы вытворчасці; | г) *духі, кансервы, апілкі;* |
| д) абстрактныя паняцці; | д) *паводзіны, зносіны;* |
| е) сукупнасць чаго-небудзь; | е) *грошы, фінансы;* |
| ж) грамадскія працэсы, дзеянні | ж) *дэбаты, манеўры* |

**130.** Запішыце назоўнікі ў форме множнага ліку, абазначце канчаткі, пастаўце націск.

Востраў, зубраня, чалавек, імя, зубр, гараджанін, кола, інжынер, цэх, воблака, беларус, том, рэдактар, дно, племя, курыца, грамадзянін, дырэктар, старшыня, торт, вуха.

**131.** Ад наступных слоў утварыце форму множнага ліку і зборныя назоўнікі. Растлумачце розніцу лексічных значэнняў слоў у форме множнага ліку і зборных назоўнікаў.

Бервяно, ліст, студэнт, пяро, колас, інтэлігент, камень, настаўнік, воін, дуб, дзіця, крыло.

**132.** Прачытайце назоўнікі і назавіце тыя, якія ўжываюцца толькі ў форме адзіночнага ліку. Што яны абазначаюць? Пісьмова складзіце з імі словазлучэнні.

Падзея, Прыпяць, чалавек, блакіт, усход, кастрычнік, калектывізм, даль, грамадства, настрой, маці, салома, смех, гняздо, жыта, шкло, свядомасць, натоўп, вецер, Віцебск, тлушч.

**133.** Падбярыце да назоўнікаў, дзе магчыма, суадносныя формы адзіночнага ліку.

Вароты, шпалы, нажніцы, дровы, суткі, рэйкі, канікулы, Івацэвічы, Альпы, красоўкі, вячоркі, імяніны, выбары, пельмені, пагоны.

**134.** Падбярыце і запішыце беларускія адпаведнікі да наступных слоў. Параўнайце формы ліку гэтых назоўнікаў у беларускай і рускай мовах.

Черника, крупа, сумерки, чернила, волосы, дрова, слова, поведение, обручение, земляника.

**135.** Прачытайце сказы і знайдзіце сярод іх тыя, у якіх ёсць парушэнні марфалагічных нормаў. Адрэдагуйце сказы.

1. На правым беразе Прыпяці раскінуліся цудоўныя дубнякі. 2. Я прапанаваў Мурцы рыбную кансерву, але кошка нават не паглядзела на яе. 3. Вакол вёскі на палях раслі грэчкі і аўсы. 4. Хлопцу здавалася, што вылеціць яго сэрца з грудзі ад вялікай радасці. 5. У навакольных лясах было шмат брусніц. 6. У дзеда Косці былі розныя мяды: і лугавы, і верасовы, і рапсавы. 7. Моцныя маразы трымаліся амаль да самай вясны.

## § 25. Скланенне назоўнікаў

### Назоўнікі першага скланення

**136.** Карыстаючыся табліцай, успомніце, якія канчаткі маюць назоўнікі першага скланення ў давальным, творным і месным склонах адзіночнага ліку.

| Склон | Аснова | | | |
|---|---|---|---|---|
| | на цвёрды зычны | на зацвярдзелы зычны | на мяккі зычны | на *-г, -к, -х* |
| Д. | *нів-е*<br>*вадз-е* | *бур-ы*<br>*сястр-ы* | *вол-і*<br>*зямл-і* | *кніз-е, вёсцы,*<br>*рац-э́, страс-е* |
| Т. | *нів-ай (-аю)*<br>*вад-ой (-ою)* | *бур-ай (-аю)*<br>*сястр-ой (-ою)* | *вол-яй (-яю)*<br>*зямл-ёй (-ёю)* | *кніг-ай (-аю)*<br>*вёск-ай (-аю)*<br>*рак-ой (-ою)*<br>*страх-ой (-ою)* |
| М. | *(на) нів-е*<br>*(на) вадз-е* | *(аб) бур-ы*<br>*(аб) сястр-ы* | *(на) вол-і*<br>*(на) зямл-і* | *(аб) кніз-е*<br>*(аб) вёсц-ы*<br>*(на) рац-э́*<br>*(на) страс-е* |

**137.** Запішыце назоўнікі першага скланення, якія абазначаюць вучэбныя прадметы, што выкладаюцца ў 11 класе. Утварыце і запішыце формы давальнага, творнага і меснага склонаў адзіночнага ліку гэтых назоўнікаў.

**138.** Запішыце словы па-беларуску. Абазначце склон і канчаткі назоўнікаў, падкрэсліце зычныя, якія чаргуюцца ў аснове.

Дорога — на дороге, республика — по республике, книга — в книге, фабрика — при фабрике, шапка — в шапке, нога — на ноге, рука — в руке, посадка — при посадке, дуга — на дуге, река — в реке, уборка — на уборке, лодка — в лодке.

**139.** Спішыце сказы, афармляючы іх у адпаведнасці з арфаграфічнымі і пунктуацыйнымі нормамі і ставячы назоўнікі, што ў дужках, у патрэбным склоне.

1. У нейкай *(насцярога)* замерлі вакол кашлатыя б..розы *(І. Пташнікаў)*. 2. У *(вёска)* малая звілістая рэчка пачала ўздымацца заліваць двары *(Я. Брыль)*. 3. У в..чэрняй *(цішыня)* звіняць імклівыя руч..йкі *(Т. Хадкевіч)*. 4. І ў гэтую вясну на *(страха)* сваёй хаты л..снік убачыў прыгожую пару[м] буслоў *(У. Дубоўка)*. 5. А на *(зямля)*, дзе вокам кінь, цвіце рунее рунь багата *(Я. Купала)*. 6. Круча над Дзвіной[м] абрывалася стромай карычневай сц..ной і толькі *(ў)*нізе пры самай *(рака)* заканчвалася пакатым *(шаўкавіста)*зялёным схілам *(Т. Хадкевіч)*. 7. На доўгай абсаджанай старымі таполямі *(вуліца)* было ціха і б..злюдна *(В. Вольскі)*.

## Назоўнікі другога скланення

**140.** Карыстаючыся табліцамі, раскажыце, з якімі канчаткамі ўжываюцца назоўнікі другога скланення ў родным, творным і месным склонах адзіночнага ліку.

| Склон | Аснова | |
|---|---|---|
| | на цвёрды зычны | на зацвярдзелы зычны |
| Р. | *стал-а, сад-у, сын-а* | *дождж-у, мор-а, сябр-а* |
| Т. | *стал-ом, сад-ам, сын-ам* | *дождж-ом, мор-ам, сябр-ам* |
| М. | *(у) стал-е, (у) садз-е, (пры) сын-е* | *(на) дождж-ы, (у) мор-ы, (пры) сябр-у* |

| Склон | Аснова | |
|---|---|---|
| | на мяккі зычны | на *-г, -к, -х* |
| Р. | *госц-я, цен-ю, жыцц-я* | *луг-у, чалавек-а, паверх-а* |
| Т. | *госц-ем, цен-ем, жыцц-ём* | *луг-ам, чалавек-ам, паверх-ам* |
| М. | *(пры) госц-ю, (у) цен-і, (у) жыцц-і* | *(на) луз-е, (аб) чалавек-у, (на) паверс-е* |

У **родным склоне** адзіночнага ліку назоўнікі другога скланення маюць канчатак ***-а (-я)*** або ***-у (-ю)***.

Канчатак ***-а (-я)*** уласцівы:

а) назоўнікам мужчынскага роду, якія абазначаюць:

- асоб, жывых істот: *чалавека, аленя*;
- канкрэтныя прадметы: *стала, медаля*;
- установы, арганізацыі, прадпрыемствы: *універсітэта, тэатра, завода*;
- населеныя пункты, геаграфічныя і астранамічныя назвы: *горада, Гомеля, Марса*;
- адзінкі вымярэння, навуковыя тэрміны, спартыўныя паняцці: *кілаграма, дзеяслова, хакея*;

б) назоўнікам ніякага роду: *воблака, жыцця, акна, поля*.

З канчаткам ***-у (-ю)*** ужываюцца назоўнікі мужчынскага роду, якія абазначаюць:

а) рэчывы, матэрыял, хімічныя элементы і злучэнні: *мёду, пяску, алюмінію, бензіну* (**але:** *хлеба, аўса*);

б) зборныя прадметы: *лесу, гаю*;

в) абстрактныя паняцці, якасці, дзеянні, стан: *вопыту, гераізму, руху, адпачынку*;

г) з’явы прыроды: *дажджу, грому, агню*;

д) прасторавыя паняцці: *стэпу, краю, лугу*;

е) навуковыя тэорыі, вучэнні, грамадскія фармацыі: *рэалізму, дарвінізму, феадалізму*.

Некаторыя назоўнікі мужчынскага роду ў залежнасці ад лексічнага значэння ў родным склоне могуць мець канчаткі ***-а (-я)*** і ***-у (-ю)***: *спыніліся каля дуба* (прадмет) — *шафа з дубу* (матэрыял), *сустрэліся каля перахода* (прадмет) — *адпачывалі пасля пераходу* (дзеянне).

**141.** З назоўнікамі, што ў дужках, утварыце і запішыце словазлучэнні. Вызначце склон назоўнікаў, растлумачце ўжыванне іх канчаткаў.

Выйшлі з *(лес, дом, сад, музей)*; схаваліся ад *(холад, сябар, снег, вораг)*; не купілі *(цукар, хлеб, шакалад, авёс)*; шум *(вецер, акіян, дождж, матор)*; не адчувалі *(боль, страх, сорам)*.

**142.** Прачытайце прыказкі, ставячы назоўнікі, што ў дужках, у неабходнай форме. Растлумачце ўжыванне канчаткаў гэтых назоўнікаў.

1. Зіма без *(снег)* — восень без *(хлеб)*. 2. Лепш мець лішняга *(сябар)*, чым лішняга *(вораг)*. 3. Век пражыў, а *(розум)* не нажыў. 4. *(Мёд)* не накачалі, а пчол узлавалі. 5. Чалавек без *(запас)* гіне да *(час)*.

**143.** Спішыце сказы, дапісваючы патрэбныя канчаткі назоўнікаў і расстаўляючы неабходныя знакі прыпынку.

1. Паўз дарогу пайшлі кусты алешнік.. і лазняк.. за імі паўстаў пералесак[м] *(Т. Хадкевіч)*. 2. Пасыпаліся буйныя кроплі даждж.. упала некалькі галак град.. *(Я. Колас)*. 3. У канцы лістапад.. 1943 год.. была вызвалена мая радзіма вёска Ганшын *(К. Кірэенка)*. 4. Ён успомніў што Апейка з самага пачатк.. не таіў што не верыць у поспех[м] гэтага сход.. *(І. Мележ)*. 5. З захад.. ў твар дзьмуў сцюдзёна-калючы вецер *(М. Ткачоў)*. 6. Многа сок..-бярозавік.. цячэ з бярозы будзе мокрае лета *(Б. Сачанка)*. 7. Недалёка ад горад.. праз якія пятнаццаць[ф] кіламетраў мінчан сустракае зона адпачынк.. *(У. Юрэвіч)*. 8. Даўно я не еў беларускага хлеб.., ад пах.. смалістага бор.. адвык *(П. Панчанка)*.

**144.** Складзіце па два словазлучэнні ці сказы з наступнымі мнагазначнымі назоўнікамі, ставячы іх у родным склоне адзіночнага ліку. У адным выпадку назоўнік павінен ужывацца з канчаткам ***-а (-я)***, у другім — з ***-у (-ю)***.

Клён, пад'езд, народ, завод, лістапад, пейзаж, арэх, пропуск.

**145.** Прачытайце сказы і знайдзіце назоўнікі мужчынскага роду, якія ўжываюцца з канчаткамі, не адпаведнымі норме. Выпраўце граматычныя памылкі.

1. Апошнія клубы ранішняга тумана схаваліся ў лагчынах. 2. Каля мясцовага клубу ўжо сабралася многа народа. 3. Дзеці ў школе вывучалі правілы дарожнага руха. 4. Уначы была завея і намяло многа снега. 5. Лось пастаяў і павольна пайшоў у глыб леса. 6. Сябры сустрэліся каля ўваходу.

У **месным склоне** назоўнікі 2-га скланення маюць канчаткі ***-е, -і, -ы, -у (-ю)***.

З канчаткам ***-е*** ўжываюцца назоўнікі на цвёрдую аснову і ***г, х,*** якія чаргуюцца з ***з, с***: *акно — на акне, бераг — пры беразе, верх — на версе*.

Канчатак ***-і*** ўласцівы назоўнікам з мяккай асновай: *гай — у гаі, жыццё — пры жыцці*; канчатак ***-ы*** — з асновай на зацвярдзелы: *дождж — на дажджы, мора — у моры*.

Канчатак ***-у (-ю)*** маюць назоўнікі з асновай на ***г, к, х***, якія не чаргуюцца з ***з, с***: *парк — у парку, подзвіг — аб подзвігу, шлях — на шляху*, а таксама назоўнікі, што абазначаюць асобу чалавека: *пры бацьку, аб герою, пры Андрэю, аб Мележу*.

Назоўнікі з цвёрдай асновай, што абазначаюць асоб, ужываюцца з канчаткам ***-е***: *аб сыне, пры браце, аб Коласе*.

**146.** Спішыце сказы, афармляючы іх у адпаведнасці з арфаграфічнымі нормамі і ставячы назоўнікі, што ў дужках, у месным склоне адзіночнага ліку. Растлумачце ўжыванне канчаткаў гэтых назоўнікаў.

1. Цэлы гай старасвецкіх дубоў раскінуўся на *(бераг)* Нёмана *(Я. Колас)*. 2. У другой палове XI стагоддзя[м] ў *(міжрэчча)* Свіслачы і Н..мігі на *(не)*вялічкім *(узвышша)* быў збудаваны[с] драўляны замак-крэпас*(?)*ць *(У. Юрэвіч)*. 3. Жыццё[м] пры *(Андрэй)* так і не прынесла спако.. старой жанчыне *(У. Карпаў)*. 4. Маладая раслінка стаяла пры *(лес)* у *(поле)* *(Я. Колас)*. 5. На дварэ гуляе м..целіца, а ў мяне ў *(пакой)* восе*(н/нн)*ю пахне *(Р. Ігнаценка)*. 6. На *(свет)* лепшага кутка н..ма, чым той куток, дзе маці нарадзіла *(Н. Гілевіч)*. 7. Ледзь[ф] ступілі на двор, на *(ганак)* паявіўся Міканор Глушак *(І. Мележ)*.

**147.** Запішыце словаформы па-беларуску. Абазначце канчаткі і націскі.

В снегу, на краю, о сыне, в гараже, на лугу, в лагере, на орехе, об успехе, на берегу, в саду, на корабле, в цеху, на ремне.

Імёны і прозвішчы, якія належаць асобам мужчынскага полу і канчаюцца на зычны, скланяюцца як адпаведныя агульныя назоўнікі 2-га скланення са значэннем асобы: *Андрэй Лабановіч, Андрэя Лабановіча, Андрэю Лабановічу* і г. д. Прозвішчы на зычны, якія належаць асобам жаночага полу, не скланяюцца: *Алена Лабановіч, Алены Лабановіч, Алене Лабановіч.*

Як агульныя назоўнікі 2-га скланення скланяюцца славянскія прозвішчы на ***-оў (-аў), -еў (-ёў), -ін (-ын),*** але ў творным склоне адзіночнага ліку яны маюць канчатак ***-ым,*** уласцівы прыметнікам: *Міхайлаў, Міхайлава, Міхайлаву, Міхайлава, Міхайлавым, пры Міхайлаву.*

Іншамоўныя прозвішчы на ***-ін (-ын), -ан*** тыпу *Дарвін* у творным склоне ўжываюцца з канчаткам ***-ам***: *Чаплінам, Труманам.*

Са склонавымі канчаткамі, уласцівымі назоўнікам 2-га скланення, ужываюцца ўласныя назоўнікі мужчынскага роду, што абазначаюць геаграфічныя і астранамічныя назвы: *Крым — у Крыме, Месяц — на Месяцы, Быхаў — за Быхавам, Жлобін — за Жлобінам,* а таксама ўласныя назоўнікі — назвы гарадоў, вёсак, рэк, якія маюць форму ніякага роду: *Жодзіна — у Жодзіне, Заазер'е — у Заазер'і, Дняпро — у Дняпры.*

**148.** Спішыце, раскрываючы дужкі.

Ганарымся *(Васіль Быкаў)*, адпачывалі пад *(Лоеў)*, славілі ў *(Дунай)*, успаміналі *(Арцём Баравік)*, патэлефанавалі *(Аляксандр Дзямчук)*, падарожнічаў па *(Сахалін)*, вучыўся ў *(Маладзечна)*, дачка *(Сяргей Адамовіч і Вольга Адамовіч)*, з паслом *(Дэвід Мэрвін)*, з журналістам *(Франклін Шэкрын)*, з банкірам *(Біл Ролтан)*.

**149.** Запішыце 10 назоўнікаў на ***-оў (-аў), -еў (-ёў), -ін (-ын)***, пяць з якіх абазначалі б прозвішчы беларускіх пісьменнікаў, пяць — назвы населеных пунктаў Беларусі. Складзіце з гэтымі словамі сказы, выкарыстоўваючы назоўнікі ў форме творнага склону.

**150.** Спішыце тэкст, афармляючы яго ў адпаведнасці з арфаграфічнымі, пунктуацыйнымі і марфалагічнымі нормамі. Падкрэсліце назоўнікі другога скланення, растлумачце ўжыванне іх канчаткаў.

Над ускрайк.. лес.. дзе пачыналіся жоўтыя п..скі зазв..нела песня л..снога жаваранк.. . Ён першы тут вітаў надыход дн.. і песня расплывалася[сл] ў маўклівым паветр.. звонам тонкага дарагога метал.. . Здавалася *(у/ў)*сё навокал зан..мела зачараванае цудоўнымі трэл..мі гэтага вольнага жыхар.. ўзлескаў і пя*(сч/шч)*аных пустак між ляс.. . Снуючы высока[сл] ў небе раняла птушка мя..кія ласкавыя мелодыі сатканыя са звон.. срэбраных струн з булькатанн.. л..сных ручайкоў з шолах.. красак. І *(у/ў)*се гэтыя тоны спл..таліся так гарманічна-св..еасабліва ў песні л..снога

жаваранк.. што яна даходзіла да самых глыбінь сэрц.. і калыхала самыя тонкія струны душы *(Паводле Я. Коласа).*

● Вызначце тэму тэксту і яго стыль. Знайдзіце ў тэксце моўныя сродкі, характэрныя для гэтага стылю.

## Назоўнікі трэцяга скланення

**151.** Разгледзьце табліцу. У якіх склонавых формах назоўнікі трэцяга скланення маюць аднолькавыя канчаткі? У чым асаблівасць утварэння формаў творнага склону пэўных назоўнікаў трэцяга скланення?

| Склон | Аснова | |
|---|---|---|
| | на мяккі і цвёрды зычны | на зацвярдзелы зычны |
| Н. | *маладосць□, лань□, верф□* | *ціш□* |
| Р. | *маладосц-і, лан-і, верф-і* | *ціш-ы* |
| Д. | *маладосц-і, лан-і, верф-і* | *ціш-ы* |
| В. | *маладосць□, лань□, верф□* | *ціш□* |
| Т. | *маладосц-ю, ланн-ю, верф’-ю* | *цішш-у* |
| М. | *(у) маладосц-і, лан-і, верф-і* | *(у) ціш-ы* |

**152.** Запішыце словы ў форме творнага склону адзіночнага ліку.

Спагадлівасць, Нарач, смеласць, Свіцязь, перакананасць, Свір, зелень, упэўненасць, чырвань, актыўнасць, соль, шэрань, Об, рупнасць.

**153.** Згрупуйце наступныя назоўнікі ў сінанімічныя рады і запішыце іх, ставячы кожнае слова ў творным склоне адзіночнага ліку.

Спагадлівасць, перакананасць, далеч, безнадзейнасць, цемень, храбрасць, далячынь, упэўненасць, цемрадзь, чуласць, бездапаможнасць, мужнасць, даль, смеласць.

**154.** Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі. Вызначце склон назоўнікаў трэцяга скланення.

1. Дні стаялі ціхія, сон..чныя, поўныя мя..кай *(задуменнасць)* і хараства *(Р. Ігнаценка)*. 2. Людзі кажуць, што птушкам, зблудзіўшым у *(ноч)*, *(М/м)*лечны *(Ш/ш)*лях служыць сцежкай-пуцінай у вырай *(Я. Купала)*. 3. У навальнічнай *(цемрадзь)* бляск маланак быў *(бела)*сіні, прагавіты *(І. Мележ)*. 4. Цягнік імчыць з *(поўнач)* на поўдзень, з краю ўзгоркаў, курганоў, асмужаных пер..лескаў на в..лікую раўніну, дзе ц..чэ спакойная Прыпяць[м] *(І. Навуменка)*. 5. Па шматлікіх галінках, па цёмнай ад *(вільгаць)* кар.. дуб.. сплываюць струмені дажджу *(У. Караткевіч)*.

## Рознаскланяльныя назоўнікі

**155.** Карыстаючыся табліцамі, успомніце, якія назоўнікі адносяцца да рознаскланяльных. Раскажыце пра асаблівасці скланення гэтых назоўнікаў.

| Склон | Назоўнікі, якія абазначаюць назвы маладых істот | | Тры назоўнікі на **-*мя*** *(імя, племя, стрэмя)* | |
|---|---|---|---|---|
| | адзіночны лік | множны лік | адзіночны лік | множны лік |
| Н. | *птуша-н-я (-ё)* | *птуша-нят-ы* | *ім-я* | *ім-і (імён-ы)* |
| Р. | *птуша-няц-і* | *птуша-нят□* | *ім-я (імен-і)* | *ім-яў (імён□, імён-аў)* |
| Д. | *птуша-няц-і* | *птуша-нят-ам* | *ім-ю (імен-і)* | *ім-ям (імён-ам)* |
| В. | *птуша-н-я (-ё)* | *птуша-нят□* | *ім-я* | *ім-і (імён-ы)* |
| Т. | *птуша-н-ём* | *птуша-нят-амі* | *ім-ем (імен-ем)* | *ім-ямі (імён-амі)* |
| М. | *(у) птушаняц-і* | *(аб) птушанят-ах* | *(у) ім-і (імен-і)* | *(у) ім-ях (імён-ах)* |

| Склон | Назоўнікі мужчынскага роду на *-а (-я)* з націскам на аснове | Назоўнікі агульнага роду, што абазначаюць асоб мужчынскага полу |
|---|---|---|
| Н. | *дзядзьк-а, дзядул-я* | *плакс-а* |
| Р. | *дзядзьк-і, дзядул-і* | *плакс-ы* |
| Д. | *дзядзьк-у, дзядул-ю* | *плакс-у* |
| В. | *дзядзьк-у, дзядул-ю* | *плакс-у* |
| Т. | *дзядзьк-ам, дзядул-ем* | *плакс-ам* |
| М. | *(пры) дзядзьк-у, дзядул-ю* | *(аб) плакс-е* |

Назоўнікі, што абазначаюць **назвы маладых істот**, у родным, давальным і месным склонах адзіночнага ліку набываюць суфікс ***-яц-*** і ўжываюцца, як і назоўнікі 3-га скланення, з канчаткам ***-і***: *дзіцяці, ласяняці.* У творным склоне яны маюць канчатак 2-га скланення ***-ём***: *дзіцём, птушанём.* Ва ўсіх ускосных склонах множнага ліку назоўнікі — назвы маладых істот пішуцца з суфіксам ***-ят***: *птушанят, ягнят* **(але:** *дзяцей***).**

Назоўнікі ***імя, племя, стрэмя*** пры скланенні могуць набываць суфікс ***-ен-*** і змяняцца без яго. З суфіксам ***-ен-*** гэтыя назоўнікі ў родным, давальным і месным склонах маюць канчатак ***-і***: *імені, племені, стрэмені,* без суфікса ***-ен-*** — канчаткі, уласцівыя назоўнікам 2-га скланення: *імя, імю, імем, у імі.* У множным ліку назоўнікі *імя, стрэмя* ўжываюцца з суфіксам ***-ён-*** і без яго: *імён — імёнаў, імяў; страмён — страмёнаў, стрэмяў;* а назоўнік *племя* — толькі з суфіксам ***-ён-***: *плямён — плямёнаў.*

Назоўнікі **мужчынскага роду на *-а (-я)*** у родным і вінавальным склонах маюць канчаткі 1-га скланення: *мужчыны, дзядулі, мужчыну, дзядулю.*

У давальным і месным склонах напісанне канчаткаў залежыць ад характару асновы і месца націску. Канчатак ***-у (-ю)***, як і ў 2-м скланенні, уласцівы назоўнікам з цвёрдай і мяккай асновай, калі на яе падае націск: *ба́цьку, дзяду́лю, пры ба́цьку, пры дзяду́лю.* Калі ж націск падае на канчатак, такія назоўнікі, як і ў

1-м скланенні, ужываюцца з канчаткам *-е*: *Кузьме́, пры Фаме́*. У назоўніках з мяккай асновай ужываецца канчатак *-і*: *суддзі́, пры старшыні́*.

У творным склоне назоўнікі мужчынскага роду на ***-а (-я)*** з асновай на цвёрды зычны маюць ненаціскны канчатак ***-ам***: *ба́цькам, дзя́дзькам,* націскны — ***-ой (-ою)***: *Кузьмой (-ою), Фамой (-ою)*. Назоўнікі з мяккай асновай незалежна ад націску ўжываюцца з канчаткам ***-ем, -ёй (-ёю)***: *Міцем, старшынёй (-ёю)*.

Назоўнікі **агульнага роду**, што абазначаюць **асоб мужчынскага полу**, скланяюцца як назоўнікі мужчынскага роду на ***-а (-я)***: *ціхоня — ціхоні, ціхоню, ціхонем, пры ціхоню* (выключэнне: *сірата*). Назоўнікі агульнага роду, якія абазначаюць **асоб жаночага полу**, маюць склонавыя канчаткі, уласцівыя назоўнікам 1-га скланення: *плаксы, плаксе, плаксу, плаксай (-аю), аб плаксе*.

Як рознаскланяльныя назоўнікі мужчынскага роду, скланяюцца прозвішчы, якія паходзяць ад назваў прадметаў жаночага роду з асновай на ***г, к, х*** і маюць ненаціскны канчатак ***-а***: *Бойка Іван, Бойкі Івана, Бойку Івану, Бойку Івана, Бойкам Іванам, па Бойку Івану*. Калі ж такое прозвішча належыць асобе жаночага полу, яно скланяецца як назоўнік 1-га скланення з адпаведнай асновай: *Бойка Вольга, Бойкі Вольгі, Бойцы Вользе, Бойку Вольгу, Бойкай Вольгай, па Бойцы Вользе*.

**156.** Прачытайце сказы, ставячы назоўнікі, што ў дужках, у патрэбнай форме.

1. Тут стаяў зусім незнаёмы для *(ласяня)* дух, якім яшчэ там, у прылеску, пахнуў гэты чалавек *(Г. Далідовіч)*. 2. Сабака ляжаў на баку паміж ядлоўцавых кустоў і лапаю гуляў з *(ваўчаня)* *(В. Карамазаў)*. 3. На яблыню скокнула з бярэзіны вавёрка. І не адна! З двума *(ваверчаняты)* *(М. Лужанін)*. 4. Гістарычныя звесткі аб *(племя)* крывічоў і дрыгавічоў і аб аб'яднанні *(племя)* у народ беларускі да нас не дайшлі. 5. Незнаёмы спыніў каня, прыўзняўся на *(стрэмя)* і ўважліва агледзеў наваколле. 6. Станаўленне

і развіццё беларускага тэатра непарыўна звязана з *(імя)* І. Буйніцкага, У. Галубка, Ф. Ждановіча *(БелСЭ)*. 7. Самыя старажытныя *(імя)*, якія шырока выкарыстоўваюцца ў наш час, — гэта Вольга, Алег, Андрэй.

**157.** Утварыце словазлучэнні. Запішыце. Абазначце канчаткі назоўнікаў і растлумачце іх ужыванне.

Гаварыць з *(дзядуля)*, быць пры *(бацька)*, сустрэцца з *(дзядзька)*, працаваць *(старшыня)*, высокаму *(мужчына)*, гутарыць са *(стараста)*, павітацца з *(суддзя)*, гуляць з *(Вася)*, жыць пры *(Мікола)*, вясёламу *(Віця)*, быў *(сведка)*, заставаўся *(гарэза)*, з'яўляўся *(запявала)*, маленькаму *(плакса)*, з гэтай *(капрызуля)*, з *(Ганна Дарожка)*, з *(Максім Дарожка)*.

**158.** Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары і ставячы назоўнікі, што ў дужках, у патрэбнай склонавай форме.

1. З *(бацька)* я ўп..ршыню а..чуў музыку начнога неба і в..сновай паводкі *(К. Кірэенка)*. 2. У гады *(В/в)*ялікай *(А/а)*йчы*(н/нн)*ай *(В/в)*айны беларускі лес стаў для многіх надзейн.. *(абаронца)* *(П. Панчанка)*. 3. Танцуй — не танцуй, а грошы *(музыка)* аддай *(Прыказка)*. 4. Асабліва радавалі мяне сустрэчы з *(Купала)*, Коласам, Гартным, *(Бядуля)*, Чаротам — жывымі класікамі, пачынальнікамі сучаснай літаратуры *(С. Грахоўскі)*. 5. Рука яго ў локці больш не згібалася, ён застаўся *(калека)* назаўсёды *(К. Чорны)*.

**159.** Утварыце словазлучэнні, спалучаючы назоўнікі, што ў дужках, і дзеясловы. Растлумачце ўжыванне канчаткаў назоўнікаў.

Дзякаваць *(Пеця, старшыня, сведка, Міша, суддзя)*; ганарыцца *(бацька, дзядуля, прамоўца, Вася, Мікола)*; думаць аб *(сірата, дзядзька, Кузьма, Валодзя, стараста)*.

**160.** Прачытайце сказы. Знайдзіце і выпраўце адхіленні ад марфалагічных нормаў пры ўжыванні рознаскланяльных назоўнікаў.

1. З Ігарам Мурашкай мы пазнаёміліся на алімпіядзе па матэматыцы. 2. Таццяна непрыкметна перадала нешта

высокаму мужчыне і знікла ў натоўпе. 3. Канчалася лета, надыходзіў час развітання са Сцёпкай. 4. Андрэйка з дзядулей узялі падрыхтаваныя яшчэ з вечара вуды і пайшлі на возера.

## Нескланяльныя назоўнікі

**161.** Успомніце, якія назоўнікі адносяцца да нескланяльных. Размяркуйце наступныя словы на дзве групы: 1) скланяльныя назоўнікі; 2) нескланяльныя назоўнікі.

Какава, кава, Альпы, Тбілісі, эскімо, Данько, жалюзі, еўра, кімано, Кавальчук (Вольга), БДУ, МАЗ.

**162.** Прачытайце сказы. Знайдзіце і выпраўце памылкі, абумоўленыя парушэннем марфалагічных нормаў.

1. Партыя на скрыпцы, выкананая маэстрам Співаковым, спадабалася ўсім. 2. На водмелі стаялі грацыёзныя фламінгі. 3. Незнаёмы быў у драпавым паліце і капелюшы. 4. Ты як дабіраешся дамоў — метром ці аўтобусам? 5. Маці зайграла на піяніне, і па пакоі паплыла цудоўная музыка. 6. Некалькі дынга асцярожна падышлі да агароджы. 7. Летам Вольга адпачывала ў санаторыі ў Сочах. 8. Пейзаж, адлюстраваны на гэтым пане Антонам Крамком, нечым нагадваў навакольныя мясціны. 9. Па пенальцях перамагла каманда «Юнацтва». 10. Адпачынак у Гаграх нікога не пакінуў абыякавым.

## Канчаткі назоўнікаў у родным і месным склонах множнага ліку

У **родным склоне** множнага ліку назоўнікі ўжываюцца з канчаткамі ***-аў (-яў), -оў (-ёў), -ей (-эй)*** і з нулявым канчаткам.

**Назоўнікі 1-га скланення** маюць канчатак ***-аў (-яў)*** (з асновай на збег зычных) і нулявы канчатак: *пушчаў, гульняў; вуліц, дарог.* Асобныя назоўнікі могуць мець варыянтныя формы: *яблыняў — яблынь, сёстраў — сясцёр.*

**Назоўнікі 2-га скланення** ўжываюцца з канчаткамі ***-аў (-яў), -оў (-ёў)***: *воблакаў, сузор'яў, сыноў, палёў;* рэдка — з канчаткам ***-ей (-эй)***: *вачэй, гасцей.*

**Назоўнікі 3-га скланення** пад націскам маюць канчатак ***-ей (-эй)***, не пад націскам — ***-аў (-яў)***: *нача́й, гусе́й, пе́чаў, да́ляў* (**але:** *грошай*). Некаторым назоўнікам уласцівыя варыянтныя формы: *арцелей — арцеляў, сенажацей — сенажацяў.*

**163.** Спішыце, ставячы назоўнікі, што ў дужках, у родным склоне множнага ліку.

Кілаграм *(яблыкі, грушы, слівы, вішні, апельсіны, мандарыны, памідоры, цукеркі)*; пара *(туфлі, боты, рукавіцы, шкарпэткі)*; шмат *(азёры, рэкі, лясы, палі)*; пяць *(пасажыры, месцы, прыпынкі, трамваі)*; карпусы *(фабрыкі, заводы, верфі, электрастанцыі)*.

**164.** Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары, расстаўляючы неабходныя знакі прыпынку і ставячы назоўнікі, што ў дужках, у форме роднага склону множнага ліку.

1. З франтавых *(дарогі)* акопных *(будні)* ця..кіх *(паходы)* суровых *(штурмы)* і *(атакі)* застаюцца ў сэрцы кожнага салдата многія дарагія вобразы і імёны[м] *(К. Кірэенка)*. 2. Прыціхлі галасы *(птушкі)*. Нібы лё..кі сум сеяўся праз парадзелую гушчыню *(бярозы)* і *(грабы)* *(М. Лынькоў)*. 3. Маладосць цягнецца да *(не)*звычайнага да рамантычных *(падарожжа)* да *(не)*бывалых *(учынкі)* да пераадоле*(н/нн)*я *(не)*чувалых *(цяжкасці)* *(М. Лужанін)*. 4. Сляпы *(не)*разборлівы густ выяўляе[ф] толькі аднастайнасць стандартнасць пазбаўляючы чалавека самастойнасці і асабістай адказнасці за развіццё сваіх індывідуальных *(схільнасці)* і *(магчымасці)* *(В. Вітка)*.

**165.** Прачытайце сказы і выкажыце меркаванне, ці правільна ўтвораны формы выдзеленых назоўнікаў. Абгрунтуйце свой пункт гледжання (можаце карыстацца адпаведнымі слоўнікамі ці даведнікамі).

1. Шчаслівы той, хто вырас у родным краі, увабраў сваёй душою чысціню яго **крыніцаў**, пах **кветкаў** і зямлі *(В. Жуковіч)*. 2. З шумам і рознагалосым цурчаннем бегла вада палявымі межамі, каляінамі **дарогаў** *(У. Крайчанка)*. 3. Цёплае паветра настоена на пахах сырой зямлі, набрынялых **пупышкаў** і бярозавага соку *(Р. Ігнаценка)*. 4. Была пара зіхатлівых сонечных **днёў**, высокага неба і да **слёзаў** іскрыстага снегу ў палях *(А. Жук)*. 5. Верасень кінуў ужо на бярозы крыху розных **фарб** *(М. Шыманскі)*.

**166.** Карыстаючыся табліцай, успомніце, якія канчаткі маюць назоўнікі ў месным склоне множнага ліку.

| 1-е скланенне | 2-е скланенне | 3-е скланенне |
|---|---|---|
| *(на) бяроз-ах*<br>*(у) пушч-ах*<br>*(на) яблын-ях* | *(на) завод-ах*<br>*(на) ален-ях*<br>*(у) пал-ях* | *(аб) нач-ах*<br>*(у) абласц-ях*<br>*(аб) дал-ях* |

**167.** Перакладзіце сказы на беларускую мову і запішыце іх. Параўнайце канчаткі назоўнікаў у форме меснага склону множнага ліку ў рускай і беларускай мовах.

1. По стальным магистралям бегут во все концы страны гружёные поезда *(Н. Михайлов)*. 2. По снежным улицам и площадям нескончаемым потоком тянулись тысячи людей *(Н. Островский)*. 3. По аллеям, по паркам робко крадётся осень. 4. По следам было видно, что у кормушки побывала семья лосей *(М. Пришвин)*. 5. По раскисшим весенним дорогам непрерывно шли наши войска *(К. Симонов)*.

**168.** Спішыце тэкст, афармляючы яго ў адпаведнасці з арфаграфічнымі і пунктуацыйнымі нормамі і ставячы назоўнікі, што ў дужках, у патрэбнай форме.

Н..спадзяваны мароз, раптоўна наваліўшыся на Пале*(с/сс)*е пасля некалькіх ціхіх і мя..кіх *(дні)* на сыходзе зімы, пратрымаўся *(н..)*доўга. Надвор..е зм..нілася адразу. Паветра стала цёплым і лагодным а над *(далечы)* *(балоты)* і *(палі)* звісла сінеча-смуга адзнака ц..пла і адлігі.

Асеў глыбокі снег па *(палі)* і *(балоты)*. Заплакала зіма пад *(капяжы)* *(мільёны)* *(слёзы)*.

Размяклы працяты вадою снег гурбінамі папоўз з саламяных *(стрэхі)* трывожным шэптам парушаючы цішыню а па *(вуліцы)* і *(дарогі)* пачалі выступаць *(жаўтавата)*мутныя лужыны і рушылі ў свае *(дарогі)* першыя в..снавыя ручайкі*(переравальчыкі)*. *(Гімны)* в..сне зазв..нелі звонкія песні *(жаваранкі)*.

У тысячах *(з'явы)* заўважалася набліжэнне в..сны, в..сны ранняй і дружнай *(Паводле Я. Коласа)*.

**169.** Прачытайце сказы, вызначце назоўнікі, пры ўжыванні якіх парушаны марфалагічныя нормы. Выпраўце памылкі.

1. Лёгкі веснавы ветрык прабягаў па вершалінах тапалей і ліпаў. 2. Падарожжа па астравам пакінула незабыўнае ўражанне. 3. На тэрыторыі Беларусі жывуць прадстаўнікі больш як ста нацыянальнасцяў. 4. У вальерах Белавежскай пушчы можна ўбачыць магутных зуброў і палахлівых казулей, высакародных аленей і звычайных ласей, дзікіх кабаноў і бурых мядзведзей. 5. Турысты яшчэ доўга блукалі па вуліцам старога горада.

## Нормы ўжывання прыметнікаў

### § 26. Поўныя і кароткія формы прыметнікаў

**170.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Параўнайце ўжыванне поўнай і кароткай формаў прыметнікаў у тэкстах. Ці характэрнае для беларускай мовы ўжыванне прыметнікаў у кароткай форме?

Бывает, входит в комнату незнакомый человек. Здоровается. Говорит как будто обычные слова — «добрый день». Пробудет недолго и уйдёт, оставив после себя хорошее, приятное впечатление.

«Обаятельный человек», — говорят о нём. Секрет его обаяния прост: он умеет держать себя в обществе, умеет скрывать дурное настроение, владеть собой.

Когда человек спокоен, это не значит, что он неэмоционален. Просто он хорошо воспитан. Воспитанный человек никогда не позволит себе кричать и грубо разговаривать с людьми, особенно с теми, кто ниже его по положению. Он понимает, что грубый тон только роняет его в глазах собеседника *(По С. Михалкову)*.

## § 27. Ступені параўнання якасных прыметнікаў

**171.** Карыстаючыся табліцамі, раскажыце, як утвараюцца ступені параўнання якасных прыметнікаў.

**Вышэйшая ступень параўнання**

| Простая форма | Складаная форма |
|---|---|
| 1. Аснова ці корань прыметніка + суфікс -***эйш***-, -***ейш***-: *высокі — вышэйшы* *светлы — святлейшы* | Прыметнік + ***больш (болей), менш (меней)***: *высокі —* ***больш*** *высокі* *светлы —* ***менш*** *светлы* |
| 2. Суплетыўная (іншая) аснова прыметніка + суфікс -***ш***-: *добры — лепшы* | |

**Найвышэйшая ступень параўнання**

| Простая форма | Складаная форма |
|---|---|
| Простая форма вышэйшай ступені + прыстаўка ***най***-: *вышэйшы — найвышэйшы* | Прыметнік + ***самы, найбольш, найменш***: *высокі —* ***самы*** *высокі* *светлы —* ***найменш*** *светлы* |

**172.** Падзяліце прыметнікі на тры групы: 1) утвараюць усе формы ступеней параўнання; 2) утвараюць толькі складаныя формы ступеней параўнання; 3) не ўтвараюць ступеней параўнання. Што абазначаюць прыметнікі трэцяй групы?

Ад прыметнікаў першай і другой груп утварыце і запішыце формы ступеней параўнання.

Ліловы, добры, буланы, гарысты, блізарукі, гняды, трывожны, малінавы, рашучы, светла-зялёны, карычневы, шурпаты, шчаслівы, лёгкі, удумлівы, чарнявы, вусаты, босы, урадлівы, яснавокі, вясёлы, дысцыплінаваны.

**173.** Перакладзіце сказы на беларускую мову і запішыце іх. Параўнайце ўтварэнне і ўжыванне формаў ступеней параўнання прыметнікаў у беларускай і рускай мовах.

1. Воспитывать душу и силу чувств — не только труднейшее из искусств, но и важнейшее дело! *(Э. Асадов).* 2. Ярче было солнце, сильнее пахли тополя, громче был гром, выше трава *(К. Паустовский).* 3. Уши рыси даже во время сна чутко ловили малейший звук, как радиоантенна ловит легчайшие колебания электрических волн *(В. Бианки).* 4. Звон воды был другой — тяжелее и без мелодии *(В. Короленко).* 5. Величайший литературный авторитет, Горький в разговоре с писателями о редакционных делах был гораздо более учтив и уступчив, чем иной из служащих в «аппарате» издательства *(К. Чуковский).* 6. Короленко, как любезный хозяин, счёл своим долгом рассказать несколько интереснейших случаев из своей жизни в Румынии *(К. Чуковский).*

● Зрабіце марфалагічны разбор якаснага і адноснага прыметнікаў.

**174.** Знайдзіце памылкі ва ўтварэнні і ўжыванні формаў ступеней параўнання прыметнікаў. Адрэдагуйце сказы і запішыце іх.

1. Удзельнікі свята маюць магчымасць набыць тавары беларускіх вытворцаў па больш ніжэйшых цэнах. 2. У залах музея выстаўлены лепшыя ўзоры беларускага жывапі-

су XX стагоддзя. 3. На чэмпіянат свету трапілі шаснаццаць мацнейшых каманд з чатырох кантынентаў. 4. Забеспячэнне харчовай бяспекі — адна з найбольш важнейшых задач любой краіны. 5. Прыйшла восень. Дні становяцца карацей, а ночы даўжэй. 6. Стартуе самы маладзёжны праект «Адкрытая пляцоўка»! 7. Мінулая зіма была самая найцяплейшая з тых, якія памятае мой бацька. 8. З гадамі дзед станавіўся ўсё больш глухім.

## § 28. Прыналежныя прыметнікі

**175.** Замяніце ў словазлучэннях назоўнікі роднага склону прыналежнымі прыметнікамі. Запішыце. Вызначце, ад назоўнікаў якога роду і з дапамогай якіх суфіксаў утварыліся прыналежныя прыметнікі.

Аўтамабіль брата, дом лесніка, сын каваля, бярлог мядзведзя, акуляры бабулі, дачка сястры.

**176.** Запішыце словазлучэнні, выбіраючы з дужак прыметнікі, утвораныя ў адпаведнасці з нормамі беларускай літаратурнай мовы.

*(Дзядулеў/дзядулін)* падарунак, *(Колеў/Колін)* веласіпед, *(Наташаў/Наташын)* брат, *(Андрэева/Андрэіна)* лодка, *(Сцёпкава/Сцёпчына)* куртка, *(Васеў/Васін)* руказак.

**177.** Перакладзіце словазлучэнні на беларускую мову, запішыце, абазначце суфіксы прыметнікаў.

Мишин ровесник, пастушья сумка, дедушкина инициатива, Петины друзья, беличье дупло.

# Нормы ўжывання лічэбнікаў

## § 29. Скланенне лічэбнікаў

Лічэбнік ***адзін (адна, адно, адны)*** скланяецца як прыметнік: *адзін, аднаго, аднаму* і г. д. Слова *адна* ў родным і творным склонах мае два варыянты канчаткаў: Р.: *адной (-ае)*, Т.: *адной (-ою).*

Лічэбнікі ***два (дзве), абодва (абедзве), тры, чатыры*** скланяюцца наступным чынам:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *два* | *абодва* | *дзве* | *абедзве* |
| Р. | *двух* | *абодвух* | *дзвюх* | *абедзвюх* |
| Д. | *двум* | *абодвум* | *дзвюм* | *абедзвюм* |
| В. | як Н. або Р. | як Н. або Р. | як Н. або Р. | як Н. або Р. |
| Т. | *двума* | *абодвума* | *дзвюма* | *абедзвюма* |
| М. | *(пры) двух* | *(пры) абодвух* | *(пры) дзвюх* | *(пры) абедзвюх* |

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *тры* | *чатыры* |
| Р. | *трох* | *чатырох* |
| Д. | *тром* | *чатыром* |
| В. | як Н. або Р. | як Н. або Р. |
| Т. | *трыма* | *чатырма* |
| М. | *(пры) трох* | *(пры) чатырох* |

Лічэбнікі ад ***пяці*** да ***дваццаці*** і ***трыццаць*** скланяюцца як назоўнікі 3-га скланення з асновай на мяккі зычны: *пяць, пяці, пяці, пяць, пяццю, (пры) пяці*. У форме творнага склону гэтых лічэбнікаў пішацца -***цц***-: *дзевяццю, дваццаццю* (**але:** *шасцю, сямю, васьмю*).

Лічэбнікі ***сорак, сто*** маюць толькі дзве формы: Н., В. — *сорак, сто*; Р., Д., Т., М. — *сарака, ста*.

Лічэбнік ***дзевяноста*** не змяняецца.

У лічэбніках ***пяцьдзяся́т, шэсцьдзяся́т, се́мдзесят, во́семдзесят***, а таксама ў складаных лічэбніках ад ***двухсот*** да ***дзевяцісот*** пры скланенні змяняюцца абедзве часткі: *пяцьдзясят, пяцідзесяці, пяццюдзесяццю*; *дзвесце, двухсот, двумстам, дзвесце, двумастамі, (аб) двухстах*.

Лічэбнік ***тысяча*** скланяецца як назоўнік 1-га скланення з асновай на зацвярдзелы зычны, а ***мільён, мільярд*** — як назоўнікі 2-га скланення з асновай на цвёрды зычны. У творным склоне лічэбнік *тысяча* мае дзве формы: *тысячай* і *тысяччу*.

Лічэбнікі ***паўтара*** і ***паўтары*** ва ўсіх склонах маюць аднолькавую форму: *паўтара (вядра), паўтары (гадзіны)*.

Пры скланенні **састаўных колькасных лічэбнікаў** змяняецца кожнае слова: *сто трыццаць шэсць, ста трыццаці шасці* і г. д.

**Зборныя лічэбнікі** *двое, трое* і іншыя скланяюцца як займеннікі *мае, твае*: *двое, дваіх, дваім* і г. д.

**Парадкавыя лічэбнікі** скланяюцца як прыметнікі: *пяты, пятага, пятаму* і г. д. Пры скланенні састаўных парадкавых лічэбнікаў змяняецца толькі апошняе слова: *трыццаць другі, трыццаць другога* і г. д.

Пры скланенні **дробавых лічэбнікаў** асобна змяняецца кожнае слова: лічнік скланяецца як колькасны лічэбнік, назоўнік — як парадкавы: *адна трэцяя, адной трэцяй* і г. д.

**178.** Запішыце лічбы словамі і праскланяйце пісьмова колькасна-іменныя спалучэнні.

321 вучань, 546 гектараў, 1732 кіламетры, 1979 год.

**179.** Запішыце наступныя колькасна-іменныя спалучэнні, замяняючы лічбы словамі.

238 студэнтамі, у 69 краінах, 42 вучням, 32 вучаніцам, на 2751 гектары, у 1380 годзе, на 985 старонках, на 985-м кіламетры, у 2000 годзе, у 2010 годзе.

**180.** Запішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары, раскрываючы дужкі і замяняючы лічбы словамі.

1. Гомель уп..ршыню ўпамянуты ў летапісах у 1142 годзе. У 12 — пачатку 13 ст. ён займаў плошчу 35—40 г..ктараў *(Г. Штыхаў)*. 2. У 1965 годзе ў Беларусі перавозкі грузаў чыгуначным транспартам перавысілі ўзровень 1940 год.. ў 2,6 раза, а ўзровень 1945 год.. — у 3,6 раза. 3. У першай палове 80-х гадоў сярэдн..гадавы рост прадукцыйнасці працы складаў 4,5 %, тады як у папярэднія 5 гадоў — 8,6 %. 4. На франтах *(В/в)*ялікай *(А/а)*йчыннай *(В/в)*айны змагаліся каля 1 300 000 беларусаў. Звыш 300 000 салдат і афіцэраў былі ўзнагароджаны ордэнамі і

м..далямі, а каля 400 воінаў удастоены звання *(Г/г)*ероя *(С/с)*авецкага *(С/с)*аюза.

● Зрабіце марфалагічны разбор колькаснага і парадкавага лічэбнікаў.

**181.** Прачытайце сказы, знайдзіце і выпраўце граматычныя памылкі, звязаныя з ужываннем лічэбнікаў. Запішыце адрэдагаваныя сказы, абазначцеканчаткі лічэбнікаў.

1. Мой дзед нарадзіўся ў тысячу дзевяцісот сорак сёмым годзе. 2. Тэкст выступлення змясціўся на двух старонках. 3. У гэтым годзе прышчэпкі ад грыпу былі зроблены дзвесце тысячам грамадзян. 4. На пяцьдзясят месцаў падалі заявы звыш сто сарака абітурыентаў. 5. Цеплаход з двухстамі трыццаццю пасажырамі паплыў уверх па рацэ. 6. Бацькі ганарыліся сваімі трымя сынамі. 7. Пасевы рапсу ў гэтай гаспадарцы займаюць плошчу каля восемдзесят гектараў. 8. У мінулым годзе звыш пяцьдзясят тысяч нашых грамадзян наведалі суседнія краіны. 9. Дзяніс паступіў ва ўніверсітэт у двухтысячы сёмым годзе.

## § 30. Спалучальнасць зборных лічэбнікаў

Зборныя лічэбнікі ***двое—дзяся́цера*** спалучаюцца:

1) з асабовымі займеннікамі: *нас трое, двое з нас*;

2) з назоўнікамі:

● якія абазначаюць асоб мужчынскага полу: *трое вучняў, пяцёра салдат*;

● якія маюць форму толькі множнага ліку і падлягаюць лічэнню: *двое дзвярэй, трое саней*;

● якія абазначаюць назвы маладых істот: *трое кацянят, сямёра ягнят*;

● *дзеці, коні* і з некаторымі іншымі: *чацвёра дзяцей, трое коней*.

Зборнымі з’яўляюцца і лічэбнікі *абодва, абедзве*. Пры спалучэнні з назоўнікамі мужчынскага і ніякага роду ўжываецца лічэбнік ***абодва***: *абодва браты, абодва*

*колы*; з назоўнікамі жаночага роду — лічэбнік ***абедзве***: *абедзве сяброўкі*. Калі размова ідзе пра асоб і мужчынскага, і жаночага полу, ужываецца зборны лічэбнік ***абое***: *Антон і Вольга былі студэнтамі, абое вучыліся ў БДУ*.

**182.** Вызначце, якія з прапанаваных слоў спалучаюцца з лічэбнікамі *двое, трое*. Утварыце і запішыце адпаведныя словазлучэнні.

Кнігі, джынсы, мы, вуліцы, сябры, коні, зайчаняты, аднакурсніцы, футбалісты, акуляры, фігурысткі, нажніцы, суткі, спартсмены, перамовы, лісяняты, аўтамабілі.

**183.** Прачытайце сказы, знайдзіце і выпраўце памылкі, абумоўленыя няправільным ужываннем лічэбнікаў. Адрэдагуйце сказы.

1. У абодвух сябровак дзень нараджэння быў 18 верасня. 2. Абаім падарожнікам было што расказаць сваім родным. 3. У Пятра было пяцёра дзяцей: трое сыноў і двое дачок. 4. Маці збірала чарніцы абаімі рукамі. 5. Трое аднакласніц: Ганна, Ірына і Аліна — наведвалі студыю выяўленчага мастацтва. 6. У аўдыторыі было двое дзвярэй і чацвёра акон. 7. Абодва — Ігар і Аксана — працавалі на трактарным заводзе.

## Нормы ўжывання займеннікаў

## § 31. Некаторыя марфалагічныя асаблівасці займеннікаў

1. Зваротны займеннік ***сябе*** мае наступныя склонавыя формы: Р. — *сябе*, Д. — *сабе*, В. — *сябе*, Т. — *сабой (-ою)*, М. — *(пры) сабе*.

2. Для абазначэння прыналежнасці прадмета 3-й асобе ўжываюцца займеннікі ***яго, яе, іх***. Формы *ягоны, ягоная, іхні*, якія часам сустракаюцца ў гутарковым маўленні і ў мастацкіх творах, не адпавядаюць марфалагічным нормам беларускай літаратурнай мовы.

Займеннікі ***мой, твой*** у родным склоне адзіночнага ліку жаночага роду маюць форму ***маёй, тваёй***. Формы *мае, тваe* з'яўляюцца ненарматыўнымі.

Займеннікі ***свой, наш, ваш*** у родным склоне адзіночнага ліку жаночага роду побач з формай *сваёй, нашай, вашай* маюць і менш пашыраную — *свае, нашае, вашае*. Ужыванне ў назоўным склоне формаў *нашая, вашая, нашае, вашае, нашыя, вашыя*, а ў вінавальным — *нашую, вашую, нашае, вашае, нашыя, вашыя* не адпавядае марфалагічным нормам (трэба: *наша, ваша, нашу, вашу* і г. д.).

3. Указальны займеннік ***гэты*** ў вінавальным склоне жаночага роду мае формы *гэту* і *гэтую*, у родным склоне — *гэтай* і *гэтае*. Займеннік *тая* ў родным склоне мае формы *той, тае́*.

4. Ва ўскосных склонах азначальнага займенніка ***сам*** націск падае на канчатак: *само́га, само́му*; займенніка ***самы*** — на аснову: *са́мага, са́маму*.

Займеннік жаночага роду ***сама*** ў вінавальным склоне мае дзве формы: *саму́* і *саму́ю*. Займеннік жаночага роду ***ўся*** ў родным склоне побач з формай *усёй* мае менш пашыраную *ўсяе́*.

5. Займеннік жаночага роду ***чыя*** ў родным склоне мае формы *чыёй, чые*.

6. Пры скланенні адмоўных займеннікаў ***ніхто, нішто*** націск падае на першы галосны канчатка: *ніко́га, нічо́га*. У займенніку ***ніякі*** *(ніякая, ніякае, ніякія)* ва ўсіх склонавых формах націск захоўваецца на аснове: *ніякага, ніякаму* і г. д.

Прыназоўнік, які ўжываецца пры адмоўным займенніку, ставіцца пасля ***ні***: *ні з чым, ні з якім*.

**184.** Спішыце сказы, афармляючы іх у адпаведнасці з арфаграфічнымі нормамі і ставячы займеннікі, што ў дужках, у патрэбнай склонавай форме. Пры магчымасці ўжывання дзвюх формаў другую ўкажыце ў дужках.

1. Ваюючы з прыродай, чалавек пачынае вае*(н/нн)*ы.. дзея*(н/нн)*і і супраць *(сябе) (сам) (Я. Радкевіч)*. 2. Перад

*(ніхто)* у цэлым свеце вачэй мы не апусцім да з..млі *(Б. Алейнік)*. 3. Валя прывыкла называць *(гэты)* зорку сваёй *(В. Гігевіч)*. 4. *(Усе)* сябрам ты[м] не дагодзіш, а толькі сам[м] *(сябе)* нашкодзіш *(С. Міхалкоў)*. 5. Васілю падабалася ў брыгадзе. Ніхто[м] на *(ніхто)* не крычаў, не падганяў *(І. Навуменка)*. 6. З *(уся)* *(П/п)*ола*(ч/чч)*ыны прыехалі ў горад на восеньскі кірмаш с..ляне. 7. На варце *(наш)* краіны стаялі дружна лепшы.. сыны *(П. Глебка)*. 8. З *(гэты)* станцыі эл..ктрычнасць атрымліваюць найбуйнейшы.. прадпрыемствы горада.

**185.** Прачытайце сказы, знайдзіце займеннікі, пры ўжыванні якіх парушаны марфалагічныя нормы. Запішыце сказы ў адрэдагаваным выглядзе.

1. Ягоных бацькоў я ведаў вельмі добра. 2. Самага дырэктара на нарадзе не было: паехаў у камандзіроўку. 3. Пры сябе ў байцоў былі рукзакі з боепрыпасамі і харчаваннем і зброя. 4. Іхняя хата стаяла недалёка ад маёй, пры рэчцы. 5. Нашая рэчка яшчэ сорак гадоў таму была вельмі рыбная. 6. У мае сястры дачка вучыцца ў каледжы. 7. Ніякога дажджу сёння так і не было. 8. На вашае вяселле я абавязкова прыйду. 9. Дзед нікога не запрашаў да сябе і да нікога не хацеў ісці сам.

## Нормы ўжывання дзеясловаў

### § 32. Ужыванне асабовых канчаткаў дзеясловаў

Пры ўтварэнні формаў 1-й асобы множнага ліку дзеясловаў І спражэння канчаткі ***-ом, -ём*** ужываюцца пад націскам, канчаткі ***-ам, -ем*** — не пад націскам: *беражо́м, вязём, пі́шам, малю́ем.*

У формах 2-й асобы множнага ліку дзеясловаў пад націскам ужываюцца канчаткі ***-аце, -яце***, не пад націскам — ***-аце, -еце:*** *сечаце́, ідзяце́, ка́жаце, зберага́еце.*

**186.** Пры спісванні сказаў раскрыйце дужкі і замяніце формы дзеясловаў 2-й асобы адзіночнага ліку формамі 2-й асобы множнага ліку.

1. Як пражывеш, так і праслывеш. 2. Вышэй галавы *(не)*падскочыш. 3. За *(дву/дзвю)*ма зайцамі пагонішся — ні аднаго *(не)*зловіш. 4. З кім павядзешся, ад таго і набярэшся. 5. З песні слова *(не)*выкінеш. 6. З хараства вады *(не)*нап'ешся. 7. Маслам кашу *(не)*сапсуеш. 8. Паспяшыш — людзей насмяшыш. 9. Шыла ў мяшку *(не)*утоіш.

● Зрабіце марфалагічны разбор двух дзеясловаў (I і II спражэнняў).

**187.** Прачытайце сказы, знайдзіце і выпраўце граматычныя памылкі, абумоўленыя парушэннем марфалагічных нормаў.

1. Мы ідзем па беразе лясной рачулкі, якая ўпадае ў возера Кромань. 2. Як пасеяце, так і пажнеце. 3. «Ці падвязеце Вы нас да Гомеля?» — спыталі хлопцы. 4. «Давай возьмям Шарыка з сабою ў лес», — прапанавала старэйшая дзяўчына. 5. Якую робіце справу, такую маяце славу. 6. Давайце мы падстрыжэм гэтыя кусты, і знешні выгляд дворыка адразу зменіцца.

Неабходна адрозніваць канчаткі дзеясловаў абвеснага і загаднага ладу.

Формы 1-й асобы множнага ліку загаднага ладу ўжываюцца з канчаткамі ***-ем (-эм, -ам), -ім (-ым)***. Адны з гэтых формаў спецыфічныя для загаднага ладу: *хадзем, бярэм, нясем* і інш., другія супадаюць з формамі будучага простага часу абвеснага ладу: *сходзім, напішам, паедзем* і інш.

**188.** Спішыце сказы, выбіраючы з дужак неабходныя канчаткі дзеясловаў. Растлумачце ўжыванне гэтых канчаткаў.

1. Раніца. Світае. Бяр*(ом/эм)* падрыхтаваныя з вечара вуды і ідз*(ём/ем)* да возера. 2. «Няс*(ем/ём)* усё гэта да нас», — прапанаваў Андрэй, паказваючы на вёдры з ры-

баю. 3. «Бяр*(эм/ом)* лыжы і выходзім на стадыён», — гучным голасам загадаў настаўнік фізкультуры. 4. «Адпачн*(ем/ём)* хвіліну. Нікуды не ўцячэ гэтая касьба», — сказаў дзед Нічыпар, выціраючы касу вільготнаю травою. 5. Ужо амаль суткі плыв*(ем/ём)* на невялікім цеплаходзе ўніз па Дняпры.

## Нормы ўжывання прыслоўяў

### § 33. Ступені параўнання прыслоўяў

**189.** Карыстаючыся табліцамі, успомніце і раскажыце, як утвараюцца ступені параўнання прыслоўяў.

**Вышэйшая ступень параўнання**

| Простая форма | Складаная форма |
|---|---|
| *цёпла — цяплей,*<br>*высока — вышэй.*<br>**Але:** *добра — лепш, дрэнна — горш, мала — менш, многа — больш* | *цікава — **больш** цікава,*<br>*зразумела — **менш** зразумела* |

**Найвышэйшая ступень параўнання**

| Простая форма | Складаная форма |
|---|---|
| *халадней — найхаладней,*<br>*прыгажэй — найпрыгажэй,*<br>*лепш — найлепш* | *цікава — **найбольш** цікава,*<br>*зразумела — **найменш** зразумела;*<br>*вышэй — вышэй **за ўсіх,***<br>*больш — больш **за ўсё*** |

З а ў в а г а. У гутарковым і мастацкім стылях побач з формамі *лепш, горш, менш, больш* ужываюцца формы *лепей, горай, меней, болей*: *Рана ўстанеш — болей зробіш* (Прыказка).

**190.** Прачытайце прыказкі. Знайдзіце прыслоўі, якія ўжываюцца ў простай форме вышэйшай ступені параўнання. Назавіце іх формаўтваральныя суфіксы.

1. Адна галава добра, а дзве лепш. 2. Ворану вышэй арла не лятаць. 3. Далей у лес — болей дроў. 4. Лепш пазней, чым ніколі. 5. Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек — дзе лепей. 5. У гасцях добра, а дома лепш. 6. Хвалі, хвалі, каб больш далі. 7. Цішэй едзеш — далей будзеш. 8. Глыбей узарэш — болей збярэш.

**191.** Запішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі. Падкрэсліце прыслоўі ў форме вышэйшай і найвышэйшай ступеняў параўнання, растлумачце, як яны ўтварыліся.

1. З усіх птушак найболей падаюць голас сініцы. Зв..-няць бе..клапотна[м], як званочкі *(І. Навуменка)*. 2. Найменш актыўна паводзіў с..бе стары Мікіта *(М. Гарэцкі)*. 3. Найбольш яскрава[м] талент Ц. Гартнага вы..віўся ў прозе *(А. Клачко)*. 4. Аповес*(?)*ць «У *(П/п)*але*(с/сс)*кай глушы» найбольш поўна раскрывае духоўны пат..нцыял інт..лігента «першага пакале*(н/нн)*я» Лабановіча *(І. Навуменка)*. 5. Усё гучней і больш рашуча чуліся патрабава*(н/нн)*і міру, з..млі, свабоды *(У. Дуброўскі)*.

**192.** Прачытайце сказы, знайдзіце сярод іх тыя, у якіх парушаны нормы ўжывання прыслоўяў. Выпраўце памылкі.

1. Паказалася сонца. Дзень разгараўся ўсё больш ярчэй. 2. Найбольш эфектыўней працавалі прадпрыемствы перапрацоўчай галіны ў чацвёртым квартале. 3. Ад гэтых раскатаў грому станавілася ўсё больш трывожней на душы. 4. Наступны дакладчык гаварыў больш зразумела, ілюструючы кожнае сваё меркаванне цікавым прыкладам. 5. Найбольш паспяхова выступілі на гарадской алімпіядзе вучні нашай школы. 6. Ноччу выпаў снег. Ад яго на вуліцы стала больш святлей.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Што вызначаюць марфалагічныя нормы?
2. Назавіце лексічныя паказчыкі адушаўлёных і неадушаўлёных назоўнікаў. Як уплывае адушаўлёнасць/неадушаўлёнасць назоўнікаў на ўтварэнне формаў вінавальнага склону?
3. Прывядзіце прыклады назоўнікаў, у якіх род у беларускай і рускай мовах не супадае.
4. Да якога роду адносяцца назоўнікі, што маюць нулявы канчатак і называюць асоб паводле іх прафесійнай дзейнасці, роду заняткаў?
5. Як вызначаецца род: а) нескланяльных назоўнікаў; б) неадушаўлёных складаных назоўнікаў, якія пішуцца праз злучок?
6. Прывядзіце прыклады назоўнікаў, якія ўжываюцца ў форме: а) толькі адзіночнага ліку; б) толькі множнага ліку.
7. Ад чаго залежыць ужыванне склонавых канчаткаў назоўнікаў 1-га скланення? Утварыце формы адзіночнага ліку давальнага, творнага і меснага склонаў назоўнікаў: а) на цвёрды зычны; б) на зацвярдзелы зычны; в) на мяккі зычны; г) на ***-г, -к, -х***.
8. Ад чаго залежыць ужыванне канчаткаў назоўнікаў мужчынскага роду 2-га скланення ў родным склоне? З якімі канчаткамі ўжываюцца назоўнікі 2-га скланення ў месным склоне адзіночнага ліку?
9. Праскланяйце спалучэнні: а) *Віктар Хадановіч*; б) *Алена Пінчук*; в) *горад Жлобін*.
10. У чым асаблівасць утварэння формаў творнага склону назоўнікаў трэцяга скланення тыпу *ціш, лань*?
11. Якія асаблівасці скланення маюць рознаскланяльныя назоўнікі?
12. З якімі канчаткамі ўжываюцца назоўнікі: а) у родным склоне множнага ліку; б) у месным склоне множнага ліку?
13. Як утвараюцца ступені параўнання якасных прыметнікаў?
14. Ад назоўнікаў якога роду і з дапамогай якіх суфіксаў утвараюцца прыналежныя прыметнікі?
15. Праскланяйце спалучэнні: а) *тры тысячы восемсот пяцьдзясят чатыры*; б) *дзве тысячы дзясяты год*.
16. З якімі словамі спалучаюцца зборныя лічэбнікі?
17. Праскланяйце займеннікі *свая, самы, ніхто*.
18. Утварыце формы 2-й асобы множнага ліку дзеясловаў *весці, везці, класці, маўчаць, пісаць, спаць, думаць*.
19. Як утвараюцца ступені параўнання прыслоўяў?

## § 34. Сінтаксічныя нормы

**Сінтаксічныя нормы** беларускай мовы выяўляюць правільную пабудову словазлучэнняў і сказаў. Гэтыя нормы грунтуюцца як на правілах сувязі дзейніка і выказніка, слоў у словазлучэннях (дапасаванне, кіраванне і прымыканне), так і на сінтаксічных асаблівасцях асобных слоў, іх семантыкі. Сінтаксічныя нормы рэгулююць правільнасць пабудовы сінтаксічных канструкцый, ужывання прыназоўнікаў з рознымі склонавымі формамі назоўнікаў і займеннікаў. У правілах пабудовы сінтаксічных канструкцый выразна выяўляецца адметнасць мовы.

Спецыфіка сінтаксічных канструкцый у беларускай мове ў параўнанні з рускай праяўляецца ў наступным:

1. Дзеясловы ветлівасці *дзякаваць, выбачаць, даравац*ь утвараюць словазлучэнні з давальным склонам назоўніка ці займенніка: *дзякаваць настаўніку, выбачаць суседцы* (у рускай мове ў падобных словазлучэннях ужываецца форма вінавальнага склону: *благодарить учителя, простить соседку*).

2. Дзеясловы руху *(пайсці, паехаць, накіравацца)* і волевыяўлення *(паслаць, выправіць)* пры абазначэнні мэты дзеяння ўтвараюць сінтаксічныя канструкцыі з прыназоўнікам ***па*** і вінавальным склонам назоўніка ці займенніка: *пайсці па хлеб* (у рускай мове — прыназоўнік ***за*** і творны склон: *пойти за хлебом*. Назоўнікі *грыбы, ягады* звычайна ўжываюцца з прыназоўнікам ***у***: *хадзілі ў грыбы, пайшлі ў ягады*.

3. Дзеясловы *жартаваць, смяяцца, кпіць, цешыцца, дзівіцца, здзекавацца* і г. д. утвараюць словазлучэнні з прыназоўнікам ***з*** і родным склонам назоўніка ці займенніка: *жартаваць з сябра, смяяцца з сястры, здзекавацца з іншых* (у рускай мове — прыназоўнік ***над*** і творны склон: *шутить над другом, смеяться над сестрой, издеваться над другими*).

4. Дзеясловы *жаніцца, ажаніцца* ўтвараюць сінтаксічныя канструкцыі з прыназоўнікам ***з*** і творным склонам назоўніка ці займенніка: *жаніцца з Ганнай, ажа-*

*ніцца з ёй* (у рускай мове — прыназоўнік ***на*** і месны склон: *жениться на Анне, жениться на ней*).

5. Дзеяслоў *хварэць* і прыметнік *хворы* ўтвараюць словазлучэнні з прыназоўнікам ***на*** і вінавальным склонам назоўніка: *хварэць на сухоты, хворы на грып* (у рускай мове — форма творнага склону назоўніка без прыназоўніка: *болеть туберкулезом, больной гриппом*).

6. Пры форме вышэйшай ступені параўнання прыметніка ці прыслоўя абавязковая сінтаксічная канструкцыя з прыназоўнікам ***за*** і злучнікамі ***як, чым***: *брат старэйшы за мяне (як я, чым я), бацька прыйшоў хутчэй за цябе*. У рускай мове нарматыўная беспрыназоўнікавая канструкцыя: *брат старше меня, отец пришел быстрее тебя*.

7. Пры абазначэнні адлегласці ўжываецца сінтаксічная канструкцыя з прыназоўнікам ***за*** і вінавальным склонам колькасна-іменнага спалучэння: *за пяць крокаў ад прыпынку, за дваццаць метраў ад дома, за дзвесце кіламетраў ад Віцебска*. У рускай мове прыназоўнік ***в*** у згаданых словазлучэннях нарматыўны: *в двух шагах от остановки, в двадцати метрах от дома, в двухстах километрах от Витебска*.

**193.** Прачытайце сказы. Выпішыце адметныя беларускія сінтаксічныя канструкцыі.

1. Я з маленства табе абавязан сэрцам чыстым і светлай душой *(А. Астрэйка)*. 2. Хіба ў такіх справах слова да чаго-небудзь не абавязвае? *(К. Чорны)*. 3. Птушка салдатам абвясціла пра вясну *(М. Аўрамчык)*. 4. Ва ўсякім разе, я падобнай абяцанкай яшчэ нікога не абразіў *(П. Панчанка)*. 5. Пайсці ў абход хмызнякоў. 6. Аб'ява аб конкурсе. 7. Сродак ад прастуды. 8. У кожнай хаце са сваім старэйшым другам адведаў я смажаных грыбоў, суніц, малін *(А. Бялевіч)*. 9. Падзякаваць таварышу за дапамогу. 10. Адзнака за паводзіны. 11. Верыць у чалавечы розум. 12. У Міцкевіча нашы пісьменнікі вучацца майстэрству *(А. Лойка)*. 13. Выбачай мне за спазненне. 14. Вера расла

марудна, хадзіла ў чацвёрты клас, а выглядала на другакласніцу *(А. Кудравец)*. 15. Колькі ўдоў і сірот засталося пасля вайны, але ніхто не выракаўся дзяцей *(А. Пальчэўскі)*. 16. Я чуў на Замкавай гары, як хлопец незнаёмы сябрам натхнёна гаварыў пра Гродна і пра Нёман *(Ю. Свірка)*. 17. Пазіралі, гаварылі нівы, сенажаці... Так гаруе хіба сэрца па сваёй утраце *(Я. Колас)*. 18. Даведка аб месцы жыхарства. Даведка з месца работы. 19. Дагавор на пастаўку медыцынскага абсталявання. 20. «На ўсё трэба здатнасць», — гавораць мудрыя людзі *(А. Кулакоўскі)*.

● Складзіце і запішыце 5—6 сказаў з выпісанымі сінтаксічнымі канструкцыямі.

**194.** Прачытайце. Раскажыце пра віды сінтаксічных памылак. Прыведзеныя прыклады запішыце, выправіўшы памылкі.

СІНТАКСІЧНЫЯ ПАМЫЛКІ

1. Парушэнне парадку слоў у сказе: *Яны хадзілі ў абдымку з транзістарам па праспекце, які грымеў на ўсю моц.*
2. Парушэнне формаў дапасавання: *Дзеці ішлі сцежкай, атуленым лесам.*
3. Памылкі ў кіраванні: *Яна любіла і захаплялася спортам.*
4. Паўтарэнне займенніка пры дзейніку: *Купала, ён нарадзіўся ў 1882 годзе.*
5. Няправільнае спалучэнне аднародных членаў сказа: *Яна любіла танцаваць і песні.*
6. Няправільная пабудова сказаў з дзеепрыметнымі словазлучэннямі: *Паступіла шмат прапаноў рабочых, накіраваных на ўдасканаленне працы.*
7. Няправільная пабудова сказаў з дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі: *Пад’ехаўшы да вёскі, пайшоў дождж.*
8. Пропуск патрэбнага слова: *Рашылі вызваліць Пятрову з займаемай пасады даглядчыцы цялят да здачы на мяса.*
9. Нанізванне аднолькавых склонаў: *Ход выканання плана падрыхтоўкі мінеральных угнаенняў.*

*(Ніна Гілевіч).*

**195.** Падбярыце і запішыце беларускамоўныя адпаведнікі. Пры неабходнасці звяртайцеся да перакладнога слоўніка або да слоўніка-даведніка Ганны Арашонкавай і Валянціны Лемцюговай «Кіраванне ў беларускай і рускай мовах».

Справочник по высшей математике, выучиться на слесаря, освободить от занимаемой должности, загадать какое-либо число, привыкнуть к участию в соревнованиях, тосковать по друзьям, согласно с требованиями морали, привычный к холоду, судья решил дело в пользу истца, принять меры против распространения гриппа, ехать в надежде на короткую встречу, наблюдать за ребенком, недосмотреть многих описок, неуверенность в себе, скорбеть по погибшим, мать тревожится за сына, воздействовать на слушателя посредством живого слова, уклоняться от ответа, условиться о сроке отъезда, воздержаться от дискуссии, эпилог к опере, в надежде на скорую встречу, характеристика на ученика, соревноваться в ловкости и смелости, унаследовать характер у матери.

● З чатырма (пяццю) сінтаксічнымі канструкцыямі запішыце сказы.

**196.** Прачытайце разважанні вучонага пра спалучальнасць лічэбнікаў з назоўнікамі.

Амаль ва ўсіх падручніках і дапаможніках па беларускай мове (у тым ліку і для вышэйшай школы), калі гаворка заходзіць пра спалучальнасць лічэбнікаў з назоўнікамі, сцвярджаецца, што пры лічэбніках ***два (дзве), абодва (абедзве), тры, чатыры*** назоўнік ужываецца ў форме назоўнага склону множнага ліку.[сн] Правіла звычайна ілюструецца прыкладамі, якія не выклікаюць сумнення: *два сыны, тры крыніцы, чатыры вучні*.

Калі карыстацца гэтым правілам, то трэба было б гаварыць і пісаць так: *нага — ногі* (мн. л.) — *дзве ногі, сям'я — сем'і — дзве сем'і; абедзве дочкі; тры вёдры; два бярвёны, дваццаць дзве вёрсты*. Аднак мы гаворым і пішам інакш: 1) Вясна ўжо стала на *абедзве нагі (А. Лобан)*; 2) Паабапал вуліцы — двухпавярховыя дамы на *ча-*

*тыры сям'і (Я. Сіпакоў)*; 3) Дзень упустую праблукаўшы па бары, грыбнік ударыў вобзем *два вядры* і пад сасною, зморана, прысеў *(«Вожык»)*. Вымаўленне[ф] гэтых і шмат якіх іншых колькасна-іменных спалучэнняў «па правілах» — парушэнне[сл] такой якасці маўлення, як правільнасць. Названае правіла патрабуе ўдакладнення, неабходна назваць[с] выключэнні з гэтага правіла.

Па-першае, усе назоўнікі жаночага роду з націскным канчаткам у назоўным склоне адзіночнага ліку і рухомым націскам пры спалучэнні з лічэбнікамі ***два, тры, чатыры*** супадаюць[м] і па канчатку, і па націску не з назоўным склонам множнага ліку, а з родным адзіночнага: *рака — ракі — чатыры ракі (а не рэкі), сястра — сястры — дзве сястры*. Вось толькі некаторыя з гэтых назоўнікаў: *сцяна, дуга, канапа, пара, каса, каза, страха, вайна, сірата, галава, сава, стапа, ступня, пятля, страфа, старана, пята, барада, труба, жняя, душа, зіма, вясна, мяжа, рака, сляза, мятла, нара, гара.*

Па-другое, многія назоўнікі ніякага роду з націскным канчаткам у назоўным склоне адзіночнага ліку і рухомым націскам пры спалучэнні з лічэбнікамі ***два, тры, чатыры*** супадаюць па канчатку з назоўным склонам множнага ліку, а па націску — з родным адзіночнага: *гняздо — гнязда* (Р. скл., адз. л.) — *гнёзды* (мн. л.) — *два гнязды; акно — акна — вокны — два акны*. Яшчэ прыклады такіх назоўнікаў: *сяло, вясло, пісьмо, гумно, сядло, палатно, пяро, сцягно, сцябло, вядро, бервяно.*

Па-трэцяе, своеасабліва спалучаюцца з лічэбнікамі ***два, тры, чатыры*** і некаторыя назоўнікі мужчынскага роду[сн]. Напрыклад: *два кані, тры зубы* (параўн. у родным склоне адзіночнага ліку і назоўным склоне множнага ліку: *каня — коні, зуба — зубы*. Або: *чалавек — чалавека* (Р. скл., адз. л.) — *людзі* (мн. л.), **але** *два чалавекі*).

Характэрна, што ва ўсіх такіх колькасна-іменных спалучэннях азначэнне, калі яно аказваецца паміж лічэбнікам у назоўным склоне і назоўнікам, абавязкова ставіцца ў форме назоўнага склону множнага ліку: *дзве вялікія ракі, чатыры поўныя вядры, тры верхавыя кані.*

Апісаныя незвычайныя «паводзіны» назоўнікаў у кольках-іменных спалучэннях тлумачацца гістарычнай зменлівасцю мовы — знікненнем формы парнага ліку, яго выцясненнем множным з захаваннем націску, уласцівага былому парнаму ліку[сн] *(І. Лепешаў)*.

● Вызначце і абгрунтуйце стыль і тып тэксту.

● Складзіце план, з яго дапамогай вусна перакажыце тэкст.

● Выпішыце з тэксту асабовыя формы дзеяслова, растлумачце правапіс канчаткаў.

## § 35. Асаблівасці пабудовы сказаў з аднароднымі і адасобленымі членамі



**197.** Прачытайце. Падрыхтуйце вуснае выказванне на тэму «Асаблівасці пабудовы сказаў з аднароднымі членамі».

Спалучэнне аднародных членаў сказа павінна адпавядаць граматыка-стылістычным і лагічным патрабаванням. Калі ж члены сказа, якія выступаюць як аднародныя, ужыты ў розных граматычных формах і адказваюць на розныя пытанні, то сувязь паміж імі парушаецца: *На парадак дня былі вынесены пытанні працоўнай дысцыпліны наконт увядзення новай сістэмы аплаты працы.* **Правільна:** *На парадак дня былі вынесены пытанні працоўнай дысцыпліны, увядзення новай сістэмы аплаты працы.*

Нельга спалучаць члены сказа, якія выражаны даданай часткай складанага сказа і ўскосным склонам назоўніка, як аднародныя: *Гледачы былі ўражаны ігрой акцёраў і якія дэкарацыі знаходзіліся на сцэне.* **Правільна:** *Гледачы былі ўражаны ігрой акцёраў і дэкарацыямі, якія знаходзіліся на сцэне.*

Нельга злучаць у якасці аднародных дзеепрыметныя, дзеепрыслоўныя словазлучэнні і даданыя часткі складаных сказаў: *Гаспадыня, рыхтуючыся да свята і калі чакала гасцей, была вельмі ўсхваляваная.* **Правільна:** *Гаспадыня была вельмі ўсхваляваная, калі рыхтавалася да свята і чакала гасцей.* Не спалучаюцца ў якасці аднародных чле-

наў інфінітыў і назоўнік: *Алесь любіў рыбалку і збіраць грыбы*.

Часта памылкі тлумачацца тым, што не ўсе словы, ужытыя ў якасці аднародных членаў, могуць лексічна спалучацца з адным словам: *Многа клопату і ўвагі ўдзяляюць члены бацькоўскага камітэта арганізацыі дзіцячых свят*. Нельга сказаць: *удзяляць клопат*.

Памылкі назіраюцца ў сказах з аднароднымі членамі з парнымі злучнікамі ***не толькі — але і; як — так і*** і інш. Напрыклад, у сказе *Дзяўчынка не толькі была прыгожай, але і таленавітай актрысай* першая частка парнага злучніка *не толькі* пастаўлена не перад аднародным азначэннем *прыгожай*, а перад дзеясловам-выказнікам *была*. **Правільна** пабудаваць сказ можна такім чынам: *Дзяўчынка была не толькі прыгожай, але і таленавітай актрысай*.

Распаўсюджаная памылка — замена другой часткі парнага злучніка. Памылковым будзе сказ: *Для новай школы закуплены не толькі шафы, парты і дошкі, а таксама канцылярскія прылады*. **Правільна:** *Для новай школы закуплены не толькі шафы, парты і дошкі, але і канцылярскія прылады* (В. Кузьміч).

**198.** Выпішыце спачатку сказы з аднароднымі азначэннямі, потым — з неаднароднымі. Падкрэсліце азначэнні і назавіце ўмовы іх аднароднасці. Пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку.

1. На лясы апускаўся ранні зімовы змрок. Сыпаўся лёгкі пушысты густы і спорны снег *(А. Чарнышэвіч)*. 2. Настаўнік з цікавасцю назіраў за палешуком. Яму падабалася паляшуцкая вопратка дзядзькі[ф] чорная выцвілая суконная світка пашытая да стану шырокі ў чырвоныя палоскі даматканы[сл] пояс *(Я. Колас)*. 3. І заціхла ў полі на шырокім прыволлі праца дружных вясёлых брыгад *(А. Русак)*. 4. Высокія тонкія бярозы мяшаліся з шэрымі ствaламі хвоі і прыдавалі характар маркоты і засмучэння ўсяму малюнку *(Я. Колас)*. 5. На бляклым небасхіле ўдалечыні ўжо запалілася і ціха гарэла адзінокая самотная зорка *(В. Быкаў)*. 6. Сонца хавалася за дрэвамі. Яно прабівалася

праз галлё[ф] сосен кідаючы негарачыя чырванаватыя як звычайна перад вечарам прамяні на гонкія бронзавыя ствалы на траву *(І. Мележ)*. 7. Дробныя белыя хмаркі высцілалі яму [месяцу] дарожку сваімі лёгкімі празрыстымі тканямі і расступаліся[с] перад ім скупануўшы ў яго бляску свае танкарунныя[сл] кудры *(Я. Колас)*. 8. Цяжкія алавяныя хмары закрылі далягляд і сеюць-сеюць як на частае сіта дробны асенні дождж *(Р. Сабаленка)*. 9. У шэрай начной цемені мільгаючы сыпаў рэдкі дробненькі сняжок *(В. Быкаў)*. 10. Вецер хутка гнаў цёмна-сінія дымныя хмары засцілаючы імі ватныя клубістыя воблакі, што яшчэ нядаўна былі на небе[сн] *(І. Мележ)*. 11. На высокай горцы стаяў прыземісты добра адбудаваны з замахам на харатво вятрак* адзінокі і нібы забыты *(Я. Колас)*.

● Выпішыце прыклады да правіла «Правапіс складаных слоў».

**199.** Спішыце, падкрэсліце адасобленыя члены сказа. Расстаўце і растлумачце знакі прыпынку.

1. Не за гарамі восень і над **ільнянішчам** гарцуюць шпакі; вяртлявыя яны не маюць спакою чакаючы калі возьме ды пацягне іх адгэтуль у край багаты цяплом *(І. Пташнікаў)*. 2. Дзень распагоджваўся ён проста ззяў[ф] чысценькі і па-летняму[с] яшчэ звонкі *(В. Каваленка)*. 3. Высокі дом з цагляным падмуркам з чарапічным дахам быў адным з самых прыкметных у вёсцы *(М. Ткачоў)*. 4. Зялёнаю хваляй ракі гайдаецца жыта краса Беларусі калоссем цалуе блакіт *(П. Глебка)*. 5. Спіць за барамі ў калысцы пясчанай[ф] сіняя Нарач дзіцё акіяна *(А. Вялюгін)*. 6. Апошнія часы за выключэннем некалькіх марозных дзён неба хмурнае і часта ідуць дажджы *(Ф. Багушэвіч)*. 7. Над Беларуссю ноч была пажар гуляў замест заранкі *(П. Броўка)*. 8. У непраходнай глухамані гняздзіцца[с] на векавых дрэвах рэдкі птах чорны бусел *(В. Вольскі)*. 9. Пад шэлест лісця пад птушыны спеў апалены апошняй навальніцай расою цёплай вымыты даспеў тугі каляны жолуд над крыніцай *(С. Грахоўскі)*. 10. І тут як на ліха пасыпаў дождж не густы і не надта[ф] напорысты *(В. Быкаў)*. 11. Сыпнуў-

шы[сл] косы залатыя блакіт на дне тваім заснуў калыша ў сэрцы далі тыя загонаў плужную вясну *(П. Пестрак)*.

● Растлумачце напісанне выдзеленага слова. Запішыце прыклады на ўсе выпадкі правапісу прыстаўных галосных і зычных.

● Зрабіце сінтаксічны разбор складанага сказа з рознымі відамі сувязі.

● Назоўнікі 3-га скланення, ужытыя ў сказах, запішыце ў форме творнага склону.

**200.** Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль. Назавіце лексічныя, марфалагічныя і сінтаксічныя прыметы гэтага стылю. Спішыце, пастаўце знакі прыпынку і растлумачце іх. Падкрэсліце адасобленыя члены сказа і пракаменціруйце ўмовы іх адасаблення.

Шмат чаго ў палешукоў ад буслоў шмат чаго і ў гэтых птахаў у белых світках ад людзей што жывуць у палескім краі. Аднолькава сціплыя яны і маўклівыя. Калі-нікалі кіне сярод балот свой голас бусел ніколі не закрычыць ён у хоры. Калі ж распластаўшы ружовыя на сонцы крылы выбліскваючы кожным пяром падрульвае ён задубелымі доўгімі нагамі да сваёй буслянкі вітальнай песняй азначае сваё вяртанне з далёкіх краін. Ці калі на дасвецці выйдзе ён на родныя гоні і кіне яго ў жар і холад ад бясконцасці жыцця і зямлі тады не памятаючы сябе адкінуўшы сціпласць і сарамяжлівасць безгалосы зацягне ён сваю радасную песню песню нараджэння новага дня. А дзень яго як і сялянскі ўвесь у працы. Нібыта каморнік* мерае і мерае ён балоты падоўгу ўзіраецца што там за даляглядам. Засяродзіў свой позірк у сабе слухае сам сябе слухае шапаценне вастралістых траў. Так здатны слухаць гэтыя травы касец белы сівы дзед-паляшук які махаў-махаў касой і раптам замёр ап'янеў ад раскошы мурожнага лугу *(В. Казько)*.

● Назавіце займеннікі і вызначце іх разрад. Растлумачце ўжыванне і правапіс займеннікаў у перадапошнім сказе.

● Выпішыце словы, напісаныя праз злучок. Растлумачце іх правапіс. Зрабіце марфалагічны разбор гэтых слоў.

● Выпішыце складаныя словы, растлумачце іх утварэнне і правапіс.

**201.** Прачытайце верш У. Караткевіча «Эмігранты». Сфармулюйце і запішыце асноўную думку твора. Запішыце тэкст, расстаўляючы знакі прыпынку.

Двух зуброў ад нетраў Белавежы
На Каўказ завезлі аддалі[сл].
Там лугі зялёныя бязмежныя
Там багата сонца і зямлі...
Хмары над лясамі залатымі
Соль трава вадзіцы смачнай жмут
Лёгка[м] дыхаць так як на радзіме
Але ў кожнага ёсць[ф] родны кут.
Дзеці гэтага не разумеюць
Нарадзіўшыся ў чужым бары
І на тое як яны дурэюць
Непахвальна дзівяцца зубры.
На празрыстых светла-сініх водах
Сняцца ім айчыны берагі
Папараць імшаныя калоды
Сінія пад месяцам лугі
Сінія пралескі на сугрэве
Мухамор чырвоны ля азёр
І калоны мануменТаў-дрэваў
Што вярхамі дастаюць да зор.

● Паразважайце, што дазваляе паэту аб'яднаць у адзін рад лагічна неаднародныя паняцці *соль, трава, хмары, жмут вадзіцы; берагі, папараць, калоды, лугі*? Што звязвае іх у адзін сэнсавы і эстэтычны рад? Якімі сродкамі ствараецца эмацыянальнасць верша?

**202.** Запішыце тэкст па-беларуску. Сказы-прыклады запішыце, выправіўшы парушэнні сінтаксічных нормаў у прыкладах.

Построение обособленных конструкций

1. Недопустимо включать в состав причастного или деепричастного оборота определяемые слова: *Висящие шторы на окне не затемняли комнату.*

2. Недопустимо включать в состав безличных предложений деепричастный оборот, так как разрушается семантика

обозначения действия, совершающегося в отсутствии его производителя: *Придя домой, уже стемнело.*

3. Недопустимо создавать так называемый независимый деепричастный оборот: *Подъезжая к станции, с меня слетела шляпа.*

Построение конструкций с однородными членами

1. Недопустимо подменять один из однородных членов предложения придаточной конструкцией: *Показать значение спорта и почему я его люблю.*

2. Недопустимо отрывать от однородных членов один из связывающих их союзов: *Стальная стрела наклоняется то вперед, то плавно движется в сторону, то легко и стремительно поднимается вверх* (Т. Печенёва).

## § 36. Парадак слоў у сказе

Парадак слоў у сказе выконвае тры асноўныя функцыі: граматычную, камунікатыўную і стылістычную.

**Граматычная функцыя** парадку слоў заключаецца ў замацаванні пэўнай пазіцыі за тым ці іншым кампанентам. Напрыклад, прыназоўнік заўсёды размяшчаецца перад словам, да якога адносіцца *(Заўтра нам у школу)*; часціцы могуць быць размешчаны перад словам ці пасля яго *(не прачытаў, пайшоў бы, дай жа)*; спалучальныя злучнікі размяшчаюцца паміж аднароднымі членамі ці сказамі *(Заснулі навокал лясы і амшары, і месяц укрыўся ў шэрыя хмары* (А. Чарнышэвіч); *Дуб і бяроза)*.

Граматычная функцыя найбольш выразна праяўляецца ў наступных выпадках:

1. Парадак слоў дапамагае адрозніць дзейнік ад дапаўнення пры супадзенні іх граматычных формаў: *Дуб перарос вяз.*

2. Парадак слоў вызначае сінтаксічную функцыю галоўных членаў сказа, калі яны выражаны назоўнікам у назоўным склоне: *Мая сястра — настаўніца.*

3. Парадак слоў дапамагае вызначыць функцыю прыметніка і тым самым вызначыць тып сказа: *Ціхі вечар. Вечар ціхі* — аднасастаўны і двухсастаўны сказы.

4. Парадак слоў дапамагае высветліць сінтаксічную функцыю інфінітыва і вызначыць структуру сказа, якая залежыць ад гэтай функцыі: *Ісці па адкрытым полі ў час дажджу небяспечна* — двухсастаўны сказ; *Небяспечна ісці па адкрытым полі ў час дажджу* — аднасастаўны сказ.

5. Граматычная функцыя парадку слоў праяўляецца і тады, калі дадзеныя члены выражаны назоўнікамі ва ўскосных склонах: *Дарога **да** свайго **дома** заўсёды лёгкая. Дарога павярнула **да** майго **дома**.*

6. З дапамогай парадку слоў адрозніваюць дзве акалічнасці, адна з якіх адносіцца да дзеяслова-выказніка, другая — да другой акалічнасці: *Заўтра я прыйду раніцай. Я прыйду заўтра раніцай.*

Парадак слоў мае граматычнае значэнне ў спалучэнні колькаснага лічэбніка з назоўнікам (*дваццаць чалавек* — дакладная колькасць; *чалавек дваццаць* — прыблізная колькасць).

**Камунікатыўная функцыя** ўдзельнічае ў фарміраванні сэнсу, камунікатыўнай структуры сказа. Значнасць парадку членаў сказа падкрэсліваецца інтанацыйна, пры дапамозе лагічнага націску. Дзякуючы парадку слоў сказ паведамляе канкрэтную думку ў адпаведнасці з задачамі камунікацыі.

**Стылістычная функцыя** парадку слоў выражаецца не толькі ў *інверсіі* (адваротным парадку слоў), але і ў тым, што варыянты размяшчэння кампанентаў сказа характэрны для пэўнага стылю. Парадак слоў набывае стылістычнае значэнне тады, калі перастаўляецца традыцыйны член сказа, тым самым сказу надаецца стылістычная афарбоўка, эмацыянальнасць, змяняецца лагічны націск і г. д. Стылістычная функцыя заўсёды падпарадкоўваецца камунікатыўнай *(Р. Леановіч)*.

**203.** Пісьмова адкажыце на пытанні, выкарыстоўваючы матэрыял параграфа.

1. Якія асноўныя функцыі выконвае парадак слоў?
2. У якіх выпадках выразна праяўляецца граматычная функцыя? Прывядзіце прыклады.
3. У чым заключаецца камунікатыўная функцыя парадку слоў?
4. Як выяўляецца стылістычная функцыя парадку слоў? Прывядзіце прыклады.

**204.** Прачытайце. Вызначыце і растлумачце функцыю парадку слоў у прыведзеных сказах.

1. Якое неба заўтра засялю? З якіх арбіт пабачацца[с] мне цуды? Не ведаю. Адно скажу: зямлю — вось гэту, грэшную, ніколі не забуду *(В. Зуёнак)*. 2. А ў небе, як краб у палонцы, высушвае промні тваё зледзянелае сонца *(У. Някляеў)*. 3. Адшумеў лістапад, адзвінелі дажджы, і зіма нагнала пякучых вятроў *(П. Панчанка)*. 4. На твар мне падаюць кроплі... Гэта бяроза нада мной, спакойная, мокрая, асенняя *(А. Адамовіч)*. 5. З другога боку, на поўнач, балоты крыху адступалі, дорачы людзям пясчанае поле. Адступалі балоты і на заходнім баку, дзе рунелі ці жаўцелі да краю лесу палі *(І. Мележ)*.

- Выпішыце сказ з рознымі відамі сувязі, зрабіце яго сінтаксічны разбор.
- Выпішыце дзеясловы, вызначце іх спражэнне.
- Назавіце часціны мовы ў апошнім сказе.

**205.** Прачытайце. Вызначце тып тэксту і абгрунтуйце сваю думку.

Правільны парадак слоў *слушна* лічыцца адной з лінгвістычных умоў лагічнасці маўлення. Няўдалы парадак слоў прыводзіць да лагічнай невыразнасці, спараджае двухсэнсавасць[сл].

Правільны парадак слоў трэба захоўваць пры ўжыванні займеннікаў 3-й асобы *(ён, яна, яно, яны)*. Выкарыстоўваючы іх, неабходна сачыць, каб было зразумела, на якое

слова паказвае займеннік.[сн] Лагічнасць маўлення парушаецца, калі ў простым ці, часцей, складаным сказе або ў межах двух суседніх сказаў няма выразнай сувязі паміж назоўнікам і займеннікам, які выступае замест гэтага назоўніка. Таму трэба захоўваць правіла: займеннік паказвае на бліжэйшы да яго (папярэдні) назоўнік таго самага роду і ліку. Калі гэта правіла парушаецца, то ўзнікае двухсэнсавасць, незразумеласць, а то і *кур'ёз**. Напрыклад, у газеце «Літаратура і мастацтва» прыводзіўся ўрывак з *ліста* ў рэдакцыю: *«Бычкоў так кормяць даглядчыкі, каб да восені кожны з іх дасягнуў 300 кілаграмаў»*. Яшчэ прыклады з *рубрыкі* «Пяро нарыпела» ў часопісе «Вожык»: 1) з *дакладной запіскі* кладаўшчыка: *«Калі гаварыць шчыра, дык за лубін адказвае аграном, бо ён яшчэ з восені ляжыць пад брызентам і пакрыўся цвіллю»;* 2) з *тлумачальнай запіскі*: *«8-га снежня, калі прыйшоў дамоў, ёдам змазаў рану кату. 10-га я хадзіў да доктара, бо ён укусіў мяне за палец»*.

Як бачым, парадак слоў выступае *істотным* фактарам структурнай арганізацыі сказа і важнай умовай лагічнасці маўлення *(І. Лепешаў)*.

● Пісьмова адкажыце на пытанні: 1. Чаму важна захоўваць правільны парадак слоў? 2. Якія правілы дапамагаюць захаваць правільны парадак слоў пры ўжыванні займеннікаў 3-й асобы?

● Вусна перабудуйце сказы-прыклады, пазбавіўшыся двухсэнсавасці.

● Выпішыце ўжытыя ў тэксце назоўнікі 3-га скланення, пастаўце іх у форме творнага склону, растлумачце правапіс.

## § 37. Сувязь дзейніка і выказніка ў сказе



**206.** Прачытайце. Выпішыце сказы-прыклады, растлумачце ўжыванне формаў дзейніка і выказніка.

Выбар формы выказніка залежыць не толькі ад формы дзейніка, але і ад парадку размяшчэння галоўных членаў, наяўнасці ці адсутнасці даданых членаў, стылістычнай афарбоўкі сказа і інш.

Асноўныя выпадкі дапасавання дзейніка да выказніка наступныя:

1. Пры дзейніку, выражаным спалучэннем колькаснага лічэбніка з назоўнікам, выказнік звычайна ставіцца ў множным ліку, калі гаворка ідзе пра жывыя істоты, або ў адзіночным ліку, калі дзейнікам з'яўляюцца назвы неадушаўлёных прадметаў ці звяртаецца ўвага на іх агульную, прыблізную колькасць, сукупнасць: *Тут* ***сабраліся дзесяць тысяч чалавек****. Перад яго позіркам* ***прамільгнулі*** *няясна* ***дзве постаці****.* ***Сабралася*** *чалавек* ***каля дваццаці****.*

2. Калі ў састаў колькасна-іменнага словазлучэння ўваходзяць азначэнні ці словы *ўсе, гэтыя*, выказнік ужываецца толькі ў множным ліку, а калі гэтае словазлучэнне мае словы *ўсяго, толькі,* выказнік ставіцца ў адзіночным ліку: *На сходзе* ***прысутнічалі ўсе*** *чацвёра.* ***Усяго*** *восем студэнтаў* ***паехала*** *на экскурсію.*

3. Пры дзейніку, выражаным спалучэннем слоў *багата, шмат, мала, многа, некалькі, няшмат* і інш. з назоўнікамі, выказнік звычайна стаіць у адзіночным ліку: ***Некалькі*** *эшалонаў* ***стаяла*** *на рэйках.*

4. Калі дзейнік выражаны словамі *большасць, большая (меншая) частка* ў спалучэнні з назоўнікам роднага склону множнага ліку, выказнік ставіцца ў множным ліку пры абазначэнні асоб і ў адзіночным ліку — пры абазначэнні прадметаў: ***Большасць*** *нашых* ***хлопцаў служылі*** *ў войску.* ***Большасць кніг****, завезеных у бібліятэку,* ***была закуплена*** *шэфамі.*

5. Выказнік ставіцца ў адзіночным ліку, калі ў састаў дзейніка ўваходзяць назоўнікі са значэннем пэўнай колькасці (*дзясятак, сотня, пара, тройка* і г. д.) або няпэўнай колькасці (*маса, процьма, група, безліч* і інш.): *На самым краі поля* ***стаяла купка дрэў****.*

6. Калі ў склад дзейніка ўваходзяць словы *гадоў, месяцаў, тыдняў, дзён, зім* і г. д., выказнік ставіцца ў *адзіночным ліку*: ***Мінае год*** *за годам.*

7. Выказнік ставіцца ў адзіночным ліку, калі ў склад дзейніка ўваходзяць зборныя лічэбнікі, а таксама словы *тысяча, мільён, мільярд*: ***Пяцёрка дзяцей стаяла*** *побач.*

Пры падкрэсліванні актыўнасці асобы выказнік можа ставіцца ў множным ліку: ***Трое пасажыраў аглядалі*** *наваколле.* ***Пяцёра студэнтаў здалі*** *сесію на «выдатна»* (Р. Леановіч).

● Выпішыце з тэксту правіла адзін зборны лічэбнік і праскланяйце яго. Абазначце канчаткі.

**207.** Запішыце сказы, ужываючы выказнік у адпаведнай форме.

1. Нямала іх *(хадзіць)* па свеце *(П. Глебка)*. 2. У вялікім пакоі *(сабрацца)* шмат людзей. 3. Большасць людзей, без шапак, у падраных кашулях і фрэнчах, *(ісці)* **нехаця** і панура *(С. Грахоўскі)*. 4. Група партызан *(ехаць)* у вёску памагчы заараць **зямлю** пад жыта *(П. Пестрак)*. 5. Гэтая ўзброеная сотня людзей *(прынесці)* з сабою і безліч[ф] сваіх партызанскіх навін, разнастайных, цікавых *(М. Ткачоў)*. 6. *(Прайсці)* некалькі тыдняў. 7. Абодва *(прасіцца)* у атрад і *(расказваць)* пра сябе — як на духу *(Ф. Янкоўскі)*. 8. Чатыры лодкі *(прыйсці)* да берага амаль праз гадзіну *(Я. Брыль)*. 9. Чацвёра *(не зводзіць)* ліхтарыкаў з лодак, лодачнікаў *(Ф. Янкоўскі)*. 10. *(Сабрацца)* багата людзей *(М. Лынькоў)*. 11. Перад Новым годам БЕЛТА *(перадаць)* радасную **навіну**.

● Пастаўце націскі ў выдзеленых словах.
● Да ўжытага ўстойлівага выразу запішыце сінонімы.

**208.** З наступнымі словазлучэннямі складзіце сказы так, каб яны выступалі ў ролі дзейніка, а дзеяслоў у форме прошлага часу — у ролі выказніка. Растлумачце выбар формы ліку выказніка.

Пяць дзён, тры гады, тысяча вяскоўцаў, пяцёра студэнтаў, безліч дзівосаў, процьма ягад, тройка коней, усе хлопцы, усяго сем выпускнікоў, шмат дзяўчат, багата чарніц, каля дзесяці кніг, звыш ста супрацоўнікаў, некалькі вучняў, колькі шчасця, безліч радасці, каля палавіны з іх, чалавек да дзесяці.

**209.** Прачытайце. Запішыце правілы на беларускай мове.

## ФОРМА ЧИСЛА СКАЗУЕМОГО ПРИ ОДНОРОДНЫХ ПОДЛЕЖАЩИХ

1. При однородных подлежащих, находящихся в форме единственного числа, сказуемое ставится в форме **единственного числа**, если:

а) подлежащие связаны разделительными союзами и находятся после сказуемого: 1. *Сегодня будет лекция или практическое занятие?* 2. *Каждую минуту к остановке подъезжал то троллейбус, то автобус.*

И с к л ю ч е н и е: если подлежащие являются словами разного рода, сказуемое употребляется в форме множественного числа: *Каждую минуту к остановке подъезжали то автобус, то маршрутное такси.*

б) если подлежащие связаны противительным союзом ***а*** либо союзами ***не только... но и, не столько... сколько*** и другими, имеющими оттенок противопоставления: 1. *Не лечение, а отдых необходим ему.* 2. *Нужна не только копия диплома, но и сам диплом.*

2. В остальных случаях предпочтительна либо необходима форма **множественного числа** сказуемого:

● *То троллейбус, то автобус подъезжали каждую минуту к остановке* (предпочтительна форма множественного числа). **Но:** *Не то троллейбус, не то автобус подъехал к остановке* (действие совершают не два предмета, а один);

● *Жажда действия, бесстрашие и решительность толкают на поиски опасных приключений* (необходима форма множественного числа);

● *Ребенок или родители должны отвечать на вопросы анкеты?* (Необходима форма множественного числа. В подобных конструкциях с разделительным союзом ближе к сказуемому располагается то подлежащее, которое находится в форме множественного числа.) **Но:** 1. *Заявление должен написать абитуриент, а не его родители.* 2. *Заявление должны писать родители, а не ребенок.* В конструк-

циях с противительным союзом форма числа сказуемого координируется с формой числа ближайшего подлежащего, которое должно обозначать утверждаемый, а не отрицаемый предмет *(И. Савко).*

**210.** Прачытайце. На аснове тэксту сфармулюйце і запішыце правілы ўжывання дзеепрыслоўных словазлучэнняў.

Навык правільнага ўжывання дзеепрыслоўнага словазлучэння грунтуецца на разуменні граматычнай структуры дзеепрыслоўя — другараднага выказніка ў сказе, звязанага з дзейнікам і асноўным выказнікам.

Няўмелае карыстанне дзеепрыслоўем прыводзіць да памылак тыпу: *Гледзячы на залацістае поле пшаніцы, сэрца напаўняецца радасцю.* Каб пазбегнуць такіх памылак, трэба кіравацца наступным.

Дзеепрыслоўе, абазначаючы дадатковае дзеянне, адносіцца не толькі да выказніка, але і да дзейніка, г. зн. і асноўнае дзеянне, выражанае дзеясловам-выказнікам, і дадатковае, выражанае дзеепрыслоўем, павінна выконвацца той самай асобай ці прадметам. Сувязь дзеепрыслоўя як з выказнікам (прымыканне), так і з дзейнікам (сэнсавая суадноснасць) схематычна выглядае так:




Сказы, у якіх дзеянні, абазначаныя дзеясловам і дзеепрыслоўем, належаць розным дзейнікам, сэнсава і граматычна няправільныя, у іх парушаецца і лагічнасць, і правільнасць маўлення: 1) *Часта, гледзячы ў люстэрка на свой «амбітны*»* нос, успамінаецца маладосць;* 2) *У мяне, згадаўшы радкі з пісьма, міжволі выкаціліся слёзы;* 3) *Яму балюча зашчаміла сэрца, уявіўшы разгублены, заплаканы твар сябра;* 4) *Ведаючы характары многіх творцаў, цяжка чытаюцца іхнія творы;* 5) *Цяпер, перачытваючы ліст ад Уладзіміра, часта прыгадваецца дзяцінства.*

У кожным з гэтых сказаў гаворыцца пра дзеянні двух зусім розных прадметаў у граматычным значэнні гэтага слова. Напрыклад, пра мяне *(я згадаў радкі)* і пра слёзы *(выкаціліся слёзы)*. Дзеепрыслоўі ў згаданых сказах не паказваюць на дадатковае дзеянне дзейнікаў-назоўнікаў у назоўным склоне і ніяк не суадносяцца з імі *(гледзячы — маладосць, згадаўшы — слёзы, уявіўшы — сэрца, ведаючы — творы, перачытваючы — дзяцінства)*.

**Як праверыць, ці правільна ўжыта дзеепрыслоўе?**

Першы прыём — трансфармацыйны: перабудоўваем сказ. Замяняем дзеепрыслоўе дзеясловам і злучаем аднародныя выказнікі злучнікам ***і***: *Дрэвы скрыпелі, пагойдваючыся ад ветру — Дрэвы пагойдваліся ад ветру і скрыпелі.* У няправільна пабудаваным сказе такой замены не зробіш: *З лётчыкам Куніцыным, лятаючы на ваенным самалёце, здарылася аварыя.*

Другі прыём. Паколькі дзеепрыслоўе мае адносна свабоднае размяшчэнне ў сказе і сэнсава звязваецца з дзейнікам, магчыма перастаноўка дзеепрыслоўнага словазлучэння бліжэй да дзейніка: *Дрэвы, пагойдваючыся ад ветру, скрыпелі.* Зрабіўшы такую перастаноўку ў няправільна пабудаваным сказе, лёгка выявіць бяссэнсіцу[c]: *Аварыя, лятаючы на самалёце...* Тая ж памылка выяўляецца пры аналагічнай перастаноўцы і ў кожным з прыведзеных вышэй прыкладаў: *Маладосць, гледзячы ў люстэрка...* і г. д.

Дзеепрыслоўі ўжываюцца і ў **абагульнена-асабовых сказах**, у якіх, як вядома, няма дзейніка, а дзеянне, выражанае дзеясловам і дзеепрыслоўем, адносіцца да кожнага, да любой асобы: *Напрацаваўшыся за дзень, пад вечар ледзь ногі цягнеш.*

У **безасабовых сказах** дзеепрыслоўе ўжываецца толькі тады, калі яно адносіцца да неазначальнай формы дзеяслова, г. зн. калі галоўны член безасабовага сказа выражаецца спалучэннем дзеяслова ці безасабова-прэдыкатыўнага слова (*трэба, неабходна, нельга, можна, варта* і інш.) з інфінітывам: *На чужы лоб сягаючы, трэба і свой падставіць* (Прыказка).

Калі ж у безасабовым сказе няма інфінітыва, дзеепрыслоўе ўжываць нельга: 1) *Адчувалася, слухаючы Казлову: тое, што яна гаварыла, ніколі не забудзе;* 2) *Там, у кіно, гледзячы на яе, мне падумалася, што Таня прыгажэйшая за Аню* (І. Лепешаў).

● Няправільна пабудаваныя сказы-прыклады запішыце, выправіўшы памылкі.

## § 38. Асаблівасці пабудовы складаных сказаў

Як вядома, простыя сказы больш характэрныя для гутарковага маўлення, складаныя — часцей ужываюцца ў навуковых тэкстах. Гэта зразумела: навуковае маўленне адлюстроўвае складаныя, рознабаковыя сувязі прадметаў і з'яў у іх прычынна-выніковай залежнасці. Ва ўсіх стылях складаныя сказы ўжываюцца па-рознаму. Так, доказна-лагічны характар выкладу ў **навуковым тэксце** патрабуе выкарыстання складаназалежных сказаў з даданымі часткамі ўмовы і прычыны. У **мастацкім стылі** пераважаюць складаназалежныя сказы з даданымі часткамі часу і даданымі азначальнымі.

Выбар аўтарам таго ці іншага тыпу сказа — складанага ці простага, складаназалежнага ці складаназлучанага, злучнікавага ці бяззлучнікавага — вызначаецца сэнсавымі і стылістычнымі асаблівасцямі кантэксту.

У сувязі з тым, што складаныя сказы разнастайныя па сваёй сінтаксічнай структуры і стылістычных асаблівасцях, у іх пабудове сустракаюцца памылкі, якія перашкаджаюць дакладнаму разуменню думкі.

Напрыклад, у афіцыйным і навуковым стылях часта ўжываюцца надзвычай вялікія складаныя сказы, у якіх зацямняецца сувязь паміж асобнымі часткамі.

Памылкі ў пабудове складаных сказаў могуць быць звязаны з парушэннем парадку слоў у аднародных даданых частках: у іх павінен захоўвацца прамы ці адваротны парадак. Няўдалым можна лічыць такі сказ: *Міхал падышоў да акна і ўбачыў казачнае відовішча,*

*дзе снегавая роўнядзь зіхацела пад промнямі зімовага сонца, дзе дрэвы застылі пад цяжкім інеем і задуменна спыніла свой ход рака*. У трэцяй аднароднай частцы варта выкарыстаць прамы парадак слоў *рака задуменна спыніла свой ход*.

Распаўсюджаныя памылкі ў пабудове складаных сказаў звязаны з тым, што ў якасці аднародных спалучаюцца член сказа і даданая частка: *Міхась быў зачараваны тым, якія змены адбыліся ў прыродзе і зімовай прыгажосцю*. **Правільна:** *Міхась быў зачараваны зменамі, якія адбыліся ў прыродзе, і зімовай прыгажосцю*. **Або:** *Міхась быў зачараваны тым, якія змены адбыліся ў прыродзе і як прыгожа стала навокал*.

Часта складаныя сказы ўжываюцца замест простых неапраўдана: *Міхась пачуў гук, які быў вельмі прыемны для слыху*. **Трэба:** *Міхась пачуў прыемны для слыху гук* (В. Кузьміч).

**211.** Пісьмова адкажыце на пытанні, выкарыстоўваючы матэрыял параграфа.

1. Чаму складаныя сказы часцей ужываюцца ў навуковых тэкстах?
2. Ад чаго залежыць выбар аўтарам тыпу сказа?
3. Якія тыповыя памылкі сустракаюцца пры ўжыванні складаных сказаў?

**212.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары і расстаўляючы знакі прыпынку. Паразважайце, чаму аўтар аддае перавагу складаным сказам.

Псіхолагі ліч..ць адна з найважнейшых умоў вырашэння канфлікт.. уменне кіраваць сабой. Ац..ніць абставіны ў цэлым усв..доміць свой інтарэс дакладна высв..тліць імкненне апанента* вызначыць аб..ект канфлікт.. усё гэта трэба ўмець зрабіць каб разабрацца[с] ў канфліктнай сітуацыі. Але тут не ўсё так проста як напрыклад з рашэнн..м інт..лектуальнай задачы паколькі ў гэтым выпадку мы маем справу з нашымі[м] пачуцц..мі.

● Падкрэсліце граматычныя асновы ў сказах (частках сказаў).

**213.** Запішыце складаныя сказы, расстаўляючы знакі прыпынку. Вызначце від даданых частак.

1. Цырк пачынаўся[с] з базарных плошчаў дзе ўзводзіліся часовыя балаганы ў якіх за невялікую плату можна было паглядзець эстрадна-цыркавую праграму *(З. Шыбека)*. 2. Кальвінісцкая школа ў Нясвіжы дзе выкладаў Марцін мясцілася каля ратушы якую дабудоўвалі[с] *(В. Іпатава)*. 3. Якая ж сіла заложана ў гэтых прасторах неабдымных родных шляхоў і якую ўладу маюць яны над табою неспакойны вечна заклапочаны падарожны? Ці не гэта нікім не выказаная казка іх якая складалася доўгімі вякамі і запісвалася агнявымі літарамі людское крыўды ў сэрцах мільёнаў падарожных што ішлі і ехалі па гэтых шляхах і думалі свае думкі? *(Я. Колас)*. 4. Я люблю часіну навальніцы калі б'е пярун па ўсіх ладах і злуюцца ў хмарах бліскавіцы кроплі асыпаючы на дах *(П. Панчанка)*. 5. Напэўна гэтая вадзіца мабыць якая чараўніца калі наўперад многа знае і пра ўраджайнасць нешта бае *(Я. Колас)*. 6. Адкуль адкуль толькі тое старцу было вядома? Адкуль ён чэрпаў мудрасць сваю калі жыў адзін адгароджаны ад цывільнага свету? *(А. Бароўскі)*.

● Растлумачце напісанне ***не*** са словамі.

● Выпішыце словы, якія ўтрымліваюць арфаграму «Правапіс ***е, ё, я***».

● Выпішыце прыклады да правіла «Правапіс суфіксаў прыметнікаў».

**214.** Прачытайце, вызначце тып і стыль тэксту. Паразважайце, чым тлумачыцца багацце розных відаў сказаў, скарыстаных пісьменнікам.

Ледзь-ледзь пачынала днець, калі над лугамі ў нізінах стаў падымацца малочны туман. Цягнула прыемным вільготным халадком, а на ўзгорках сустрэчны паток паветра быў сухі і цёплы. Проста не верылася, што пачынаўся перадапошні летні дзень. А калі развіднела і позірку адкрыліся прасторы, што імчаліся насустрач матацыклу, паказалася сапраўдная восень. Палі ляжалі голыя і смутныя,

толькі дзе-нідзе зелянела ранняя рунь. Маладыя прысады прыветліва кланяліся[с] запыленымі кронамі. Усюды: на дарозе, у абочынах, на прыгожай траве — ляжала лісце, якое час ад часу ўзлятала ўгору і кружылася ў пыльнай завірусе, што віхрылася за матацыклам.

Лемяшэвіча апанаваў нейкі смутак, хоць на свой ранішні настрой ён не мог паскардзіцца. Такое пачуццё не раз з'яўлялася ў яго. У гэтым годзе яно з'явілася ўпершыню і, здаецца, раней, чым звычайна. У горадзе, якім ён яшчэ моцна жыў, прыкметы восені заўважаліся пазней *(Паводле І. Шамякіна)*.

● Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў тэксце.

● Выпішыце з тэксту розныя віды складаных сказаў (складаназлучаны, бяззлучнікавы, складаназалежны з адным і некалькімі даданымі), зрабіце іх поўны сінтаксічны разбор.

● Зрабіце марфемны, словаўтваральны і марфалагічны разбор ужытага ў тэксце дзеепрыметніка.

**215.** Запішыце, выправіўшы парушэнні сінтаксічных нормаў.

1. Сёння ідзе не толькі дождж, але і, відаць, будзе навальніца. 2. Газіфікацыю аддаленых вёсак трэба завяршыць, якая пачалася яшчэ ў 70-я гады. 3. Гісторыя не толькі ўплывае на літаратуру, але і літаратура ўплывае на гісторыю. 4. Набягалі то невялікія хмаркі, то зноў з'яўлялася сонца. 5. На жаль, часам мы або забываем пра сяброў, або сябры забываюць пра нас. 6. Слова — вялікая сіла. Таму што слова[м] можна аб'яднаць людзей і раз'яднаць. 7. Жыццё героя — гэта гісторыя чалавека, моцнага духам і які годна выступае ад імя свайго пакалення. 8. Аб гэтым вы можаце прачытаць у матэрыялах нашага карэспандэнта, які з'явіцца ў суботнім выпуску газеты. 9. Галоўнае, чаго чакалі ад маладога інжынера, — гэта рэканструкцыю прадпрыемства. 10. Вершы прасякнуты шчырай павагай да селяніна, у якіх расказваецца пра цяжкую, але такую неабходную вясковую працу. 11. Гутарковы стыль мае свае асаблівасці, куды адносяцца непаўната выказвання, ужыванне выклічнікаў, варыянт-

насць у вымаўленні. 12. Мы спыніліся на Ушаччыне, дзе шмат азёр і вада ў якіх вельмі чыстая *(З вучнёўскіх работ)*.

● Выпішыце асабовыя назоўнікі, пастаўце іх у форме меснага склону. Растлумачце правапіс канчаткаў.

**216.** Прачытайце тэкст. Выпішыце складаназлучаныя сказы са спалучальнымі, супастаўляльнымі і размеркавальнымі злучнікамі, падкрэсліце граматычныя асновы. Расстаўце і патлумачце знакі прыпынку.

Над гаем над велізарным *абшарам* блакіту вісела даль і ў ёй была дзіўная *гармонія далікатных* тонаў і таемных мар.

Лес быццам маўчаў аднак сярод яго цішыні ўгадваліся таямнічыя цені.

Даль то прыцягвала да сябе сваёй недасягальнаю таемнасцю то далей адплывала назад хаваючыся за лесам. Яна жадала раніць душы *самотных* людзей а яны шукалі ў ёй развязкі балючага сэрца.

Даль гаварыла яе мовай была песня без слоў ды толькі чуткае вуха магло ўлавіць яе перарыўныя спевы.

Колькі *багата* жыцця ў гэтай далі ў часе сонечнага дня калі яна прасвечваецца чыстая нібы раса на чароце. Прамені сонейка прасвечваюць даль і лес ажывае ў вясёлых *зыках* і ад растопленай сасновай смалы кружыцца галава *(З. Бядуля)*.

● Запішыце сінонімы да выдзеленых слоў.

● Назоўнікі з тэксту *цень, дань, гармонія, таемнасць, песня, жыццё* запішыце ў форме творнага склону.

**217.** Спішыце. Расстаўце і патлумачце знакі прыпынку. Вызначце від даданых частак.

1. Усё пра што нам марыцца збываецца ў жыцці *(М. Хведаровіч)*. 2. Толькі ў сэрцы і можна адчуць колькі багацця даў табе край *(К. Кірэенка)*. 3. Раптам ірвануў вецер і перайшоў у такую буру што зямля закурылася

пылам *(Я. Колас)*. 4. Елачцы зялёнай сёння сняцца сны быццам вее з бору водарам лясным *(Я. Пушча)*. 5. Калі яны выйшлі на вуліцу было цёмна хоць на небе і высыпалі буйныя белыя зоркі *(А. Кудравец)*. 6. Мы ні на хвіліну не былі пахіснуты ў сваёй вялікай веры хоць права жыць у шчасці на зямлі і здабываў народ нялёгкай мерай *(К. Кірэенка)*. 7. Там пад на́міткай туманаў відзен гай сасновы што прабег паўзверх курганаў *(Я. Колас)*. 8. Памяць чалавечая падобна на скарбніцу у якой можа захавацца толькі здольнае вытрымаць буры часу і не страціць сваёй цікавасці *(Р. Сабаленка)*. 9. Яшчэ ў вялікім я даўгу ўсё разлічыцца не магу за сілы што народ мне даў *(Я. Пушча)*. 10. У жыцці заўсёды той шчаслівы дружбу хто ўсюды беражліва праз усе выпрабаванні нёс *(Я. Пушча)*. 11. Не ўсё тое мёд што салодка[сн] *(Прыказка)*. 12. У вачах адлюстравана тое што ў душы хаваецца[с] на дне *(Я. Непачаловіч)*. 13. Дзе той дуб-велікан што заглядаўся на прыгожую рэчку і смяяўся са злосці бур і вятроў? *(Я. Колас)*. 14. Я помню як пад сонцам цёплым мы Радзіме ад душы складалі гімны *(Я. Пушча)*.

● Выпішыце адзін дзеяслоў і ўтварыце ўсе магчымыя формы загаднага ладу.

**218.** Прачытайце. Наколькі блізкія вам гэтыя наказы-павучанні? Паразважайце, у чым сэнс Нагорнай пропаведзі. Прасачыце асаблівасці сінтаксічнай пабудовы ўрыўка. Чаму, на вашу думку, у тэксце задзейнічаны розныя віды складаных сказаў і адсутнічаюць простыя сказы?

Не судзіце, каб вас не судзілі, бо, якім судом судзіце, такім і вас судзіць будуць, якою меркаю мерыце, такою і вам адмерыцца. Не давайце святыні сабакам і не кідайце жэмчугу перад свіннямі, каб яны не растапталі яго нагамі сваімі і, абярнуўшыся, вас не раздавілі.

Прасіце, і вам дасца, шукайце, і знойдзеце, стукайце, і адчыняць вам, бо кожны, хто просіць, атрымае, і хто шукае, знаходзіць, і хто стукае, таму адчыняюць. Ці ёсць паміж вамі такі чалавек, які, калі сын у яго папросіць хлеба, падаў бы яму камень?

І ва ўсім, як хочаце, каб людзі рабілі з вамі, так і вы рабіце з імі, бо ў гэтым закон і прарокі.

Уваходзьце праз цесную браму, бо шырокая брама і прасторная дарога вядуць у пагібель, і многія ходзяць імі, бо цесная брама і вузкая дарога вядуць у жыццё, і нямногія знаходзяць іх *(Евангелле ад Мацвея. З Нагорнай пропаведзі)*.

- Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў тэксце.
- Паразважайце, чаму Біблію часам называюць «кнігаю кніг».

## ПУНКТУАЦЫЙНЫЯ НОРМЫ

**Пунктуацыя** — раздзел мовазнаўства, які вывучае пунктуацыйную сістэму, што складаецца з сукупнасці знакаў прыпынку (кропкі, пытальніка, клічніка, шматкроп'я, коскі, кропкі з коскай, двукроп'я, працяжніка, дужак, двукосся) і правіл іх выкарыстання ў пісьмовым тэксце. Пунктуацыя як раздзел мовазнаўства вывучае таксама заканамернасці функцыянавання пунктуацыйнай сістэмы.

У правілах пунктуацыі адлюстроўваюцца пунктуацыйныя нормы (ужыванне знакаў прыпынку для афармлення пэўных сінтаксічных адзінак пры дзеянні пэўных умоў), якія ў працэсе масавай і рэгулярнай узнаўляльнасці атрымалі адабрэнне і прызнанне ў грамадстве. Пунктуацыйнае правіла ўключае назву пэўнай сінтаксічнай адзінкі, назву знака прыпынку, якім яна афармляецца, умовы пастаноўкі знака прыпынку.

Нарматыўнае пунктуацыйнае афармленне пісьмовага тэксту азначае адпаведнасць ужытых пунктуацыйных знакаў сінтаксічнаму і сэнсаваму характару тэксту. Парушэнні пунктуацыйных нормаў кваліфікуюцца як пунктуацыйныя памылкі.

Ад пунктуацыйных памылак неабходна адрозніваць нарматыўныя пунктуацыйныя варыянты, якія выбіраюцца ў залежнасці ад канкрэтных задач выказвання і з'яўляюцца вынікам рознага асэнсавання сказаў. Яркім прыкладам пунктуацыйных варыянтаў могуць быць

знакі прыпынку, якія служаць для афармлення бяззлучнікавых складаных сказаў.

Ужыванне аднаго пунктуацыйнага варыянта замест другога можа дыктавацца кантэкстам. Так, калі побач аказваюцца падобныя па структуры і пунктуацыйным афармленні сказы, знак прыпынку ў адным са сказаў патрабуе замены.

## § 39. Знакі прыпынку ў сказах з аднароднымі членамі

Аднародныя члены сказа раздзяляюцца коскай, калі яны:

- звязаны адзін з адным бяззлучнікавай сувяззю і інтанацыяй пералічэння: *Юнакі, дзяўчаты, дзеці летняю парой весяліліся, гудзелі, бы пчаліны рой* (П. Праднікаў);
- звязаны пры дапамозе адзіночных супраціўных злучнікаў ***а***, ***але***, ***ды*** (у значэнні '***але***'), ***аднак***, ***толькі***; парных злучнікаў ***як — так і***; ***не толькі — але (а) і***; ***калі не — то (дык)***; ***хоць — але (а)***; ***хоць і не — затое (аднак)***; ***не то што — але і***; паўторных злучнікаў ***і—і***, ***ды—ды***, ***то—то***, ***ні—ні***, ***не то — не то***, ***ці—ці***, ***ці то — ці то***, ***або (альбо) — або (альбо)*** і інш.: *Музыка сціхла, **а** пасля зноў з'явілася* (К. Чорны); *Запасы прэснай вады ў Беларусі даволі вялікія, іх хопіць **не толькі** для спажывання, **але і** для продажу* («Беларусь»); *Яна [ночка] не гайдала **ні** галінкі, **ні** кусточка, **ні** былінкі, **ні** лісточка, **ні** на ніве каласочка* (Я. Колас);
- звязаны паўторным злучнікам ***і—і***, перад якім ужо ёсць адзін з аднародных членаў сказа (коска ставіцца і перад першай часткай паўторнага злучніка ***і—і***): *Ціхі шэпат бяроз і дубоў, вечна юных ялінак і сосен, што ўтойваюць боль, **і** любоў, **і** пакуты ў сцюдзёную восень* (П. Праднікаў).

З а ў в а г а 1. Аднароднымі членамі сказа не з'яўляюцца і коскай не раздзяляюцца азначэнні, якія характарызуюць прадмет з розных бакоў і звязаны толькі бяззлучнікавай сувяззю, без інтанацыі пералічэння: *Адвячорак на дварэ пах цеплынёю,* ***сухім духмяным вераснёўскім*** *сенам* (А. Жук); ***Бледная бязгучная*** *маланка якраз у гэту хвіліну заліла* ***няпэўным дрыготкім*** *святлом абшар Дняпра...* (У. Караткевіч).

З а ў в а г а 2. Коска не ставіцца паміж часткамі паўторных злучнікаў ***і—і***, ***ні—ні***, ***то—то*** ў складзе ўстойлівых выразаў, якія не з'яўляюцца аднароднымі членамі: ***і смех і грэх***, ***ні сёе ні тое***, ***то так то сяк*** і інш.

К о с к а й н е р а з д з я л я ю ц ц а два аднародныя члены сказа, калі яны:

- звязаны пры дапамозе адзіночных спалучальных злучнікаў ***і***, ***ды*** (у значэнні '***і***'), а таксама адзіночных размеркавальных злучнікаў ***ці***, ***або***: *Усё жывое любіць догляд* ***і*** *ласку* (І. Навуменка); *Дабро* ***ці*** *зло, залежыць ад цябе, у гэтым свеце будзе гаспадарыць* (П. Макаль);
- звязаны паўторным злучнікам ***і—і*** і па сэнсе і інтанацыі ўтвараюць адзінства: *Яны прыехалі ўсе з горада і ўпершыню пад птушак спеў накінуліся, нібы з голаду, на дзіўны свет* ***і*** *траў* ***і*** *дрэў* (П. Панчанка).

Калі злучнікам ***і*** звязваюцца пары аднародных членаў сказа, то коска ставіцца паміж парамі аднародных членаў: *А цягнікі бягуць зімой* ***і*** *летам, увосень* ***і*** *ўвясну* (М. Лынькоў).

К р о п к а й з к о с к а й р а з д з я л я ю ц ц а развітыя аднародныя члены сказа, калі пры адным з іх ёсць коскі: *Яны ішлі хутка; мінулі скора і вёску, і вялікае поле, засеянае пшаніцай* (К. Чорны); *Неяк пасвойму хораша было тут* ***і*** *ранняй вясной, як трымцела першая вада ў тонкіх ручаінках;* ***і*** *крыху пазней, калі зацвіталі сады;* ***і*** *цёплым летнім надвячоркам, калі так дурманіста, густа пахла з гародчыкаў кропам.*

Д в у к р о п ' е ставіцца пасля абагульняльнага слова, якое знаходзіцца перад аднароднымі членамі сказа: *Вясна, кажуць, прыгожая* ***ўсюды****: і* ***ў полі****, і* ***ў лесе****, і* ***ў горадзе*** (Я. Брыль); *Восень дорыць нам свае* ***багацці****:* ***садавіну****, зярнят* ***умалот*** (Л. Галубовіч).

Перад абагульняльным словам, якое знаходзіцца пасля аднародных членаў сказа, ставіцца працяжнік: *Чыстая* ***вада****, жоўценькі* ***пясочак*** *на дне, прыгожы* ***беражок*** *—* ***усё*** *гэта вабіла такой спакусаю, што маладыя настаўнікі змушаны былі спыніцца* (Я. Колас).

Калі аднародныя члены сказа стаяць пасля абагульняльнага слова, але пасля іх пераліку сказ працягваецца, то перад аднароднымі членамі сказа ставіцца двукроп'е, а пасля іх — п р а ц я ж н і к: *Неўзабаве знаді* ***ўсе*** *ў майстэрні:* ***слесары****,* ***манцёры****,* ***кавалі*** *— аб раптоўным новым прызначэнні, аб машынным новым «каралí»* (П. Пруднікаў).

**219.** Прачытайце тэкст. Назавіце сімвалы дзяржаўнасці любой краіны. Якую функцыю выконваюць памятныя манеты?

Вызначце аднародныя члены сказа, іх сінтаксічную ролю і сродкі сувязі. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры аднародных членах сказа.

ПАДАРУНАК НА ДОБРЫ ЎСПАМІН

Калі амаль дваццаць гадоў таму Беларусь атрымала незалежнасць, разам з новымі дзяржаўнымі сцягам, гербам і гімнам паўстала патрэба ўвядзення ўласных грошай.

Сімвалы дзяржаўнасці краіны — памятныя манеты — маюць больш сімвалічнае, чым практычнае значэнне. Пра гэта сведчыць[ф] і тэматыка «жалезных» рублёў. ***Асноўныя тэмы: прырода, гісторыя, традыцыі краіны, значныя юбілеі.***

У метале ўжо былі адзначаны двухтысячагоддзе хрысціянства, пятнаццацігоддзе дыпламатычных адносін з Кітаем, шасцідзесяцігоддзе Вялікай Перамогі і вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, юбілеі Адама

Міцкевіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Ігната Дамейкі, Еўфрасінні Полацкай.[сн]

Беларусь мела сваю дзяржаўнасць і ў мінулым — у гэтым пераконвае серыя манет «Умацаванне і абарона дзяржавы» з выявамі князёў, якія кіравалі Мінскам, Полацкам, Гродна за многа вякоў да нашых дзён.

Спецыяльныя выпускі манет прысвечаны ўсім абласным цэнтрам і сталіцы, шэдэўры дойлідства іншых гарадоў адзначаны ў серыі «Помнікі архітэктуры Беларусі».

Асобнай серыяй выдадзены манеты, якія адлюстроўваюць святы і абрады беларусаў.

Беларусь захавала вялікія масівы першабытнай прыроды. У гонар нацыянальных паркаў, запаведнікаў, заказнікаў і асобных відаў жывёл выдадзена больш за два дзясяткі манет.

***Многія манеты даўно сталі рарытэтамі*, лічацца на вагу золата не толькі за каштоўны метал, але і за статус, прызнаны на міжнародным узроўні.***

Беларускія манеты разлічаны як на прапаганду здабыткаў нацыянальнай культуры, так і на папулярызацыю міжнароднай спадчыны[ф]. Выйшлі серыі манет «Знакі задыяка», «Казкі народаў свету». Сувязь беларускіх звычаяў з абрадамі суседніх краін сімвалізуе серыя «Сямейныя традыцыі славян».

Для госця з-за мяжы такія сувеніры, несумненна, могуць стаць найлепшым падарункам на ўспамін пра Беларусь *(Паводле В. Корбута).*

Складзіце схемы выдзеленых сказаў, абазначаючы аднародныя члены знакам ◯, а абагульняльнае слова — ⊙.

**220.** Прачытайце тэкст. Якую параду дае Я. Скрыган літаратарам? Чаму і літаратараў, і тых, хто не займаецца літаратурнай творчасцю, ён заклікае звяртацца да фальклору?

Спішыце, расстаўляючы знакі прыпынку адпаведна пунктуацыйным нормам і ўстаўляючы патрэбныя літары на месцы пропускаў. Патлумачце пастаўленыя знакі прыпынку.

Мы ж зарана адрываемся ад народнага творчага асяро..я і, не паспеўшы прычас..іцца яго народнаму бага..ю,

адразу пападаем на работу ў кабінет. Праз с..ены кабінета да нас ужо з цяжкасцю дахо..іць і бляск народнай думкі і гнуткасць фразы і стройная прастата мовы і трапнасць прыказкі і мудрасць нагляда..я.[сн] Усё гэта мы ўжо чэрпаем толькі з газет ды з чужых кні.. . Ад гэтага часам і наша сухасць і беднасць і канцылярыт і аднастайнасць.

Не малая бяда і ў тым, што мы рэ..ка калі звяртаемся да фальклору. Кні.. Сержпутоўскага Раманава Шэйна багата хто з нас нават не трымаў у руках. Мы не ведаем, якія былі абрады на ра..інах хрэсьбінах* шлюбе ды пахава..і не ведаем загавораў казак прыказак песень. А гэта ж духоўная гісторыя народа яго побыту ўкладу жы..я культуры і не ведаць яе літара́тару проста грэшна. Тым больш што в..лікія пісьме..ікі ніколі не пераставалі настаўляць, каб на фальклоры мы вучыліся мове — самай простай дасціпнай невычэрпна багатай і вобразнай *(Я. Скрыган).*

**221.** Запішыце сказы, прадоўжыўшы іх аднароднымі членамі.

1. Школа знаходзілася каля невялікага сквера, які быў засаджаны ліпамі, ..., ... і ... . 2. У скверы заўсёды бавілі час як ..., так і ... . 3. У гэты дзень свяціла ..., але ... майскае сонца, а ў яго промнях дрэвы іскрыліся рознымі колерамі: і ..., і ..., і ... . 4. Пахла маладой лістотай; пералівіста і ... пелі птушкі: ..., ..., ... — песні на розныя галасы. 5. Ні ..., ні ... не маглі парушыць мелодыі вясновага дня. 6. Са школы высыпалі вясёлыя, ... і ... вучні. 7. Яны не ..., а ... у сквер, каб хутчэй апынуцца ў яго казачнай прыгажосці.

● Вызначце тып запісанага тэксту.

**222.** Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль. Чаму пунктуацыя тэкстаў розных функцыянальных стыляў мае свае асаблівасці? Якія асаблівасці пунктуацыі характэрны для навуковага, публіцыстычнага, афіцыйнага, мастацкага стыляў? У тэкстах якіх стыляў могуць ужывацца пунктуацыйныя варыянты? Чаму?

Зрабіце пісьмовы пераклад тэксту на беларускую мову.

Основные правила пунктуации имеют нормативный характер, относительно устойчивы в практике печати и оди-

наковы для разного вида письменной речи. Однако сама письменная речь неоднородна.

В синтаксическом отношении каждая из разновидностей письменной речи обладает более или менее ярко выраженными особенностями. А поскольку пунктуация прежде всего фиксирует синтаксическое членение речи, то она различается в разных по функционально-стилевой принадлежности текстах.

Синтаксис научной литературы отличается последовательной связностью отдельных предложений, их завершённостью и полнотой. Пунктуация этого вида литературы стандартизована и лишена индивидуальной осмысленности.

В публицистических произведениях, в соответствии со своеобразием синтаксического строя, пунктуация менее стандартна, допускает некоторые вольности, идущие от разговорной интонации и художественных средств выразительности.

В официальных документах (приказах, протоколах, инструкциях, заявлениях и т. п.) синтаксическая структура более стандартна, чем в научных текстах. Общепринятые формы изложения и расположения материала приводят к сравнительной лёгкости пользования знаками препинания, их однообразию: знаки здесь ставятся в соответствии с грамматическим членением речи.

В художественной литературе широко используются такие знаки препинания, которые выражают эмоционально-экспрессивные качества письменной речи и разнообразные оттенки смысла. Вся пунктуационная система служит в художественном тексте одним из существенных и ярких средств передачи не только логического, но и эмоционального содержания *(По Н. Валгиной).*

**223.** Прачытайце тэкст. Што вывучае анамастыка? Патлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры аднародных членах сказа.

За апошні час у беларускім мовазнаўстве з'явілася нямала арыгінальных прац, прысвечаных даследаванню спецыфікі ўласных імёнаў, тапанімічных назваў, выдзелілася

нават новая галіна мовазнаўства — анамастыка (ад грэчаскага *onomastike* — майстэрства даваць імёны), якая вывучае функцыянальныя і моўныя своеасаблівасці ўласных імёнаў[м].

Колькасць анамастычных назваў не паддаецца ўліку. Толькі на Беларусі больш за трыццаць тысяч афіцыйных назваў населеных пунктаў, апрача гэтага шмат неафіцыйных. Гэта праспекты, вуліцы і завулкі, паркі, стадыёны, а таксама незлічонае мноства рэчак, ручаёў, вадасховішчаў, каналаў, крыніц, гаёў, пушчаў, бароў, балотаў, астравоў на лугах, сярод рэчак і азёраў, палёў, пералескаў. А колькі ўласных імёнаў, іх варыянтаў, прозвішчаў, імёнаў па бацьку, разнастайных мянушак, клічак людзей! Свае ўласныя імёны маюць і міфалагічныя істоты, планеты, сузор'і, існуюць[м] клічкі жывёл і г. д. *(В. Шур).*

**224.** Складзіце і запішыце паводле схем сказы з аднароднымі членамі, ужываючы анамастычныя назвы.

1. ◯, ◯; ◯ *і* ◯.
2. ⊙: *і* ◯, *і* ◯, *і* ◯.
3. ◯ *і* ◯, ◯ *і* ◯.
4. ◯, *ды ('але')* ◯.

● Напішыце сачыненне-мініяцюру пра гісторыю паходжання назвы свайго горада, вёскі, мясцовасці і г. д. на тэму «Гісторыя майго горада (вёскі)» («Па вуліцах любімага горада», «Паданне пра стварэнне возера (рэчкі і г. д.)»), ужываючы сказы з аднароднымі членамі. Тэкст якога тыпу павінен атрымацца? Чаму?

## Знакі прыпынку ў сказах з адасобленымі членамі

**Адасабленне** — сэнсавае выдзяленне дадзеных членаў сказа, якое ў вусным маўленні перадаецца інтанацыяй (павышэннем або паніжэннем голасу і паўзамі), а ў пісьмовым — знакамі прыпынку (коскамі або працяжнікамі).

## § 40. Знакі прыпынку пры адасобленых азначэннях і прыдатках

К о с к а м і  в ы д з я л я ю ц ц а дапасаваныя азначэнні, калі яны:

● выражаны дзеепрыметнікавымі або прыметнікавымі зваротамі і стаяць пасля назоўніка, які паясняюць: *Над спаленай* ***вёскай, адзетай жалобным гранітам****, званы абзываюцца рэхам вайны незабытым* (А. Куляшоў); *Мне шчасце — жыць і піць жыцця* ***напой, настоены на шчырасці сардэчнай*** (В. Максімовіч); *Веснавая цёплая ноч толькі што апранула зямлю і раскідала свае таемныя* ***чары, поўныя крыху смутнага хараства*** (Я. Колас);

● выражаны адзіночнымі прыметнікамі або дзеепрыметнікамі, стаяць непасрэдна пасля паяснёнага назоўніка і маюць асаблівую сэнсавую нагрузку: *Шуміць* ***рака, вясёлая, жывая*** (А. Бачыла); *А ў жытнёвае лета вісіць над зямлёю* ***яблык, пераспелы*** *і* ***светлы****, як даўняя журба...* (М. Стральцоў);

● выражаны адзіночнымі прыметнікамі і дзеепрыметнікамі або прыметнікавымі і дзеепрыметнікавымі зваротамі, стаяць перад назоўнікам, які паясняюць, і маюць дадатковае акалічнаснае адценне прычыны ці ўступкі: ***Сівабароды, дзед*** *нагадваў гусляра з паэмы Я. Купалы «Курган»*; ***Узрадаваны апошнімі праменнямі чырванаватага сонца, дуб*** *спакойна сустрэў зорную веснавую ноч* (А. Пальчэўскі); ***Заглыбленая ў свае думкі, Алена*** *прапусціла патрэбны прыпынак*;

● выражаны прыметнікамі і дзеепрыметнікамі з паясняльнымі словамі і без іх, адносяцца да назоўніка (пераважна да дзейніка) і стаяць перад ім, радзей — пасля яго, але аддзелены ад гэтага назоўніка дзеясловам-выказнікам ці іншымі членамі сказа: ***Ад заняткаў вольныя,*** *лета* ***дні*** *цяклі* (А. Куляшоў); ***Чатыры вярбы*** *раслі на аселіцы,* ***вялікія****, што толькі ўдваіх, узяўшыся за рукі, і абхваціш* (А. Жук); *Італьянскія* ***аркады***

*белага палаца,* ***перакрэсленыя чорнымі факеламі таполяў****, адкрыліся ў канцы алеі* (У. Караткевіч);

● выражаны прыметнікамі і дзеепрыметнікамі або прыметнікавымі і дзеепрыметнікавымі зваротамі і адносяцца да асабовых займеннікаў (незалежна ад пазіцыі азначэнняў): ***Ты*** *ў лёс зайшоў мой на палескай станцыі,* ***бунтоўны*** *і* ***трывожна-малады*** (В. Аколава); *Чаго,* ***неспакойнае, ты*** *захацела, чаго,* ***непакорнае, ты*** *затрымцела, сэрца маё?* (П. Панчанка); ***Павесялелы ад слоў маці, ён*** *ляцеў як на крылах.*

З а ў в а г а. Калі адасобленыя дапасаваныя азначэнні, з'яўляючыся па сэнсе неаднароднымі, стаяць пасля паяснёнага слова, то яны набываюць значэнне аднароднасці і раздзяляюцца коскамі як аднародныя члены сказа: *На небе ляжалі пашматаныя* ***воблакі, нізкія, высокія, перыстыя*** *і* ***дажджавыя*** (І. Шамякін).

Н е в ы д з я л я ю ц ц а к о с к а м і дапасаваныя азначэнні, калі яны выражаны адзіночнымі прыметнікамі або дзеепрыметнікамі і стаяць пасля назоўніка, які паясняюць, утвараючы з ім адно сэнсавае цэлае: *Чым больш жыву, тым больш карціць спазнаць мне* ***шчасце таямнічае…*** (В. Максімовіч); *З крыніцы выбягаюць ручайкі, іх кліча* ***свет заманлівы*** *і* ***звонкі…*** (П. Макаль); *З сумам гляджу я на* ***сад апусцелы.***

П р а ц я ж н і к ставіцца пры сэнсава-інтанацыйным выдзяленні двух ці больш дапасаваных азначэнняў, што стаяць у канцы сказа: *Пакінулі лёгка, як птушкі, жытло, у вырай ляцім* ***мы — шчаслівыя, вольныя*** (Н. Маеўская). *Наталля была ахоплена новым* ***пачуццём — узвышаным, прыгожым.***

**225.** Прачытайце сказы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры недапасаваных азначэннях.

1. Да Аляксандра падышла прыгожая дзяўчына, з блакітнымі вачамі, з доўгай русай касой, і запыталася пра білеты. 2. З кветкамі і шарыкамі, у святочным адзенні,

мы ішлі на апошнюю ў сваім жыцці школьную лінейку. 3. На каток, дзе збіраліся аднакласнікі, завітаў і Косця, без лішніх рэчаў, з канькамі і клюшкай. 4. Усіх нас непакоіла адна думка — выстаяць *(М. Лынькоў)*.

**226.** Прачытайце сказы, звярніце ўвагу на выдзеленыя словы. Якім пунктуацыйным нормам адпавядае афармленне сказаў?

1. **Рамантык закаханы** і **паэт**, **я** кветкі акрыляў, падняўшы ўгору, дарыў табе, здаецца, толькі ўчора *(М. Маляўка)*. 2. І **мядзведзь, даўні ўладар пушчаў**, таксама прабівае сабе сцежку, прыходзячы з далёкіх нязведаных сховаў *(П. Пестрак)*. 3. **Флексія, або канчатак,** утварае пэўную граматычную форму слова і служыць для граматычнай сувязі паміж словамі ў словазлучэнні і сказе. 4. Да бярозавага балота Рэйдзіху павёў суседскі **хлопчык, дзесяцігадовы АўласаўМіцька** *(І. Чыгрынаў)*. 5. Над **Бароўкай, двароў на сорак вёскай,** якая падступалася паўкругам да возера (па адзін бок яго стаялі хаты, а па другі — лес), неўзаметку асядаў вечар *(І. Чыгрынаў)*. 6. Якраз была адлётная **пара — выпрабаванне на любоў і вернасць** *(Л. Галубовіч)*. 7. Вось **яна — дзявочая пекната** *(І. Шамякін)*. 8. На **Белай Русі — зямлі маіх продкаў** — непадалёку ад гарадка Мір на захадзе серабрыцца Уша, трохі далей — Сервеч *(А. Наўроцкі)*.

Сфармулюйце правілы адасабленння прыдаткаў на пісьме.

**227.** Запішыце тэкст, пашыраючы сказы словамі з дужак. Пракаменціруйце пунктуацыйнае афармленне ўтвораных сказаў. Што надаюць адасобленыя члены сказа тэксту?

На грыбы трэба цёплае, нават гарачае, але з частымі дажджамі лета. Тады яшчэ ў чэрвені—ліпені, у ягадную пару, шаўковымі прожылкамі белай цвілі ўкрываюцца чорныя лапікі лясной зямлі. **Цвіль-грыбніца** паказваецца і на сцежках[ф] і па езджанай дарозе (першая адмеціна грыбнога лета).

Урачыстасць, сапраўдную вагу грыбному сезону надае баравік, але і да яго, і пасля яго растуць у лесе грыбы.[сн]

Прадвеснікам баравіка з'яўляецца чырвонагаловы падасінавік (грыб змешанага лесу). Ён сапраўды любіць, каб паблізу лапатала асіна, а калі няма яе, дык хоць бяроза ці якая-небудзь вярба.

Баравік, падасінавік[сл] ды яшчэ рыжык часцей трапляюць у кошык спрактыкаваных грыбнікоў. Іншых грыбоў можа набраць кожны, хто заявіцца ў лес, няхай сабе нават першы раз.

У кожнай[м] мясцовасці ёсць свае забабоны наконт таго, які грыб прыгодны, а які — не. У нас не бяруць ваўнушак, таўстух, сінюх (грыбоў вельмі смачных і карысных). Не бяруць і пахучага **грыба-караняплода** труфеля, які вырастае, не бачачы святла, у лясных шэразёмах...

У сухое лета першы баравік пракідаецца ў бярэзніках з травяным долам, на мясцінах ніжэйшых, макрэйшых. Калі лета, наадварот, мокрае, баравіка шукай па сасняках, па пясчаных[ф] узгорках *(Паводле І. Навуменкі).*

Растлумачце напісанне выдзеленых слоў.

**228.** Прачытайце тэкст, вызначце яго асноўную думку. Як возера Свіцязь паўплывала на творчасць Я. Чачота і А. Міцкевіча?

Спішыце, раскрываючы дужкі. Пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку і патлумачце іх.

*(Не)*надта вялікае і *(не)*надта глыбокае яно [возера Свіцязь] даўно быццам *(не)*адольны магніт прыцягвае да сябе падарожнікаў з усяго свету.[сн] Дзвесце гадоў таму на берагах Свіцязі часта бывалі два школьныя сябры Ян Чачот і Адам Міцкевіч. Абодва — нашы землякі выдатныя польскія паэты. Да таго*(ж)* Ян Чачот руплівы збіральнік беларускага фальклору сам пісаў *(па)*беларуску вершы. Зачараваныя хараством Свіцязі і пачутымі на яго берагах народнымі легендамі аб прыгажунях*(свіцязянках)* паэты стварылі *(не)*калькі балад сапраўдных шэдэўраў польскай літаратуры *(Паводле У. Ягоўдзіка).*

## § 41. Знакі прыпынку пры адасобленых акалічнасцях, дапаўненнях і ўдакладняльных членах сказа

### Знакі прыпынку пры адасобленых акалічнасцях

Коскамі выдзяляюцца акалічнасці, калі яны выражаны адзіночнымі дзеепрыслоўямі і дзеепрыслоўнымі зваротамі (незалежна ад іх месца ў сказе): ***Выканаўшы заданне****, я вярнуўся ў ліцэй* (А. Карпюк); *Кожны раз, **адзначаючы Дзень Перамогі**, мы ўшаноўваем памяць загінуўшых, кладзём да іх магіл і абеліскаў жывыя кветкі. Гэта наш святы абавязак памяці* (А. Бачыла).

З а ў в а г а 1. Не выдзяляюцца коскамі акалічнасці, выражаныя:

- дзеепрыслоўнымі зваротамі, якія з'яўляюцца ўстойлівымі выразамі: *Аповед сяброўкі пра вандроўку ў далёкія краіны мы слухалі **развесіўшы вушы***;
- адзіночнымі дзеепрыслоўямі, калі яны стаяць пасля дзеяслова-выказніка, сваім значэннем набліжаючыся да прыслоўя спосабу дзеяння: *Старшыня чытаў **стоячы*** (А. Жук); *Дадому Алесь ішоў **не спяшаючыся***.

З а ў в а г а 2. Коска не ставіцца перад злучнікам ***і***, які звязвае дзве акалічнасці, выражаныя адзіночнымі дзеепрыслоўямі, дзеепрыслоўнымі зваротамі або прыслоўем з дзеепрыслоўем. Пры бяззлучнікавай сувязі паміж такімі акалічнасцямі коска ставіцца: ***Пагаварыўшы з вучнямі і крыху разагнаўшы іх страх****, Лабановіч прынёс журнал і пачаў рабіць запіс* (Я. Колас). Параўн.: ***Пагаварыўшы з вучнямі, крыху разагнаўшы іх страх****, Лабановіч прынёс журнал і пачаў рабіць запіс.*

Акалічнасць, выражаная адзіночным дзеепрыслоўем або дзеепрыслоўным зваротам, пры якім стаяць часціцы ***толькі***, ***нават***, разам з імі аддзяляецца коскай: *Што хлеб — гэта хлеб, па-сапраўднаму можна даведацца, **толькі адчуўшы голад*** (Я. Брыль); ***Нават проста***

***наведаўшы Нацыянальную бібліятэку Беларусі**, разумееш веліч чалавечага духу.*

Калі адасобленая акалічнасць, выражаная адзіночным дзеепрыслоўем або дзеепрыслоўным зваротам, звязана з астатняй часткай сказа злучнікамі ***нібы***, ***як бы***, ***быццам*** і інш., то коска ставіцца перад адпаведным злучнікам: *Часам нейкіх карасікаў і падчэпліваў, але найбольш мой паплавок весела гайдаўся, **нібы пасміхаючыся з майго рыбалоўства*** (В. Шніп); *Лес пад пухкімі камякамі снегу хутка станавіўся серабрыста-белым, **нібы ператвараючыся ў зачараванае царства**.*

Выдзяляюцца коскамі акалічнасці, выражаныя назоўнікамі ва ўскосных склонах з прыназоўнікамі ***нягледзячы на***, ***насуперак***, ***у адпаведнасці***, ***са згоды*** і іншымі са значэннем прычыны, умовы, уступкі, спосабу дзеяння: ***Нягледзячы на неадкладныя справы,** пісьменнік змог даць інтэрв'ю любімай газеце. **Насуперак усім прагнозам,** наша каманда ўдала выступіла на чарговых спаборніцтвах.*

**229.** Прачытайце тэкст. Дайце яму назву. Якія фарбы вы скарысталі б, каб малявалі ілюстрацыю да тэксту? Назавіце сказы з адасобленымі членамі, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры адасобленых членах.

Першая яшчэ з сярэдзіны лета скідала ліст бяроза. Тое, што яна тут, паблізу[м], можна было заўважыць, нават не ўзнімаючы галавы, па залатой замеці лісцяў паміж верасу і травы. Па такой прыкмеце пазнаваўся і дуб, толькі па леташнім лісці, яно, нягледзячы на дажджы, слоту, доўга ляжала. Асіна, апрануўшыся ў вогненныя барвы, пад восень рабілася прыгажэйшай ад усіх дрэў.

Гаспадары восеньскага лесу — дзяцел і наіўна-вясёлыя, бесклапотныя сініцы. Астатняе шэрае птаства, збіраючыся ў вырай, змаўкае. У ядлоўцавых зарасніках можна падняць соннага днём цецерука, і ён гучна залапоча крыллем, віруючы між соснаў, ніколі не падымаючыся над купамі дрэў.

Цікаўная вавёрка, не баючыся грыбнікоў, спусціцца на ніжні сук, падзівіцца вокам-шрацінкай і шугане рыжай маланкай між зялёнай навісі. Збіраючы грыбы, я некалькі разоў бачыў вогненна-чырвоных[сл] ліс, яны заўсёды перабягалі дарогу... *(Паводле І. Навуменкі).*

## Знакі прыпынку пры адасобленых дапаўненнях

Выдзяляюцца коскамі дапаўненні, выражаныя назоўнікамі або займеннікамі ва ўскосных склонах з прыназоўнікамі ***акрамя***, ***апрача (апроч)***, ***амаль, замест***, ***за выключэннем***, якія маюць удакладняльнае значэнне, паказваючы на ўключэнне ў лік ці выключэнне прадмета (з'явы) з ліку іншых або на яго замяшчэнне: *Нічога воблака не прадвяшчала,* ***апроч таго***, *што яно плыло і дажджавыя кроплі змяшчала* (А. Вярцінскі); *Усе,* ***за выключэннем Марыны***, *былі ўжо ў тэатры.*

З а ў в а г а. Калі прыназоўнік ***замест*** мае значэнне ***'за'***, то дапаўненне з гэтым прыназоўнікам не адасабляецца: *Дзяўчына* ***замест*** *бацькі сустракала сваякоў.*

Калі спалучэнні слоў з ***апрача***, ***акрамя*** і іншымі маюць пры сабе ўзмацняльную часціцу ***і***, то яны коскамі не выдзяляюцца: *Нехта* ***і акрамя нас*** *пабываў на гэтай паляне.*

## Знакі прыпынку пры ўдакладняльных членах сказа

У сказах могуць ужывацца словы, якія ўдакладняюць, канкрэтызуюць, узмацняюць сэнс папярэдніх слоў, звужаючы або абмяжоўваючы іх. Гэтыя словы называюцца ўдакладняльнымі членамі сказа, на пісьме яны адасабляюцца. Удакладняльнымі членамі сказа часцей бываюць акалічнасці месца і часу: *А там,* ***далей***, *лесу кудзерка відна* (Я. Колас); *Не выцер ён [салдат]* ***тады***, ***у сорак пятым***, *слязу скупую на сваёй шчацэ, не змыў зямлю акопную ў рацэ* (М. Маляўка). ***Над аб-***

***рывам, каля крамянага нізкага дуба,*** *устаў над вудамі наш дзядок* (Я. Брыль).

Радзей удакладняльнымі бываюць іншыя члены сказа: *У пачатку* ***апошняй, чацвёртай,*** *чвэрці ў нашай школе адбыліся перамены* (І. Навуменка).

Удакладняючы папярэдняе слова, ўдакладняльныя члены могуць размяшчацца адзін за адным: ***Там, недзе далёка, за вялікімі абшарамі палёў,*** *цяпер вось, светлаю раніцою, грэюцца на сонцы нізкія хаты* (К. Чорны).

Коскамі выдзяляюцца ўдакладняльныя спалучэнні, якія пачынаюцца словамі ***асабліва, нават, пераважна, у тым ліку, у прыватнасці, напрыклад*** і інш., што надаюць удакладненню сэнсавае адценне выдзяляльнасці, узмацняльнасці: *Мірскі замак — прыгожы палацава-паркавы ансамбль з каменным абнясеннем і пяцю вежамі,* ***у тым ліку адной уязной*** («Беларусь»).

Коска не ставіцца перад спалучэннямі са словамі ***асабліва, нават, пераважна***, калі яны не маюць удакладняльнага значэння (выконваюць ролю часціц): *Не было чутна* ***нават ні гуку***.

**230.** Прачытайце. Запішыце сказы, расстаўляючы знакі прыпынку ў адпаведнасці з пунктуацыйнымі нормамі. Патлумачце пунктуацыйнае афармленне сказаў.

1. З Жукаўшчыны з горкі па пяску было лёгка і мякка ступаць і я не агледзеўся як ужо быў у Бярэзаўцы ля моста праз крыніцу *(І. Пташнікаў)*. 2. На кірмашы заўсёды было шмат людзей асабліва ў нядзелю *(К. Стаселька)*. 3. Цяпер Анэта стаяла ўжо на сваім двары пры плоце *(А. Жук)*. 4. Перада мною вышынёй у некалькі метраў высіцца збудаванне пераважна з асін і альхоўніку *(М. Бусько)*. 5. Малады высокі дуб з густою шапкай галля і лісця стаяў на беразе Дняпра на невялікім лугавым узгорку *(І. Шамякін)*. 6. Пад вечар таго ж дня ўжо на змярканні стаў пашумліваць вецер *(Я. Колас)*. 7. Вясною палескія рэкі выходзяць з берагоў а некаторыя асабліва маленькія

зы, афармляючы іх у адпаведнасці з пунктуацыйнымі нормамі. Пракаменціруйце пунктуацыйнае афармленне выпісаных сказаў.

І. Ён [Мележ] якраз многа і ахвотна гаварыў пра ненапісанае, пра тое, што думае пісаць, расказваў і сюжэт, і схему развіцця характараў...

Калі я чытаў нясконченыя раздзелы і рабочыя запісы — «з творчай лабараторыі» — да рамана «Завеі, снежань», да другой яго часткі, якія засталіся пасля смерці пісьменніка, то прыгадваў: шмат што з таго, што занатавана Мележам на палях — куды павярнуць сюжэт, як раскрыць сітуацыю, якім чынам развіваць характар героя, — я чуў з яго вусных расказаў. І што асабліва здзіўляе: многія задумкі трэцяй кнігі, якая засталася недапісанай, чуў я даўно, можа, дзясятак гадоў назад, калі Іван Паўлавіч працаваў яшчэ над «Подыхам навальніцы» *(І. Шамякін)*.

ІІ. Затое мне знаёмы быў клопат з назвамі твораў. І ўдзень і ўночы; і ў сне і наяве. Беспярэстанку яны варушацца і кіпяць у галаве. То паяўляюцца і знікаюць, то перайначваюцца, кожны раз набываючы другую акрасу.

У Мележа іх было некалькі[м], спіскаў. «Палеская хроніка» яшчэ была толькі задумана, а назвы ўжо прыдумляліся. **Адна з першых была «Людзі на балоце» прызнаюся яна мне не вельмі падабалася не хацелася каб эмацыянальна людзей заценьвала балота якое ў маёй біяграфіі[ф] вельмі ж далося ў знакі.** Потым ішлі назвы з характарыстыкаю Палесся: «Туманы над багнаю», «Навальніца над полем». У розным спалучэнні вар'іраваліся словы з такімі сімваламі, як «бераг», «асака», «раска», «завеі». Напрыклад, «За асакою бераг». Безліч розных прымернікаў. Як відаць, назвы рабіліся з запасам на ўвесь цыкл «Хронікі», бо «Подыхам навальніцы» назваўся потым другі том, «Завеі» дасталіся трэцяму[м], праўда, з дадаткам адзнакі часу: «Завеі. Снежань».

Першы том аставаўся без канчатковай назвы да самай апошняй хвіліны. Толькі перад здачаю рамана ў набор,

пасля пакутлівых ваганняў Мележ напісаў на тытульнай старонцы: «Людзі на балоце». **І раптам лёгка ўздыхнуў супакоіўшы сябе філасофскаю пігулкаю* што калі будзе добрая кніга то да назвы адразу прывыкнецца** *(Я. Скрыган)*.

**263.** Прачытайце. Зрабіце пераклад на беларускую мову тэксту, расстаўляючы, дзе неабходна, знакі прыпынку. Назавіце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак. Запішыце тры складаныя сказы гэтага віду, ужыўшы фразеалагізм ‘на сёмым небе’.

В современной разговорной речи нередко можно встретить выражение «быть на седьмом небе» означающее крайнюю степень восторга счастья радости и никто из нас вероятно не задумывается над его первоначальным смыслом. Точно так же употребляя привычное с детства слово «небеса» мало кто обращает внимание на то что оно представляет собой форму множественного числа от слова «небо». Никому не приходит в голову удивиться почему небо вдруг представляется множественным. Между тем вопрос этот вовсе не праздный в далёком прошлом названное выражение понималось не в переносном смысле как сейчас а совершенно буквально. Люди верили в то что существует несколько лежащих одно над другим небес язык же сохранил для нас эти свидетельства *(В. Евсюков)*.

**264.** Прачытайце выказванне Я. Сіпакова пра жыццё.

Жыццё — гэта ланцуг горных хрыбтоў. Ты, узбіраючыся на самую высокую гару, думаеш: хрыбет апошні; а на самай справе гэта ўсяго толькі адзін з многіх і многіх, што вырастуць перад табою неўзабаве.

Выкажыце сваю думку наконт сэнсу жыцця.

Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Пабудуйце сказы аб сэнсе жыцця па схемах:

1. [ ], ( ): [ ].   2. ( ), [ ] — [ ].   3. [ ], ( ); [ ], ( ), ( ).

**265.** Прачытайце тэкст, вызначце яго асноўную думку. Патлумачце знакі прыпынку.

Робячы чалавеку зло, мы вінаватыя перад ім да таго часу, пакуль ён пра гэта памятае, але адчуваем сябе вінаватымі, пакуль памятаем пра гэты ўчынак самі. **Зло — грэх, але калі перад Богам мы замольваем свае грахі малітвамі, то на зямным судзе памяць — адзіны суддзя і адзіная мера віны.** Прычыніце чалавеку боль, а потым двойчы зрабіце яму дабро — ён даруе вам, але, пакуль будзе памятаць пра прычынены боль, вы будзеце перад ім вінаватыя *(А. Бадак)*.

- Пабудуйце схему выдзеленага сказа.
- Напішыце сачыненне-разважанне на тэму «Маё жыццё — маё сумленне», ужываючы складаныя сказы з рознымі відамі сувязі.

## § 49. Знакі прыпынку ў канструкцыях з простай мовай

У сказах з простай мовай знакі прыпынку ставяцца ў залежнасці ад месца слоў аўтара, якія ўводзяць простую мову.

Калі простая мова запісваецца ў радок, то яна бярэцца ў двукоссе: *Званы Хатыні, мемарыял у Брэсцкай крэпасці-героі нагадваюць жывым людзям: «Людзі! Помніце! Не дапусціце новай бойні!»* (У. Ліпскі); *Сястра глянула на Галіну Адамаўну. Той хацелася крыкнуць: «Не трэба! Не выходзь!»* (І. Шамякін).

У двукоссе бярэцца нявыказаная простая мова, пры якой у складзе слоў аўтара ёсць дзеяслоў ***думаць (падумаць)*** або іншыя словы, спалучэнні слоў і сказы са значэннем думкі, разважання і да т. п.: *Нерухомы чалавек усё глядзеў на Алеся і* ***ацэньваў****: «Да чаго падобны на прадзеда, на Акіма...»* (У. Караткевіч).

Перад простай мовай, якая пачынаецца з абзаца, ставіцца працяжнік:

*Матулін ганак рыпка скажа:*
*— Дома!* (М. Мятліцкі).

Калі словы аўтара стаяць перад простай мовай, то пасля іх ставіцца двукроп'е, а простая мова, якая пачынаецца не з абзаца, бярэцца ў двукоссе: *Старажытны мудрэц павучае: «Што заўсёды ў руху, тое вечнае»* (У. Ліпскі); *І гавару я: «Слова, ты гучы! І хай маўчаць гарматы і мячы!»* (А. Вярцінскі).

Пасля слоў аўтара ставіцца двукроп'е, а перад простай мовай — працяжнік, калі простая мова пачынаецца з абзаца:

*Ганна памарудзіла трохі, потым спытала:*

*— Ну, а як вы, цётка Матруна?* (І. Чыгрынаў).

Калі словы аўтара ідуць за простай мовай, то ў адпаведнасці з інтанацыяй у канцы простай мовы ставяцца пытальнік, клічнік, шматкроп'е або коска (на месцы кропкі), а пасля іх — працяжнік. Словы аўтара пішуцца з малой літары:

*«Чаму і завошта?» — пыталася яна [Сцепаніда] у сябе, не знаходзячы, аднак, адказу, і думкі яе ішлі далей, у глыб перажытага* (В. Быкаў);

*«Мама, купі мне гэтую кніжку!» — амаль патрабуе малая* (В. Шніп);

*«Самота мая незямная...» — не першы так раз я кажу...* (В. Шніп);

*«Дарога, вандроўка — самае лепшае лякарства ад усякіх напасцей», — зазначае сам сабе Лабановіч і сам сабе ціха ўсміхаецца* (Я. Колас).

*— Мама, дзе наш тата? — запытала Слава* (К. Чорны).

*— Вярніся, неслух! — пачуў ён дзедаў загад, але і не падумаў спыніцца* (І. Мележ).

*— Ідуць, — шапнуў стары* (Я. Брыль).

Калі словы аўтара перарываюць простую мову, падзяляючы яе на дзве часткі, то перад словамі аўтара ў залежнасці ад інтанацыі першай часткі простай мовы ставяцца пытальнік, клічнік, шматкроп'е ці коска, затым — працяжнік, а пасля слоў аўтара — кропка і працяжнік (калі першая частка простай мовы з'яўляецца закончаным сказам) або коска і працяжнік

(калі першая частка простай мовы не з'яўляецца закончаным сказам): *«Што мы стаім? — схамянулася Каця. — Ехаць трэба»* (В. Хомчанка); *«Стой, брат! — прыпыніў я самога сябе. — Аглух ты сёння, ці што?»* (Я. Брыль). *«Я рад, пан Савіч, што вы разумееце, — узрадаваўся Грот. — Не, мы не жорсткія. Мы мяккія і добрыя»* (І. Шамякін); *«Бывай жа, родная засень, і родная хата, — думае ён, — і ты, маці, не глядзі так трывожна ўслед»* (М. Стральцоў);

*— Куды ж вы так спяшаецеся? — сказала Вольга Сцяпанаўна. — Жонкі вас чакаюць або дзеці плачуць?* (Я. Колас).

*— Бачыце, які прыгожы сёння дзень! — ухваляючы ранішняе сонейка, добры настрой і добрую дзяўчыну, гаварыў хлопец. — І білет вы купілі, пэўна, шчаслівы!* (І. Тулупава).

*— Гэта мой апошні тут вечар, — казала сама сабе Ядвіся. — І я не ўбачу яго!* (Я. Колас).

*— Ну то заходзьце, — сказала бабуля, сустракаючы нас у двары ля парога, — заходзьце ў хату, разам і павячэраем* (Л. Валасюк).

Калі ў словах аўтара ўжываюцца два дзеясловы са значэннем маўлення, адзін з якіх адносіцца да першай часткі простай мовы, а другі — да другой, то пасля слоў аўтара ставіцца двукроп'е і працяжнік: *«Ведаеш, мама, каго я прывяла? — весела сказала дачка і таемна прашаптала: — Гэта той самы госць, якога мы ўсе калісьці ратавалі ад немцаў»* (Я. Маўр).

*— Тут усе свае, заводскія, — заспакоіў ён [Ваня] мяне і амаль загадаў: — Расказвай, што здарылася! Можа, на работу не прынялі?* (М. Горцаў).

Калі ў складзе слоў аўтара, што стаяць перад простай мовай, адсутнічаюць дзеясловы са значэннем маўлення, думкі ці блізкія да іх па значэнні, то ў канцы слоў аўтара ставіцца кропка:

*Маці дазволіла яму паехаць у горад, у госці да цёткі Алены. «Няхай сын сходзіць у музей, у цырк, паглядзіць, што новага ў сталіцы»* (П. Кавалёў).

*Бабуля павесіла кош на плот, вымыла рукі ў вядры, што стаяла каля калодзежа, паглядзела на неба.*

*— Моцная, відаць, будзе навальніца, з грымотамі і градам* (М. Дубоўскі).

З абзацнага водступу ставіцца працяжнік перад кожнай рэплікай пры афармленні простай мовы ў форме дыялога:

*— Як там Алесь? — спытаў дзед.*

*— Падняўся ўжо ад грушы на сцежку. Ідзе сюды, — змрочна сказаў Павал* (У. Караткевіч).

Калі некалькі рэплік запісваюцца ў радок без указання, каму яны належаць, то паміж імі ставіцца працяжнік і кожная з іх бярэцца ў двукоссе: *«Што ты гаворыш, сынок? Хто нам яе [хату] пабудуе?» — «Я пабудую»* (Л. Екель).

**266.** Прачытайце вершы, вызначце іх асноўную думку. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў канструкцыях з простай мовай. Складзіце схемы канструкцый з простай мовай.

Я помню, як ты юны, закаханы
Мне прызначаў над Прыпяццю спатканне.
Казаў: «Што будзе з намі — невядома,
Я ад'язджаю[ф] з бацькавага дому,
Давай пасадзім дрэўцы для ўспаміну,
Я пасаджу дубок, а ты — рабіну».
Паехаў ты, і пасля бур-навалаў
Рабінка маладзенькая завяла.[сн]
Дубок трывожна пахіліў галінкі,
Нібы пытаўся: «Што з табой, дзяўчынка?»
Рабіначку на досвітку крамяным
Дубок паіў расой, а я — слязамі.
Гарнуў дубочак лю́бую да сэрца,
І на світанні акрыяла дрэўца.
Рабіначка закрасавала ўранні,
Каб век не гасла, каб жыло каханне...
Ты — мужны дуб, а я — твая рабіна,
Шумім лісцём у згодзе лебядзінай.

*Г. Дашкевіч*

Паглядамі сустрэліся на хвілю:
«Ну як жыццё?» — «Змагаемся паціху...»
Зноў — хто куды. Нат не пагаварылі.
Адно руку паціснулі на ўздыху.

«Бывай, бывай!..» — «Мо ўсё ж — да пабачэння?..»
Дасць бог, яшчэ звядуць нас пуцявіны
І мы з табой папросім прабачэння
За несустрэч балючыя хвіліны.

*М. Шабовіч*

**267.** Прачытайце тэкст, вызначце яго асноўную думку. Чаму ручнік называюць дарогай у неба? Што вы ведаеце пра сімволіку ўзораў ручніка? У якіх абрадах беларусаў і з якой мэтай выкарыстоўваецца ручнік? Запішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку, і растлумачце іх пастаноўку.

ДАРОГА Ў НЕБА

«Неглюбскія ручнікі» ўсё роўна што «слуцкія паясы». З адной толькі розніцай: апошнія захаваліся фрагментарна*, першыя — ва ўсёй красе наіўнай даўніны.

Еду ў Ветку з надзеяй на знакаміты музей. На шырокай лесвіцы музея мяне сустракае Ларыса Раманава, вядучы навуковы супрацоўнік[сл], і зазначае

У Неглюбцы гавораць што ручнік — гэта дарога ў неба. Варта толькі паглядзець на арнамент. Знатакі сцвярджаюць што ў ім зашыфравана мова зносін з вышэйшымі сіламі.

На «музейным» аўтамабілі слізгочам па ўезджанай снежнай дарозе ў аграгарадок Неглюбку.

Ручнікі мясцовых традыцый напоўнены арнаментальнымі знакамі самым старажытным з якіх некалькі тысяч гадоў мая спадарожніца Ларыса Раманава дастае з сумкі старажытнае палатно якое вязе «расшыфроўваць» у Неглюбку Як бярвенне было асноўным будаўнічым матэрыялам хаты так і ручнікі з’яўляліся своеасаблівым будаў-

нічым матэрыялам унутранай прасторы хаты і духоўнай прасторы сям'і.

Сапраўдных майстрых захавальніц вясковага рамяства ў Неглюбцы яшчэ можна адшукаць. 70-гадовая Соф'я Астапенка сустракае нас ля варот.

Праходзьце. Кросны яшчэ не ставіла. Але сяду з дня на дзень. Душа просіць шчыра прызнаецца яна.

А ў пакоі погляд адразу гіпнатызуе сапраўднае чырвоны кут з іконай прыбранай ручнікамі. І сярод іх неглюбскі бела-чырвоны з тысячы адрозніш.

З маці яго ткалі, калі мне гадоў 12 было. Выцвіў трошкі берагу.

Ахвотна нам чужым людзям выкладвае сваё багацце дзецям і ўнукам наткала.

Я ўжо мала чаго памятаю з матчыных слоў якія знакі ды аб чым хавае пад хустку сівыя пасмы гэтая ўжо пажылая жанчына Але без абраза і ручнікоў дом для мяне безабаронны атрымліваецца пусты. А ручнік дзетка жывы гэта ж дарога да неба і вяртанне з яго *(Паводле В. Дралюк).*

**268.** Прачытайце тэкст. Прозвішчы яшчэ якіх беларускіх спартсменаў занесены ў «Кнігу рэкордаў Гінеса»? Спішыце, дапісваючы словы аўтара і расстаўляючы знакі прыпынку.

Аднойчы беларускі фехтавальшчык, алімпійскі чэмпіён і прызёр, дзесяціразовы чэмпіён свету Аляксандр Раманькоў папрасіў прадаўшчыцу кнігарні даць яму паглядзець «Кнігу рэкордаў Гінеса».[сн] Але атрымаў адмову

Кнігу трэба распячатваць яна ж упакавана ў плёнку

Там напісана пра мяне

Так я і паверыла

Сапраўды

Добра. Але калі вас там не акажацца вы купіце кнігу

На тым і вырашылі. Упакоўку дарагога выдання распячаталі. І якое ж было здзіўленне прадаўшчыцы калі са старонкі кнігі на яе глядзеў гэты самы дзіўны пакупнік... *(А. Ванковіч).*

**269.** Пабудуйце паводле прапанаваных схем канструкцыі з простай мовай на тэму «Нечаканая сустрэча».

1. «П?» — а.
2. «П, — а, — п».
3. А: «П!»
4. «П! — а: — П».

● Выкарыстоўваючы канструкцыі з простай мовай, напішыце сачыненне-апавяданне на тэмы «Экскурсія ў Нацыянальную бібліятэку Беларусі», «Экскурсія ў Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь» і да т. п.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Ахарактарызуйце пунктуацыю як раздзел мовазнаўства.
2. Дайце паняцце пунктуацыйнай нормы. Прывядзіце прыклады ўжывання пунктуацыйных варыянтаў.
3. Раскажыце пра нарматыўнае ўжыванне знакаў прыпынку пры аднародных членах сказа. Падбярыце прыклады.
4. Як пунктуацыйна афармляюцца сказы з адасобленымі членамі?
5. Успомніце правілы пастаноўкі знакаў прыпынку ў сказах з параўнальнымі зваротамі. Прыклады запішыце.
6. Як афармляюцца пабочныя і ўстаўныя канструкцыі згодна з пунктуацыйнымі нормамі?
7. Раскажыце пра нарматыўнае пунктуацыйнае афармленне сказаў са звароткамі. Кожны пункт правіла ілюструйце прыкладамі.
8. У якіх выпадках паміж часткамі складаназлучаных і бяззлучнікавых складаных сказаў ставяцца коска, кропка з коскай, працяжнік? Назавіце выпадкі пастаноўкі двукроп'я паміж часткамі бяззлучнікавага складанага сказа.
9. Чым абумоўлена пунктуацыйнае афармленне складаназалежных сказаў з адной даданай часткай і з некалькімі даданымі часткамі?
10. Як пунктуацыйна афармляюцца складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак?
11. Запішыце прыклады, якія б ілюстравалі правілы пастаноўкі знакаў прыпынку ў канструкцыях з простай мовай.
12. Падрыхтуйце лінгвістычныя паведамленні «Чаму неабходна захоўваць пунктуацыйныя нормы», «Знакі прыпынку ў тэкстах рознай функцыянальна-стылёвай прыналежнасці» (пры неабходнасці карыстайцеся матэрыялам практ. 222).

## ЗАДАННІ НА ПАДАГУЛЬНЕННЕ

Заданне 1

*З прапанаванага тэксту выпішыце і пунктуацыйна аформіце:*

*а) простыя сказы з аднароднымі членамі;*

*б) просты сказ з пабочнай канструкцыяй;*

*в) складаназалежныя сказы;*

*г) бяззлучнікавыя складаныя сказы.*

Хлеб — усяму галава. І сціплы сняданак і святочнае застолле не абыходзяцца без хлеба. Ён займае пачэснае месца ў рацыёне кожнага чалавека. І гэта невыпадкова звычайны хлеб змяшчае ў сабе практычна ўсе пажыўныя рэчывы неабходныя для здароўя.

Здаўна хлеб — адзін з самых значных самых надзейных відаў ежы на зямлі. Для многіх народаў ён сімвалізуе жыццё. Пра хлеб складалі гімны песні і легенды. Хлеб берaглі. Непавагу да хлеба лічылі грахом абразай. З маленства дзяцей вучылі цаніць і берагчы кавалак хлеба як самае вялікае багацце. І ў наш час хлебам сустракаюць самых дарагіх гасцей.

Як лічаць многія вучоныя паходжаннем слова *хлеб* мы абавязаны хлебапёкам Старажытнай Грэцыі. Грэчаскія майстры выкарыстоўвалі для вырабу гэтага прадукту гаршкі спецыяльнай формы што называліся *клінобас*. Ад гэтага слова па меркаванні спецыялістаў у старажытных готаў утварылася слова *хлайфс* якое затым перайшло ў мову старажытных германцаў славян і многіх іншых народаў. У старанямецкай мове існуе слова *хлайб* падобнае да рускага і беларускага *хлеб* украінскага *хліб* і эстонскага *лейб*.

З хлебам звязвалася ўсё жыццё селяніна яго дабрабыт. Менавіта таму з такім шанаваннем ставіўся працоўны чалавек да хлеба апяваў яго ў песнях. Хлеб у народных павер’ях надзяляўся звышнатуральнай сілай якая праяўлялася ў разнастайных жыццёвых сітуацыях. Напрыклад верылі што хлеб здольны спыніць пажар.

Хлеб — найважнейшы атрыбут вясельных абрадаў. Яму надавалася магічная роля. Нават хрысціянства не пераадолела абагаўленне хлеба бласлаўленне звычайна адбывалася не толькі іконай але і хлебам з соллю.

Святочны хлеб на ручніку і сёння выконвае важную ролю ва ўрачыстыя моманты нашага жыцця *(Паводле І. Казаковай).*

Заданне 2

*З прапанаванага тэксту выпішыце і пунктуацыйна аформіце:*

*а) простыя сказы з аднароднымі членамі;*
*б) просты сказ з адасобленым прыдаткам;*
*в) просты сказ з адасобленай акалічнасцю;*
*г) простыя сказы з аднароднымі членамі і адасобленымі акалічнасцямі;*
*д) складаназалежныя сказы;*
*е) бяззлучнікавы складаны сказ;*
*ж) складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак.*

Каравай — вясельнае абрадавае печыва якое сімвалізуе багацце дабрабыт будучай сям'і атаясамліваецца з маладымі іх доляй і шчасцем.

Каравай пяклі спецыяльна запрошаныя бацькамі маладых жанчыны каравайніцы.

Кожны этап прыгатавання каравая суправаджаўся мноствам адпаведных рытуальных дзеянняў цырымоній песень заклінанняў зваротаў да звышнатуральных сіл і з'яў прыроды.

Спяваць у час пячэння каравая і яго ўпрыгожвання запрашалі маладых дзяўчат. Рыхтаваць дровы печ і неабходныя прылады для прыгатавання абрадавага хлеба даручалі жанатым мужчынам. Саджаць каравай у печ запрашаўся нежанаты хлопец.

Цеста для каравая брала з дзяжы старшая каравайніца за адзін прыём і клала на лапату. Каравай меў форму круглай булкі якую ў маладой апаясвалі абручом сплеценым з цеста ў выглядзе касы а ў маладога на каравай клалі проста абручык.

Калі каравай астыне пачыналася яго аздабленне.

Аздоблены каравай бацька маладой або маладога пачастункам выкупляў у каравайніц і ставіў яго ў клеці на жыта. Едучы па маладую малады забіраў свой каравай з клеці і вёз яго з сабой. На яго караваі гарэлі свечкі і вісеў вяночак для маладой. Па прыездзе вясельнага поезда сват маладога ўваходзіў у сенцы высока падняўшы над галавой каравай маладога і прасіў вынесці каравай маладой. Такім жа чынам яго сустракаў сват маладой імкнучыся падняць свой каравай вышэй. Караваі маладых ставілі побач на века дзяжы і сваты падняўшы яго ўтваралі своеасаблівую браму пад якой цалаваліся блізкія сваякі маладых а дружына маладога праз яе праходзіла ў хату. Гэты рытуал азначаў злучэнне маладых і парадненне іх родаў.

Падзел каравая адбываўся згодна з выпрацаваным стагоддзямі рытуалам. Дзелячы каравай старшы сват сярэдзіну аддаваў маладым «падэшву» (ніз каравая) прапаноўваў музыкам астатнюю частку дзяліў паміж роднымі ў залежнасці ад ступені сваяцтва першымі каравай атрымлівалі бацькі за імі — хросныя бацькі цёткі дзядзькі і г. д. Звычайна падзелам каравая вяселле заканчвалася *(З энцыклапедыі «Этнаграфія Беларусі»).*

### З а д а н н е 3

*З прапанаванага тэксту выпішыце і пунктуацыйна афарміце:*

*а) простыя сказы з аднароднымі членамі;*
*б) просты сказ з адасобленым азначэннем;*
*в) просты сказ з адасобленай акалічнасцю;*
*г) просты сказ з аднароднымі членамі і адасобленай акалічнасцю;*
*д) складаназалежныя сказы;*
*е) складаны сказ з рознымі відамі сувязі частак.*

Выпякалі каравай паасобна ў хаце жаніха і нявесты ноччу напярэдадні вяселля.

Адначасова з распальваннем печы каравайніцы пачыналі рашчыняць каравай. На якую-небудзь падстаўку засцілалі кажух або клалі крыж-накрыж дзве дошкі і ставілі наверх дзяжу.

Каля дзяжы працавала толькі старшая каравайніца астатнія жанчыны прасейвалі і падносілі ёй муку ваду соль цукар масла малако дрожджы і іншыя прадукты з якіх тая замешвала каравайнае цеста.

Песні гучалі ў хаце на працягу ўсяго каравайнага абраду суправаджаючы амаль кожнае дзеянне кожны рух каравайніц.

Рашчыніўшы каравайнае цеста дзяжу ставілі на верхнюю чарэнь печы каб яно хутчэй падыходзіла.

Пакуль каравай падыходзіў каравайніцы пільна сачылі за дзяжою каб цеста «не выбегла» за яе краі.

Хросная маці запальвала грамнічную свечку тройчы абыходзіла з ёю вакол дзяжы і толькі пасля таго пасыпала стол мукою і выкладала на яго з дзяжы цеста. Яна вымешвала каравай і выкачвала яго надаючы цесту круглую форму ў выглядзе шара.

Іншыя каравайніцы аддзяліўшы частку каравайнага цеста ляпілі з яго шышкі паўмесяцы зорачкі фігуркі жывёл расліны розныя культавыя прадметы. Такімі фігуркамі аздаблялі верх каравая.

Вымешаны каравай пераносілі на вялікую шырокую драўляную лапату якую як і печ засцілалі дубовымі або кляновымі лістамі.

Выпечаны каравай ставілі на века ад дзяжы засланае ручніком. Выносілі яго ў камору клець або на кут пад абразы *(Паводле У. Сысова)*.

## § 50. Дакладнасць і лагічнасць маўлення

Вядома, што маўленне чалавека непарыўна звязана з мысленнем, свядомасцю, аб'ектыўнай рэчаіснасцю. Таму **дакладнасць маўлення** — гэта адэкватнасць выказвання рэчаіснаму прадмету ці яго паняційнаму ўзнаўленню. Для таго каб маўленне было дакладным, неаб-

ходна ведаць тое, пра што гаворыш, а таксама ўлічваць мнагазначнасць слоў, словазлучэнняў, размяжоўваць паронімы, умела выбіраць неабходнае слова з рада сінонімаў і г. д.

Дакладнасць маўлення непарыўна звязана з правільнасцю, асабліва з лексічнымі, фразеалагічнымі і сінтаксічнымі нормамі. Дакладнасць маўлення часцей за ўсё парушаецца ў выніку фактычных памылак, а таксама:

а) няведання лексічнага значэння слова: *вырэзваць апендыцыт*;

б) няведання спалучальнасці слоў: *адчыніце падручнікі*;

в) няўдалага выкарыстання аднаго з сінонімаў: *Хатнія свінні пасябравалі з дзікімі кабанамі.* (Сінонімы: *свойскі, дамашні, хатні*);

г) няўдалага парадку слоў: *Арганізатары фестывалю разлічваюць атрымаць грошы ад продажу білетаў і спонсараў*;

д) пропуску неабходных слоў: *Я заўсёды купляю гэтых паэтаў* (прапушчана слова *творы*);

е) няўдалага ўжывання займеннікаў: *Максім ужо дастаў з партфеля сшытак, але, пачуўшы голас бацькі, паклаў яго на стол і пайшоў да яго*;

ж) ненарматыўнага ўжывання фразеалагізмаў: *Мы пагаварылі душа ў душу*.

**270.** Прачытайце тэкст. Выпраўце памылкі ў выказваннях, якія прыводзяцца як прыклады недакладнага маўлення.

Трэба памятаць, што ў звязным маўленні словы, словазлучэнні, сказы павінны ўжывацца з адным пэўным значэннем, гэта значыць выказванне павінна быць дакладнаадназначным. Інакш атрымліваюцца двухсэнсавыя выказванні, каламбуры, казусы і інш. Напрыклад, калі аб'явы накшталт «У адзенні не абслугоўваем» ці «Боты вырабляюцца са скуры заказчыка» выклікаюць здаровы смех, то ад лозунга «Гарачае прывітанне воінам-вызваліцелям Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў» ужо стано-

віцца не да смеху. Таму кантэксту адводзіцца такая ж роля, як і ключавым маўленчым адзінкам, што фарміруюць прадмет думкі ці ўсё выказванне *(М. Абабурка)*.

**271.** Перакладзіце сказы з рускай мовы на беларускую.

1. Копейкин мой, можете вообразить себе, и в ус не дует *(Н. Гоголь)*. 2. Володя бодро шёл впереди солдат, и, хотя сердце у него стучало так, как будто он пробежал во весь дух несколько вёрст, походка была лёгкая и лицо весело *(Л. Толстой)*. 3. Обходительность и ловкость, которыми он щеголял перед покупателями, пришедшими к нему в лавку, были не более как средством «отвести» покупателю глаза, «заговорить зубы» и «всучить» тем временем гнилое, линючее *(Г. Успенский)*. 4. Он успел снискать себе всеобщее уважение в городе тем, что не задирал носа и не гордился *(С. Салтыков-Щедрин)*. 5. Его теперь сюда и калачом не заманишь *(А. Чехов)*. 6. Стал он через дня два спрашивать про содержание книги, а я — ни в зуб ногой *(М. Шолохов)*. 7. Я смотрю, где он, а он уж и лыжи навострил! *(М. Салтыков-Щедрин)*. 8. Несколько дней Дарья ходила тише воды, ниже травы, по вечерам раньше всех ложилась спать *(М. Шолохов)*. 9. Обеденный стол был щегольски́ сервирован во всю длину зала, и хорошие домашние повара не ударили лицом в грязь *(А. Фет)*.

Маўленне з'яўляецца **лагічным,** калі сэнсавыя сувязі паміж яго асноўнымі элементамі (словамі, словазлучэннямі, сказамі) адпавядаюць законам логікі, законам мыслення.

Словы — гэта перададзеныя з пакалення ў пакаленне агульныя назвы, сімвалы прадметаў і іх прымет, дзеянняў, працэсаў і інш. Праз вядомыя значэнні слоў, праз узаемадзеянне іх з іншымі асэнсаванымі словаміназвамі ствараецца пэўная думка. У выніку моўных зносін яна выклікае ў субяседніка аналагічныя або тыя ж самыя асацыяцыі, вобразнае адлюстраванне рэчаіснасці. Лагічнасць маўлення грунтуецца пераважна на сінтаксічным узроўні, г. зн. пры пабудове выказванняў

і тэкстаў на аснове ўзаемадзеяння слова як выразніка і ўтрымальніка паняцця з іншымі словамі, што дапамагаюць сцвярджаць ці адмаўляць ісціну, заключаную ў думцы.

Да лінгвістычных сродкаў, што забяспечваюць лагічнасць маўлення, адносяцца, акрамя дакладнага словаўжывання, яшчэ і правільны парадак слоў, правільны выбар патрэбнай сінтаксічнай канструкцыі, а таксама правільны выбар сродкаў і лагічнай, і сінтаксічнай сувязі паміж часткамі выказвання (тэксту). У тэкстах вялікая роля адводзіцца таксама абзацам і параграфам *(Паводле М. Абабуркі)*.

**272.** Размясціце абзацы ў такой лагічнай паслядоўнасці, каб атрымаўся тэкст. Параўнайце яго з арыгіналам — урыўкам з апавядання А. Пальчэўскага «Як мядзведзь лавіў рыбу».

Стаю і не дыхаю. Мала аднаго страху, дык вось табе яшчэ: на голас Мішкі спускаецца з гары здаравенная мядзведзіца з трыма дзецьмі. Тут я зусім перапалохаўся.

Тут і прыйшла мне ў галаву спакуслівая думка: адведаць свежай стронгі. Сабраў яе ў торбачку ды ходу назад. Сцішыўся і назіраю, што далей будзе. Устаў мой «рыбак» збіраць сваю здабычу. Бачыць, толькі дзве апошнія рыбкі падскокваюць на зямлі, прыдушыў іх лапай, злажыў трубкай губы ды як зараве ад злосці. Мяне аж мароз прабраў. «Не паздаровіцца, — думаю, — калі ўведае, што віноўнік прапажы паблізу».

Гэта яшчэ на першым часе майго леснікоўства было. Іду дарогаю, чую — нехта фыркае ў малінніку. Спыніўся, прыгледзеўся: Мішка малінай ласуецца. Наеўся і трушком — на вадапой.

Як? Апусціць лапу ў ваду і варушыць кіпцюрамі. Стронга — рыба асцярожная, але цікаўная, спяшаецца паглядзець, што там такое варушыцца, а Мішка — хоп! — і на бераг. І так добра лавілася ў яго, так захапіўся ён лоўляй, што ўвачавідкі з дзясятак выкінуў.

Схаваўся я за куст і цікую, куды адгэтуль пойдзе. На ўсялякі выпадак стрэльбу зняў з плячэй. І раптам, дзіва

проста, недалёка ад мяне пляснулася ладная рыбіна. Выйшаў я асцярожна на прагал, каб паглядзець, чым гэта мой мядзведзь займаецца. І аж вачам сваім не паверыў: ляжыць мой Мішка на беразе і стронгу ловіць.

Тут я асцярожна назад, назад — ды ходу, далей ад бяды, бо раззлаваны мядзведзь страшны для чалавека.

А той «рыбак» быў, відаць, пестуном — нянькай у сям'і. У мядзведзяў так заведзена: адзін са старэйшых дзяцей застаецца пры матцы і дапамагае гадаваць меншых. Падышла мядзведзіца, убачыла, што толькі дзве рыбкі ляжаць, дала свайму памочніку добрага плескача за такое стараннe і загадала зноў лавіць. Меншыя кінуліся ў ваду забаўляцца, а можа, таксама лавіць, але маці злосна фыркнула на іх, каб не перашкаджалі. Тыя не слухаліся. Тады мядзведзіца сама спусцілася ў рачулку і выгнала малых на бераг: есці тую рыбу, што налавіла іх «нянька».

**273.** Прачытайце сказы, узятыя са старонак друкаваных выданняў (Д), школьных сачыненняў (С), з перадач радыё (Р) і тэлебачання (Т). Вызначце, што прывяло да парушэння дакладнасці і лагічнасці маўлення. Выпраўце памылкі.

1. Неабходна ведаць лексічнае значэнне слова пры напісанні канчаткаў ***-а, -у*** ў канчатках назоўнікаў (Д). 2. Запрашаем на канцэрт артыстаў беларускай эстрады (Р). 3. Беларусь — краіна сініх азёр і чыстых прывольных рэк, шумлівых лясоў і палёў, пазалочаных буйным калоссем (Д). 4. На нагах у яго былі лапці і чорная світка, перавязаная на поясе вяроўкай (С). 5. У сувязі з пагаршэннем стану дарожна-транспартнага траўматызму праводзіцца аперацыя «Пешаход» (Т). 6. У гутарцы з Карпенкам Свіст сказаў, што хоць ён і злыдзень, аднак і ў ім трэба бачыць чалавека (С). 7. Вінавальны склон адказвае на пытанні «каго?», «што?» і з'яўляецца ў сказе дапаўненнем і акалічнасцю (Д). 8. У дні зімовых канікул дзеці ўбачаць любімую казку С. Маршака «Дванаццаць месяцаў» (Р). 9. Няхай гэтая багіня даруе нам дабрабыт (Р). 10. Маладзёжная футбольная каманда Беларусі сустрэлася з камандай равеснікаў Расіі (Р).

## § 51. Чысціня маўлення

Чыстае маўленне — гэта маўленне, у якім адсутнічаюць моўныя сродкі, не ўласцівыя літаратурнай мове, а таксама беспадстаўна ўжытыя моўныя адзінкі.

Чысціня як якасць маўлення патрабуе стылістычна абгрунтаванага ўжывання:

1) адзінак літаратурнай мовы (запазычаных слоў і выразаў, моўных штампаў, слоў і выразаў, якія не нясуць ніякай сэнсавай нагрузкі (так званых слоў-паразітаў);

2) моўных элементаў, якія знаходзяцца за межамі літаратурнай мовы (дыялектных слоў, прафесіяналізмаў, жарганізмаў, вульгарызмаў).

**274.** Прачытайце тэкст. Ці ўласцівая яму такая якасць маўлення, як чысціня? Абгрунтуйце свой адказ.

Цішыня ў асеннім лесе. Спакой і царства фарбаў, колераў. Не зварухнецца ні адна галінка на дрэве. А дрэвы ў гаі — быццам у казачным палацы. Верасень кінуў ужо на бярозы крыху розных фарбаў. Вось праляцеў бярозавы лісток, апусціўся ціха на зямлю. Раптам такі ж лісток лёг мне на плячо. Я асцярожна ўзяў яго. Яшчэ затаіліся на дрэвах яго браты, а ён ужо аджыў сваё, пакінуў родную галінку. Але ж угледзьцеся ў гэты лісток. Колькі сонечнага цяпла падаравала яму лета! І мне здаецца: часцінка гэтага цяпла так і засталася ў ім *(М. Шыманскі)*.

**275.** Прачытайце рэпліку з інтэрнэт-форума «ДАІ і літары закона» і адкажыце, ці ўласцівая гэтаму выказванню чысціня маўлення. Абгрунтуйце сваё меркаванне.

Фрррр! Гэтая вузкая вуліца з трамваямі дастала зусім! Ды яшчэ столькі бабла ў гэтыя рэйкі ўкатваюць! Чаму б не зрабіць шасціпалосную з тралікамі? І наконт паркоўкі каля музыкі. А што, усюды, дзе ходзяць тралікі, прыпынак забаронены?

**276.** Прачытайце ўрывак з рамана І. Мележа «Людзі на балоце». Знайдзіце дыялектызмы, паспрабуйце растлумачыць іх значэнне. З якой мэтай выкарыстоўвае пісьменнік гэтыя словы ў тэксце мастацкага твора?

Падаючы торбу, маці загаварыла:

— Я тут хлеба дзве кулідкі паклала. Учора спякла... Мядку дзед расстараўся. У конаўцы з берасцянкай, кеб не выліўся, глядзі...

— Мёд лепей було б на продаж, — строга зазначыў Васіль.

— Яечак дзясятак прадам... Солі трэ і запалак...

Васіль не сказаў нічога на гэта. Пацікавіўся іншым:

— Жыто немалочанае?

— Дамалочуваем. Дзед і я...

— Стары — дужы, кеўляе, значыцца?..

— Кеўляе. Дужы.

**277.** Запішыце тэкст, афармляючы яго ў адпаведнасці з арфаграфічнымі і пунктуацыйнымі нормамі. Падкрэсліце ў ім словы, уласцівыя мове цесляроў. З якой мэтай выкарыстоўваюцца прафесіяналізмы ў мастацкім тэксце?

А *(К/к)*ірылаў дом рос і рос. Пабавіўся трохі як падруб рабілі. Ды не *(абы)*які падруб. Дубовы! Акенцы нават у ім папрар..залі каб пад падлогаю ветрык хадзіў розную цвіль ды гніль выветрываў. А як заснавалі першы вянец над падрубам дык і дом па*(?)*шоў расці. Вугал у лапу Кірыла рабіў лепш за самых адмысловых ц..сляроў. Вуглы былі роўненькія як пад шнур. Нідзе ніштo не выпірала не западала. Хлопец гл..дзеў каб кожны вянец быў самшоны як мае быць. Хата без цяпла гэта як хата без акон.

Паклалі вушакі паклалі ўзгалоўні. На вокны паклалі дубовыя падушкі. Хто н.. глядзеў на хату казаў

Гэта на векі вечны.. чалавек мосціцца *(Паводле Р. Сабаленкі).*

**278.** Паназірайце, ці захоўваецца ў маўленні вашых аднагодкаў такая яго якасць, як чысціня. Калі не, вызначце, якія моўныя сродкі, не ўласцівыя літаратурнай мове, а таксама беспадстаўна ўжытыя моўныя адзінкі парушаюць чысціню маўлення?

## § 52. Багацце маўлення

Асноўнымі характэрнымі рысамі **багатага маўлення** з’яўляюцца вялікі аб’ём актыўнага слоўніка, разнастайнасць марфалагічных формаў і сінтаксічных канструкцый. Пры гэтым маўленне аптымальна насычана рознымі сродкамі мовы.



**279.** Прачытайце тэкст. Вусна сцісла перакажыце яго.

Багацце і беднасць маўлення чалавека залежыць ад яго адукацыі, жыццёвага вопыту, умення гаварыць і пісаць, яго адносін да мовы як сродку зносін і інш. Багацце маўлення вызначаецца, як правіла, на аснове ўліку частаты ўжывання тым ці іншым індывідам* слоў, словазлучэнняў, сказаў. Асабліва частыя нематываваныя паўторы тых самых моўных адзінак, аднастайнасць выкладу (выражэння думкі) сведчаць пра беднае вуснае ці пісьмовае маўленне аўтара. Праўда, тут трэба ўлічваць і нормы функцыянальных стыляў літаратурнай мовы, бо, напрыклад, у афіцыйным і навуковым стылях часцей дапускаюцца паўторы, чым сінанімічныя замены.

Багацце маўлення — гэта не толькі развіццё сінанімікі і варыянтнасці літаратурнай мовы, але і ўменне карыстацца ўсім скарбам нацыянальнай мовы, найперш апрабаванымі ўжо сінонімамі і варыянтамі.

Багацце маўлення непарыўна звязана з формай і зместам, якія ў сваю чаргу залежаць і ад функцыянальных стыляў, і ад моўна-выяўленчых сродкаў. Акрамя таго, павінна дзейнічаць і мера ўжывання ўсіх сродкаў мовы, якая вызначаецца інтэлектам, чуццём і адчуваннем мовы *(Паводле М. Абабуркі).*

**280.** Прааналізуйце ўрывак з рамана І. Мележа «Завеі. Снежань» з пункту гледжання багацця маўлення (лексічнага, марфалагічнага, сінтаксічнага).

Снег пацерушыў трохі і перастаў. Вецер за дзень вымеў белую муку, пазаганяў яе па шчылінах, па закутках. Яркія белыя пасы і ла́ткі толькі дзе-нідзе пярэсцілі панурасць двароў і агародаў.

А холад не толькі не адступіў, а як бы нават узняўся мацней. І днямі, і начамі ўсё стыла на роўнай, шкляной халадэчы. І днямі, і начамі, не сціхаючы, гайсаў над зямлёй сухі, сіверны вецер, сунуліся нізкія шэрыя хмары. Пад нелагодным небам, вылізаныя ветрам, цьмяна ласніліся заледзянелыя лужы на вуліцы, балотныя разлівы, што падступалі да голых зараснікаў. І тыдзень, і другі лічылі толькі халады ды сцюдзёныя вятры: на самым разыходзе восені і зімы нібы раптам прыпыніўся адвечны рух прыроды: восень адышла, а зіма не бралася як след. Усё жыло, здавалася, чаканнем снегу. Чакалі парадзелыя, чорныя алешнікі на балоце, гладкая, бліскотная роўнядзь разліваў і луж, гарбатыя, крывыя рады хат і гумнаў, цвёрдыя, у скамянелых грудках і каляінах дарогі, бясколерная, нежывая трава...

**281.** Перапрацуйце тэкст так, каб яго можна было прывесці ў якасці прыкладу багатага маўлення. Параўнайце свой варыянт з урыўкам з апавядання Я. Коласа «Што яны страцілі».

Лес, пераважна дубовы, стаяў на ўзгорку. Дубы былі стройныя і тоўстыя.

Пад узгоркам было возера. Над вадою цягнуўся шляк* зеляніны. Тут былі высокія сітнякі і зараснікі аеру. Пападаліся кусты лазы, алешыны, былі і дзве хвоі.

## § 53. Выразнасць маўлення

**Выразнасць маўлення** ствараецца пры дапамозе адбору моўных сродкаў, якія ў найбольшай ступені адпавядаюць умовам і задачам зносін. Гэта азначае, што той, хто гаворыць або піша, адчувае асаблівасці сітуацыі зносін і ўлічвае іх пры выбары слоў, канструкцый і ўвогуле стылю, тыпу, жанру маўлення.

Кожны функцыянальны стыль мае свае сродкі выразнасці. Акрамя гэтага, сродкамі надання выразнасці вуснаму маўленню з'яўляюцца тэмп, тон, тэмбр, гучнасць голасу. Выразнасць маўлення непарыўна звязана з правільнасцю і багаццем маўлення.

**282.** Супастаўце азначэнні тэрмінаў «тон» і «інтанацыя». Ці магчыма назваць іх сінонімамі?

ТОН (грэч. *tonos* — напружанне, націск). 1. Характар гучання маўлення, манера гаварэння (або пісьма), якія выражаюць пачуццё гаворачай асобы, адносіны да прадмета гутаркі, асаблівасці душэўнага складу. 2. Вышыня голасу чалавека.

ІНТАНАЦЫЯ (лац. *intonare* — гучна вымаўляць). 1. Тон, характар вымаўлення, якія выражаюць пачуццё таго, хто гаворыць, яго адносіны да прадмета гутаркі, асаблівасці яго душэўнага складу. 2. Рытміка-меладычны лад мовы, чаргаванне павышэнняў і паніжэнняў ***тону*** пры вымаўленні (ТСБМ).

● У якім значэнні ўжываецца выдзеленае слова?

**283.** Прачытайце сказы, перадаючы пачуцці тых, каму належаць выказванні. Назавіце сродкі, якія дапамаглі вам гэта зрабіць.

1. Маці зноў прыпала да сына, поўная гора, адчаю, забедавала: «А мой жа ты дубочак, месячык мой залаценькі!.. А як жа ты адзін!..» 2. І раптам у Ганны вырвалася спалоханае, як маланка ўдарыла: «Бацько!!!» 3. «Зброя е?» — запытаў Шабета такім тонам, які гаварыў, што жартачкі з ім паганыя. 4. Дубадзел смыкнуў губамі недавольна, сказаў, судзячы: «Сердабольны ты нешта, Глушак!» 5. «А тут куды ні кінь — дак балото ды балото! — пашкадаваў Губаты Алёша. — Купіны ды жабы!» *(І. Мележ)*.

Вырашыць пытанне аб выбары тону выказвання дапаможа вызначэнне асноўнай ідэі выказвання. Тон выказвання падкрэслівае яго асноўную думку, адносіны аўтара да таго, пра што ён гаворыць. Адно і тое ж можна сказаць розным тонам, выражаючы тым самым розныя адносіны да сказанага і выклікаючы адпаведную рэакцыю слухачоў.

**284.** Вымавіце сказ «Паеду» так, каб у ім выражаліся: а) згода; б) незадаволенасць; в) радасць. Ахарактарызуйце сітуацыю зносін, пры якой мэтазгодны той ці іншы тон выказвання.

**285.** Складзіце ці падбярыце з твораў мастацкай літаратуры сказы, якія магчыма вымавіць наступным тонам: а) пераканаўчым; б) павучальным; в) загадным; г) заклікальным; д) радасным; е) сумным; ж) злосным; з) строгім; і) пяшчотным; к) усхваляваным; л) урачыстым; м) іранічным; н) саркастычным.

**286.** Выразна прачытайце па ролях урывак з рамана І. Мележа «Людзі на балоце». Ахарактарызуйце асноўны тон выказванняў. Паназірайце за тым, як, улічваючы сітуацыю зносін, І. Мележ адбірае моўныя сродкі.

Хлопцы і дзяўчаты гаманілі ў цемры на бярвеннях, складзеных перад Грыбковай хатай...

Сцяпан сціпла прысеў на бервяно, а Яўхім, схіліўшыся, стаў узірацца ў твары дзяўчат. Паказытаў адну, жартам звонка цмокнуў перад другой, абышоў, абгледзеў, хто сядзеў тут...

— А, і Чарнушка тут! Прыйшла!

— Можа папытацца трэ було?

— Пытацца няма чаго, месца хапае!.. Толькі ж даўно нешто не было відаць!

— А табе што, карцело?

— Папраўдзе сказаць, не дужа. — Ён зарагатаў. Ганну зачапіў гэты, здалося, нядобры рогат...

— А я цябе — дак зранку да вечара выглядала! — лагодна, з прытоенай яхіднасцю сказала Ганна.

— Ну? Вот не знаў? — у тон ёй здзівіўся Яўхім.

— Шкада! Вельмі ж бо трэба було!

— Няўжэ? Нашто?

— Вераб'і насядалі на жыта, кеб іх немач! Пужаць не було каму!

— А Дзятлік — хіба не мог? — падчапіў Яўхім.

— Не баяліся яго! Чуб не такі!

Хтосьці з дзяўчат прыдушыў смех. Уцэліла Ганна! Лепш нельга было ўцэліць: Яўхім сваім чубам ганарыўся, фарсіў ім, чуб быў яму святой мужчынскай красою. І вось з красы гэтай — такі здзек!

Яўхім на момант як бы анямеў ад гэтай абразы...

**287.** Перакладзіце на беларускую мову. Пра якое значэнне слова «тон» ідзе гаворка ў тэксце?

Монотонная речь — речь на одной неизменной высоте звука. Однако если даже на протяжении одной фразы высота меняется только на два или три тона, речь остается монотонной. В большинстве предложений вы должны пользоваться не менее чем семью полными тонами, или ***диапазоном**** ***октавы**** *(П. Сопер).*

● Растлумачце лексічнае значэнне выдзеленых слоў.

**288.** Вызначце, у якім выпадку перадаецца сцвярджэнне, а ў якім — гучыць пытанне (стрэлкі абазначаюць павышэнне і паніжэнне вышыні гука).

↗ Так ↘ Так

**Лагічны націск** — гэта націск, пры дапамозе якога ў вусным маўленні выдзяляюцца важныя ў сэнсавых адносінах словы. У вусным маўленні мы можам інтанацыйна выдзеліць любое неабходнае слова і без змянення парадку слоў. У пісьмовым жа маўленні словы, на якія падае лагічны націск, звычайна ставяцца ў канцы сказа.

**289.** Параўнайце наступныя сказы. Растлумачце, чаму Я. Колас выкарыстоўвае інверсію (лац. *inversio* — перастаноўка — змена звычайнага парадку слоў у сказе з мэтай іх выдзялення для надання ім большага значэння).

1. За шырокаю бліскучаю дугою ляжыць, як мора, неабсяжны прастор балотных зараснікаў *(Я. Колас).* —

Неабсяжны прастор балотных зараснікаў ляжыць, як мора, за шырокаю бліскучаю дугою.

2. На гэтым балотным прасторы пападаюцца вузкія чорныя, як растопленая смала, палосы вады *(Я. Колас)*. — Вузкія чорныя, як растопленая смала, палосы вады пападаюцца на гэтым прасторы.



**290.** Перакладзіце на беларускую мову. Вызначце стыль тэксту. Адкажыце на пытанне: «Што такое тэмбр голасу?»

Каждый звук обладает характерной окраской, или ***тембром***. Она определяется плотностью, формой и размерами тела, приведенного в состояние колебания, и особенностями среды, в которой оно вибрирует. Звуки, издаваемые басовым рожком, по качеству отличаются от звуков скрипки или кларнета. Даже малейшая разница в строении и форме вибрирующих тел имеет очень существенное значение.

Хороший тембр — это звучание открытое, насыщенное, ясное, с чистыми вибрациями. Такое звучание — результат глубокого, контролируемого дыхания, свободной вибрации голосовых связок и ничем не стесненных резонирующих камер, то есть гортани, полостей рта и носа.

Недостатки тембра могут объясняться одышкой, хрипотой, резкостью, гортанностью, гнусавостью *(П. Сопер)*.

**291.** Выпішыце са сказаў тыя словазлучэнні, з дапамогай якіх можна ахарактарызаваць тэмбр голасу.

1. Да ціхага хрыплаватага спеву далучыўся звонкі і чысты Хонеў[м] галасок *(І. Мележ)*. 2. «Дарогу трэба перакрыць на суткі[м]», — сіпатым прастуджаным голасам казаў капітан *(В. Быкаў)*. 3. «Чаго разлёгся?» — буркатлівым, глухаватым голасам гыркае Жаўтых *(В. Быкаў)*. 4. «Ты што гэта прыстаў як банны ліст?» — пачуўся глухі бас *(І. Чыгрынаў)*. 5. «Казя! — пачуў ён з-за хаты матчын мяккі, амаль пявучы голас. — Хадзі сюды!» *(Г. Далідовіч)*.

**292.** Прачытайце сказы, надаючы свайму голасу неабходную гучнасць. Вызначце, якой сітуацыяй зносін абумоўлена тая ці іншая гучнасць голасу.

1. Перад адыходам доктарка адвяла трохі ўбок Міцьку і ціха сказала:

— Я нічым не магу памагчы яму. Тут патрэбна складаная аперацыя, я не здолею зрабіць яе. Ды і няма дзе. Яго б зараз у шпіталь, там, можа, і далі б рады *(І. Чыгрынаў)*.

2. ...Глухая цемра запанавала ў старожцы. Дружна саплі хлопцы, пахрапваў старшына, а Глечык шырока раскрытымі вачамі нерухома пазіраў у змрок.

— Маці, адзіная мая, — шаптаў ён у бяздонную цемру, — ці даруеш ты мне калі маё непаслушэнства, мае дураслівыя выбрыкі? Чаму я быў такі дурны, не разумеў твайго сэрца, якое хацела свайго чалавечага шчасця, навошта пакінуў цябе — родную, адзіную маю? *(В. Быкаў)*.

3.
Бывала, улетку, у час рабочы
Не раз там чуўся крык вясёлы:
— Го, тата! дзядзька! выйшлі пчолы!
На вішні селі каля плоту!

*Я. Колас*

У паняцце **тэмп маўлення** ўваходзяць хуткасць маўлення ў цэлым, працягласць гучання асобных слоў, інтэрвалы і працягласць паўз.

**293.** Прачытайце сказы, выкарыстоўваючы неабходны тэмп маўлення: нармальны, хуткі, павольны.

1. З выгляду абыякавы да ўсяго, Фішар разгублена заміргаў пад акулярамі блізарукімі вачыма, няспрытна ўзняўся з долу, і, заікаючыся ад хвалявання, хутка-хутка загаварыў:

— М-м-можаце не т-т-турбавацца, таварыш камандзір, гэта выключаецца. Я н-н-не менш за вас раз-з-зумею свае абавязкі і зраблю тое, шт-т-то трэба, без лішніх эксцэсаў *(В. Быкаў)*.

2. Дзед з бабаю жалі пад лесам... — пачынае тата казку. — Пшаніцу жалі... А глячок з вадою... пад куст паставілі... Каб не награваўся... .

● Што дапамагло вам вызначыць неабходны тэмп маўлення?

**294.** Выразна прачытайце тэкст. Знайдзіце сродкі, з дапамогай якіх аўтар указвае на тэмп маўлення, тэмбр, тон і гучнасць голасу пастуха.

На пустой вуліцы, з торбай цераз плячо, ніжучы босымі нагамі цёмны след на падбеленай расой траве, ішоў, размахваў доўгай вераўчанай пугай яшчэ санлівы хлопец-пастух. Ён час ад часу ляскаў пугай і аднастайна, хрыпата пакрыкваў:

— Ка-ро-вы!.. Ка-ро-вы!.. Ка-ро-вы!..

Голас яго пасля сну быў нямоцны, высільвацца яму не хацелася, і ён як бы памагаў сабе лянівым, але звонкім ляскам пугі *(І. Мележ)*.

Мова навукі і справаводства выконвае функцыю паведамлення. Мова ж мастацкай літаратуры з'яўляецца і сродкам уздзеяння на людзей. Навуковец абагульняе свае назіранні пры дапамозе паняццяў. Пісьменнік жа — праз вобраз, шляхам адбору адпаведных выразных дэталяў.

**295.** Выразна прачытайце тэкст. Вызначце стыль маўлення, лексічныя (эпітэты, метафары, параўнанні і г. д.) і іншыя сродкі выразнасці.

Дрэмле ў цішы жніўнага дня лісцёвы лес. Шырока раскінулі цёмна-зялёнае вецце магутныя дубы, цягнуцца ў вышыню стройныя грабы, нібы праз дробную сетку прапускае сонечнае святло ясень. Воддаль бялее гонкімі ствaламі чарада бяроз, а крыху далей распрасцёрся стромкі і роўны, як падстрыжаны, сасновы бор. Паветра насычана мядовым пахам ліпы і расплаўленай сонцам смалы на хвоях. Бясконца ўтульна і суцішна ў лесе ў гарачы летні дзень *(Т. Хадкевіч)*.

**296.** Выразна прачытайце тэкст. Прыдумайце да яго загаловак. Вызначце стыль, тып, тэмп маўлення, гучнасць голасу пры чытанні, лексічныя сродкі выразнасці. Звярніце ўвагу на тое, як знакі прыпынку дапамагаюць правільна вызначыць месца паўзы, паніжэння ці павышэння голасу.

Была ціхая летняя раніца. Яшчэ не паспела забрацца высока сонца. Яно пераліваласся мільёнамі агеньчыкаў у роснай мураве, на палянах, паблісквала на вільготных лісточках бяроз, рассыпалася залацістымі плямкамі праз лапкі ялін, праз куголістыя верхавіны хвой. А калі трапляла сонца на спелыя чырвоныя ягады, яны гарэлі, як камяні-самацветы. І пах ад іх ішоў далёка-далёка, праз лес, балота, да самай лясной дарогі. Ягады пахлі летам, сонцам, зялёнай муравою палян. Чым толькі яны не пахлі! Знай адно: еш, не лянуйся! *(Паводле М. Лынькова).*

## § 54. Дарэчнасць маўлення

> Маўленне лічыцца **дарэчным**, калі яно ажыццяўляецца з улікам месца, часу, мэт і ўмоў зносін, а выкарыстаныя ў ім моўныя сродкі адпавядаюць стылю і жанру маўлення.

**297.** Вызначце, першае ці другое значэнне слова «дарэчы» паслужыла асновай паняцця «дарэчнасць маўлення».

ДАРЭЧЫ, прысл. 1. К месцу, якраз у патрэбны час. — *Барабан бесперапыннага дзеяння быў вельмі дарэчы. У ім можна было апрацоўваць вялікія дэталі* (У. Карпаў). 2. У знач. пабочн. (часта ў спалучэнні са словамі «кажучы», «сказаць»). Ужываецца для абазначэння таго, што даная фраза гаворыцца ў дадатак да чаго-н., толькі што сказанага. — *Дарэчы, у хаце ў Ганны, калі ні прыйдзі — чыста, нібы яна вечна, з гадзіны на гадзіну, чакае важнага госця* (Дуброўскі).

*(ТСБМ)*

